## Споведзь

Прачнуцца ранкам у сваёй краіне і ўсцешана падумаць, што ў цябе ёсць свая краіна! Пра нешта такое бадай кожнаму светла думаецца пасля вяртання з далёкага замежжа. Але ўсю краналыную пяшчоту гэтага здумлення можна адчуць адно тады, калі раней у цябе сваёй краіны не было...

Я меў ужо амаль сорак год, калі здарылася Беларусь. І толькі пасля таго, як яна здарылася, зразумеў, што да гэтага па сутнасці жыў *нідзе* і, калі заўгодна, жыў як *ніхто*. Праўда, апошняе зусім не азначае, што я жыў *ніяк*. Паводле мовы тадышніх ідэолагаў, у мяне было «шчаслівае дзяцінства» ў ціхамірным мястэчку Свіслач. А маладосць аказалася яшчэ больш багатай на ўцехі, бо я атрымаў напоўніцу ўсяго, чаго прагне чалавек у хлапечыя гады, – сяброў, кахання, вандровак, ведаў. За тую пару я абножыў лічы ўсе горы «адной шостай часткі зямной сушы» (метанімічны троп Савецкага Саюза), скончыў ці не самы прэстыжны інстытут камуністычнай імперыі (літаратурны ў Маскве) і зразумеў сябе як «трансцэндэнтнага суб'екта» (Кант), гэта значыць пачуў магутны покліч метафізічнай вусцішы і прыняў яе выклік.

Карацей кажучы, за пару маладосці я займеў сабе ў падставы даволі ўсяго, каб паўнавартасна пражыць астатняе жыццё. І, пэўна, пражыў бы яго не горш за іншых, а пасля сышоў бы з дымам у нябёсы праз комін маскоўскага крэматорыя...

Цяпер, калі я згадваю, што так яно і насамрэч магло збыцца, мне ўмомант робіцца млосна. Як лёгка чалавеку размінуцца з уласным лёсам! І як мала ад самога чалавека залежыць, каб гэтак не сталася. Варта было затрымацца незалежнасці Беларусі – і я ніколі нават не даведаўся б, што насамрэч пражыў сваё жыццё як чужое.

Магчыма, тут шмат хто запярэчыць, маўляў, як бы жыццё ні склалася – яно толькі тваё і з гэтага не можа быць табе чужым. Выглядае слушна, але скуль тады ўсёахопная млосць, калі я падумаю пра сябе без Беларусі?!

Я выдатна разумею, што гэткая амаль містычная патрэба *сваёй краіны* вярэдзіць далёка не кожнага. Шмат для каго ўвогуле не істотна, дзе жыць, а істотныя адно колькасць ды кшталт магчымасцяў пражывання жыцця. Але гэтае эсэ я пішу перадусім дзеля распаведу пра ўласны кон. А ў маім выпадку наяўнасць Беларусі канцавая, бо праз яе я знайшоўся сам дзеля самога сябе.

* * *

Прачнуцца ранкам у сваёй краіне... А потым, схапіўшыся за справы, адразу згадаць, што твая краіна не зусім твая, бо куды вока ні кінь – амаль

усё табе тут не пасуе: і паноўная мова, і звычаі, і нават ты сам сабе ў не-тоеснасці ўласнай краіне.

І так яно лічы ва ўсіх – толькі з розных падставаў; з чаго нідзе і ні ў чым мы не маем згоды. Верагодна, таму кожнае значэнне ў нас да абсурднасці шматсэнсоўнае, а ўсялякая падзея набывае столькі канатацыяў, што сярод іх можна блукаць да скону. Мы нават асноўных граматыкаў маем як найменей тры. Дзіўна толькі, чаму ў нас арыфметыка ўсяго адна?

Таму жыць на Беларусі і не быць шызафрэнікам немагчыма. Хаця, калі некага паймо «шызафрэнік» моцна абражае, магу ў займеннік прапанаваць больш шляхетнае азначэнне. Беларусы спрэс і наскрозь *амбівалентныя*, гэта значыць натуральна ўнармаваныя ў супярэчнасці, якія радыкальна адмаўляюць адна адну. І так не сёння сталася, прыгадаем хаця б нашу славутую рэлігійную талеранцыю, што здавён трывала самыя жорсткія апазіцыі ў жыцці побач з *іншым*...

Дарэчы, калі Беларусь раптам здарылася, мне яшчэ трэба было зрабіць з сябе спраўнага беларуса, каб мець магчымасць ушчыльную прытоесніцца да яе. Заданне не выглядала простым, але дапамагала тое, што на тую пару ў гэтую працу навалай улегліся дзясяткі, а мо і сотні тысяч людзей. Як на мой розум, дык тая экзістэнцыйная мадэрнізацыя беларусаў па духоўнай значнасці нічым не саступала перастварэнню паганцаў у хрысціянаў.

Вядома, найбольшай праблемай рушэння *ў беларусы* была мова. Цікава, што кожны гэтую праблему вырашаў на ўласны спосаб, бо дзяржава супрацiўлялася прыйсцю беларушчыны. Пра свой персанальны досвед вяртання *ў мову* я ўжо не аднойчы распавядаў публiчна. Тут адно заўважу, што найбольш складана было зноў пачаць думаць па-беларуску. А затым дачакацца сноў на роднай мове.

* * *

Прачнуцца ранкам у сваёй краiне... I аднойчы зразумець, што яна нiколi не стане тваёй, калi ты не знiшчожыш у сабе штучна прыдуманага iдэолагамi нацыяналiзму *зацятага беларуса*. Гэтае бязлiтаснае здумленне скалане мяне яшчэ ў пару панавання праменiстых нацыянальных iдэалаў. Таму я доўга нiкому не скажу пра сваю эўрыстыку, адно буду палохацца яе, застаўшыся сам-насам.

Тым часам праменiсты iдэалiзм, загразшы ў каламуцi рэальнасцi, спакваля сыходзiў на нiшто, пагражаючы зноў пакiнуць мяне без сваёй краiны. Ростань рабiлася непазбежнай. Я неадкладна мусiў выдалiць з сябе iдэалагiчнага беларуса, створанага нацыянальнымi рамантыкамi невядома дзеля якой, але вiдавочна не гэтай краiны. Ён не меў нiчога агульнага з тым чалавекам, што цяпер жыў на тутэйшых абшарах, i да таго ж не пасаваў таму часу (постмадэрноваму), у якiм жыў я.

Аднак найбольшай хібай гэтага штучна вымудранага голэма было тое, што ён ахопліваў толькі адно (этнічнае) вымярэнне адвечна шматвымернай беларускай суб'ектнасці. Гэты логацэнтрычна просталінейны канструкт па азначэнні адмаўляў талерантную множнасць, шызафрэнічную размаітасць, не-лінейную абачлівасць нашай ментальнасці. Інакш кажучы, ён загадваў мне атрусіцца ад тутэйшай шматстайнасці, каб такім чынам перарабіцца з чалавека ў ідэалагічнага курдупеля (і гэта ў эпоху краху ўсіх ідэалогій!). Больш за тое, ён рашуча патрабаваў, каб я праз уласныя вымогі запыніў *ліючуюся форму (...) адвечнага беларускага шляху* (Абдзіраловіч) у нерухомай нацыяналістычнай канструкцыі...

Шчыра кажучы, мне было шкада гэтага апантанага нацыяналізмам чалавека. Я ж не збыўся мары аб тым, каб Беларусь сталася спрэс і толькі *беларускай*. Але вось сама Беларусь нічога падобнага не хацела, яна, як заўсёды, імкнулася да амбівалентнай сваволі і з гэтага аказвалася чужаніцай кожнаму, хто мерыўся ўплішчыць яе ў нейкі адзін, жорстка дэтэрмінаваны фармат.

Так, мне было шкада... Але я прагнуў сваёй краіны, а не чужаніцы, – таму не меў выбару.

І я адпрэчыў яго...

* * *

Прачнуцца ранкам у сваёй краіне і ўсцешана падумаць, што ў цябе ёсць свая краіна...

# Ой бярозы ды сосны, партызанскія сёстры…

### *1. Векавы пошум пушчы*

Летам 2004 года я цягнуў праз усю Еўропу ўшчэнт зношаныя кірзавыя боты і дзіравыя анучы. Але цягнуўся я туды не адзін, а з ладным хаўрусам філосафаў ды мастакоў, каб у французскім Клермонт-Феране паказаць супольны праект, які мы назвалі «Партызан-арт». Наша шматдзённая выстава-перформанс ладзілася ў вялізным будынку былой скатабойні і дэманстравала там шмат чаго ўсялякага, бо да нас далучыліся беларускія мастакі, якія жылі на эміграцыі ў розных еўрапейскіх краінах. Аднак дамінантным ва ўсёй гэтай дзеі быў канцэпт *Партызана*. Таму адкрывала выставу карціна Ігара Цішына з серыі «Малы партызанскі рух», сустракала французскіх гледачоў «Перасоўная партызанская крама» Артура Клінава, а адным з цэнтраў усёй імпрэзы стаўся калектыўны праект «Сон партызана», дзеля якога і прызначаліся мае салдацкія кірзачы. Перад вяртаннем на бацькаўшчыну, я прачытаў у будынку оперы Клермонт-

Ферана невялічкую лекцыю, у якой даводзіў французам, што партызанскі міф як найлепей выяўляе падставовую сутнасць беларускай ментальнасці. А каб яны мне болей далі веры, я ім пакінуў свае зношаныя кірзавыя боты...

* * *

Аднак перш чым згадка пра беларусаў як партызанаў сталася нацыянальным міфам, мусіла прамінуць шмат часу і здарыцца мноства падзеяў, якія і склалі аснову ягонага паўставання. Гэта значыць, задоўга да таго, як беларусы пачалі вызнавацца за партызанаў, яны ўжо былі імі, хаця самі гэтага і не ведалі... Асабіста я схільны звязваць фармаванне партызанскай ментальнасці беларусаў з эпохай гэтак званага «крывавага патопу», калі пасля войнаў, арганізаваных маскоўцамі ў другой палове XVII ст., загінуў кожны другі насельнік нашых земляў і з гэтага заняпала Вялікае Княства Літоўскае. Пакінутыя без дзяржаўнай абароны беларусы мусілі самі сабе выпрацоўваць такія формы адбывання жыцця, якія б дазвалялі ім зберагчы гэтае жыццё. Найбольш аптымальным у тых умовах выявіўся не столькі супраціў узброеным чужынцам, колькі ованкі ад іх у лесе, які быў усюды і спрэс. Адпаведна мяняўся і характар беларусаў: з мужных ваяроў яны ператвараліся ў старожкія здані, што заўсёды былі гатовыя схавацца ў адсутнасць саміх сябе.

А вось даследчык беларуска-шведскіх стасункаў Андрэй Катлярчук лічыць, што пачатак гэтаму міфу паклаў, як тое ні дзіўна, Пётр I. Падчас Вялікай паўночнай вайны Швецыі з Расіяй ён пісаў пра войска Карла XII, якое атрымала першую буйную паразу на тэрыторыі Беларусі пад вёскай Лясной: «Едва 1000 человек от сих двадцати тысяч к королю и в Ригу войдут, понеже и по лесам мужики зело бьют их». Паводле Андрэя Катлярчука, з гэтага кароткага сказа і пачынаецца міф пра «партызанскую барацьбу» беларускага народа, якім значна пазней напоўніцу скарыстаецца савецкая гістарыяграфія.

Аб тым, што беларускія мужыкі лавілі па лясах чужаніцаў, даволі звестак і ў крыніцах, якія тычацца ранейшых войнаў. Але мяне менавіта гэтая версія зацікавіла таму, што справу, распачатую Пятром I, праз стагоддзе плённа разгорнуць расейскія ідэолагі, прэзентуючы вайну з Напалеонам. Тады пад вялікую ўхвалу побач з Кутузавым патрапілі і атрады беларускіх мужыкоў, якія рабавалі зняможаныя парэшткі французскіх войскаў.

Дарэчы, як адзначае той жа Катлярчук, падобна было і пад вёскай Лясной. У той час таксама ўзнікла шмат рабаўніцкіх хеўраў з магілёўскай шляхты і сялянаў, якія перахоплівалі на лясных дарогах разбітыя атрады шведскага войска. Генерал Рапнін дакладаў Пятру I, што на Магілёўшчыне «здешние мужики пеших шведов грабят и ружье, и платье отбирают... Пойма-

ли наши фуражири 7 человек шведов, а ружья, сказывают, отняли мужики».

Верагодна, тагачасных партызан будзе слушна раўняць са звычайнымі рабаўнікамі і марадзёрамі, хаця ў першую чаргу яны былі проста ахвярамі чужынных нашэсцяў. Абрабаваныя ўшчэнт падчас вайсковых кампаніяў і сваімі, і чужымі, беларусы такім рабаўніцкім чынам спрабавалі хоць у малой меры скампенсаваць тыя страты, што нанеслі ім узброеныя прыхадні. А вось ацэнка іх паводзінаў і ўчынкаў залежыла ад таго, на чыю карысць у канкрэтнай сітуацыі гэтыя ўчынкі рабіліся. Таму заўсёды для кагосьці яны былі бандытамі, а для некага – героямі-партызанамі. Так было і пазней, скажам, у дваццатыя гады пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі, так было і пад нямецкай акупацыяй у саракавыя гады. Дарэчы, як толькі немцаў прагналі з Беларусі, дык тыя партызаны, што засталіся ў супраціве да бальшавікоў, апошнімі таксама пачалі называцца бандытамі. Хаця насамрэч у сваёй сутве беларуская партызанка ніколі не была ні бандыцтвам, ні змагарнай барацьбой. Яна заўсёды была спосабам выжыць у пару ліхалецця, а паколькі адно ліхалецце неўзабаве мянялася на другое, дык партызанка са спосабу выжыць ператварылася ў спосаб жыць, які ўкаранёны ў нас вякамі і, магчыма, на вякі...

Дарэчы, многія залічваюць на рахунак беларускага партызанства антырасейскія паўстанні 1831 і асабліва 1863 гадоў. І хаця фармальных

падставаў для такога меркавання як быццам даволі, я не схільны з ім пагаджацца. Бачыце, падабенства з партызанкай тут адно ў некаторых формах барацьбы, а па сутнасці гэта дзве радыкальна адрозныя з'явы. Антырасейскія паўстанні мелі цалкам ідэалагічнае паходжанне. Тады змагаліся не за само жыццё, а толькі за іншы, вольны ад расейскага панавання, спосаб жыцця. І якраз таму паўстанцаў Каліноўскага мы называем не партызанамі, а касіянерамі.

Між іншым, у адным са сваіх ранейшых эсэ я здзівіўся, чаму амаль ніхто не заўважае, што акупацыя немцамі Беларусі ў Першую сусветную вайну амаль не мела партызанкі, прынамсі раўнуючы з Другой сусветнай вайной. Хаця розніца ў часе паміж імі ўсяго дваццаць год. А здзівіўшыся, асноўную прычыну гэтага парадоксу я тады, здаецца, вызначыў. Відавочна гіпертрафаваная савецкая партызанка была штучна змайстраваная Масквой і навязаная нашаму народу прымусам! Разам з тым у тых аналітыках я абмінуў увагай пытанне партызанкі падчас Першай сусветнай вайны. Мо таму, што ніякіх адметных звестак пра яе мне нідзе не сустракалася, калі не лічыць выдатнай аповесці для дзяцей Міхася Лынькова «Міколка-паравоз». Аднак цяпер дзве версіі адсутнасці больш-менш выразнага партызанскага руху пад першай нямецкай акупацыяй я маю. Перадусім, як для вайны, немцы на беларускіх землях тады паводзілі сябе досыць цывілізавана і нават наладзілі тут цэлую

сістэму фельчарскіх пунктаў і пачатковых школак на беларускай мове, якіх у нас раней ніколі не было. Хаця асноўная прычына звязаная хутчэй з іншым. Царскі ўрад прыдумаў высяляць усіх беларусаў у Расею з тых земляў, якія, адступаючы, пакідалі расейскія войскі. Дарэчы, мой дзед з сям'ёй і тады яшчэ падлетак бацька таксама патрапілі ў гэтае выгнанне. Карацей кажучы, падчас Першай сусветнай вайны ўся патэнцыйная партызанка Беларусі, якую можна было інспіраваць на змаганне з немцамі, апынулася ў Расеі.

Па-за маімі ранейшымі рэфлексіямі аказаўся і вельмі істотны для нашай тэмы міжваенны перыяд. Хаця якраз у гэтыя гады пад уплывам бальшавіцкай ідэалогіі быў сфармаваны той канон беларускага партызана, які цяпер мы звязваем амаль выключна з падзеямі Другой сусветнай вайны. Прынамсі так лічыць мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі. І я з ім цалкам пагаджаюся. Барадатыя мужыкі, узброеныя стрэльбамі, адважныя змагары з «белапалякамі» за савецкую ўладу і як бы вольную Беларусь, запаланілі тады літаратуру, кіно, жывапіс... Не станем пералічваць усе шматлікія артэфакты гэтай з'явы, згадаем хаця б толькі знакамітую аповесць «Дрыгва» Якуба Коласа і яе кананічнага героя Дзеда Талаша. Гэты канон беларускага партызана застаецца мэтавым і для ідэалогіі сучаснай беларускай дзяржавы. Толькі вось што цікава...

Даследчыца канцэпту «партызан» Дар'я Сітнікава неяк заўважыла, што ў актуальнай

палітычнай рыторыцы нашай улады нават «савецкая партызанка» ўзгадваецца адно ўскосна ды зрэдчас. А дамінуе пафаснае цверджанне аб Вялікай Перамозе гераічнага беларускага народа над фашыстоўскай навалаччу. Аналізуючы гэты факт, яна зрабіла, здаецца, слушную выснову, што партызанскі міф, які па азначэнні не суадносіцца з перамогай, а толькі са змаганнем, апынуўся мала прыдатным, каб легчы ў под спрэс пераможнай ідэалогіі таталітарнай Беларусі. Магчыма, нашая ўлада на партызанку і ўвогуле хацела б забыцца, бо для яе гэта залішне амбівалентная з'ява. Толькі міфы мацнейшыя за хоць якую ідэалогію. Іх можна скарыстоўваць ці ўтойваць, аднак нельга прыручыць.

Савецкая ідэалогія дасхочу пакарысталася партызанскім міфам і, відаць, была пэўнай, што назаўжды прытарнавала яго да сябе. Але як толькі яе рэпрэсіўная моц трохі аслабла, гэты міф перахапілі дзеля сваіх патрэбаў (хто б мог пра такое падумаць?!) незалежныя беларускія інтэлектуалы, мастакі, літаратары. Бадай першым гэтую ініцыятыву засведчыў Лявон Вольскі сваёй песняй «Партызанская». Зрэшты, тэма сучаснай беларускай партызанкі ў інтэлектуальна-мастацкім жыцці Беларусі настолькі маштабная і шматаблічная, што яе не варта нават распачынаць. Звярну адно ўвагу на часопіс «Партызан», які ўжо шмат год выдае Артур Клінаў і дзе яго аўтары прэзентуюць самыя розныя артэфакты адвечнага партызанскага руху беларусаў.

Міфы ніколі не паўстаюць на пустым месцы. Для беларусаў панятак «партызан» ужо даўным-даўно набрыняў сакральным значэннем. Таму мне часам уяўляецца, што, па вялікім рахунку мы яшчэ і не выйшлі з гушчароў пушчы. І хаця ўжо даўно жывем без вайны ў светлых гарадах і нават маем незалежную Дзяржаву, але цёмны лес па-ранейшаму глуха шуміць у нашых душах. І ніхто не ведае, чым і для каго аднойчы абернецца гэты пошум векавечнай пушчы.

## *2. Апалагетыка адсутнасці*

(Фрагменты лекцыі, прачытанай у Клермонт-Феране)

Алесь Анціпенка неяк выказаў адну як бы парадаксальную думку. Гучыць яна прыкладна так: пра беларуса што ні скажы – усё будзе няпраўдай. Зрэшты, тое самае тычыцца і самой Беларусі. Дык у чым тут справа? Бадай у тым, што беларусы атрымалі магчымасць публічна займацца рэфлексіяй ды самарэфлексіяй адно пасля распаду камуністычнай імперыі, і таму яшчэ не займелі часу, каб паразумецца паміж сабой у сваіх здагадках пра ўласны кон.

Было б вялікім нахабствам думаць, што за нейкія дваццаць год самастойнага мыслення можна адэкватна асэнсаваць усю сваю тысячагадовую гісторыю. І сябе ў гэтай гісторыі. Мы яшчэ нічога не паспелі. І таму ўсё, што мы кажам пра сябе, ёсць хоць трохі, ды няпраўдай. Не хлуснёй,

а менавіта няпраўдай, як непаўнатой веды ці няўпэўненасцю ў сапраўднасці гэтай веды.

Вось чаму паўставанне ўласнага філасофскага дыскурсу ўяўляецца мне адной з самых істотных падзеяў у беларускай культуры ўвогуле. Бо толькі праз нястомнае мысленне можна прыдбаць трывалыя падставы для ўразумення як саміх сябе, так і астатняга свету з беларускай перспектывы (...).

Між іншым, калі гэткае мысленне з'явілася, дык ужо на пачатку свайго паўставання высветліла адзін, зусім нечаканы для нас саміх, момант. Аказалася, што найбольш актуальнай для яго (калі не лічыць праблему самой Беларусі) сталася гэтак званая «метафізіка адсутнасці», у іншым ракурсе – «негатыўнае мысленне», а яшчэ ў іншым – дэканструкцыя і разнастайныя аналітыкі «пустога знаку».

Гэтай разнавектарнай, але з агульным полем, праблематыкай былі заангажаваныя многія беларускія філосафы, літаратары, мастакі, за што сведчаць не толькі шматлікія артыкулы, эсэ, кнігі а нават і назвы перыядычных выданняў ды сайтаў (...).

Магчыма, гэтак думаць і залішне авантурна, толькі я не выключаю, што захопленасць праблемай Адсутнасці паходзіць з нашай наскрозь партызанскай ментальнасці, для якой умельства знікаць у нікуды ўжо даўно сталася выратавальнай каштоўнасцю.

Для беларуса «партызан» – гэта адначасна і канцэптуальная метафара, і канцэптуальны пер-

санаж. «Партызан» ці не найлепей люструе нейкую анталагічную сутнасць беларуса, як у ягоным прыватным жыцці, так і ў ягоным пражыванні гісторыі. І гэтую сакральнасць «партызана» не здолела спрафанаваць нават савецкая партызанка падчас нямецкай акупацыі нашага краю ў гады Другой сусветнай вайны.

Партызан – гэта той, хто ўвесь час хаваецца (хованкі – адзіная нацыянальная гульня беларусаў); партызан – гэта той, хто заўсёды кажа пра сябе: «мяне няма»; партызан – гэта той, хто выяўляецца толькі ў момант дыверсіі (у нашым выпадку – інтэлектуальнай ці эстэтычнай), а потым зноў знікае ў адсутнасць самога сябе. (...)

І апошняе, у якасці рэзюмэ гэтага здумлення. Інтэлектуальна-эстэтычная лучнасць у полі негатыўнага, якая выявілася на скрыжаванні сучаснага мыслення і актуальнага мастацтва, бачыцца мне надзвычай важнай падзеяй, бо дазваляе нам паглядзець на саміх сябе ў раней заслоненай ад нас рознымі ідэалогіямі перспектывы. З важкасцю гэтай падзеі, магчыма, не шмат хто пагодзіцца. Але нават калі не я, а іншыя маюць рацыю, дык усё адно спробы нашых мысляроў, літаратараў і мастакоў зразумець Адсутнасць (нішто, няма, пусты знак...) як дом быцця беларусаў – вартыя ўвагі. Гэтаксама ўяўляюцца вартымі ўвагі тыя інтэлектуальна-эстэтычныя дыверсіі, праз якія ўрбанізаваная партызанка робіць спробы засведчыць прысутнасць беларусаў у іхняй адсутнасці.

## Калі мы сягалі зор

Маё сяброўства з грамадскімі ды палітычнымі арганізацыямі пачалося і скончылася камсамольскім білетам. Потым куды толькі ні запрашалі (часам нават жывасілам цягнулі): і ў камуністычную партыю, і ў Беларускі ПЭН-цэнтр, і ў Саюз пісьменнікаў, і ў Бум-Бам-Літ, і ў шматлікія апазіцыйныя партыі. Толькі я зацята ўпарціўся, бо хацеў заставацца вольным, найперш – дзеля мыслення, якое з сваёй сутвы заўсёды ёсць крытычным адносна хоць чаго зацугляната. Натуральна, не быў я і сябрам Беларускага народнага фронту. Але... Ма*ю* адданасць яму (асабліва на ягоным пачатку) калі і можна з чым параўнаць, дык хіба з адданасцю фанатычнага верніка.

Інакш (і пафасна) кажучы, для мяне БНФ тады быў штодзённым святам свабоды і вызвалення нацыянальнага духу. Зрэшты, мяркую, не для мяне аднаго, а для мноства і мноства беларусаў паўстанне БНФ найперш было *Святам*! Да таго ж неверагодным па сваіх маштабах і глыбіні. Бо гэта было свята не нейкага помнага дня, а свята цэлай эпохі патаемнага чакання раскатурханай волі і нацыянальнай прасветленасці.

Эмацыйнай вастрыні яму надавала яго нечаканасць і, калі заўгодна, нязнанасць. Для бальшыні беларусаў праз БНФ раптам пачала адкрывацца іншая, раней зусім не вядомая ім Беларусь. У сваім вымеры з'яўленне БНФ было падзеяй, роўнавялікай адкрыццю Амерыкі. Знянацку наперадзе ўбачылася «Новая Зямля» і ўся Беларусь загудзела, як узрушаная бортня.

Натуральна, далёка не ўсе і спрэс узрадаваліся навіне. Тут быў увесь магчымы спектр эмоцыяў: ад панічнага страху да шалёнага аптымізму. Не было толькі аднаго – такой звыклай нам панылай абыякавасці. Беларусы тады ў адначассе зрабіліся *жывымі*, неверагодна *жывымі* людзьмі. І калі мы забудземся на тую бурапенную ўсхваляванасць, на тую глыбіню перажывання свайго жыцця як падзеі, дык ніколі не зразумеем, з чаго гэта палітычных рух, хай сабе і масавы, літаральна за некалькі год стаўся міфам.

Дарэчы, міф для свайго паўставання зусім не патрабуе шмат часу. Колькі там хвілінаў стаяў пад шыбеніцай Кастусь Каліноўскі?! Аднак менавіта гэтыя кароткія хвіліны, а не актыўны ўдзел у паўстанні, пакладаліся ў под ці не самага гераічнага міфа нашай гісторыі. У доказ тэзы пра амаль вокамгненнае заканцаванне міфа БНФ я мог бы прывесці мноства прыкладаў, але згадаю толькі адзін і фармальна не лішне адметны...

Недзе на пачатку дзевяностых мы сяброўскім колам літаратараў, філосафаў і музыкаў плылі

на байдарках у самых што ні ёсць нетрах Беларусі. Як звычайна, на носе нашага з Ігарам Бабковым чоўна быў прымацаваны бел-чырвона-белы сцяжок. Неяк, каля адной з глухіх вёсачак у некалькі хатак, да нас падбеглі два мурзатыя хлопчыкі і адзін запытаўся ў другога: «Што гэта за сцяжок?» А той без ваганняў адказаў: «Бэнээфаўскі»...

Дык вось, міф – гэта калі ў пушчанскай глухамані мурзаты хлопчык ведае пра тое, аб чым яму не казала настаўніца і пра што ён не мог прачытаць у сваіх кніжках ці пабачыць па тэлевізары (антэнаў над хацінкамі не было).

Карацей кажучы, полымя з вогнішча БНФ, ледзь распаліўшыся, адразу шуганула да самых зор...

Толькі далей трохі прыцішым нашу эйфарыю, каб нагадаць некаторыя падзеі, што падрыхтавалі магчымасць шырокага нацыянал-дэмакратычнага руху Беларусі. Перадусім тут будзе гэтак званая «галоснасць», аб'яўленая Міхаілам Гарбачовым, з якой усе адукаваныя людзі савецкай айкумены кінуліся чытаць забароненую літаратуру і абмяркоўваць новую веду не толькі на «кухнях», але на вуліцах ды плошчах. Затым – «народныя франты» прыбалтаў, па мадэлі якіх потым і быў створаны Беларускі народны фронт. Цяпер прыбалтаў рэдка згадваюць, хоць насамрэч уплыў іхніх палітычных формаў барацьбы за незалежнасць быў надзвычай істотны для беларусаў. Усё яшчэ добра па-

мятаецца, як пасля знакамітага разгону «нефармалаў» (так яшчэ называлі будучых «бэнээфаўцаў») каля Маскоўскіх могілак у 1988 годзе маніфестанты пачалі апантана выкрыкваць: «Народны фронт», «Народны фронт», «Народны фронт»...

Неўзабаве ён і будзе створаны. І тады на вулічныя шэсці стане збірацца мноства і мноства людзей, але найперш ці не ўся творчая эліта краіны – пісьменнікі, мастакі, музыкі, інтэлектуалы... Зрэшты, у тую пару пад харугвамі БНФ кожны быў і творцам, і элітай, бо сваім удзелам у палітычных маніфестацыях пераствараў і сябе, і сваю краіну. Інакш кажучы, сярод гэтага мноства лічы не было проста статыстаў. Паколькі нават той, хто адважваўся ўсяго толькі паглядзець на нечаканае дзіва, быў напяты трывогай і надзеяй. Ад шалёнай энергетыкі безлічы гэтак узрушаных людзей натоўп аж захлынаўся, і, напэўна, не аднаго заўзятара волі тут хапіў бы паралюш, каб не ратаўнічы покліч «Жыве Беларусь», што хоць трохі вызваляў ад гэтага шалу.

А далей, натуральна, пра Зянона Пазняка. Бо наўрад ці хто стане спрачацца, што ў падзеі БНФ яго роля вызначальная. Зразумела, што нацыянальна-дэмакратычны рух у краіне паўстаў бы і без Пазняка, паколькі так было паўсюль на тарэнах былога СССР. Больш за тое, і Беларускі народны фронт бадай быў бы створаны, бо франты запачаткавалі ў сябе ўсе нашы суседзі (акрамя Расіі). Але вось чаго ў нас не было б без Зянона

Пазняка, дык гэта міфа БНФ. І тое напэўна. Між іншым, хапала яркіх лідараў і ў прыбалтаў, хапала іх і ў украінцаў, толькі ні прыбалтыйскія франты, ні ўкраінскі «Рух» так і не прыдбалі сабе статус міфа. Вядома, справа тут не толькі ў тым, што яны не мелі такой маштабнай і харызматычнай фігуры, як Зянон Пазняк, але і ў гэтым таксама – ды ці не найперш...

Разам з тым заняпад масавага нацыянальна-дэмакратычнага рушэння, здаецца, таксама будзе слушна звязваць перадусім з фігурай Зянона Пазняка. На пачатку свайго станаўлення БНФ аб'яднаў усіх, хто прагнуў свабоды і пераменаў. Але неўпрыкмет ён пачаў ператварацца ў палітычную сілу, якая прэзентавала адно нацыяналістычна заангажаваных беларусаў. Бо кожны, хто не тоесніўся з жорстка дэтэрмінаванай нацыяналістычнай ідэалагемай, ці самахоць пакінуў БНФ, ці паўз уласную волю быў змушаны сысці прочкі. З гэтага перад выбарамі першага прэзідэнта краіны ў Зянона Пазняка застаўся лічы толькі нацыяналістычна заангажаваны электарат. А яго было залішне мала для перамогі над Аляксандрам Лукашэнкам. Якраз апошні і ўвідавочніў перад усімі палітычнымі акторамі, што ствараць змагарныя міфы – гэта адно, а прыбіраць да рук рэальную палітычную ўладу – зусім іншае.

Які зменлівы наш свет, як мала ў ягоных падвалінах трывушчы! Сённяшнія дзве маналікія палітычныя партыі пад гаслам БНФ і той магут-

ны рух, што калісьці ўзноржыў усю краіну, калі і маюць нешта агульнае, дык толькі абрэвіятуру. Маладому чалавеку, які ведае адно цяперашнюю сітуацыю, ужо цяжка даць веры, што калісьці, толькі пачуўшы пра БНФ, тысячы прыўладных функцыянераў па ўсёй Беларусі хапаліся за сэрца ці ашчэрваліся ў зняможанай нянавісці. А сэрцы абраных Беларуссю трымцелі ад салодкага хвалявання.

Лёсы міфаў звычайна непрадказальныя. Бывае, што некалі і самыя магутныя знікаюць даастачы. Я не ведаю, ці замацуецца міф БНФ у гістарычнай памяці нашых нашчадкаў. Але ён безумоўна варты таго, каб займець сабе месца сярод самых прыгожых міфаў *адвечнага шляху* беларусаў.

## Віртуальная Айчына

### 1. *Прэамбула*

1995 год. Майскі рэферэндум пра статус беларускай мовы, дзяржаўныя сімвалы ды сёе-тое яшчэ...

Нават беручы пад увагу некарэктнасць (з розных гледзішчаў) прапанаваных на рэферэндум пытанняў і спрэчнасць выніковых лічбаў, немагчыма ўсё ж было пярэчыць відавочнаму: пераважная бальшыня беларусаў (тут дакладней сказаць: насельнікаў краіны) не бачаць асаблівай каштоўнасці ні ў роднай мове, ні ва ўласнай культуры і гісторыі, ні ў нацыянальнай незалежнасці.

Нарэшце «заглянула сонца і ў наша ваконца» і нам увідавочнілася тое, пра што мы, будзем шчырымі, даўно ведалі, але чаму раней, асабліва ў сутонні адраджэнскага ранку, неяк атрымлівалася не даваць веры.

Першыя дні і тыдні пасля рэферэндуму і цяпер балюча згадваць. *Нацыянальна свядомыя*, што тыя совы, якіх дзень заспеў на голай выспе, адно разгублена лыпалі вачыма і безнадзейна

сноўдаліся з месца на месца, не ведаючы, куды падзецца ад невыноснага святла... Не ратавалі ні гарэлка, ні распуста...

З адчаю хаваліся ў сябе – там было чорна да нявідалі.

Асабіста мне тады марылася толькі пра адно – каб як мага хутчэй прамінулі гэтыя першыя дні, тыдні, месяцы і светлая ява сталася панылай звыкласцю, бо трэба ж было неяк жыць далей, прызвычайвацца да новых стандартаў, спакваля асвойтваць іншую рэальнасць і неўпрыкмет стасаваць да яе рэшткі былых ілюзіяў.

Хаця ілюзіяў, здаецца, амаль не засталося, паколькі мяне не гаіла (як, бадай, многіх) адчайная нянавісць да тых, хто зыніцыяваў ды зладзіў рэферэндум; я і ў адчаі выразна ўсведамляў, што не яны стварылі тую сітуацыю, якую мы мелі, – яны толькі скарысталі яе ў сваіх мэтах. Але тут гаворка не пра іх, а пра тых, для каго рэферэндум жорстка і бязлітасна выявіў ды прадэманстраваў, што ў нас ёсць і чаго ў нас няма.

Беларусаў трохі ёсць, а Беларусі няма – у сэнсе жыццядайнага нацыянальнага арганізма, які б запатрабаваў дзеля свайго развою і бяспекі нацыянальнай дзяржавы. Але яшчэ горш тое, што яна і ў будучыні не праглядалася, хаця якраз на «будучыню» шмат хто тады спадзяваўся (спадзяецца і цяпер): маўляў, неўзабаве ўсё неяк пераменіцца, да ўлады дапнуць «нашыя» і мы здабудзем памысную Беларусь... (Калі б «нашыя» хаця б у бліжэйшай перспектыве маглі займець

уладу, то Аляксандр Лукашэнка, з яго не абыякой палітычнай інтуіцыяй, ужо даўно быў бы «нашым».)

Але калі б нават нейкім цудам нешта ўзяло ды кардынальна перамянілася і «нашыя» прыйшлі да ўлады (як прыйшлі б, так і пайшлі б...), то што з гэтага не дэкларатыўна, а сутнасна зрушылася б у самой сітуацыі?

Безумоўна, фармальна сёе-тое выдавала б на лепшае ў нашым разуменні лепшага (трохі прыпынілася б русіфікацыя, вярнулася б гістарычная сімволіка, што-кольвек яшчэ...), аднак і тая дэкларатыўна нацыянальная дзяржава рэальна была б сацыяльнай дзяржавай, дзе «нелегітымна» панавала б ідэалогія каўбасы і курсу долара, а не нацыянальнай культуры; і ў той, «нашай», дзяржаве *свядомаму беларусу* было б, пэўна, гэтак жа няўтульна, як і сёння, бо і тады ён быў бы ва ўнутранай эміграцыі адносна чужароднага яму соцыуму і расейскай маскультуры.

Прыкладна гэтак (слушна ці не – іншая рэч) я разважаў у тыя першыя тыдні і месяцы пасля рэферэндуму...

Няўжо нам, *свядомым*, – думаў я ў падсумаванне, – нічога іншага не застаецца, як пражыць жыццё і памерці чужаніцамі на сваёй зямлі, ды яшчэ той самы бяздольны лёс пакінуць сваім дзецям, якія з нашай волі ці нават паўз яе панабіраліся ад нас гэтай заразы – беларусафіліі?

## 2. *Ёхан Хейзінга і мроі пра віртуальную дзяржаву*

Цяпер ужо не памятаю, скуль непасрэдна ўзнікла думка, з якой я потым, як дурань з пісанай торбай, цягаўся некалькі тыдняў запар. Хаця напэўна яна пачаткавалася недзе ля ідавочнай тэзы: большасць насельнікаў Беларусі (блізу шасці мільёнаў) прагаласавала за сацыяльную дзяржаву. Добра, іх болей, яны перамаглі, дык хай сабе і ладзяць сваю жытку, як ім падабаецца. Але чаму з іх перамогі мусяць пераможаныя пачувацца ў скрусе, да таго ж не прыхадні, а таксама тубыльцы гэтага краю? Як-ніяк, не за «барбарскімі» часамі жывем, дэмакратыя наўкола, а дэмакратыя, як вядома, гэта найперш павага і забеспячэнне правоў меншыні. Тым болей што не такая яна ўжо і малая, гэтая меншыня, якая аддала перавагу нацыянальнай дзяржаве (блізу двух мільёнаў; а хай сабе і мільён).

Дык чаму гэтыя два мільёны (а хай сабе і мільён) не могуць жыць як цывілізаваныя людзі, мець свайго прэзідэнта, свой парламент і ўсе астатнія палітычныя ды грамадскія інстытуты? – запытаўся я сам у сябе.

Узважыўшы пытанне, слушна адказаў:

– Дык таму!

Безумоўна, можна было б прапанаваць усім *свядомым* з'ехацца на жытло ў нейкую адну вобласць і зладзіць там нешта падобнае да нацыянальнай аўтаноміі, толькі беларусы не габрэі, за

белы свет без прынукі не пацягнуцца, ды і дзіўна было б чакаць ад беларуса, што ён кіне бацькоўскае котлішча ці абжытую «хрушчоўку» ў Серабранцы дзеля таго, каб недзе ў іншым месцы лаяцца з суседам па-беларуску і на першае мая над ганкам вывешваць не чырвона-зялёны, а белчырвона-белы сцяг.

Карацей кажучы, як ні трудзіў я глузды, заўсёды атрымлівалася тое самае: на прасторах аднойкраіны ў нас ніяк не атрымаецца выштукаваць дзве дзяржавы (сацыяльную і нацыянальную...). А з гэтага бясспрэчна вынікала, што *свядомым* нічога іншага не застаецца, як гібець кожнаму паасобку ў сваім катуху, пакуль не павымірають усе да апошняга, што тыя яцвягі.

І вось недзе тут, у момант гранічнай скрухі, я нечакана ўспомніў Ёхана Хейзінга, дакладней ягоную канцэпцыю, у якой сцвярджалася, што ўся чалавечая культура – гэта не што іншае, як гульня ў безлічы праяваў гульні («Homo Ludens»). Калі «вся жизнь игра», – падумалася мне па-руску, – то чаму б нам, *свядомым*, не згуляць у Беларускую Нацыянальную Дзяржаву? Чаму б не правесці сярод сваіх выбары ўласнага парламента, які б потым сфармаваў собскі ўрад, прыняў апрычоную канстытуцыю, і згодна з гэтай канстытуцыяй мы знайшлі б сабе месца сярод грамадзян Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі (БНР).

Зачапіўшыся хоць за нешта, мая фантазія ўжо не хацела зважаць ні на законы логікі, ні на

палітычныя варункі, ні на канцэптуальную млявасць нашых суграмадзянаў – яна ліхаманкава разбягалася ў розныя бакі ўсё далей і далей (куды там Манілаву): я ўяўляў уласныя прадстаўніцтвы ў розных краінах свету (дзе толькі беларусаў няма, а згуртаванні беларусаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Польшчы, Латвіі ды некаторых іншых краінах выконваюць ролю амбасадаў ці не ў большай меры за афіцыйныя пасольствы); уласныя грошы (дынар? талер?), якімі б мы карысталіся ў дробных гандлёвых стасунках паміж сабой (з цягам часу яны, магчыма, сталі б канверсавацца з беларускім рублём); уласнае «войска» (ну калі не «войска», дык нейкую арганізацыю кшталту самааховы, якая хаця б абараняла *свядомых* ад агрэсіі «несвядомых»); уласныя партыі (лібералы, сацыял-дэмакраты, камуністы, зялёныя...); уласныя рэлігійныя інстытуты (сярод іх аўтакефальная царква); уласныя СМІ, выдавецтвы, фонды, культурніцкія праграмы і ініцыятывы (што да ўсяго апошняга, то незалежныя беларускамоўныя выданні ды культурніцкія праграмы, як на Беларусі, так і ў замежжы, заўсёды працавалі і працуюць пераважна на карысць і патрэбу грамадзян менавіта гэтай, віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі)...

У тыя некалькі дзён вясёлага шаленства, калі мая галава была апанаваная віхурай уласных фантасмагорый, я, здаецца, перамацаў усе магчымыя дзяржаўныя, грамадскія, палітычныя ды сацыяльныя інстытуцыі, прыглядаючыся, што

з усяго гэтага мноства магло прыдацца да рэальнасці віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Дзяржавы. Натуральна, усе тыя думкі (прыдумкі, задумкі, выдумкі) я тут прыгадваць не маю намеру, ды шмат чаго ўжо і забылася, але выразна памятаю, што і падчас найвялікшага ачмурэння я не забываўся:

а) на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая не прадугледжвае ўнутры сваіх межаў ніякай іншай дзяржавы, акрамя той, што ўжо існуе;

б) на адсутнасць механізму, праз які можна было б выявіць і злучыць усіх *свядомых* паміж сабой (калі яшчэ побытавы камп'ютар, падключаны да «сусветнага павуціння», станецца такой жа шараговай з'явай, як тэлевізар);

в) на адсутнасць адпаведных фінансавых сродкаў (а маштабныя гульні патрабуюць шмат грошай);

г) на анталагічную няздольнасць беларусаў гуляць у сваю гульню, ды і ўвогуле гуляць хоць у якія абстрактныя гульні.

Як гэта ні дзіўна, але менавіта апошняя антытэза найбольш выразна высвятліла ўсю меру фантазійнасці маіх фантазмаў...

Праблему канстытуцыі вырашыла Гульня; гуляць наша канстытуцыя не забараняе, а калі можна гуляць у «Спортлато», то чаму нельга гуляць у віртуальную Дзяржаву?.. Адсутнасць камп'ютараў пакуль можна было б кампенсаваць поштай, тэлефонам, незалежнымі СМІ... Грошы? Грошай заўсёды будзе не хапаць. А вось заахво-

ціць беларусаў, хай сабе і *свядомых*, да інтэлектуальнай забаўкі, у якой гульня была б сур'ёзнай справай, а сур'ёзная справа – гульнёй, немагчыма. І гэта напэўна, што я, беларусаў не ведаю?

Беларус альбо працуе, альбо п'е гарэлку. Калі вып'е, можа і пазабаўляцца. Але каб цвярозы беларус не працаваў, а забаўляўся – такога, лічы, не бывае.

На гэтай цвярозай выснове і скончылася мая сам-насам гульня ў віртуальную Беларусь. Але паколькі я трохі літаратар, гэта значыць чалавек, для якога выдуманае мае амаль аднолькавую каштоўнасць з рэальным, то мне тады вельмі карцела падзяліцца гэтай выдумкай з іншымі – напісаць артыкул ці эсэ, ды за рознымі сур'ёзнымі справамі дзеля фантазіяў не знайшлося часу...

## 3. *Этычны імператыў на скразняках прагматыкі*

Нельга сказаць, што потым я на тыя свае летуценні зусім забыўся. Зрэдчас згадваў, але ўсё неяк мімаходзь, паміж іншым, і, пэўна, з цягам часу яны неўпрыкмет пабляклі б да нявідалі. Але аднойчы пайшла пагалоска, што сярод *свядомых* узнікла ініцыятыва, якая заклікае прымаць грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Пагалоска змянілася публікацыямі ў прэсе, а неўзабаве я і сам меў гонар быць запрошаным на ўрачыстую прэзентацыю гэтай ініцыятывы.

Дык вось, як толькі я пачуў пра «грамадзянства БНР», дык мне адразу ўзгадаліся мае ранейшыя летуценні пра Беларускую Нацыянальную Рэспубліку, і зусім не з абрэвіятурнай тоеснасці (БНР – БНР), а з прычыны куды больш істотнай: тут ужо дэкларавалася імкненне практычна рэалізаваць як мінімум адзін, але надзвычай важны пункт, які супадаў з «праграмай» маіх трызненняў, а менавіта – прапаноўвалася адметнае грамадзянства для *свядомых*, гэта значыць збольшага акрэслівалася поле іх супольнай прысутнасці ў тапаграфіі быцця.

Калі ёсць «мінімум», – спехам падумалася мне, – то, магчыма, прадугледжваецца і нейкі «максімум». Не, нават «спехам» я не спадзяваўся, што сур'ёзныя людзі, паважныя палітыкі стануць разгортваць сваю ініцыятыву, прыпадабняючыся да фантазіяў адвязанага ад рэальнасці літаратара. Але ж, але ж...

Што і казаць, ужо на прэзентацыі ініцыятывы мае кволыя спадзяванні на «нешта большае» зусім зніякавелі. Розныя выступоўцы казалі адно і тое ж: «грамадзянства БНР» – гэта маральны і палітычны выбар, прысяга на вернасць незалежнасці, беларускай мове, бел-чырвона-беламу сцягу і дзяржаўнасці Беларусі. Таму, пэўна, мяне наўрад ці хто зразумеў, калі я ў сваім слове сказаў, што ідэя грамадзянства БНР мае самадастатковы патэнцыял, які пры ўмове яго разгорнутасці можа стварыць больш утульную сітуацыю для «нацыянальна свядомых». А інакш, калі гэ-

тая ініцыятыва будзе толькі дапаможнай акцыяй у палітычнай барацьбе за ўладу «нашых» у Рэспубліцы Беларусь, дык яна згорнецца ў звычайны сацыялагічны перапіс, чарговую каталагізацыю *свядомых* беларусаў для архіва найноўшай гісторыі і архіва КДБ.

Мы ўвесь час спадзяемся на нейкі цуд, спадзяемся, што тая рэальнасць, якую назіраем штохвілі на свае вочы, – гэта аблуда, і дастаткова вынайсці нейкі іншы ракурс бачання гэтай рэальнасці, як яна карэнным чынам пераменіцца на нашу карысць... І ці не была ідэя «грамадзянства БНР» (у прапанаванай схеме) чарговай спробай змяніць ракурс бачання той самай сітуацыі ў спадзеве, што гэтым разам яна высветліць тое, што нам летуценна марыцца бачыць: з намі сотні тысяч, мільён! а раптам і не адзін...

Асабіста я ад вынікаў гэтай ініцыятывы чакаў іншага «цуду»: можа, урэшце з яе сфармуецца разуменне, што нас ёсць столькі, колькі нас ёсць. І з гэтага разумення нашы палітычныя і грамадскія ініцыятывы далей будуць скіраваныя не на нейкі міфічны беларускі народ, у памкненні раскатурхаць яго да нацыянальнага жыцця, а на нас саміх, якія ёсць сёння, колькі б там нас ні было, з нашым разуменнем цывілізаванага, палітычнага і грамадскага ўладкавання. Гэта значыць, што мы, «нацыянальна заангажаваныя», перастанем быць адно нейкай механічнай сілай дзеля татальнай экспансіі нацыянальнай ідэі на прастору ўсёй Беларусі і вызначым сябе ў якасці

самадастатковага суб’екта ўнутры гэтай прасторы, зразумеем сябе як актуальную праблему, якую мы самі для сябе мусім і здольныя вырашыць...

Прынамсі наперадзе гэтая праблема павінна выступіць як наша ўласная праблема, і ўжо толькі пабочна – як экспансія нацыянальнай ідэі вонкі...

### 4. *Жыццё і смерць у віртуальнай Айчыне*

Усялякая дзяржава ёсць не што іншае, як суплёт правоў і абавязкаў дзяржавы перад яе грамадзянамі – і наадварот. Адсутнасць узаемных правоў і абавязкаў ці немагчымасць іх рэальна атрымліваць і выконваць з аднаго альбо другога боку ператварае дзяржаву ў фікцыю, пакідае за ёй толькі ідэю дзяржавы, а за яе грамадзянамі застаецца адно права маральнага выбару: наследаваць гэтай ідэі ці адсланіцца ад яе. Вось чаму ў сітуацыі з БНР (у сітуацыі адсутнасці ўзаемных правоў і абавязкаў) наперадзе ўсяго апынуўся «маральны выбар».

Маральны выбар – рэч, безумоўна, сур’ёзная, але, паколькі ён ужо зроблены, лагічна паўстае пытанне: а што з гэтым маральным выбарам рабіць далей, калі з дзяржавы, як кажуць, ні даць ні ўзяць?..

Пэўна, каб унікнуць гэтага пытання, я ў пару трызненняў над віртуальнай Беларуссю бадай

нават інтуітыўна (бо тады, здаецца, не думаў над гэтым) зачапіўся за «гульню», паколькі гульня аўтаматычна здымала праблему правоў і абавязкаў.

Так, гульня не надзяляе цябе ніякімі правамі, але яна і не патрабуе ад цябе ніякіх абавязкаў, акрамя абавязку прытрымлівацца правілаў гульні, якую ты сам для сябе абраў.

Я выдумляў Беларускую Нацыянальную Рэспубліку як гульню для тых, хто яе (у значэнні нацыянальнай ідэі) ужо даўно вылучыў як тоесную ягонай экзістэнцыі форму духоўнага існавання, але не мог рэалізаваць гэты выбар ва ўмовах іншароднага соцыуму. Якраз з гэтага гульня ў БНР уяўлялася мне адным са спосабаў хоць частковай гуманізацыі той пачварнай дысгармоніі, якая спрэс атачала нацыянальна заангажаванага беларуса ў варожай яму Беларусі.

Змушаны жыць у антаганістычным мне соцыуме, я вымройваў нейкую эфірную айкумену, якая б выступіла ў ролі майго пратаганіста, аб'яднала мяне з падобнымі ў нейкім маштабным, увесь час інтрыгуючым праекце, які мог бы стацца хоць якой альтэрнатывай маёй прысутнасці сярод рэаліяў чужыннага мне сацыяльнага ўтварэння...

Дарэчы, пра «маштабнасць праекта». У тых маіх ліхаманкавых трызненнях гульня ў віртуальную Беларусь ахоплівала кожнага, хто пажадаў бы ў ёй удзельнічаць, незалежна ад таго, куды яго закінуў лёс – у Рэспубліку Беларусь,

Аўстралію, Конга ці на Камчатку. Нацыянальная Дзяржава без хоць якога лапіка ўласнай зямлі магла дазволіць сабе быць бязмежнай. А яе фармат, пазбаўлены геаграфіі і геапалітыкі, магчыма, найлепей прыдаўся б для таго, хто бачыць у страце нацыянальнай ідэнтычнасці страту самога сябе...

Магчыма, каб гэта было хоць як магчыма...

Пазбаўленыя ўласнай дзяржавы, гнаныя са сваёй зямлі і раскіданыя па ўсім свеце габрэі змаглі застацца самімі сабой і праз дзве тысячы гадоў вярнуцца на сваю «гістарычную радзіму» таму, што дзве тысячы год гулялі ў сваю гульню па правілах, выкладзеных у Бібліі (хай даруюць мне вернікі гэтае і наступнае рызыкоўныя параўнанні), і пад наглядам суддзі, які не мог мець уласнага імя і таму называўся Бог.

Але, як вядома, беларусы – не габрэі. Беларусы залішне сур'ёзна ставяцца да жыцця, каб гуляцца ў жыццё. І гэта, пэўна, таксама няблага. Толькі, як сведчыць гістарычны досвед, калі ты не ўмееш гуляць у свае гульні, дык табой гуляюцца іншыя.

# Нацыянальны канон: партытура для рэквіема

## *1. У пошуках нацыянальнай айкумены*

Як вядома, нават у тэарэтычным дыскурсе не існуе ўніверсальнай канцэпцыі нацыянальнай ідэі*. Кожным апрычоным выпадкам нацыянальнай становіцца тая ідэя, якая найбольш пасуе запатрабаванням і магчымасцям канкрэтнай грамадскай супольнасці на стадыі яе нацыябудаўніцтва. (Натуральна, тут сваю ролю таксама адыгрываюць эпоха, геапалітычны кантэкст, рэлігійныя дамінацыі і шмат чаго яшчэ...)

Да прыкладу шматварыянтнай асноведзі кожнага нацыябудаўніцтва згадаем хаця б два гістарычныя сюжэты. «У 1848 г. у немцаў усё яшчэ будуць існаваць супрацьлеглыя погляды на тое, што такое Германія... Пералік розных мадэляў Германіі... карысны напамін аб тым, што нямец-

* Дзеля прыкладу згадаю хаця б Энтані Сміта: «Ніколі не было адзінай версіі нацыяналізму, і няма сэнсу шукаць якую-небудзь «сапраўдную» дактрыну ці «праўдзівы» рух, каб ён стаў узорам або крытэрыем для ўсіх наступных выпадкаў» (Энтані Сміт, «Нацыяналізм у XX стагоддзі»).

кая нацыя, якую ў розных даўнейшых тэорыях называлі «гістарычнай», гэта значыць ад веку запачаткаванай як нацыя, пры пераходзе да эпохі нацыяналізму зведала працэс фармавання, перафармавання і разбурэння... Новая канцэпцыя адзінай аб'яднанай нацыянальнай дзяржавы была насамрэч рэвалюцыйнай, паколькі заклікала да разбурэння гістарычных дзяржаваў – такіх як Прусія, Баварыя, Саксонія і іншых...». Гэта цытата з артыкула Рамана Шпарлюка*. Згадаем яшчэ адзін фрагмент з тэксту гэтага аўтара. «Не толькі немцы былі раздзеленыя і не вельмі ўяўлялі, якой ёсць і тым болей якой павінна быць іх краіна. **Іншыя нацыі** (выдзелена мною – *В.А.)* сутыкнуліся з тымі ж праблемамі. Чэшскі гісторык Іржы Коржалка... піша, што ў 1848 г. у чэхаў было не менш як пяць канцэпцыяў свайго народа: аўстрыйская, пангерманская, славянская, багемская і ўласна чэшская». Натуральна, у спіс *іншых нацыяў* варта залічыць і беларусаў.

Расповед пра генезіс беларускай нацыі можна распачынаць хоць з моманту стварэння Свету, што навукова будзе не зусім карэктна, але з таго не менш слушна. Аднак мы абмяжуем сябе тым перыядам, калі этнонім «беларусы» атрымаў ужо досыць шырокі распаўсюд, а пасля «паўстання Каліноўскага»** прыдбаў сабе і значэнне

* «Формирование современной Украины: западное измерение» («Перекрёстки», №1-2 / 2006).

** Двукоссі тут падкрэсліваюць усю ўмоўнасць гэтага ўстойлівага словазлучэння.

палітоніма. Тут дарэчы будзе заўважыць, што «паўстанне Каліноўскага» было першым паўнавартасным палітычным актам, які засведчыў наяўнасць беларусаў ужо менавіта ў палітычным дыскурсе. І ў гэтым яго прынцыповая адрознасць ад паўстання 1794 г., якое ачольваў *таксама беларус* Тадэвуш Касцюшка, але дзе нават напаміну пра беларускую нацыю яшчэ не было месца (зрэшты, як і пра польскую ці літоўскую), бо там змаганне вялося за незалежнасць польскай палітычнай нацыі, якая для насельнікаў нашых земляў выяўлялася ў формуле gente Lithuani, natione Poloni (роду літоўскага, нацыі польскай). Між іншым, паміж «Вясной народаў» 1848 г., якая паклала пачатак многім еўрапейскім нацыяналізмам, і «паўстаннем Каліноўскага» прамінула ўсяго 15 год. Гэта значыць, што ў праекцыі на эпоху нацыяналізму беларусы палітычна засведчылі пра сябе амаль адначасна з многімі іншымі народамі Еўропы. Што праўда, гэта было відавочным запабяганнем далёка наперад адносна патэнцыялу тадышніх беларусаў як нацыі. Болей таго, паўстанне 1863 г., якое заканцавалася неверагодна жорсткімі рэпрэсіямі царскіх уладаў, на дзесяцігоддзі запыніла працэсы нацыяўтварэння на Беларусі. Дастаткова нагадаць, што расейская адміністрацыя 40 год пасля паўстання (да 1905 г.) забараняла друкаваць кніжкі па-беларуску, а выкладаць беларускую мову ў школах імперыя так і не дазволіла да свайго скону.

Мне здаецца, што мы недастаткова ўсведамляем, якія непапраўныя страты панеслі беларусы за гэты перыяд адносна перспектывы сваёй нацыянальнай будучыні. Бо на той час без беларускай кнігі і беларускай адукацыі ў прынцыпе было немагчымым фармаванне нацыянальнай эліты. А без нацыянальнай эліты, у сваю чаргу, скуль магла ўзяцца паўнавартасная нацыя?

Таму выглядае досыць натуральным, што якраз у гэтую пару, калі беларусы як бы выпалі з часу, на месцы ўласнай нацыянальнай ідэі сфармаваўся яе падменнік, які атрымаў назву «заходнерусізм». Цалкам закаптаваная ў расейскі палітычны і культурны канон, ідэя «заходнерусізму» хаця і дэкларавала ўвагу да этнаграфічных адметнасцяў краю, але не зважала на беларусаў як на патэнцыйную нацыю.

Трохі пазней у радыкальную апазіцыю «заходнерусізму» (аднак з той жа падставы) паўстала ідэя краёвага нацыяналізму (сарматызму), якая на ўласны капыл спрабавала актуалізаваць канцэпцыю палітычнай нацыі Рэчы Паспалітай, толькі цяпер у краёвым вымярэнні.

Сістэмныя і разгорнутыя пошукі ўжо ўласна беларускай нацыянальнай ідэі, як вядома, пачаліся адно па сканчэнні расійскай рэвалюцыі 1905 г., якая пакінула пасля сябе трохі больш свабоды для «национальных окраин». Ці варта нават нагадваць, што выключную ролю ў беларускім руху адыграла віленская газета «Наша Ніва» і тыя культурна-палітычныя асяродкі, якія

з’явіліся пад яе ўплывам. Тады і быў збольшага сфармаваны той нацыянальны канон, які без асаблівых трансфармацыяў пратрываў да канца XX стагоддзя (а для многіх нацыянальна заангажаваных беларусаў ён у гэтым значэнні застаецца яшчэ і па сёння). Вызначальную ролю ў яго палітычнай адаптацыі адыграў Антон Луцкевіч. Натуральна, склаўся гэты канон далёка не адразу. Варта хаця б згадаць, што той жа Антон Луцкевіч, з ініцыятывы якога і была ў Мінску абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, раней выступаў за стварэнне літоўска-беларускай дзяржавы (Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага) з соймам і сталіцай у Вільні.

Не цяжка заўважыць, што мадэль беларускай нацыянальнай ідэі была скапіявана (некрытычна) з тых варыянтаў, што трохі раней ужо запрэзентавалі палякі, украінцы, чэхі, літоўцы... Гэта так званая этнакультурная (этналінгвістычная) мадэль, найбольш яскравы прыклад якой раней прадэманстравала Нямеччына. Інакш кажучы, беларуская нацыянальная ідэя была кампіляцыяй экспартаваных знадворку нацыянальных досведаў. Што і зразумела. На тую пару тэарэтычная база беларускага нацыяналізму была залішне слабой, каб эўрыстычна сфармаваць уласную візію нацыянальнай ідэі. А тым больш адэкватна заканцэптуалізаваць яе ў перспектыве палітычных ды сацыяльных практык. Таму як бы собская нацыянальная ідэя апынулася абстракцыяй, якая толькі ўмоўна

суадносілася з рэальнымі запатрабаваннямі грамадства.

Звернем увагу хаця б на той факт, што бальшыня беларусаў былі тады вяскоўцамі (пераважна неадукаванымі) і нацыянальная праблематыка для іх увогуле не выглядала запатрабаванай хоць з якога боку. Актуальным для іх было не нацыянальнае, а сацыяльнае (падвышэнне сацыяльнага статусу).

Другая выразная хіба гэтай мадэлі бачыцца ў тым, што яна была разлічаная на грамадства з больш-менш развітай культурай, чаго беларусы на тую пару не маглі мець, паколькі імперыя заблакавала ўсе магчымасці паўставання нацыянальных элітаў і яны яшчэ толькі пачыналі фармавацца. Не складана назваць яшчэ цэлы шэраг праблемных пазіцыяў (хаця б адсутнасць *беларускага* горада), аднак мы да іх звернемся пазней...

Калі абрысы нацыянальнай ідэі збольшага абмалёўваліся, надзённым сталася пытанне, у якім канстытуцыйным фармаце яна магла б быць рэалізаванай? Пра мадэрнізаваную канцэпцыю ВКЛ ужо казалася, але пазней больш перспектыўнай стала бачыцца аўтаномія (у лепшым варыянце – канфедэрацыя) у складзе Расіі ці Польшчы. Ідэя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі да рэвалюцыі 1917 г. у Расіі не выглядала рэальнай. Але, з прычыны шэрагу геапалітычных катастрофаў, якраз яна перамагла, да таго ж цяпер ужо ў зусім нечаканым палітычным кантэксце – праз акупацыю беларускіх земляў Германіяй...

У адрозненне ад гэтай, ужо кананічнай беларускай нацыянальнай ідэі, паўсталая трохі пазней *крыўская ідэя* Вацлава Ластоўскага сацыяльна выглядала менш перспектыўнай, але куды больш эўрыстычна. Апазнаўшы напаўміфічных крывічоў як нашу вялікую протацывілізацыю, Ластоўскі праз мадэрнізацыю традыцыйнага культурнага канона ў нацыянальны мерыўся вярнуць патомкам крывічоў іх былую веліч і славу. Але і палітычна, і сацыяльна крыўская ідэя Ластоўскага выявілася абсалютна не інструментальнай і наўрад ці пры хоць якім раскладзе магла быць рэалізаванай на практыцы. Затое яна апынулася запатрабаванай у культурных асяродках. Што сталася прычынай расколу нацыянальнай інтэлігенцыі на «беларусаў» і «крывічоў» у Заходняй Беларусі, а пазней і ў пасляваеннай эміграцыі. Больш за тое, у сучасным інтэлектуальным жыцці Беларусі «крыўства» застаецца заўважным і па-свойму актуальным дыскурсам.

У навуковых даследаваннях розных версій беларускай нацыянальнай ідэі звычайна апынаецца па-за ўвагай суплёт канцэптаў, высверкнуўшых у бліскучым і насамрэч ужо інтэлектуальным эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) «Адвечным шляхам». Увогуле зразумела, чаму ў гэтым плане навукоўцы абмінаюць увагай Абдзіраловіча. Яго паэтычна-эмацыйны, спантанна-эўрыстычны і спрэс супярэчлівы сам у сабе тэкст, здаецца, не палягае хоць якой дысцыплінарнасці. Але, магчыма, ягоныя інтэлектуальныя

ініцыятывы, фармальна ніяк не стасоўныя да хоць якіх сацыяльна-палітычных практык, з узгляду на футурыстычную перспектыву якраз і выяўлялі адэкватны ментальнасці беларусаў нацыянальны канон.

Ігнат Абдзіраловіч першым сярод беларусаў адмовіўся ад беларускай нацыянальнай ідэі, прапанаваўшы замяніць яе на канцэпт «адвечнага беларускага шляху». У іншай праекцыі замест ідэі як пэўнай логацэнтрычнай формы ён актуалізаваў «ліючуюся форму», што сёння сінанімічна блізка да панятку «дыскурсу». Сацыяльна-эканамічную базу грамадства ён прапанаваў будаваць найперш звяртаючыся да ідэі кааперацыі. Да таго ж Абдзіраловіч своечасова папярэджваў беларусаў аб небяспецы месіянізму (кшталту расейскага ці польскага), праявы якога на тую пару ўжо былі заўважныя як у фундаменталісцкай тэорыі «крывічоў» В. Ластоўскага, так і ў канцэптуальных практыках «камуністычных» беларусаў, якія разам з іншымі савецкімі народамі рэальна рыхтаваліся да сусветнай рэвалюцыі...

Асобнай гаворкі патрабуюць нацыянальныя ідэі (праекты), якія бадай не маюць шанцаў хоць калі палітычна рэалізавацца, але заўважна прэзентуюць сябе ў культурна-інтэлектуальным дыскурсе Беларусі. Тут я найперш маю на ўвазе «крывічоў», «балта-крываў», «краёўцаў» (сарматаў), «ліцвінаў», «русінаў» (умоўная назва пэўнай плыні), «вялікаліцоўцаў», «манархістаў» і да т. п. Толькі мы іх пакінем за абсягам нашай гаворкі.

Бо мяне на гэты момант найбольш інтрыгуе аналітычная крытыка класічнага нацыянальнага канона (пачынаючы ад моманту яго паўставання), які пратрываў у ролі загалоўнага цягам лічы стагоддзя, але, выглядае, так ужо ніколі і не зможа канцэптуальна рэалізавацца ў сваёй мэце.

### *2. Класічны нацыянальны канон*

Адразу заўважу, што мэта ў мяне тут зусім не герменеўтычная, а, як ні дзіўна, экзістэнцыйная. Мяне ўжо даўно, як персанальная вярэда, трывожыць здумленне: ці мела класічная нацыянальная ідэя, якую ў шараговым дыскурсе мы называем Адраджэнскай, хаця б тэарэтычны патэнцыял быць рэалізаванай у сацыяльна-палітычнай рэальнасці XX ст., як і ўвогуле хоць калі-небудзь?

Вядома, сфармуляваўшы гэткім чынам праблему, я адразу патрапляю як мінімум у дзве пасткі. Першая – гэта пастка ўмоўнага ладу. Груба кажучы, калі цягам стагоддзя класічная нацыянальная ідэя ў самых розных гістарычных варунках рэалізавацца не змагла, дык што тут выдумляць, у якіх умовах яна магла гэта зрабіць? Другая пастка звязаная з вышэй згаданымі «гістарычнымі варункамі». Маўляў, сама задума была добрая і жыццядайная, але дзве сусветныя вайны, акупацыя Польшчай Заходняй Беларусі і акупацыя камуністычнай Расіяй Усходняй Беларусі, а затым і ўсёй Беларусі без астачы не дазволілі

збыцца гэтай цалкам прыдатнай стасоўна нашай краіны нацыянальнай ідэі... І што тут запярэчыш? У жыхароў Пампеяў маглі быць самыя адэкватныя іх магчымай будучыні канцэпцыі, але ўсе гэтыя канцэпцыі, да таго ж разам з самімі жыхарамі, у адзін момант засыпаў попелам Везувій.

Карацей кажучы, ніводнай з гэтых пастак па азначэнні абмінуць немагчыма. Але я ўсё ж такі падступлюся да сваёй безнадзейнай справы. Бо гэта не зусім праўда, што гісторыя не мае ўмоўнага ладу. У пэўным сэнсе якраз працягласць гістарычнага часу і ёсць ім, бо некалі дазваляе выявіцца таму, што мела для гэтага патэнцыял, але раней было пазбаўленае адпаведных яму абставінаў.

А за эпіграф да сваёй задачы згадаю сітуацыю з найноўшай палітычнай рэальнасці Беларусі. Неяк, калі Зянон Пазняк і Аляксандр Лукашэнка былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета і яшчэ не надта варагавалі міжсобку, пры чарговым абмеркаванні праграмы нацыянальнай ідэі, зачытанай Пазняком, Лукашэнка заявіў, што гэта выдатная праграма, але для яе рэалізацыі патрэбны зусім іншы народ.

Па сутнасці, тут я і хацеў бы зразумець, для якога народа піянеры беларускага Адраджэння выпрацавалі нацыянальны канон, які мусіў легчы ў аснову будучыні Беларусі? У мяне ёсць дастаткова сур’ёзных падставаў, каб думаць, што гэта быў не беларускі народ, прынамсі такі, якім ён быў тады (зрэшты, якім ён ёсць і цяпер).

Але перад тым, як разгарнуць сваю рэфлексію, пералічу некалькі загалоўных канстантаў гэтага канона:

1) геапалітычная: Беларусь у яе этнаграфічных межах;

2) культурная: дамінацыя беларускай мовы і культуры;

3) гістарычная: пераемнасць з Полацкім княствам і затым з Вялікім Княствам Літоўскім;

4) палітычная: нацыянал-дэмакратыя;

5) канстытуцыйная: незалежная Дзяржава.

Натуральна, суплёт гэтых канстантаў значна багацейшы (хаця б згадаем у дадатак рэлігійную, эканамічную, цывілізацыйную...), але мы пакуль абмяжуемся толькі вышэй азначанымі.

І яшчэ. Перад тым як падступіцца непасрэдна да аналізу, хацелася б нагадаць пра выключную ролю Францішка Багушэвіча ў фармаванні беларускага нацыянальнага канона. Прынамсі чатыры з гэтых пазіцый выразна пазначаныя ў прадмове да кнігі «Дудка Беларуская», што пад псеўданімам Мацей Бурачок была выдадзеная ў Кракаве ў 1891 годзе. А пятая – Беларуская Дзяржава – прысутнічае там латэнтна, як лагічны вынік чатырох папярэдніх. Перапіс 1897 года сведчыць, што больш як 8 тысяч жыхароў нашых земляў з інтэлігенцкімі прафесіямі назвалі сябе беларусамі. Цалкам верагодна, што ладная частка з іх сталася беларусамі якраз таму, што ў сваю пару яны прачыталі кніжыцу Багушэвіча і далі яму веры.

## *Геапалітычная* канстанта: Беларусь у яе этнаграфічных межах

Тут перадусім хачу звярнуць увагу, як метадалагічна складана было вынайсці саму сістэму кадастра тэрыторыі Беларусі. Згадаем, што ніколі ва ўсе папярэднія часы нашыя сённяшнія землі не мелі ўласных межаў. У прывіднай Крыўскай цывілізацыі, у Полацкім княстве, у ВКЛ, у Рэчы Паспалітай, у Расійскай імперыі землі Беларусі апрычона ніяк не канстытуяваліся і таму больш-менш выразны ліцвінска-русінскі топас заўсёды быў аблямаваны спрэс размытымі перыферыямі. Беларускі нацыянальны рух мусібыць моцна ўдзячны расейскім этнографам, якія ў XIX ст. праз шэраг грунтоўных працаў вызналі беларусаў як апрычоную славянскую супольнасць і вызначылі межы яе бытавання. Але ў геапалітычным сэнсе, бадай, найбольшае значэнне мелі этнаграфічныя карты, складзеныя на пачатку XX ст. Яўхімам Карскім, Мітрафанам Доўнар-Запольскім і Яўсеем Канчаром. Таму на гістарычным паседжанні Рады БНР 25 сакавіка 1918 г. Вацлаў Ластоўскі мог упэўнена прагалосіць: «Жыве Беларусь у яе этнаграфічных межах». А 3-я Устаўная грамата Рады БНР геапалітычна канкрэтызуе гэты публіцыстычны тэзіс: «Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй,

Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі».

Тое, што была вынайдзеная сістэмна цэласная і фармальна пераканаўчая метадалогія вызначэння ўласных межаў – гэта, безумоўна, выявілася вялікай удачай. Але яе канцэптуальным недахопам было тое, што яна паходзіла з навуковага (этналінгвістычнага), а не палітычнага дыскурсу. І як пакажуць далейшыя падзеі, на яе этналінгвістычную, самой прыродай абгрунтаваную логіку мала хто з суседзяў, як і ўплывовых еўрапейскіх палітычных сілаў, звяртаў увагу. Цікава, што хаця БНР у сваёй праграме прэтэндавала на частку земляў суседзяў, яе дэ-факта прызналі Латвія, Літва, Польшча, Украіна... Разам з тым можна быць пэўным, што калі б у БНР атрымалася хоць трохі асталец і рэальна заняцца дэмаркацыяй сваіх межаў, дык ад задэкларыванай у нацыянальным каноне тэрыторыі яна б атрымала вобмаль. Бо на тую пару мала было мець навукова слушную аргументацыю і нават палітычную волю. Перадусім трэба было валодаць адпаведнымі рэсурсамі: палітычнымі, фінансавымі, збройнымі і, мо найперш, сімвалічнымі. Да таго ж свядомую і масавую падтрымку насельніцтва. А ўсяго гэтага ў БНР было, умоўна кажучы, хіба на адзін ці два паветы, а не на тую прастору, якую яна заманіфеставала як сваю ўласнасць. За што сведчыць і той факт, што ў сваім цэлым беларусы абыякава паставіліся

як да ўзнікнення БНР, так і да яе хуткага скадання. І хаця ў пазнейшыя часы этналінгвістычны фактар добра прычыніўся да той канфігурацыі, якую займела БССР (і як яе следства – Рэспубліка Беларусь), але ж мы добра ведаем, што загалоўным чыннікам у гэтым працэсе была не этнаграфія, а палітыка, і таму Смаленшчына, Віленшчына, Беласточчына ды Чарнігаўшчына апынуліся за межамі Беларусі.

### *Культурная* канстанта: дамінацыя беларускай мовы і культуры

Знакамітая максіма Францішка Багушэвіча — «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі» — толькі падкрэслівала безальтэрнатыўнасць выбару моўнага і, адпаведна, культурнага канона для нацыянальнай мадэлі. Да таго ж гэтак тады рабілі ўсе суседнія народы, што абуджаліся да нацыянальнага жыцця. Гэтую безальтэрнатыўнасць падмацоўваў і той факт, што паводле перапісу 1897 г. 97,7 % беларусаў жыло ў вёсках і, натуральна, размаўляла на беларускай мове. Але пры ўсёй відавочнай слушнасці падобнага выбару як ідэалагічнага канструкта справа яго рэалізацыі выглядала надзвычай праблематычнай і, калі заўгодна, нават драматычнай. Рэч у тым, што беларускія гарады і мястэчкі не былі беларускімі. Тут наўсцяж дамінавалі габрэі (па выніках таго ж перапісу – 57,7 %), і нават расейцаў у гарадах было болей, чым беларусаў.

Да таго ж гарадскія беларусы ў сваёй абсалютнай бальшыні былі зрусіфікаваныя. А паколькі для паўставання і функцыянавання нацыі горад адыгрывае выключную ролю, паводле задэклараванай мадэлі трэба было найперш збеларусіць горад. Але з якой такой трасцы габрэі, расейцы, палякі ды іншыя падхопяцца самі сябе збеларушваць? Натуральна, тут не абысціся без прымусу моцнай палітычнай сілы. А ў беларускага нацыянальнага руху такой сілы не было.Таму «2-я Устаўная грамата да беларускага народу» абвясціла «роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі». І нават калі такая сіла з'явілася (тут, зразумела, маецца на ўвазе бальшавіцкая беларусізацыя 20-х гадоў), дык і яна засцерагла сябе тым, што ўзаконіла ў статусе дзяржаўных чатыры мовы: беларускую, рускую, габрэйскую і польскую.

Добра вядомы, хаця лішне ў нас і не акцэнтуецца, той шквал пратэстаў і сабатажу, які выклікала актыўная беларусізацыя на ўсіх узроўнях адміністрацыі краіны, як і незаангажаваных беларускай нацыянальнай ідэяй дзеячаў культуры і г. д.

Дарэчы, наўрад ці яе падтрымлівала і бальшыня зрусіфікаваных беларусаў, але, можа, наймацней беларусізацыі супраціўляліся вяскоўцы, якія тады актыўна пачалі засяляць горад, бо яны ехалі туды, каб падвысіць свой сацыяльны і культурны статус, які заўсёды для іх звязваўся з рускай ці польскай мовай, а іх праз беларусізацыю штурхалі назад, у сацыяльнае аўтсайдарства. Прынамсі так яны думалі і, як пакажа час, мелі рацыю.

## *Гістарычная* канстанта: пераемнасць з Полацкім княствам і з Вялікім Княствам Літоўскім

У сваю пару, спрабуючы зразумець, чаму кожная нацыя імкнецца быць старой, як мага больш старой нацыяй, я выснаваў меркаванне, што найперш гэта ім патрэбна дзеля абгрунтавання сваёй легітымнасці. Прысутнасць у вялікім гістарычным часе дае права ды нават як бы патрабуе заставацца ў ім заўсёды. Беларусам гэтае гістарычнае права было патрэбнае мо нават больш, чым іншым усходнееўрапейскім народам. Выбар за сакральнае апірышча Полацкага, а затым Вялікалітоўскага княства выглядаў досыць лагічным ужо хаця б таму, што ён апраўдваў русінска-ліцвінскі звяз, які сфармаваў асноведзь будучых беларусаў. А тое, што месца і роля ўжо ўласна беларусаў у функцыяванні гэтых геапалітычных структураў і па сёння актыўна дыскутуецца як унутры краіны, так і вонкі яе, дык гэта натуральна. Бо што ў гістарычнай навуцы не дыскутуецца? Хаця мяне тут цікавіць іншае: чаму па-за канонам засталіся Рэч Паспалітая і Расійская імперыя? Пакуль у якасці рабочай гіпотэзы магу памеркаваць, што гэта перадусім звязанае з той палітычнай сітуацыяй, у якой фармаваўся гэты канон. Расійская імперыя тады не магла бачыцца ў каштоўнасных значэннях таму, што з яе задушлівых абдымкаў яшчэ трэба было вызваліцца. А Рэч Паспалітая засталася незаўва-

жанай з цалкам супрацьлеглай падставы. Верагодна, нашыя нацыянальныя ідэолагі прадчувалі, што беларусы яшчэ могуць патрапіць у задушлівыя абдымкі суседа з другога боку. Калі гэта так, дык яны не памыліліся. Неўзабаве Польшча з Расіяй разарвуць Беларусь на дзве часткі: Заходнюю і Усходнюю.

Але ўся гэтая сітуацыя якраз і дэманструе апрыёрную ўмоўнасць нацыянальных гістарычных канонаў. І таму я амаль пэўны, што калі палітычная (геапалітычная) небяспека для Беларусі з боку Польшчы ды Расіі знікне даастачы, дык нашая былая лучва і з Рэччу Паспалітай, і з Расійскай імперыяй прытарнуецца да каштоўнаснага канона беларускай гісторыі. І чым хутчэй гэта здарыцца, тым будзе лепей. Бо гэта нават не марнатраўства, а злачынства – не лічыць каштоўнаснымі два такія значныя перыяды ў нашай гісторыі.

### *Палітычная* канстанта: нацыянал-дэмакратыя

Асноўная праблема ідэолагаў нацыянальнага Адраджэння была ў тым, што спрэс вясковая Беларусь тады прагнула не нацыянальных, а сацыяльных каштоўнасцяў.

Нашым вяскоўцам на пачатку XX стагоддзя было, прабачце, да аднаго месца, як іх называюць: беларусамі, тутэйшымі, ліцвінамі, палякамі, рускімі ці кім там яшчэ, бо калі яны пра што і марылі, дык гэта «людзьмі звацца»

(Я. Купала). Таму зусім не выпадкова, што першай і буйнейшай палітычнай партыяй на Беларусі сталася Беларуская сацыялістычная грамада (1903), якая брала сабе ў задачу пабудову сацыялізму. І хаця ў шэрагах яе ініцыятараў было даволі ідэолагаў нацыянальнага Адраджэння, але палітычная актуалізацыя нацыянальнага адбудзецца значна пазней. Болей за тое, яшчэ ў 1914 г. Антон Луцкевіч, бадай самая значная фігура тадышняга нацыянальнага руху, у артыкуле «Краёвае становішча» пісаў: «Найгоршы вораг краёвай ідэі – гэта нацыонолізм. Нацыонолізм – гэта хворае пачуццё сваёй нацыональной асобнасці». І яшчэ там жа: «Нацыонолізм дужа пашыраны ў нас. Ён пануе ў польскім грамадстве, захапіў багата літвінаў і жыдоў, агарнуў бязмала ўсіх тутэйшых расейскіх, асабліва ж перароблены з беларусаў. Не сягоння дык заўтра можна спадзявацца, што гэтая хвароба не абміне і беларусаў». І хаця той жа Луцкевіч у 1918 г. у артыкуле «Аб дзяржаўным будаўніцтве» пісаў ужо зусім іншае, а менавіта: «Каб будоўля незалежнай Беларусі... не разваліласяб, каб пры найгоршых для нас варунках мы асталіся самі сабой, трэба ў аснову нашага дзяржаўнага будаўніцтва палажыць чыстую нацыянальную ідэю», але ў праграме БНР, акрамя пазначэння «Беларуская рэспубліка» і «этнаграфічныя» межы, лічы няма і знаку ўласна нацыяналізму – гэта цалкам сацыял-дэмакратычны праект. І толькі калі гэтую праграму перахопяць бальшавікі, натуральна, ска-

рэктаваўшы яе пад уласны фармат, а ідэолагі нацыянальнага адраджэння апынуцца ў эміграцыі, на месца ідэі *сацыял*-дэмакратыі заступіць *нацыянал*-дэмакратыя. Інакш кажучы, калі на месца рэальнай палітычнай дзейнасці заступіць палітычная рыторыка, якая не патрабуе праверкі практыкай, толькі тады ў нацыянальным каноне стануцца загалоўнымі не сацыяльныя, а нацыянальныя каштоўнасці. Дарэчы, гэта тычыцца і ўсіх астатніх параметраў нацыянальнага канона. Ці не таму канчаткова дафармаваны там, у эміграцыі, ён выявіўся прыдатным толькі дзеля эміграцыйнай рыторыкі, падпольных хаўрусаў ды патрыятычных улётак, але ніяк не для рэальнага палітычнага эфекту, што і прадэманструюць 90-я гады ўжо прамінулага стагоддзя. І хаця на самым пачатку 90-х нацыянал-дэмакратычны рух на чале з БНФ імкліва стаўся найбольш уплывовай палітычнай сілай у краіне, толькі надоўга ў гэтай ролі не затрымаўся, бо не супадаў з каштоўнаснымі арыенцірамі асноўнай часткі беларускага грамадства.

### *Канстытуцыйная* канстанта: незалежная Дзяржава

У 1884 г. у Пецярбургу была надрукаваная першая беларуская газета «Гоман» (на рускай мове). У першым нумары чытаем: «Мы – беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і *федэратыўную* аўтаномію краіны

(курсіў мой – *В.А.*)». І толькі пачатковая праграма БСГ (1903) ужо прадугледжвала ўтварэнне Беларускай незалежнай рэспублікі. Праўда, у наступнай праграме БСГ адмовілася ад гэтай ідэі на карысць дзяржаўнай аўтаноміі краю з соймам у Вільні ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі, што ў карыкатурным выглядзе потым рэалізуюць бальшавікі, стварыўшы на кароткі час Беларуска-Літоўскую Сацыялістычную Рэспубліку.

Але што б там хто ў пару фармавання нацыянальнага канону ні дэкляраваў, гэта ўсё, па сутнасці, было толькі рытарычным прыёмам, дэкларацыямі мрояў, геапалітычнымі фэнтэзі, бо тагачасная палітычная рэальнасць не прадстаўляла ніякіх шансаў для рэалізацыі падобных мараў. І толькі катаклізмы Першай сусветнай вайны ды рэвалюцыі ў Расіі выпадковым збегам абставінаў стварылі нічыйны прамежак у часе і прасторы, што і дазволіла абвясціць БНР. Гэта была ці не самая бліскучая палітычная авантура беларусаў ва ўсім XX стагоддзі! І хаця яна скончылася амаль нічым, але з гэтай падзеі канстанта незалежнай Дзяржавы безальтэрнатыўна ўваходзіць у нацыянальны канон. І як яно ні дзіўна, з усіх яго базавых пазіцый пакуль толькі яна аказалася палітычна цалкам рэалізаванай, хаця, як у выпадку з БНР, не столькі праз уласныя вымогі саміх беларусаў, колькі праз магутны геапалітычны пературс. Ці сведчыць апошняе за тое, што і ўсе астатнія параметры нацыянальнага канона маюць падобны шанец? Магчыма, я і хацеў бы,

каб так яно напраўду некалі сталася. Але гэта вельмі малавераемна. І справа тут найперш у тым, трохі паўтаруся, што той канон пераважна фармаваўся ў рытарычным эміграцкім дыскурсе і лічы без крытычнай увагі стасоўна Беларусі і беларусаў як такіх, якія яны ёсць насамрэч. Калі пасля развалу Савецкага Саюза з'явілася канкрэтная магчымасць рэалізаваць класічны нацыянальны канон у палітычных практыках, дык досыць хутка выявілася, што ён дзеля гэтага зусім не прыдатны. Інакш кажучы, гэтак сфармуляваны нацыянальны канон апынуўся сацыяльна і палітычна не інструментальным.

Разам з тым не забудземся, што нацыянальны канон адным сваім фактам накрэсліў гістарычную перспектыву беларусаў, якая ў значным сэнсе паўплывала на хаду нацыятворчых падзеяў, хаця сам падзеяй так і не стаўся.

Сёння нацыянальны канон – гэта трагічная музыка, якую спарадзілі самыя высокія парыванні беларускага духу. І – прабачце за падлеткавы пафас – як музыка яна будзе гучаць калі не вечна, дык прынамсі да той пары, пакуль Беларусь для беларусаў будзе заставацца жыццядайнай каштоўнасцю.

### *3. P.S.*

Запытанне пра беларускі нацыянальны канон як пра тэарэтычную фікцыю, якая і не магла

спраўдзіцца ў гістарычнай рэальнасці Беларусі, безумоўна, патрабуе больш грунтоўных даследзінаў – як і крытычных ініцыятываў стасоўна гэтага майго запытання. Тым болей, што толькі час можа напэўна засведчыць, наколькі мае здумленні абгрунтаваныя нашай будучыняй. Аднак наастачу я хацеў бы сказаць трохі пра іншае. Шмат хто папікае мяне, што я сваім сумневам выдаляю ўласна нацыянальнае з каштоўнаснага базісу беларусаў. Але гэта ганебная для мяне аблуда. Я толькі хачу сказаць, што калі мой недавер да традыцыйнага нацыянальнага канона як да форматворчай ідэі нацыі слушны, дык яго трэба ўсяго толькі пазбавіць ролі канона. Інакш кажучы, мы пакідаем сабе ўсе каштоўнасныя канатацыі гэтага канона (як і ўвесь наробак, што цягам стагоддзяў збіраўся пад ягонымі штандарамі), але ягоныя вартасці ўкладаем у зусім інакш арганізаваную сацыяльную і культурнапалітычную канфігурацыю.

У слоганавым фармаце гэта гучыць наступным чынам: «Нацыянальным каштоўнасцям – так! Нацыянальнай ідэі – не!».

Асабіста мне падаецца найбольш адэкватнай і адпаведнай для Беларусі (і беларусаў) не «этнакультурная» канцэпцыя, а канцэпцыя «грамадзянскай нацыі». Пра гэта я ўжо шмат разоў пісаў, найбольш у кнізе «Код адсутнасці»*, амаль цалкам завязанай на гэтую праблематыку. Таму

* Кніга перакладзеная на літоўскую, рускую і нямецкую мовы.

тут адно збольшага трохі паўтаруся дзеля тых, хто раней не сустракаўся з маімі развагамі...

Як ужо казалася, нацыянальная ідэя ніколі не мела ўніверсальнага канона. У самых розных частках свету нацыі паўставалі і фармаваліся на самых розных канстантах. Як стасоўна нашых уяўленняў пра нацыю, дык часам і зусім неверагодных. Згадаю хаця б нацыі, у аснову якіх былі пакладзеныя межы адміністратыўных рэгіёнаў каланіяльных імперый. Ці нацыі Паўднёвай Амерыкі, у паўставанні якіх ніякай ролі не адыгрывала карэннае насельніцтва, як і арэалы яго бытавання (не кажучы ўжо пра мясцовую мову, культуру, традыцыі...). Бо ўсе яны цалкам створаныя «крэоламі», гэта значыць нашчадкамі іспанскіх і партугальскіх каланізатараў, і, адпаведна, сваіх, а не карэннага насельніцтва, уяўленняў пра нацыю... Тут не да месца працягваць гэты экскурс у часам зусім неверагодныя гісторыі з працэсаў нацыяўтварэння. Хіба яшчэ адзначу, што і ў Еўропе нацыянальныя гісторыі, бывае, моцна розняцца міжсобку. Гэтую розьнасць бадай найбольш выразна дэманструюць швейцарцы (тры розныя культурныя каноны ў адной нацыянальнай абгортцы) і аўстрыйцы, для якіх роднай мовай з'яўляецца нямецкая (і якія, дарэчы, з гэтага зусім не камплексуюць).

Што праўда, ва Усходняй Еўропе (за выняткам Расіі) мы назіраем пэўную гамагеннасць стасоўна азначанай праблемы. Усе нацыі тут фармаваліся на адзін *этнакультурны* (*этналінгвістыч-*

*ны*) капыл. Такую мадэль часам называюць «нямецкай», каб увідавочыць яе іншасць ад «французскай», у аснову якой пакладзеная ідэя «грамадзянскай нацыі». Гэта значыць, агульны Закон для ўсіх грамадзянаў, незалежна ад расы, веравызнання, этнічнай прыналежнасці, мовы, культурнай арыентацыі і ўсяго таму падобнага. Між іншым, за ёй і гістарычнае лідарства. Бо французская рэвалюцыя 1789 года менавіта такімі параметрамі акрэсліла фармат першай у гісторыі чалавецтва нацыі – натуральна, французскай.

Якраз гэтая мадэль (зразумела, у апрычонай варыяцыі) мне бачыцца найбольш адэкватнай беларускай сітуацыі. Мяркую, так яно выглядала і на пачатку паўставання беларускай нацыянальнай ідэі. Толькі тады гэтага не было як убачыць, бо вочы засціў досвед добра выперадзіўшых нас украінцаў, на які ў першую чаргу і арыентаваўся Францішак Багушэвіч, а потым і шмат хто яшчэ.

Сумневаў у слушнасці такога шляху лічы не было і цягам усяго наступнага стагоддзя, хаця сацыяльна-палітычная рэальнасць Беларусі ніяк не падмацоўвала гэты выбар.

Спрабуючы звярнуць увагу нацыянальна заангажаваных не на «адраджэнскую» мадэль, а на мадэль «грамадзянскай нацыі», я не столькі зыходжу з таго, што ў нас ёсць, колькі з таго, чаго мы не маем. А не маем мы амаль усяго таго, на чым адраджэнскія рамантыкі меркавалі

стварыць Нацыянальную Дзяржаву. Гэта значыць, паноўнай *матчынай* мовы, дамінацыі нацыянальнай культуры, безальтэрнатыўнай гісторыі, ясна ўсвядомленай грамадствам этнічнай ідэнтыфікацыі і да т. п. Але, не даючы веры гэтаму суплёту *адсутнасцяў,* нашыя «адраджэнцы» па-ранейшаму спадзяюцца на мову і этнакультурную спадчыну ўвогуле. Маўляў, толькі на яе падвалінах і магчымая беларуская нацыя. А я з кожным годам усё мацней запэўніваюся, што не падваліны гэта зусім, а магільная яма для нацыянальнага праекта. Таму ўжо досыць даўно прапаную ўсё рабіць цалкам наадварот. А менавіта: у фармаванні беларускай нацыі аддаць безумоўную перавагу Дзяржаве і яе шматлікім інстытутам. Бо выглядае, што так, як складвалася гісторыя беларускасці, толькі ўласная Дзяржава ўнутры самой сябе неўпрыкмет, спакваля можа выспеліць *нацыю як вялікую салідарнасць* (Эрнест Рэнан). Ужо хаця б таму, што Дзяржава нас аб'ядноўвае *натуральна* і незалежна ад нашых памкненняў, нават калі гэта аб'яднанне праз штучны канцылярскі прымус. Кожным ранкам мы ўсёй краінай ідзем працаваць на беларускія заводы, прадпрыемствы і фермы, а ўвечары глядзім беларускае тэлебачанне, дзе нам паказваюць уласнага Прэзідэнта. Хоцькі-няхоцькі мы штодня карыстаемся беларускімі грашыма, падпарадкоўваемся беларускім законам, а каб выехаць за межы краіны, мусім атрымаць згоду на беларускай мытні. Да таго ж мы служым

у беларускім войску, за ўдзел у апазіцыйных мітынгах нас садзяць у беларускія турмы, а Новы год усе разам сустракаем паводле беларускага часу. Ды што там казаць, у нас нават ёсць свой Дыктатар!

Здаецца, той жа Рэнан недзе сказаў: нацыя – гэта штодзённы плебісцыт. Іншымі словамі, кожным сваім днём, пражытым у Беларускай Дзяржаве, кожнай сваёй справай і ўчынкам мы неўпрыкмет для саміх сябе галасуем за беларускую нацыю і тым самым мацуем яе. Пэўна, тых дзён пакуль было яшчэ замала, каб большыня месцічаў нашага краю без ваганняў цвердзіла, што мы як нацыя збыліся. Нічога, пачакаем. Беларусы трывушчыя...

А што да культурна-гістарычных каштоўнасцяў (і мовы найперш), дык яны пакуль не столькі лучаць, колькі напружваюць беларускую нацыю ў шматлікіх антаганізмах. Толькі было б паскуднай глупотай думаць, што дзеля нацыянальнай лучвы ад іх лепей было б увогуле пазбавіцца... Пазбавіцца нам трэба ад уласных антаганізмаў. Бо калі мы не кінем касавурыцца адно на аднаго, зважаючы на каштоўнасці іншага як на непатрэбшчыну, дык ніколі не будзем мець «вялікай салідарнасці». А без яе і ў «грамадзянскай нацыі» нам будзе не хапаць уласна нацыі.

## Вайна культураў

Мілажальнасць культуры – казка для дарослых. Культуры больш агрэсіўныя, чым іх носьбіты – народы (гэта аднолькава пасуе і стасоўна беларускай культуры). Калі ў войнах паміж народамі хоць зрэдчас здараюцца перапынкі, дык у войнах культураў перапынкаў не бывае. І таму ў войнах культураў – культураў загінула болей, чым загінула народаў у збройных войнах.

Не заўсёды і зусім не абавязкова чужая культура прыносіцца на штыках і штыкамі ўсталёўваецца. Прыкладам, расейская культура з уласнае волі да панавання знішчыла іншых культураў нашмат больш, чым усе войскі Расійскай імперыі знішчылі іншых народаў. У Расіі сталася ідэаматычным выказванне: на прасторах нашай краіны жыве больш за сто народаў і народнасцяў. Не будзем звяртаць увагі на тое, што дакладную колькасць народаў і народнасцяў ніхто і ніколі ў Расеі нават не збіраўся лічыць. Звернем увагу адно на тое, што для гэтых «больш за сто народаў і народнасцяў» дамінуючай, а пераважна і адзінай культурай сёння з'яўляецца расейская.

Дык вось, калі запытацца, чаму сёння бальшыня беларусаў не ідэнтыфікуе сябе з беларускай культурай, то адказ будзе наступным: таму што ўжо колькі стагоддзяў ні на хвіліну не спыняецца вайна расейскай культуры з беларускай, у выніку якой апошняя апынулася амаль усцяж пераможнаю. І, бадай, самым трагічным у гэтай паразе была параза беларускай мовы.

Мова – той азонавы слой, які дазваляе больш-менш устойліва функцыянаваць, развівацца і нарошчваць свой патэнцыял усім астатнім чыннікам культуры нават у неспрыяльных для яе палітычных ці сацыяльных варунках. Вядома, у гэтым азонавым слаі кожнай культуры сёння шмат дзірак, але ў нас ён знішчаны амаль дарэшты, ад яго засталіся адно лахманы, якія, лічы, не засланяюць цела нацыянальнае культуры як ад сцюдзёных вятроў культуры расейскай, так і ад касмічнага холаду метакультуры камунікатыўна адкрытага грамадства.

Уласна, толькі цяпер, згадаўшы пра *касмічны холад метакультуры*, мы падыходзім да той праблемы, дзеля якой і ствараўся гэты тэкст. Сфармулюем яе наступным чынам: камунікатыўна адкрытае грамадства ёсць рэальнай пагрозай нацыянальным культурам (перадусім незавершаным у сваім фармаванні). Падкрэслім: не асобныя інстытуты функцыянавання грамадства камунікацыяў, а яно само, цалкам, як найпершая адмета сучаснай цывілізацыі.

Відавочна, што сёння сімвалам камунікатыўна адкрытага грамадства выступае Інтэрнэт. Праз яго прастора канчаткова перастала раз'ядноўваць суб'екта з аб'ектам падзеі, больш за тое, яна самаператварылася ў суцэльны сродак камунікацыі, настолькі татальны, што нават дыктатарскія рэжымы ўжо не могуць засцерагчыся ад гэтай татальнасці шчыльна закратаванымі межамі. Інакш кажучы, жадае таго грамадства ці не, але яно робіцца празрыстым для камунікатыўнага нашэсця з усіх чатырох бакоў свету.

Раней, у эпоху перманентнай вайны культураў, схема задзіночання чалавека з той ці іншай культурай была гранічна простай. Культура-пераможца далучала носьбітаў пераможанай да свайго дыскурсу і праз нейкі час гэтыя носьбіты пачыналі ідэнтыфікаваць сябе менавіта з ёй. Аднак канцэптуальна апошняе нічога не мяняла, проста адна культура станавілася на месца другой – і толькі.

Рашуча адрозная сітуацыя пачынае складвацца цяпер, калі спрадвечная вайна культураў неўзабаве заканцуецца татальнай паразай самой вайны. Толькі з гэтай нагоды я не спяшаўся б пляскаць у ладкі, бо вайна культураў была тым механізмам, які забяспечваў функцыянаванне асобных культураў. А без гэтага механізму рана ці позна ўсе культуры будуць пераможаныя нечым, што мы раней умоўна назвалі метакультураю – тым, што будзе мець усе прыкметы культуры, але не будзе ідэнтыфікавацца ні з якой

культурай апрычона, ні (у традыцыйным разуменні) з культурай увогуле.

Асноўная характарыстыка традыцыйнага культурнага знаку палягае на ягонай угрунтаванасці ў кантэкст нацыянальнай гісторыі. У адрозненне ад традыцыйных знакаў культуры, знакі метакультуры пазбаўленыя трывалай фіксацыі і апрычонага кантэксту (хаця кожны з іх мае свой *адрас*), бо ў сітуацыі глабальнага свету ўсе культурныя прасторы, праз разгалінаваныя і эфектыўныя камунікатыўныя сродкі, няспынна змешваюцца ў «дурную бясконцасць».

Хуткасць культурных экспансіяў, калейдаскапічная множнасць і разнавектарнасць іх тэндэнцыяў без хоць якога змыслу анігілююць агрэсіўную сутнасць культуры. Да таго ж электронныя сродкі інфармацыі, якія дамінуюць у транспартацыі знакаў культуры, падчас працэсу транспартацыі кастрыруюць культурны знак (такая іх тэхналагічная прырода), гэта значыць вымыкаюць з яго ідэнтыфікат (такая іх медыйная задача), бо, толькі пазбавіўшы ідэнтыфікату, можна прыстасаваць культурны знак да патрэбаў глабальнага масавага спажыўца. Таму мне падаюцца няўзважанымі турботы тых, хто непакоіцца, што ўладальнікі асноўных камунікатыўных сродкаў (і ў прыватнасці – Інтэрнэту), будуць праз сваю ўладу экспансаваць знакі нейкага аднаго культурнага коду і такім чынам сфармулююць культурную імперыю, якая праглыне ўсе іншыя культуры. Зрэшты, калі б па-

добнае і здарылася, дык з гледзішча нашых традыцыйных каштоўнасцяў гэта было б яшчэ не найвялікшай бядою, бо тады мы мелі б хоць адну вартую нашых былых уяўленняў культуру. Сапраўдная бяда (прынамсі для тых, хто лічыць культуру за каштоўнасць) у тым, што праз нейкі час мы не будзем мець *ніякай* культуры, прынамсі ў яе традыцыйным разуменні.

Але на гэтую пагрозу амаль ніхто не звяртае ўвагу, мы па-ранейшаму заангажаваныя ў праблемы традыцыйнай вайны культураў. Між тым як не гэтыя войны, а сама сітуацыя камунікатыўна адкрытага грамадства неўпрыкмет робіцца ці не найбольш драматычнай праблемай, якая ставіць пад пытанне патэнцыйную магчымасць культуры ўвогуле.

# Пасткаланіяльныя штудыі

*Замест эпіграфа*

Цяжка сказаць чаму, але мне моцна заманіла падвысіць гэты тэкст эпіграфам. І я нават наперад ведаў, з чаго хачу яго выштукаваць. А менавіта з эсэ «Якуб і гаспадар» Мілана Кундэры. Толькі фрагмент, які мяне вабіў, ніяк не ўціскаўся да «жанравага» памеру эпіграфа. Я доўга вагаўся, аднак у рэшце рэшт махнуў рукой на ўсе літаратуразнаўчыя прыбамбасы і перадрукаваў на месца эпіграфа столькі тэксту, колькі мне карцела.

> Ішоў трэці дзень акупацыі. Я ехаў з Прагі... Рускія салдаты былі ўсюды: на дарогах, у палях і лясах. Потым мяне спынілі, і трое салдат пачалі абшукваць маю машыну. Пасля гэтай працэдуры афіцэр, які аддаў загад зрабіць вобшук, спытаў мяне: «Як вам пачуваецца?»... У гэтым пытанні не было ні злосці, ні іроніі. Наадварот, афіцэр працягваў: «Усё гэта вялікае непаразуменне. Але ўсё будзе добра. Вы павінны ведаць, што мы любім чэхаў. Мы вас любім».

> Пейзаж, зруйнаваны тысячамі танкаў, будучыня краіны, спаскуджаная на стагоддзі, дзяржаўныя дзеячы Чэхаславакіі, арыштаваныя і вывезеныя ў СССР, а афіцэр акупацыйнай арміі робіць вам прызнанне ў любові. Зразумейце мяне правільна: ён не выказваўся супраць акупацыі, ні ў якім разе. Усе яны казалі амаль гэтак жа, як і ён. Іх пазіцыя была заснаваная не на садысцкай асалодзе гвалтаўніка, а на іншым архетыпе – архетыпе параненай любові. Чаму гэта чэхі (якіх мы так любім!) не жадаюць жыць разам з намі па адной сістэме? Як шкада, што мы змушаныя скарыстаць танкі, каб навучыць іх любові.
>
> Мілан Кундэра

Міф пра высокі гуманізм рускай літаратуры быў сфармаваны яшчэ ў XIX ст., у пару магутных каланіяльных імперый. І тады гэты міф не выклікаў асаблівых пярэчанняў. Але пазней, калі стаў рабіцца ўсё больш заўважным цёмны бок вялікіх геапалітычных спарудаў, ён пачаў губляць сваю пераканаўчасць. Разам з тым у культурніцкай сітуацыі Беларусі гэты міф не губляе сваёй цноты і сёння (раўнуючы жонка Цэзара). Таму бачыцца не лішнім зірнуць на яго (хай пакуль мімаходзь) праз посткаланіяльную оптыку – а што там спадысподу? Тым болей, што цягам апошніх стагоддзяў руская літаратура ўплывала на фармаванне светагляду беларусаў больш маштабна, чым якая яшчэ.

Асабіста я надзвычай востра адчуў гэтую патрэбу, калі завершыў рэдагаванне кнігі амерыканскай даследніцы Эвы Томпсан «Песняры імперыі»*. Гэта акадэмічная манаграфія, якая сістэмна і грунтоўна даводзіць, што лічы ўся вялікая руская літаратура была каланіяльнай па сваёй сутнасці. Інакш кажучы, гэта тая ж імперская экспансія Расіі ва ўсе бакі свету, толькі сродкамі літаратуры.

На Захадзе ўжо даўно сфармавалася магутная інтэлектуальная плынь, якая займаецца дэканструкцыяй мастацкіх тэкстаў, створаных знакамітымі аўтарамі вялікіх каланіяльных імперыяў, перадусім англійскай, французскай, амерыканскай... Рэй у гэтай справе вядуць інтэлектуалы з былых калоній, якія, кажучы словамі Хома Бхабхі, «расшыфроўваюць коды прыгнёту», схаваныя ў мастацкіх творах пісьменнікаў з метраполіі. А вось у інтэлектуалаў бальшыні паняволеных Расіяй народаў рукі да посткаланіяльных штудый усё яшчэ ніяк не даходзяць. Прынамсі ў Беларусі мне згадваюцца толькі рэзанансны артыкул Зянона Пазняка на пачатку 90-х, дзе ён абвінаваціў расейскіх класікаў у імперскасці, і «Русская книга» Сяргея Дубаўца прыкладна таго ж часу. Натуральна, тут я не магу прамінуць і прозвішча Ігара Бабкова, які больш за каго зрабіў дзеля распаўсюду посткаланіяльнай тэорыі ў самых розных інтэлектуальных ася-

* Пераклад на беларускую мову Таццяны Нядбай.

родках Беларусі. Але ён працаваў (і працуе) менавіта з тэарэтычным дыскурсам, а мне тут істотныя крытычныя аналітыкі, непасрэдна скіраваныя на літаратурную практыку «песняроў імперыі»...

На пачатак рэфлексіі перадусім заўважым, што калі глабальная палітыка расейскай імперыі была надзвычай дыферэнцыяванай у залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі на пабраных землях, дык руская літаратура, якая рытарычна падтрымлівала імперскую экспансію, заўсёды выяўляла сябе аднолькава, незалежна як ад палітычнага кантэксту, так і сацыяльнага статусу самога аўтара. У гэтым сэнсе няма розніцы паміж вершам камер-юнкера Аляксандра Пушкіна* «Клеветникам России», які раз'ятрана ганьбіць усіх, хто спачувае польска-беларускаму паўстанню супраць імперыі, раманам дысідэнта Міхаіла Лермантава «Герой нашего времени», у якім вечна апальны паэт Расіі з агідай малюе паняволеных чаркесаў, і паэмай прафесійнага рамантыка Мікалая Гумілёва «Туркестанские генералы», з пафаснай ухвалой расейскай мілітарнасці, што скарыла нікчэмных азіятаў і ўзвысіла «русский флаг над белой Хивой»...

Дарэчы, што да нашых земляў, дык іх як бы і не заваёўвалі, а толькі «воссоединяли» з Расіяй. Аднак гэта не зашкодзіла *народнаму* паэту

* Эва Томпсан: «З усіх вялікіх расейскіх пісьменнікаў Пушкін, верагодна, быў найбольшым шавіністам».

Мікалаю Някрасаву напісаць хвалебную оду ў гонар Мураўёва-вешальніка, які паспяхова «усмирил» гэтыя «исконно русские земли».

Між іншым, гэта яшчэ пытанне, хто ў стварэнні магутнай каланіяльнай імперыі быў наперадзе: палітыка ці літаратура? Прынамсі ў кожным разе рускія пісьменнікі сваёй адметнай творчасцю наўпрост прычыніліся да таго, што ідэя імперыі сталася загалоўнай у свядомасці рускага чалавека. Вобраз Вялікай Расіі, перад якой мусяць скарыцца ўсе народы, ужо напоўніцу эфектна і эфектыўна быў прэзентаваны ў вершаваннях Аляксандра Пушкіна (хаця «першародства» тут, безумоўна, за Дзяржавіным, аднак на тую пару паэзія яшчэ была залішне лакальнай з'явай, каб заўважна ўплываць на грамадскую думку). Але, бадай, найбольшую ролю ў сакралізацыі імперыі адыграў раман Льва Талстога «Вайна і мір». Да таго ж ён значна ўзбагаціў паліфанію вобраза Расіі, бо пасля «Вайны і міра» яна пачала ўспрымацца замежнікамі як дзяржава, якая не толькі можа ў безлічы скараць іншыя народы, але і вызваляць іх з мілітарнага палону. За гэтым вызвольным пафасам мала хто тады адцеміў, што і падчас вайны з Напалеонам Расія працягвала захопніцкія войны на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. Як і пазней не спынялася вынішчаць усе парыванні да свабоды падпарадкаваных народаў. Падчас польска-беларускага паўстання 1863 года Леў Талстой піша Фету: «Што Вы думаеце пра польскую сітуацыю?.. Выглядае, што

справы кепскія, ці не давядзецца нам з Вамі і Барысавым зноў здымаць меч з іржавага цвіка?» А ў іншым лісце гэты *вялікі гуманіст* заўважыць: «Мне абсалютна ўсё роўна, што палякаў душаць». Тут, здаецца, няма чаго і дадаць, акрамя хіба таго, што разам з палякамі, ды з не меншай жорсткасцю, расійцы тады душылі і беларусаў...

Тут я нарэшце мушу звярнуць увагу на шматгалосы хор нязгоды, які, амаль напэўна, ад пачатку пераследуе гэтыя мае скептычныя рэплікі стасоўна вялікага гуманізму і непараўнальнай духоўнасці рускай літаратуры. Я літаральна чую, як мне ў безлічы нагадваюць прыклады спагады да «униженных и оскорбленных», пералічваюць эпізоды крытыкі самадурства расейскай улады самымі рознымі літаратарамі, цытуюць развагі, скіраваныя на спасціжэнне таямніц быцця і высокай духоўнасці. І тут усё праўда. Усяго гэтага ў рускай літаратуры сапраўды хапае, калі глядзець на яе вачыма рускага (ці зрусіфікаванага) чалавека. А калі гэты чалавек, скажам, чухонец, паляк ці туркмен?...

Посткаланіяльная тэорыя якраз і прапануе зірнуць на каланіяльныя літаратуры вачыма скаланізаванага. І калі мы так паглядзім на «белых і пушыстых» рускіх, то ўбачым трохі іншую палітру колераў. Да прыкладу згадаем геніяльнага (без перабольшвання) Фёдара Дастаеўскага. Яго раманы сапраўды поўняцца любоўю да чалавека, але... толькі да *рускага* чалавека. Палякі

ў яго заўсёды зняважліва называюцца «палячышкамі», заваёва Туркестана прымаецца ім з захапленнем, а Смердзякоў невядома ад каго родам…

Абсалютная глухата ды абыякавасць рускай літаратуры да праблемаў і пакутаў этнічна іншых, як тады казалі – іншародцаў, проста-такі ашаламляе. У імперыі, якая не стамлялася з гонарам паўтараць, што задзіночыла пад сваёй уладай больш як сто народаў і народнасцяў, для рускай літаратуры быў толькі адзін народ – рускі. А калі сярод яе герояў зрэдчас і сустракаліся іншародцы, дык яны былі альбо нагружаныя адмоўнымі характарыстыкамі, як падобны да змяюкі габрэй Багроў у рамане «Август четырнадцатого» Салжаніцына, альбо выступалі аб'ектам экзатычнай прыгоды рускага чалавека, як дзікая паляшучка Алеся ў аднайменнай аповесці Купрына.

Адзін з класікаў посткаланіяльнай тэорыі Гаятра Співак неяк рытарычна запытала: ці можа падпарадкаваны прамаўляць? Дык вось, Расійская імперыя замкнула ў татальную моўчу ўсе падпарадкаваныя народы, пакінуўшы прамаўляць толькі адзін голас – голас вялікадзяржаўнага рускага чалавека. З гэтага да самага апошняга часу ніхто не ведаў, кім і як уяўлялі самі сябе ў мностве скаланізаваныя народы. Нам было вядома адно тое, што лічыла патрэбным сказаць пра падпарадкаваных руская пісьменнасць, калі яна ўвогуле лічыла патрэбным хоць нешта пра іх распавесці.

Карацей кажучы, руская літаратура перадусім эгаістычная, а ўжо потым гуманістычная. Зрэшты, такімі былі ўсе літаратуры вялікіх каланіяльных імперый. Хаця нават на іх фоне руская літаратура выглядае гіпертрафавана эгацэнтрычнай.

У міфа пра рускую літаратару як самую гуманную ў свеце яшчэ ёсць перспектыва, але ўжо кароткая. З аднаго боку, у Расіі яго ніхто не адважыцца дэсакралізаваць да той пары, пакуль там будзе дамінаваць вялікадзяржаўная ментальнасць. Бо, па сутнасці, гэты міф – сакральнае алібі рускага чалавека. Пакуль ён існуе, на кожны закід аб прынцыповай антыгуманнасці імперскай палітыкі Расіі хоць які расіец заўсёды зможа сказаць: затое ў нас самая гуманная ў свеце літаратура.

З другога боку, раней паняволеныя імперыяй народы ўжо пачалі (з рознай мерай інтэнсіўнасці) дэканструяваць гэты міф у дыскурсе посткаланіяльных штудый. З гэтага ён, як шагрэневая скура, з кожным годам усё больш скукожваецца... Некалі і зусім скукожыцца ў нішто.

Дык няўжо нічога не застанецца?

Ды не, зусім не...

На ягоным месцы застанецца *проста* вялікая імперская літаратура адной з найвялікшых каланіяльных імперый свету.

# Нідзе і ніхто

Кожны з нас належыць да грамадзянаў нейкай краіны, мае ў гэтай краіне ўласны падворак з домам або кватэру ў гарадскім гмаху, але насамрэч чалавек камунікатыўна адкрытай цывілізацыі жыве Нідзе. Блытаніна ў арыентацыі паходзіць з таго, што мы ўсё яшчэ карыстаемся моўнымі фігурамі, якія склаліся ў класічныя эпохі, калі быццё чалавека пераважна фармавалася месцам ягонага існавання і таму ў значнай меры было тоесным пэўнаму ландшафту, адпаведным формам працы, апрычоным культурным ды культавым рытуалам. І нават кніжная (і шырэй – метафізічная) культура, якая ў асноўным сваім масіве складвалася з інтэлектуальных ініцыятываў, што паходзілі з розных прастораў ды эпохаў, не вымыкала тады чалавека з ягонага «тут» у нейкае «нікуды», а толькі ўдакладняла каардынаты быцця як універсальнага цэлага і ў дадатак маркіравала трансцэндэнтную перспектыву.

Але так было раней, у класічныя эпохі. Цяпер ужо быццйна ніхто не жыве на роднай зямлі ў сваёй краіне. Што сёння азначаюць словы «род-

нае», «чужое», «далёкае», «блізкае» і да іх падобныя, калі ангельскую прынцэсу Дыяну (пакуль яна была жывая) я бачыў часцей, чым сваю адзінакроўную сястру, калі пра інтымныя стасункі Клінтана з Левінскі я ведаў куды болей, чым пра гэткія ж стасункі свайго лепшага сябра, калі замежныя фундацыі, якія пра мяне нават ніколі не чулі, адшкадавалі мне грошай болей, чым мой нішчымны бацька? Зрэшты, рэч не ў асобных правакацыйных прыкладах, якія можна доўжыць бясконца. Рэч у тым, што, не пакідаючы родных сялібаў, кожны з нас незаўважна апынуўся раскіданым па ўсім свеце.

У бязгучнага выбуху, які гэтак далёка параскідаў чалавека па розных прасторах зямной кулі, што яму, бадай, ужо ніколі не сабрацца ў адно цэлае дома, дзе ён толькі працуе ды начуе, – шмат назоваў. Мы скарыстаемся адным з іх, вынесеным на вокладку кнігі французскіх даследнікаў Філіпа Брэтона і Сержа Пру, а менавіта – «выбух камунікацыяў»...

Як я ўжо раней акцэнтаваў, прастора – гэта адлегласць, якая аддзяляе чалавека ад чалавека, народ ад народа. У першую чаргу дзякуючы гэтай прасторавай адлегласці і магчымыя былі розныя тыпы культураў як апрычоныя формы засваення таго ці іншага фрагмента прасторы.

Але прастора – гэта не толькі тое, што адсланяе чалавека ад чалавека, народ ад народа, але і тое, што праз сродкі камунікацыі лучыць іх між сабой, набліжае адно да аднаго. Чым больш

развітыя сродкі камунікацыі, тым менш становіцца прасторы – і тады чалавек пачынае насоўвацца на чалавека, народ на народ, культура на культуру... Усё гэтае вялікае мноства грувасціцца адно на адно, плішчыцца, сціскаецца...

У другой палове XX стагоддзя сродкаў камунікацыі назапасілася ў такой колькасці, што яны стварылі крытычную масу, якая спарадзіла неверагоднай магутнасці выбух. Гэтым выбухам камунікацый прастора як падставовы феномен быццям была амаль цалкам знішчоная, з чаго адразу згубілі сэнс такія паняткі, як «цэнтр», «перыферыя», «адлегласць» і да таго падобнае. Цэнтр свету сёння ўсюды, дзе стаіць тэлевізар са спадарожнікавай антэнай і камп'ютар, падключаны да Інтэрнэту.

Знікненне прасторы ўласна і спарадзіла праблему, якая атрымала назву *татальны крызіс культуры*.

Як ужо казалася, культура – гэта падзеі часу, трывала зафіксаваныя ў прасторы. А ў сітуацыі адсутнасці прасторы знакі і атрыбуты ўсіх культураў страчваюць укаранёную прыналежнасць да пэўнага месца і скочваюцца ў яміну аднаго кантынуума, дзе ў калейдаскапічным рушэнні няспынна засланяюць сябе іншымі. Да таго ж (і гэта, бадай, галоўнае) у сітуацыі адсутнасці прасторы знакі і атрыбуты ўсіх іншых культураў апынаюцца для чалавека гэтаксама блізка, як знакі і атрыбуты ўласнай. На экране тэлевізара Вавельскі замак, Кітайская сцяна і праспект Францішка

Скарыны ў Менску знаходзяцца на адной дыстанцыі ад гледача, нават калі ён глядзіць тэлевізар у доме, які стаіць на праспекце Францішка Скарыны. З чаго атрымліваецца, што знікае, ці становіцца амаль незаўважнай, розніца паміж роднай і іншымі культурамі. І калі на працягу ўсяго жыцця на адной далечыні ад чалавека будуць прысутнічаць знакі і атрыбуты розных культураў, да таго ж яшчэ ў няспынным калейдаскапічным рушэнні, дзе знакі роднай культуры застануцца толькі асобнымі фрагментамі стракатага мноства, дык з якой культурай зможа тады з'ідэнтыфікаваць сябе чалавек? Натуральна – ні з якой. Зрэшты, у адсутнасці прасторы ўсе размовы пра культурную ідэнтыфікацыю становяцца ўвогуле гранічна праблематычнымі.

Марцін Гайдэгер, вялікі знаўца праблемаў быцця, прасторы і часу, некалі пісаў: «Цяпер пад пагрозай знаходзіцца сама ўкаранёнасць (у глебу – *В.А.*) сучаснага чалавека». Але бяда прыйшла не адтуль, скуль яе чакаў Гайдэгер, і была яна больш татальнай, чым прагноз. Не ўкаранёнасць аслабла – аслабла і неўпрыкмет знікла тое, ува што можна ўкарэньвацца: раптам невядома куды падзелася сама прастора...

І што мы з гэтага маем? Як з майго гледзішча, дык у сітуацыі адсутнасці прасторы месца знакам і падзеям культуры засталося адно ў часе. Але культура, якая існуе адно ў часе, ёсць ужо не што іншае, як спрэс інфармацыя, бо толькі інфармацыя не патрабуе трывалай фіксацыі

і нечым апрычонага кантэксту. Усё, што існуе выключна ў часе, можа існаваць адно ў форме інфармацыйнага паведамлення, нават калі гэтае паведамленне разгорнутае да памераў філасофскай сістэмы. З чаго вынікае, што цяпер, у пару татальнага разгортвання прасторы, інфармацыя заняла тое месца, якое раней займала культура. Таму ўжо не зусім зразумела: раман, музычны твор, карціна цяпер ствараюцца непасрэдна дзеля чытача (слухача, гледача) ці для таго, каб запаўняць інфармацыйны дыскурс. І ці не ёсць нешматлікі рэальны чытач (глядач, слухач), што бярэ ў рукі раман, прыходзіць на канцэрт альбо мастацкую выставу, па сутнасці той самай «масоўкай», якую збіраюць на сваю забаву вядучыя папулярных тэлешоу, каб было каму задаваць пытанні, пляскаць у ладкі і тым самым надаваць значнасць інфармацыйнай падзеі?

Напісаць раман у тысячу старонак адно дзеля таго, каб аб ім у некалькі радкоў распавялі праз газету, – вось ён, лёс літаратуры ў грамадстве татальнай інфармацыі.

Але з гэтай рэальнасцю ніяк не жадае пагадзіцца той, хто выхаваны ў досведзе, што культура як такая ёсць нязбыўнай каштоўнасцю. Таму наша нязгода з рэальным станам рэчаў цалкам зразумелая. У грамадстве татальнай інфармацыі суб'ект перастае ідэнтыфікаваць сябе хоць з якім культурным кодам і з гэтага быційна апынаецца не толькі ў сітуацыі Нідзе, але і ў сітуацыі Ніхто, гэта значыць у сітуацыі анталагічнага

вакууму, які наўрад ці можна кампенсаваць адным фактам экзістэнцыйнай прысутнасці.

Зрэшты, зусім верагодна, што мы належым да аднаго з апошніх пакаленняў, якому яшчэ патрэбна нагружаць сваё экзістэнцыйнае «Я» анталагічнай падставай, што толькі і магчыма праз імператыў культуры. І хаця большасць з нас калі не разумее, дык ужо прадчувае, што культура як падставовае цэлае ўсіх ранейшых цывілізацыяў на вачах маргіналізуецца, распадаецца на фрагменты, лакальныя падзеі ды прыватныя ініцыятывы, але, нават усведамляючы ўсё гэта, мы не жадаем і не можам адбываць быццё інакш, чым адбывалі да гэтага ўсведамлення. Што і натуральна. Чалавеку толькі здаецца, што ён шукае ісціну, насамрэч ён прагне адно ўтульнасці. А якая там утульнасць, у голай экзістэнцыі, высунутай на скразнякі часу?

Бадай, вось гэтай прагай утульнасці найперш і абумоўлены наш супраціў сітуацыі татальнага Нідзе і Ніхто, якую стварыў выбух камунікацый. Прадчуваючы, што культура як цэлае ўжо не можа быць нашым гарантам у захаванні за намі месца ў дыскурсе быцця, мы, кожны на свой капыл, спрабуем уладкавацца на яе ацалелых фрагментах. Адзін са спосабаў такога ўладкавання яшчэ напярэдадні інфармацыйнага нашэсця сфармуляваў Герман Гесэ, калі ў рамане «Гульня шкляных перлаў» высунуў ідэю Касталіі, замкнутай на самой сабе Правінцыі, дзе духоўныя эліты хаваюцца ад «эпохі фельетонаў». Але

няцяжка зразумець, што ўсе нашыя спробы выгарадзіць сабе ў інфарматыўным дыскурсе лапікі культурнай традыцыі становяцца эфектыўнымі адно праз мэтанакіраваныя высілкі. Гэта значыць, што кожная наша лучнасць з традыцыйнымі культурнымі каштоўнасцямі ёсць штучнай у тым сэнсе, што яна арганізаваная праз супраціў паноўнай, спрэс інфармацыйнай рэальнасці.

Адным з найбольш цікавых выпадкаў штучнага (зноў жа ў сэнсе не-натуральнага ходу цывілізаваных падзеяў) супраціву мне падаецца тое, што раней мы называлі нацыянальным Адраджэннем.

Згодна з традыцыйнай схемай палітычнай гісторыі, жаданне беларусаў адрадзіць нацыянальную культуру ва ўсіх яе значэннях, каб на гэтым подзе стварыць нацыянальную дзяржаву, было і лагічным, і натуральным, і ясным у стратэгіі рэалізацыі... Вызваліўшыся ад расейскага дамінавання, трэба ачысціць сваю свядомасць ад рэштказ каланіяльнай спадчыны і на калектыўным «табула раза» грамадства вытлумачыць беларускімі словамі сэнс беларускай ідэі.

Якім жа было нашае здзіўленне, калі амаль нічога з пазначанага ў мэтах не атрымалася здзейсніць. Да гэтай пары беларускія палітыкі, палітолагі, культуролагі шукаюць прычыны паразы беларускай ідэі ў кволай нацыянальнай свядомасці народа, у «гібрыднай» інтэрвенцыі Расіі, у стратэгічных праліках нацыянальных палітыкаў і да таго падобным...

Усё гэта сапраўды мае месца, і ўсе нашыя тэарэтыкі насамрэч маюць рацыю, хаця, як мне здаецца, сутнасная прычына паразы нацыянальнага руху палягае ў іншым, а менавіта ў тым, аб чым тут казалася вышэй. Момант рэалізацыі праекта нацыянальнага Адраджэння прыпаў на пару выбуху камунікацый, пасля якога вядзе рэй ужо не падзея культуры, а інфармацыйная падзея. Пераканаць сёння беларускае грамадства, якое ўжо амаль цалкам знаходзіць сябе ў медыйным дыскурсе, забыцца на рэальную пару існавання і ўлегчыся ў адбудову бастыёнаў нацыянальнай культуры — гэта тое самае, што пераканаць грамадства ў неабходнасці будаўніцтва замкаў дзеля паспяховай абароны ад нашэсця чужынцаў.

Менавіта з таго, што нацыянальную культуру сёння трэба адваёўваць не ў расейскіх ці якіх там іншых заваёўнікаў, а ў самога часу, які ўжо не прадугледжвае існавання традыцыйнай культуры ўвогуле, ідэя нацыянальнага Адраджэння не спарадзіла шырокі народны рух і пасля кароткага перыяду адноснай актыўнасці згарнулася да памераў таго, што можна назваць беларускай версіяй гесэўскай Правінцыі Касталія.

Сёння беларускасць, беларуская мова, гісторыя, культура ў цэлым – гэта не прастора жыццядзейнасці грамадства, а прытулак для інтэлектуалаў, духоўнай эліты, для ўсіх тых, каму няўтульна без апранахі культуры. У звязку з апошнім цікава адзначыць, што сярод тых, хто

сёння актыўна працуе на карысць беларушчыны, вельмі шмат этнічных не-беларусаў. Гэты факт можна трактаваць па-рознаму, але як з майго меркавання, дык ён найперш сведчыць аб тым, што да беларускай ідэі далучаюцца не столькі з пошуку этнічнай ідэнтычнасці, колькі дзеля таго, каб быць улучаным у канкрэтныя справы рэальнай культуры. Інакш кажучы, у беларускую культурную Правінцыю ўцякаюць адусюль не столькі дзеля яе самой, колькі дзеля таго, каб тут схавацца ад сітуацыі татальнага Нідзе і Ніхто, бо раскіданы выбухам камунікацый па ўсім свеце чалавек цяпер анталагічна можа сабрацца ў адно цэлае толькі ў дыскурсе ідэнтыфікацыі сябе з тым ці іншым культурным кодам... І нікога з гэтых уцекачоў асабліва не турбуе, што, як да эпохі камунікатыўна адкрытай прасторы, замкнутая сама ў сабе Беларуская Касталія ёсць утварэннем штучным, існуючым насуперак рэальнаму часу і таму з нябачнай, прынамсі пакуль, уцямнай перспектывай...

Зрэшты, у сэнсе трохі аддаленай перспектывы мы мала чым рознімся ад іншых. Беларусь сёння – гэта Францыя заўтра. Калі культура як цэлае перастае быць падставовым апірышчам быцця, то ўсіх чакае аднолькавы лёс. І, магчыма, адзінае, што нас неўзабаве будзе адрозніваць адно ад аднаго, — гэта колькасць волі да супраціву сітуацыі Нідзе і Ніхто.

## Вялесаўская лекцыя*

...Цяпер ужо зразумела, што так яно і мусіла здарыцца. Паталагічна геніяльны Ніцшэ яшчэ ў XIX ст. папярэдзіў аб гэтым чалавецтва праз філасафему *апошняга чалавека*. А на пачатку XX ст. Артэга-і-Гасет з немінучай нагоды нават выспеліў цэлую кнігу. Яна называлася «Паўстанне масаў». За сацыяльным вызваленнем працоўнага люду Артэга-і-Гасет адважыўся ўбачыць рэальную пагрозу высокаму мастацтву, якое раней заўсёды стваралі не масы, а ў адзінкавым ліку арыстакраты духу. І ствралася яно тымі адзінкамі зусім не дзеля масаў, а выключна для культурных элітаў.

Рамантыкі ад сацыяльнай эмансіпацыі аблаялі відушчу філосафа, бо лічылі, што вызваленыя для творчасці народныя адмыслоўцы наштукуюць, не раўнуючы з былым, у незлічоным мностве вытанчаных артэфактаў («землю попашут, попишут стихи» – У. Маякоўскі).

Як мы даведаемся з пазнейшага досведу, гэтыя ідэалістычныя спадзевы былі канцэптуаль-

* Цырымонія літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» канцуецца лекцыяй, якая пазней і легла ў аснову гэтага эсэ.

най аблудай. Масавы чалавек выявіўся гранічна абыякавым да высокага мастацтва. Што цалкам зразумела, бо яно і не было на гэтага чалавека разлічанае. Болей за тое – на ўсіх этапах свайго развою (прынамсі да XIX ст.) высокае мастацтва фармавалася менавіта праз радыкальную апазіцыю да нізавой культуры «народных масаў». Карацей кажучы, высокае мастацтва і масавы чалавек выявіліся наўсцяж чужыя адно аднаму, паміж імі зеўрала пярэрва такога разлогу, што пераадолець яе хоць з якога боку было a priori немажліва.

Аднак у XX ст. масавы чалавек не проста «паўстаў», ён досыць хутка перафарматаваў усю структуру цывілізацыі адносна самога сябе як дамінантнай катэгорыі. І, зыходзячы з гэтай сваёй ролі, ужо не мог абыходзіцца без уласнага і тоеснага сваёй пазіцыі мастацтва. Таму неўзабаве дзеля сябе яго і стварыў. Сёння яно мянуецца розна (масавае мастацтва, поп-культура, мас-культура і да т. п.), але аднолькава палягае ў найбольш яму ўласцівай каардынаце – гарызанталі (паводле постмадэрнай мовы – паверхні). І ў гэтым яго канцэптуальнае несупадзенне з высокім мастацтвам, якое цалкам укладалася ў парадыгму вертыкалі (г. зн. знаходзіла сябе ў лучве глыбіні з вышынёй).

Між іншым, калі мы папікаем масавае мастацтва за павярхоўнасць, дык паводзімся не лішне разумна, бо паверхня (гарызанталь) – не адмета ягонай нягеглайсці, а прынцыповая пазіцыя. Уолт Дысней, прыкладам, не менш геніяльны за Фёдара Дастаеўскага, проста іх геніі былі запа-

трабаваныя цалкам супрацьлеглымі эстэтычнымі вымярэннямі. Аднак мы гэтаму ніколі не дамо веры, калі маштаб паверхні (па азначэнні заканцаваны далягладам) будзем ацэньваць вышынёй, апошнія паверхні якой губляюцца ў прыцемках трансцэндэнтнага (зрэшты, як і наадварот).

Само па сабе гэта зусім не блага, што масавы чалавек – вызвалены з поду бытнага дзеля глабальнай рэфармацыі свету – займеў адпаведнае ўласным патрэбам мастацтва. І нават вельмі добра. Бо кожная сацыяльная страта (тым болей – паноўная) павінна мець зручную для самой сябе культуру. Толькі Артэга-і-Гасет зусім не дарэмна папярэджваў, што пасіянарнае паўстанне масаў адначасна вызваляе пагрозу каштоўнасцям, якія тысячагоддзямі назапашвалі культурныя эліты. Зрэшты, уся пагроза ягонай візіі ўвідавочніцца значна пазней, калі масавы чалавек вынайдзе эфектыўныя сродкі незлічонага тыражавання прадуктаў ужо ўласнай культуры. Зразумела, я маю на ўвазе не толькі тэлебачанне, камп'ютар, Інтэрнэт, але і безліч чаго яшчэ: ад таблоідаў і гламурных часопісаў да FM-станцый і айфонаў. *Усе разам яны і замацавалі масавую культуру ў ролі эстэтычнай дамінанты сучаснай цывілізацыі.*

* * *

Вылучаныя ў апошнім сказе словы надзвычай істотныя. Культура, за выключэннем хіба першапары чалавека, калі яна амаль цалкам палягала

ў сінкрэтычным дыскурсе, заўсёды была сацыяльна дыферэнцыяваная. І ў гэтай стратыфікацыі тая страта культуры, якую мы прызвычаіліся называць традыцыйнай, колькасцю сваіх карыстальнікаў заўсёды шматкроць пераўзыходзіла культуру элітаў. Аднак, нягледзячы на сваю абсалютную колькасную перавагу, яна ніколі не дамінавала. Ва ўсе папярэднія эпохі рэй безальтэрнатыўна ачольвала высокая культура. І так, здавалася, будзе да веку...

Але масавы чалавек (магутна паўстаўшы!), як старую штыкеціну, умомант зламаў тэндэнцыю панавання высокай культуры. І мы адразу апынуліся ў іншым свеце, хоць яшчэ і сёння не жадаем даваць веры нечаканай навіне. Зрэшты, падманвацца нам зусім не складана. Бо масавая культура, за нешматлікімі выняткамі (згадаем у прыклад футурыстычны праект Тамаза Марынэці), у сваім рушэнні на паноўныя пазіцыі «і пальцам не кранула» высокай культуры. Яна ўсё пакінула на сваіх месцах: музеі, тэатры, кансерваторыі, адукацыйныя інстытуцыі, шматтамовыя зборы класікаў, ідэалы, каштоўнасці і г. д. і да т. п.

Масавая культура неўпрыкмет адабрала ў высокай культуры толькі адно – яе месца. Тут я маю на ўвазе нават не цэнтрапалеглае, а хоць якое кутнае месца ў структуры грамадства (што праўда, адшкадаваўшы ёй прастору самой сябе). Пры гэтым масавая культура бясконца дэкларуе павагу і нават піетэт да высокай культуры, зберагае помнікі ўзнёслай старыны, распавядае

ў школках пра крылы Ікара і лабірынты Дэдала, а калі падлеткі трохі пасталеюць – дык нават вучыць разумець «цёмнага» Геракліта і «герметычнага» Эліята, як быццам яе сапраўды турбуе, каб чалавек заставаўся ўпісаным у чатырохмерную сістэму каардынат. Толькі адэпт высокай культуры дарэмна з усяго гэтага цешыцца. Масавым чалавекам веданне і пра Сафо (Сапфо), і пра Ньютона (як і пра ўсё такое астатняе) калі і будзе запатрабаваным, дык толькі ў сітуацыі накшталт квазі-інтэлектуальнай гульні «Як выйграць мільён?». Бо месцаў, дзе б знакі, атрыбуты і каштоўнасці высокай культуры маглі чалавеку сёння насамрэч прыдацца, лічы не засталося. Мала таго, і самі, яшчэ ў мностве пазасталыя, дыскурсы высокай культуры на нашых вачах імкліва асімілююцца масавай культурай. Гэта тычыцца і асновапалеглых дыскурсаў, такіх як царква, універсітэт, літаратура...

* * *

Масавы чалавек ёсць плёнам разгортвання мадэрновай парадыгмы, ужо выразна засведчанай у эпоху Рэнесансу*. Але мусіў прамінуць шэраг стагоддзяў, перш чым ён быў пакліканы цалкам і спрэс,

* І хоць не пра ўласна мадэрнасць тут гаворка, я, хай сабе і дробнымі літаркамі, трохі на ёй запынюся, бо факт яе экспансіі на ўсю зямную кулю асабіста для мяне застаецца пад вярэдлівым запытаннем. Перадусім, чаму мадэрнасць была запачаткаваная менавіта на еўрапейскім

каб разгарнуць патэнцыял мадэрнасці на ўсю зямную кулю. Інакш кажучы, без масавага чалавека тое, што мы называем глабалізацыяй, было б немагчымым (няёмка нават слухаць, калі феномен глабалізацыі перадусім звязваюць з дзейнасцю транскарпарацый). І нікому іншаму, а толькі яму належыць загалоўная роля ў гэтай канцэптуальнай рэфармацыі свету. Таму менавіта на масавага чалавека, найпершага цяпер пана, да знямогі працуюць усе вялікія: і Барак Абама, і Біл Гейтс, і Бенедыкт XVI, і «The Beatles», і Месі…

Як гэта дзіўна! Свет зваяваў не Дэман, не Геній і нават не Звышчалавек, а звычайны шараговец, банальны, як нарвежскі селядзец.

кантыненце? І ці насамрэч гэтая падзея наўпрост звязаная з паноўным на гэтых землях юда-хрысціянствам, як многія лічаць? Для мяне гэтая тэза выглядае досыць спрэчнай, але з чаго тады куды больш старажытныя (а часам і больш вялікія) культуры размінуліся з мадэрнасцю (шумерская, егіпецкая, антычная, персідская, кітайская, індуская, ацтэкаў, інкаў і г. д.)? Асабліва ўражвае тут кітайская культура, якая магутна сфармавалася задоўга да еўрапейскай (і, бадай, перажыве яе), аднак да самага апошняга часу супраціўлялася экспансіі мадэрнасці звонку, імкнучыся захаваць свой заўсёдна дамадэрны стан. Але калі з'яўленне мадэрнасці абумоўленае толькі пэўным тыпам культуры, дык у выпадку адсутнасці гэтага тыпу (праз збег нейкіх канцэптуальных абставінаў) ці не жыло б усё чалавецтва і па сёння ў дамадэрных грамадствах? Інакш кажучы, ці магчымай была другая мадэрнасць, іншая ад той, што прапанавала чалавецтву еўрапейская культура? А калі немагчымая, дык што за гэтай падзеяй насамрэч крыецца?

Зрэшты, а ці магло быць інакш? Цяпер робіцца зразумелым, што ўсе ранейшыя спробы апалоніць свет не той, дык іншай веліччу былі запраграмаваныя на паразу, бо вялікае – паводле азначэння не ўніверсальнае. Вялікае заўсёды апрычонае, як і ўсё, што належыць да парадыгмы высокай культуры. (Гэтаксама не ёсць універсальным і малое, функцыя якога жорстка дэтэрмінаваная апазіцыяй вялікаму.)

Насамрэч універсальным ёсць толькі банальнае. Антычныя філосафы пары ранняга хрысціянства жываты панадрывалі, абмяркоўваючы прымітыўны анекдот пра нейкага ўкрыжаванага чалавека, які быццам узнёсся на неба і з гэтага цяпер прэтэндуе на ролю Бога. Весяліцца ім сапраўды было з чаго, бо, раўнуючы з тымі вытанчанымі і мудрагелістымі канцэптамі сакральнага, якія напрацавала антычная мудрасць, гэтая прымітыўная показка цёмнага плебсу была адно смеху вартай. Але якраз яна цягам ужо двух тысячагоддзяў як найлепей дэманструе, што сапраўды ўніверсальнае – адно банальнае. Тое самае мы маем і ў выпадку глабалізацыі. Яна ёсць не чым іншым, як вытворным ад паўсюднай баналізацыі (вынік «паўстання масаў»), якую новы чалавек скарыстаў за сродак каланізацыі бытнага і праз якую паспяхова апалоніў ужо амаль усю зямную кулю...

Дарэчы, мне трохі муляе радыкальная асіметрыя катэгорыі *банальнае* адносна ўсіх папярэдніх, але нічога больш дакладнага для азначэння таго, што сёння адбываецца ў свеце, я не

знаходжу. Інакш кажучы, як на мой розум, дык асноўнай характарыстыкай сучаснага ладу быцця ёсць яго татальная баналізацыя ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. У тэхніцы гэтую тэндэнцыю найлепей выяўляе канвеер, у палітыцы – скрыня для галасавання, у побыце – кнопка электрапрыбораў, у апратцы – джынсы, у культуры – шоу, у маўленні – слоган... Усё імкнецца быць выкананым некалькімі элементарнымі рухамі, патлумачаным двума-трыма немудрагелістымі словамі, асэнсаваным стандартным сілагізмам. Кожная тэхналагічна звышскладаная канструкцыя мусіць быць заканцаваная прымітыўным алгарытмам, які магла б засвоіць нават малпа. Прынамсі калі гэтая мудрагелістасць мерыцца патрапіць у дыскурс універсальнага.

Але дакладна тое самае мы маем у культуры, мастацтве, літаратуры...

* * *

Пакліканне пісьменніка папярэдніх эпохаў максімальна дакладна выказвала знакамітае здумленне Канта пра два найвялікія дзівы: зорнае неба над чалавекам і маральны закон у прыродзе яго сутнасці. Гэта значыць, што этычны імператыў уяўляўся за каштоўнасць для творцы не сам па сабе, а толькі ў суплёце з поклічам высокага неба. Калі заўгодна, у тую пару філосаф ці пісьменнік быў своеасаблівым дэміургам, што перакладаў трансцэндэнтную моўчу на зразумелую людзям

мову і тым самым дапамагаў Богу (які, як вядома, таксама ёсць Словам) кшталтаваць чалавека ў фармаце яго сакральнай перспектывы.

З гэтай сваёй ролі кожны пісьменнік імкнуўся асягнуць вышэйшыя з яму падлеглых вышыні і зазірнуць у самыя прадоністыя глыбіні. А як магло быць інакш, калі, ствараючы кнігу, ён насамрэч ствараў не кнігу, а месца (вербальны сабор), дзе сакральнае мусіла апынуцца ў суседзях чалавека.

Інакш кажучы, высокая літаратура тых эпохаў прагнула не чытача, а Ісціны. Але і чытач той пары шукаў у літаратуры не забаву, а Ісціну. З гэтага супольнага (аўтара і чытача) памкнення да «зорнага неба» кожны творца аж прыпадымаўся на дыбачкі, каб выглядаць нават вышэйшым за самога сябе – тады яшчэ па азначэнні высокага.

Гэтак было, і было здавён, толькі пад канец XX ст. здарылася нешта цалкам неверагоднае, чаго раней ніхто і ўявіць сабе не мог. Пісьменнік самахоць пачаў адмаўляцца ад вышыні. Менавіта так – адмаўляцца, бо нават той, каму гэтая вышыня была зададзеная як кон, сёння імкнецца выбавіцца ад свайго наканавання, мо і слушна раўнуючы яго з праклёнам. І рэч тут, бадай, вось у чым: паколькі спрэс збаналізаваны свет тоесніць сябе выключна з паверхняй (быцця), дык кожны стваральнік артэфактаў высокага мастацтва нават паўз уласную волю выштурхоўвае сябе з гэтага свету людзей у блакітнае нікуды.

Прынамсі калі светам лічыць менавіта свет, а не кафедры філалогіі, і, адпаведна, чытачом не аўтсайдарскую карпарацыю апошніх гуманітарыяў, а паноўнага ўсюды масавага чалавека.

У прыклад да тэзы пра свядомае адмаўленне ад высокага кону згадаю хоць бы публічныя метамарфозы сёння шырокавядомых Паола Каэлья і Барыса Акуніна. І партугальскі філосаф Каэлья, і расейскі літаратар Чхарцішвілі (знаны як Акунін) былі надзеленыя хай сабе і не вельмі значным, аднак усё ж такі талентам вышыні, толькі абодва аднойчы зразумелі, што гэтаму таленту сёння нідзе няма адпаведнага месца. Ён не толькі ні да чаго не прыдатны, але і не дазваляе хоць якім чынам прытоесніцца да ўжо спрэс пляскатага свету. І тады абодва ўласнаруч зрабілі вівісекцыю – выбавілі сябе ад вышыні, каб атрымаць магчымасць прыкаленіцца ўпоравень збаналізаванаму чалавеку, які ў дыскурсе культуры называецца «масавы чытач». (У гэтым плане трохі менш адназначная, але яшчэ можа больш уражлівая эвалюцыя аднаго з самых бліскучых еўрапейскіх інтэлектуалаў сярэдзіны XX ст., знакамітага семіёлага Умбэрта Эка. Яго апошні раман – мной чытаны – «Баўдаліна» тыпалагічна амаль нічым не розніцца ад свядомай «папсы» «Код да Вінчы» Дэна Браўна.)

Разважаючы над феноменам банальнага чалавека (і, адпаведна, паноўнай цяпер маскультуры), я раз-пораз згадваю Джойса з ягоным «Улісам». Гэта, бадай, найбольш цьмяны і самы

нечытэльны твор сусветнай класікі, але, нягледзячы на яго лічы абсалютную герметычнасць, ён у пару дамінавання высокага мастацтва займеў і выдаўца, і чытача, і ганаровае месца ў літаратуры.

І вось я пытаюся ў сябе:

– А калі б Джойс жыў сёння, ці напісаў бы ён «Уліса»?

І сам сабе адказваю:

– Не ўпэўнены.

– А калі б і напісаў, дык ці знайшоў бы раман выдаўца?

– Не ўпэўнены.

– А калі б кнігу ўсё-такі выдрукавалі, дык ці стаў бы яе хоць хто чытаць?

– Не ўпэўнены.

Аднак самае вусцішнае ў апошнім сюжэце іншае: можа, і мне сёння «Уліс» быў бы непатрэбны. Натуральна, мая вусціш зусім не з таго, што я б не прачытаў яшчэ адной вялікай кнігі, а з таго, што, магчыма, і мне самому ўжо муляе вышыня. Магчыма, я таксама неўпрыкмет звыкся з адсутнасцю неба, і ўвесь мой жаль наконт гэтай адсутнасці ёсць не чым іншым, як настальгічным успамінам пра тую пару, калі неба неўнікнёна было над кожным чалавекам.

* * *

У філасофіі канцэптуальную змену культурнай парадыгмы найлепей дэманструюць (праз

асіметрыю) два ці не самыя вялікія інтэлектуальныя стылі XX ст., а менавіта экзістэнцыялізм і постструктуралізм (апошні супольна з постмадэрнам).

Феномен экзістэнцыялізму паўстаў з крызы класічнай філасофіі, без астачы закааптаванай у парадыгму абсалютнага духу (незалежна ад таго, што яе абумоўлівала: эйдычны суплёт ці атамарны кантэкст). Але, нягледзячы на сваю быццам радыкальную іншасць, раўнуючы з класічнай філасофіяй экзістэнцыялізм трымаўся яе падвалінамі. Інакш кажучы, выхапіўшы я-чалавека з трансцэндэнтнага (з-пад пахаў «абсалютнага духу») у іманентнае, экзістэнцыялізм усё роўна пакінуў за ім значэнне ўніверсальнага модусу быцця. І, бадай, нават узмацніў гэтае значэнне, хоць і абапіраўся на радыкальна зніжаныя катэгорыі (жах, агіда, нуда, ваніты, нянавісць, выбар, параза і да т. п.), у кантэксце якіх я-чалавек, быццам высокае дрэва, канцаваў сабой усе маланкі і грымоты не толькі дзвюх усясветных войнаў, але і ўсяго бытнага як такога.Таму Сёрэн Кіркегар, ганячы Фрыдрыха Гегеля за абыякавасць да запытанняў простага чалавека пра штодзённасць быцця і нябыту, сам не вылазіў з нябёсаў. А ягоныя, праз эпоху, паслядоўнікі (Сартр, Ясперс, Камю, Марсель і г. д.), фармальна як бы дэканструюючы міф пра чалавека як універсальную меру (Пратагор), насамрэч узбуйнілі яго да такога памеру, што ён засланіў сабой і «зорнае неба», і «маральны закон».

Зыходзячы з усяго гэтага, мы, магчыма, не шмат памылімся, калі ўбачым у экзістэнцыялізме агонію класічнай філасофіі, якая, улучна з самім экзістэнцыялізмам, апынулася цалкам непрыдатнай для асэнсавання быцця без чалавека і чалавека без быцця. (Масавы чалавек – гэта ўжо не суб'ект, не «Dasein» і тым болей не чалавек, а, з гледзішча ўсяго папярэдняга філасафавання, увогуле невядома што.)

Натуральна, каб апазнаць свет без чалавека (прынамсі без чалавека як цэнтрапалеглай фігуры гэтага свету), неабходная была зусім іншая філасофія, якая б увогуле не брала пад увагу персанальнае адзінкавае. (Ці не найбольш радыкальна гэтую сітуацыю патлумачыў Жак Лакан, калі назваў суб'екта «мнимой» велічынёй, на якую без адмысловай патрэбы не мае сэнсу нават хоць як зважаць.) Такой філасофіяй і выявіўся постструктуралізм, які зразумеў існаванне чалавека як цалкам абумоўленае дзейнасцю розных структураў (і жорстка імі дэтэрмінаванае) – ад структураў мовы да структураў соцыуму і культуры.

Яшчэ на пачатку свайго рушэння постструктуралізм мусіў быў выкінуць на сметнік усю сістэму логацэнтрычных катэгорый (латэнтна заўсёды заканцаваных на я-чалавеку), каб на іх месца ўладкаваць спрэс бессуб'ектыя дыскурсы, метанаратывы, сімулякры, рызомы, соцыядыялекты і г. д. і да т. п. І менавіта катэгарыяльны апарат новай філасофіі здолеў шмат што праясніць у татальна збаналізаваным свеце, але мы тут заакцэнтуем

увагу на іншым. Праз сваю мову філасофія постструктуралізму ні да каго не звяртаецца, а толькі называе з’явы і акрэслівае іх канфігурацыі.

Магчыма, гэта выглядае дзіўнавата, але рэч у тым, што ёй і няма да каго звяртацца. Лакалізаваныя ў саміх сабе дыскурсы высокай культуры сёння ўжо не-генератыўныя (адносна ўсяго метанаратыву жыцця), а дыскурсы масавай культуры па азначэнні дэгенератыўныя (брутальныя канатацыі тут скасаваныя). Вельмі дакладна апошняе, праўда, з іншай нагоды, пракаментаваў Жан Бадрыяр: «Заклік да масаў па сутнасці заўсёды застаецца без адказу. Яны не праменяць, а наадварот, паглынаюць усе промні перыферычных сузор’яў Дзяржавы, Гісторыі, Культуры, Сэнсу. Іх сутнасць – інерцыя, магута інерцыі, улада нейтральнага». Слушна: масавы чалавек паводле сваёй прыроды не ёсць ні карыстальнікам, ні, тым болей, генератарам сэнсаў (і таму спрэс збаналізаваны свет не мае ў іх патрэбы).

З усяго гэтага філасофія, страціўшы хоць якога адрасата, імкліва маргіналізуецца. Толькі не з яе маргінальнасці паходзіць мая скруха. Мацней турбуе тое, што філасофія, як і літаратура, самахоць пачала адмаўляцца ад вышыні, шукаючы паразумення з кантэкстамі паверхні, сярод якіх настала ўладкавaўся масавы чалавек.

Але, у адрозненне ад літаратуры, «падзенне» якой адбываецца праз баналізацыю мовы і выдаленне з яе хоць якіх эўрыстычных сэнсаў, філасофія (якая з прычыны сваёй прыроды не можа

скарыстацца тым самым) перадусім зняпраўдзіла свой найвысокі дыскурс – метафізіку, а ў астатнім перафарматавала сябе пад сацыяльныя і палітычныя навукі.

Мне ў гэтай сітуацыі сама больш шкада метафізікі, якая ў секулярызаваным бытным працавала з сакральнымі катэгорыямі, тысячагоддзямі намагаючыся вымкнуць Ісціну з-пад покрыва патаемнага (трансцэндэнтнага). Што праўда, яна не дала сабе рады з канцавым заданнем мыслення. З гэтага (але перадусім патураючы банальнаму чалавеку) постмадэрністыя лібералы назвалі пустабрэхамі сціжмы вялікіх метафізікаў былога і да таго ж абганілі саму метафізіку як радовішча таталітарных ідэалогій. Інакш кажучы, паводле іх меркаванняў, фашызм, камунізм, аўтарытарызм і да т. п. сталіся магчымымі адно таму, што еўрапейская філасофія ў сваю пару спарадзіла канцэпт абсалютнай Ісціны.

Верагодна, у такім падыходзе да метафізікі таксама ёсць пэўная рацыя. І я, магчыма, нават пагадзіўся б з Рычардам Рорці, які сцвярджае, што праект Ісціны ўжо не толькі вычарпаны, але і проста лішні, бо сучасны чалавек з'яўляецца творчай істотай, здольнай мадэляваць сябе, і з гэтага не мае патрэбы ні ў якіх абсалютах...

Магчыма, і пагадзіўся б, каб паверыў, што гэты перыфраз асветніцкага канцэпту на сучасны лад мае хоць якое дачыненне да спрэс збаналізаванага свету і паноўнага ў ім масавага чалавека.

* * *

Падлеткам я вельмі моцна шкадаваў людзей, якія жылі ў ранейшыя, натуральна, спрэс цёмныя эпохі, і моцна зайздросціў тым, хто будзе жыць яшчэ і пасля мяне – у бляску скрозь праменістай будучыні. Мінула ўсяго колькі там дзесяцігоддзяў, але як перайначыўся свет! Сёння я шкадую маладых людзей ды зайздрошчу сабе, падлетку, які марознымі вечарамі выходзіў з хаты на ганак і пільна ўглядаўся ў зіхоткае прадонне над галавой. Натуральна, тады я нічога яшчэ не ведаў пра Альберта Швейцэра, які заклікаў штодня знаходзіць час, каб хоць якую гадзіну пасумовіцца сам-насам з нябёсамі. Хоць і без яго заклікаў быў пэўны, што чалавек магчымы адно таму, што ёсць неба.

Цяпер я цешуся са сваёй адсутнасці ў будучым, бо яго на маіх вачах вылегчылі ад вышыні. Не, гэта зусім не канец свету. Проста быццё (улучна з Богам) усёй сваёй татальнасцю распушчаецца ў адсутнасці самога сябе, а масавы чалавек канцуецца персанальнай задачай і па сконе абнуляецца, як выкрасленая лічба. Зрэшты, тае бяды. Хай сабе будзе і так...

Праблема, бадай, толькі ў адным. Калі раптам здарыцца другі сусветны патоп, дык сярод масавага чалавека, відаць, не знойдзецца ніводнага, хто б ведаў, навошта будаваць ратаўнічы каўчэг...

## Размова на ўскрайку «Топаса»*

**Таццяна Шчытцова**: *Вы заўсёды займалі маргінальную пазіцыю адносна акадэмічнага філасофскага дыскурсу. Пры гэтым не аднойчы выказваліся ў падтрымку грунтоўнай (сістэмнай) філасофскай адукацыі. Якое вашае бачанне асноўных зменаў, што адбыліся ў беларускай філасофіі за апошнія 10 год? І ў чым, на ваш погляд, ёсць адмета сучаснай сітуацыі* ***ў*** *філасофіі і* ***з*** *філасофіяй у Беларусі?*

**Валянцін Акудовіч**: Цікава, што толькі цяпер, калі вы запыталіся пра змены ў «беларускай філасофіі за апошнія 10 год», я падумаў, што насамрэч перыяд паўставання дыскурсу сучаснага беларускага мыслення слушна было б разлучыць прыкладна на два дзесяцігоддзі (1990–2000 і 2000–2010), паколькі яны досыць заўважна розняцца міжсобку. Разам з тым другое дзесяцігоддзе немагчыма разглядаць без праекцыі на папярэдняе, бо яно не ёсць нечым самадастатковым, а толькі працягам першага, адно ўкладзеным ужо ў іншую канфігурацыю. Але перад тым, як навярнуцца на гэтую праблему, я б хацеў трохі разгарнуць

* Філасофскі часопіс, які стварыла і ачольвае Таццяна Шчытцова.

адну прэамбулу, каб наперад патлумачыць сёетое, што таксама пазначанае ў вашым пытанні.

Мая пазіцыя стасоўна акадэмічнага філасофскага дыскурсу на самай справе ёсць «маргінальнай». Гэты, натуральным ходам падзеяў вызначаны, статус мае некалькі падставаў. На персанальных, абумоўленых па азначэнні не-дысцыплінарным спосабам майго мыслення, я тут запыняцца не буду. Згадаю адно знадворкавыя, якія на пачатку 90-х адсланілі ад «легітымнай» філасофіі тых, хто набраўся нахабства стварыць яе ўжо ўласна беларускую версію. Рэч у тым, што на тую пару акадэмічная філасофія ўсё яшчэ заставалася амаль без астачы ўпляжанай у дыялектычны матэрыялізм, задзіночаны з квазімарксізмам. Натуральна, з такой «філасофіяй» мы не хацелі мець нічога агульнага. Хаця бадай больш істотным было нават не гэта, а тое, што яна лічы ніяк не пазіцыянавала сябе як *беларускую філасофію*, не ўяўляла Беларусь за магчымы аб’ект інтэлектуальных рэфлексій і не карысталася беларускай мовай, як быццам недастаткова дасканалай для філасофскага асэнсавання быцця. Усё гэта разам канцэптуальна адсланіла ад акадэмічнай філасофіі (і адпаведнага тыпу філасафавання) усіх тых, хто быў пакліканы нацыянальнай культурай сфармаваць дыскурс сучаснага беларускага мыслення (нават калі «пакліканыя» былі прафесійнымі філосафамі і працавалі ў адпаведных інстытуцыях). Натуральна, сёння, праз дваццаць год, сітуацыя выглядае

шмат у чым інакш. Але мне гэты расповед найперш быў патрэбны, каб зазначыць наступнае. Я да гэтай пары ўсе падзеі ў філасофскай прасторы Беларусі разглядаю з пазіцыі «беларусацэнтрычнасці» (калі ласка, не блытайце з пазіцыяй беларускага нацыяналізму). Інакш кажучы, наколькі яны вартыя не толькі ў плане дысцыплінарнага філасафавання, а і нацыянальнай культуры як універсальнага цэлага Беларусі. Гэткай «метадалогіяй» і абумоўленая мая візія адказаў на вашыя запытанні.

Як на маё, натуральна, спрэс суб'ектыўнае, меркаванне, 90-я гады, магчыма, былі найбольш істотнымі ў гісторыі ўжо ўласна беларускага мыслення, бо толькі тады яно ўпершыню выразна і сістэмна заманіфеставала сябе ў гэтай ролі. У мяне было даволі тэкстаў, дзе я ў падзеях, *героях* ды фактах падрабязна аналізаваў эпоху «буры і націску». Таму наўрад ці мае сэнс паўтараць ужо сказанае. Бадай толькі згадаю два найбольш знакавыя праекты гэтай «эпохі» – літаратурнафіласофскі сшытак «ЗНО» пры тыднёвіку «Культура» і першы ўласна беларускі філасофскі часопіс «Фрагмэнты», у якім калектыўная інтэрвенцыя беларусаў у філасофскую прастору выявілася найбольш адметна. Як мне ўяўляецца, самай выразнай характарыстыкай гэтай пары было памкненне вылучыць з універсальнага цэлага беларускай культуры дыскурс мыслення і апрычона зафіксаваць яго як яшчэ адно (і надзвычай істотнае) вымярэнне гэтай самай культуры.

Наступнае дзесяцігоддзе выглядала ўжо добра інакш. І найперш таму, што 90-я былі *эпохай*, а *эпоха* не мае ўласнага часу. Замест яго татальна пануюць вялікія наратывы, якія цалкам падпарадкоўваюць сабе персанальныя лёсы. Дарэчы, дыскурс беларускага мыслення быў створаны менавіта *эпохай*, а непасрэдныя выканаўцы гэтага творыва, па вялікім рахунку, былі толькі яе валанцёрамі. Калі эпоха скончылася, *час* вярнуўся на сваё месца, і ў «нулявыя» гады падставай падзеі зноў зрабіліся прыватная ініцыятыва ды індывідуальны талент. Яны вялі рэй і ў калектывісцкіх праектах, і ў індывідуальных практыках. Дзеля прыкладу сярод «калектывісцкіх праектаў» згадаем ЕГУ (рэктар А. Міхайлаў) з яго адметным філасофскім асяродкам, які змог выспеліць у сабе варты пашаны часопіс «Топас» (галоўны рэдактар Т. Шчытцова), унікальны ва ўсіх сэнсах Беларускі калегіум (кіраўнік А. Анціпенка), эфектнае і эфектыўнае «Агенцтва гуманітарных тэхналогій» (кіраўнік У. Мацкевіч), інтэлектуальна самы маштабны беларускі часопіс «Архэ» (галоўны рэдактар В. Булгакаў), адноўлены часопіс «Перекрёстки» (рэдактар І. Бабкоў)... А што да «індывідуальных практыкаў», дык тут не ўяўляецца магчымым нават скарочаны пералік таго мноства кніг (беларускіх аўтараў і перакладзеных), зборнікаў, анталогіяў, энцыклапедыяў (хаця на гэтай пазіцыі не магу не затрымацца, каб узгадаць А. Грыцанава з яго серыяй маштабных энцыклапедыяў) і самых

розных іншых індывідуальных ініцыятываў, якія фармавалі філасофскі трэнд апошняга дзесяцігоддзя.

Разам з тым гэтае як бы «мноства» калектыўных праектаў ды індывідуальных практыкаў сёння не столькі цешыць мяне, колькі трывожыць. Найперш таму, што яно ніяк не канцэптуалізуецца. Акрамя памкнення да філасафавання як такога, нічуць нельга зразумець, што тут да чаго, а тым болей – дзеля чаго. Магчыма, як для пары постмадэрну, гэтыя рассыпаныя ў паадзінкавае мноства інтэлектуальныя фрагменты і выглядаюць адпаведна свайму часу, але я зусім не ўпэўнены, што хай сабе і постмадэрнам можна апраўдаць адсутнасць хоць якой уцямнай перспектывы філасофіі на Беларусі.

**Т.Ш.**: *У эсэ «Росквіт і занепад метафізікі» ў вас ёсць дастаткова ўніверсалісцкае вызначэнне філосафа («той, каго ва ўсе ягоныя гады працінае падлеткавы жах перад невымоўнай тайніцай быцця»). Дзе і якім чынам можа – ці павінна? – адбывацца задзіночанне гэтага даволі касмапалітычнага вызначэння з пазіцыяй «свядомага беларуса»? Іншымі словамі: якое значэнне і месца нацыянальнага (лакальнага) у філасофіі?*

**В.А.**: Я ўжо не аднойчы публічна згадваў наступныя словы Карэла Чапэка: «Кітаец, які пажадаў бы стварыць кітайскую філасофію, быў бы напэўна добрым кітайцам, але дрэнным

філосафам». Разам з тым гэтая показка дэманструе толькі адну праекцыю суадносінаў лакальнага (нацыянальнага) і ўніверсальнага, якое, безумоўна, і ёсць *першай*, а як стасоўна метафізікі, дык і адзінай праблемай філасофіі. І погляд тых, хто бачыць філасофію выключна ды цалкам ва ўніверсалісцкім дыскурсе, падтрымліваецца мноствам слушных аргументаў. Але гэтая пазіцыя мае і даволі сур'ёзных апанентаў. Ж. Дэрыда ў тэксце «Ці ёсць у філасофіі свая мова?» піша: «Філасофія знаходзіць сваю стыхію ў мове, як кажуць, натуральнай. Яна ніколі не магла фармавацца на нейкай штучнай мове, нягледзячы на некалькі адчайных спробаў, якія мелі месца ў гісторыі філасафавання». І яшчэ там жа: «Нягледзячы на ўсе бойкі ды спрэчкі аб філасофскіх «пазіцыях» ці аб «практыках», хто сёння можа адмаўляць наяўнасць пэўнай канфігурацыі французскай філасофіі і тое, што ў сваёй гісторыі, нягледзячы на паслядоўнасць гегемоній, зменлівасць асноўных плыняў, гэтая канфігурацыя абнаяўляе традыцыю – нейкі збольшага ідэнтыфікуемы элемент трансляцыі, памяці, спадчыны».

Яшчэ больш радыкальна абараняе месца нацыянальнага ў дыскурсе ўніверсальнага галоўны «герой» «Топаса» М. Гайдэгер. Ён дэманструе гэтую пазіцыю ў мностве не толькі метафізічных, але і культурных ды нават палітычных сюжэтаў (сярод апошняга згадаем хаця б ягоны нацыянал-сацыялізм). Паколькі з гэтага мноства і не

ведаеш, на чым запыніцца, дык дзеля прыкладу звярнуся да ягоных інтэрпрэтатараў. В. Падарога піша, што Гайдэгер «знаходзіць сутнасны досвед быцця рэальна існуючым у вясковых хутарах роднага яму Шварцвальда. Так праекцыя ў адвечнае, у дасакратычны космас вяртаецца, абмінуўшы лабірынты і перашкоды гістарычнага часу, у сучаснае, у-топія пераходзіць у топію». А вось што кажа Э. Юнгер пра мову філосафа: «Экзэгеза Гайдэгера больш чым філалагічная і больш чым этымалагічная: ён схоплівае слова там, дзе яно свежае, дзе ў поўнай сваёй зародкавай моцы яно яшчэ напятае моўчай, і прарошчвае яго з ляснога гумусу». Натуральна, стасоўна нацыянальнага ў філасофіі я цалкам салідарызуюся з Гайдэгерам. Бо хаця Быццё – яно і ў Афрыцы Быццё, але нам нікуды не падзецца ад:

а) той прастора-часавай пазіцыі, з якой «я» яго абнаяўляе;

б) той оптыкі культуры, у якой для «я» яно абнаяўляецца;

в) той мовы, праз якую «я» фіксуе ягоную наяўнасць.

Кожны з гэтых фактараў, а тым болей усе яны разам выяўляюць Быццё як мінімум трохі ў зрененай канфігурацыі стасоўна іншых варыянтаў. Карацей кажучы, «Быццё па-беларуску» і па-іспанску па азначэнні не могуць быць цалкам тоеснымі. Якраз гэта бліскуча прадэманстраваў Гайдэгер адносна «Быцця па-нямецку». Дый увогуле, цалкам магчыма, што адэпты

татальнага ўніверсалізму ў філасофіі – гэта толькі тыя, што не адважыліся на *сваю* пазіцыю, *сваю* оптыку, *сваю* мову, а папросту «ўпісаліся» ў напрацаваны іншымі кантэкст.

Асабіста для мяне няма пытання, ці ёсць у беларускай філасофіі месца ўласнай візіі свету. І тут я зыходжу не з нейкага абстрактнага тэарэтызавання (латэнтна падтрыманага нацыянальным патрыятызмам), а з непасрэднага персанальнага досведу. Да прыкладу, мая першая кніга называлася «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека». Дык вось, калі б пасля навучання ў Маскве я там і застаўся ды працягваў мысліць і пісаць па-руску, то мне не толькі дзеля назова кнігі, але і ў сітуацыі шараговага азначэння не прыйшло б да галавы скарыстацца гэтым амаль паліндромам (поўны – *а мяне няма*). Рэч у тым, што ў акрэсленай тут пазіцыі беларускае *няма*, у адрозненне ад рускага *нет* (усяго толькі фіксацыя адмоўнасці), скрай нагружанае самымі рознымі канатацыямі адсутнасці ў гісторыі Беларусі – уласнай гісторыі, філасофіі, дзяржавы, культуры і нават «заканстытуяванай» мовы. Дарэчы, ці не з дамінавання *Няма* ў ментальнасці беларуса нашая сучасная літаратура і мысленне ў праекцыі на фундаментальную анталогію быцця найбольш часта актуалізуюць тое, што ў філасофіі называецца метафізікай адсутнасці (і згаданая назва кнігі – толькі адно з шматлікіх сведчанняў).

**Т.Ш.**: *Колькі год назад пабачыў свет зборнік пад назвай «Анталогія сучаснага беларускага мыслення». Стасоўна вас таксама часта выкарыстоўваецца менавіта гэтае вызначэнне – «мысляр». Ці не маглі б вы неяк пракаментаваць гэтае разрозненне паміж філасофіяй і мысленнем, філосафам і мысляром? Дзе і чаму яны не супадаюць? З чаго гэтае несупадзенне выявілася запатрабаваным у нашым інтэлектуальным полі?*

**В.А.**: Словы «мысленне» і «мысляр» маюць супольны корань і агульнае семантычнае поле, але *статусна* яны знаходзяцца на супрацьлеглых скранях. Зараз патлумачу, што тут я маю на ўвазе. Калі мы з А. Анціпенкам уклалі гэтую «Анталогію...» і паўстала пытанне назвы, дык сярод розных прапановаў была і «Анталогія сучаснай беларускай філасофіі». Але мы яе лічы адразу адпрэчылі, паколькі было відавочна, што ў лепшым выпадку толькі траціна гэтых тэкстаў належала да *ўласна* філасофскіх, а ўсе астатнія найперш прэзентавалі самыя розныя эўрыстычныя (як на тую пару) інтэлектуальныя ініцыятывы, якія, на наш погляд, мусілі засведчыць паўставанне дыскурсу сучаснага беларускага мыслення. Тут бадай трэба нагадаць (як хуткаплынна спадае час!), што яшчэ напрыканцы васьмідзясятых і гаворкі не было аб *беларускім* мысленні як нейкай выразнай, цэласнай ды сістэмнай з'яве, а выпадкова прамоўленае азначэнне «беларускі філосаф» хоць у каго выклікала пачуццё

няёмкасці і варты жалю посмех. З гэтага вынікала, што да таго, як думаць пра беларускую філасофію ў сэнсе інстытуалізаванага суб'екта беларускага мыслення, неабходна было актуалізаваць працэс самога гэтага мыслення. Вось чаму пад адной вокладкай у нас апынуліся тэксты філосафаў, паэтаў, сацыёлагаў, метадолагаў, літаратуразнаўцаў, культуролагаў...

Мяркуючы па тым, што азначэнне «беларускае мысленне» і сёння дамінуе над азначэннем «беларуская філасофія» (не блытаць з «філасофіяй на Беларусі»), апошняя ўсё яшчэ не ўвабралася ў сілу. Праўда, сёння рэдка пабачыш здзіўленне, калі пра некага кажуць: «Беларускі філосаф». І гэта сведчыць, што вартыя ўвагі беларускія філосафы ўжо насамрэч ёсць, але беларускай філасофіі як паўнавартаснай з'явы – яшчэ няма. І тут не трэба з нейкіх пустых амбіцыяў характарызаваць сітуацыю больш аптымістычна. Калі беларускае мысленне мае патэнцыял некалі аформіцца ў сапраўдную філасофскую падзею – дык так яно калісьці і будзе (ну а не – дык не)...

Далей заўважым, што беларускае слова «мысленне» з прычыны сваёй універсальнай прыдатнасці стасоўна самых розных сфераў веды значна саступае ў інтэлектуальным статусе слову «філасофія», якое вылучае мысленне з яго неабсяжнага (але аморфнага) дыскурсу і канцэнтруе, праз апрычонае пісьмо, на самім сабе...

А вось слова «мысляр» – цалкам наадварот, яно адлучанае ў вусцішную далеч і ад «мыслен-

ня», і ад «філасофіі», а сінонім «філосаф» (адносна сябе) успрымае як абразлівую прафанацыю свайго сакральнага статусу, у лепшым выпадку – яго дысцыплінарную інстытуалізацыю. Магчыма, у гэтым выяўляюцца ментальныя парэшткі традыцыйнага грамадства, якое ўсім сваім цэлым было завязаным на сакральным і якое ў сітуацыі цывілізацыйнай прыпозненасці Беларусі ўсё яшчэ мае месца быць. Хаця той жа Гайдэгер вельмі выразна разрозніваў філосафа як дысцыплінарную катэгорыю прафесійнай дзейнасці і мысляра як шукальніка новай веды. Вось чаму, калі бывае, што нехта неабачліва назаве мяне *мысляром* (а такое насамрэч раз-пораз здараецца), я ўнутрана сціскаюся ад няўтульнасці, бо гэта відавочнае перабольшванне.

**Т.Ш.**: *Вы выкладаеце філасофію ў Беларускім калегіуме. Як вы лічыце, на якіх падставах у эпоху «смерці філасофіі» і татальнай прагматызацыі ўсіх стасункаў можна спадзявацца на нейкую цікавасць да філасофскай адукацыі? Якім чынам можна было б матываваць такую цікавасць у выпускнікоў школаў і студэнтаў? Калі гэта ўсё яшчэ вартая справа (філасофская адукацыя), дык што і як трэба выкладаць? Што і як вы выкладаеце самі? Што вы адказваеце, калі ў аўдыторыі гучыць пытанне: «Навошта нам вывучаць філасофію?»*

**В.А.**: У Беларускім калегіуме я курырую аддзяленне філасофіі/літаратуры і шмат у розных

фарматах (лекцыі, семінары, індывідуальныя заняткі...) працую са студэнтамі. Але нічога там не «выкладаю», бо «выкладаць» – гэта вучыць, а я не ўяўляю, як можна навучыць філасафаванню ці мастацкай творчасці. Бадай адзінаму, чаму іх я ўсё-такі «вучу», – гэта вольнаму мысленню і адпаведнай яму творчасці. Бо без вольнага адносна хоць якіх канонаў ды стэрэатыпаў мыслення наўрад ці можа атрымацца вартая ўвагі як інтэлектуальная эўрыстыка, так і мастацкі артэфакт. Натуральна, не мне ацэньваць, наколькі плённая мая «метадалогія», але паколькі яна цалкам арганізаваная пад фармат маёй *суб'ектнасці*, дык у кожным разе з майго педагагічнага досведу іншым ніякай карысці. Да таго ж я лічы не працаваў у акадэмічных інстытуцыях – таму нешта тут раіць мне ніяк не выпадае. Разам з тым мяне насамрэч усур'ёз (як уласная праблема) турбуе сістэмны крызіс філасофскай адукацыі. Хутчэй гэта нават не крызіс, а канцэптуальны заняпад. І ягоная інерцыя яшчэ толькі пачынае назапашвацца. Праўда, я не звязваю гэтую тэндэнцыю непасрэдна са «смерцю філасофіі» (што насамрэч блізка да праўды, але патрабуе асобнай гаворкі). На мой погляд, падставовая прычына гэта крызісу найперш палягае ў тым, што той тып мыслення, які стагоддзямі і стагоддзямі культывавала еўрапейская акадэмічная філасофія, выявіўся функцыянальна непрыдатным адносна хоць якой яшчэ сферы мысledзейнасці сучаснага грамадства, акра-

мя самой акадэмічнай філасофіі. Уся згуба татальнай загерметызаванасці філасофіі ва ўласным фармаце была заўважаная досыць даўно, чаму сведчаннем хаця б бунт Кіркегара супраць Гегеля. «Дацкі Сакрат» абурана пісаў: «Гегелеўская філасофія разглядае мінулае, шэсць тысяч год сусветнай гісторыі... Але дабрадзейны прафесар Гегель, калі ён быў жывы, як і ўсялякі жывы чалавек, меў ці павінен быў мець маральны непакой адносна будучага жыцця. Аднак пра гэта з гегелеўскай філасофіі нічога нельга даведацца. Адсюль вынікае вельмі простая выснова, што кожны чалавек, які захоча нешта зразумець у сваім асабістым прыватным жыцці з дапамогай гегелеўскай філасофіі, згубіцца ў блытаніне». Пазней бунт Кіркегара падтрымала ладная сціжма мысляроў (ад Ніцшэ да Слотэрдайка), з чаго і сфармавалася тое, што сёння мы называем «некласічнай філасофіяй». Але бунт нідзе і ніколі не перамагае – у філасофіі таксама. Спакваля бунтары былі проста прыўлашчаныя акадэмічным дыскурсам, адфарматаваныя пад яго генеральны канон і з гэтага неўпрыкмет сталіся вельмі падобнымі да шараговых прафесараў філасофіі...

Але я, здаецца, залішне адхіліўся ад тэмы, можа якраз таму, што не маю ўпэўненага адказу. Больш за тое, не ведаю, ці ён увогуле магчымы ў сітуацыі, калі логацэнтрычная парадыгма светаўладкавання, на якую і была завязаная ўся класічная філасофія, у XX стагоддзі відавочна

збанкрутавала. Разам з тым, пакуль чалавек будзе адчуваць вусціш Быцця, ён будзе «філасафаваць». А значыць, каб паспрабаваць пераадолець сістэмны крызіс акадэмічнай філасофіі, ёй найперш неабходна выдаліць са свайго цела атруту «новай схаластыкі», якая ўжо даўно яго татальна запаланіла, і мадэрнізаваць свае стратэгіі пад метафізічныя праблемы, актуальныя для сучаснага чалавека. Зрэшты, гэта лёгка дэклараваць, але як прарабіць такое насамрэч?..

Дарэчы, студэнты Беларускага калегіума не пытаюцца ў мяне: «Навошта нам вывучаць філасофію?» – бо я з імі яе і не вывучаю, мы проста разам спрабуем мысліць метафізічна істотныя для нас праблемы.

**Т.Ш.**: *Пасля знаёмства з вашымі філасофскімі эсэ і лекцыямі (я маю на ўвазе дзве кнігі: «Разбурыць Парыж» і «Код адсутнасці») складваецца інтрыгуючы вобраз «двайнога агента». Вы з аднолькавай упэўненасцю і захопленасцю прэзентуеце два не проста розныя, але менавіта канфліктуючыя дыскурсы: анталагічна-экзістэнцыйны і постмадэрны. Першы разгортваецца вамі стасоўна асобнага індывіда (Кіркегар) і лёсу Беларусі (матыў быційнай паклікананасці, Гайдэгер), другі – прынцыпова новай канцэптуалізацыі сучаснай Беларусі (Беларусь як дыскурс). Быць двайным агентам – справа рызыкоўная. Падобны тэарэтычны сінтэз робіць вашую пазіцыю хісткай. І ўсё ж вы трымаецеся яе. У чым тут рэзон?*

**В.А.**: Як у такіх выпадках звычайна кажуць – дзякуй за пытанне! Яно сапраўды надзвычай істотнае для мяне, паколькі я ўжо даўно спрабую зразумець амбівалентнасць той сітуацыі, у якой апынуўся нечакана для самога сябе. Хаця калі (таму ўжо шмат год) я раптам заўважыў, што з'яўляюся «двайным агентам» (анталагічнага і постмадэрнага дыскурсаў), дык хоць і адчуў пэўную няўтульнасць, але моцна гэтым не пераняўся. Тэорыя постмадэрну дапамагла мне адэкватна зразумець наяўную рэальнасць, бо пакуль яна заставалася схопленай логацэнтрычнымі ідэалагемамі, дык кожная яе аналітыка разгорталася ў перспектыве не таго, дык іншага вялікага Сімулякра (найперш бацькі ўсіх сімулякраў – Бога). Дарэчы, многія і па сёння аблудна лічаць, што постмадэрн – гэта нейкая (і пачварная) ідэалогія. Але постмадэрн – гэта не ідэалогія (хай сабе і ідэалогія *без ідэалогіі*). Постмадэрн – гэта ўсяго толькі *дыягназ*, у якім тэарэтыкамі, што былі названыя постмадэрністамі, канстатавалася «смерць ідэалогій». Усяго толькі. І ўжо іншая рэч, што паколькі ва ўсе ранейшыя часы чалавек знаходзіў сябе ў *перспектыве* нейкай Вялікай Ідэалагемы, а цяпер раптам апынуўся ў сітуацыі татальнай «бесперспектыўнасці», дык аўтараў гэтага дыягназу абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах...

Асабіста для мяне, як метафізіка паводле ўсёй сваёй інтэлігібельнай канстытуцыі, «светлая ява» постмадэрну таксама выявілася скрай

драматычнай, паколькі яна адмовіла ў праве на існаванне не толькі рэлігійным, палітычным ды сацыяльным ідэалагемам, разам з імі яна скінула ў архіў сімулякраў фундаментальную анталогію з метафізікай, якія былі арганізаваныя па агульным для ўсіх ідэалагемных наратываў прынцыпе.

Натуральна, тое, што ў Сусветнай бібліятэцы ўся вялікая еўрапейская філасофія раптам апынулася ў сектары «Інтэлектуальныя фэнтэзі мінуўшчыны», мяне моцна засмуціла. Да таго ж з самых розных падставаў. І таму, што гэта аблуда – ацэньваць ды інтэрпрэтаваць метафізічную спадчыну ў фармаце візіі сучаснай сацыяльна-культурнай рэальнасці, і таму, што гэта было зроблена залішне паспешліва ды безадказна стасоўна вялікіх мысляроў былога, але бадай яшчэ болей таму, што мая прыватная «метафізічная кар'ера» ў постмадэрнай рэальнасці губляла хоць якую ўцямную перспектыву. Паколькі інтэлектуальна я перадусім ды найперш заангажаваны *класічнай* метафізікай адсутнасці, дык разгортваць далей аналітыку анталагічнага Нішто ў сітуацыі, калі постмадэрновы светагляд апазнае гэтае Нішто ў шэрагу адно логацэнтрычных сімулякраў, выглядала не толькі глупа, але і шызафрэнічна. Аднак я пакуль не спяшаюся адмаўляць адно дзеля другога, можа, яшчэ і таму, што паводле ўсходняга гараскопа вызнаюся блізнюком і з гэтага пэўная амбівалентнасць мусібыць закладзеная ў самы под маёй перса-

нальнай канстытуцыі. Зрэшты, гэта так, нешта накшталт жарту. Хаця і насамрэч я цяпер працую над кнігай з умоўнай назвай «Нішто, альбо Праклён Парменіда»*. Першыя тры часткі ўжо нават зробленыя. Пачынаецца яна з аналізу праблемы Нішто ў антычнай філасофіі, затым гэтая тэма аналізуецца ў візіях Гайдэгера («Чым ёсць метафізіка?») і Сартра («Быццё і Нішто»). А наступная, чацвёртая частка, якая пакуль яшчэ прадумваецца, мае назву «Праблема Нішто ў дыскурсе Постмадэрну». Вось тут і сутыкнуцца ў самай жорсткай варажнечы дзве асноўныя складовыя майго інтэлектуальнага модусу. Мне пакуль нічога не вядома, што з гэтага сутыкнення атрымаецца і што там пераможа. Разам з тым я наперад не выключаў бы, што, магчыма, якраз постмадэрн, які адмаўляе базаваму анталагічнаму канцэпту «Быццё» ў сапраўднасці, хавае недзе ў сваіх спратах іншыя ад ранейшых магчымасці дзеля ўразумення сутвы Нішто (пэўна, тады гэта ўжо будзе нішто з малой літары).

**Т.Ш.**: *Пры ўсёй пераемнасці паміж вашымі вышэй згаданымі кнігамі, ёсць тут і выразны разрыў, звязаны з адным з самых цікавых і моцных тэзісаў «Кода адсутнасці», які закладвае новую пазітыўную праграму беларускага грамадства. Я маю на ўвазе сцверджанне аб тым, што* ***сацыяльныя***

* Выйшла ў 2012 годзе пад назвай «Кніга пра Нішто».

***каштоўнасці мусяць быць сакралізаванымі**. Вы супраць жорсткага супрацьпастаўлення «сацыяльнага» і «нацыянальна-культурнага» і прэзентуеце прынцыпова новую перспектыву. У кнізе гэты тэзіс застаецца на ўзроўні дэкларацыі. Ці не маглі б вы цяпер пракаментаваць яго больш падрабязна?*

**В.А.**: Спачатку паспрабуем зразумець, што беларусы – «*не-культурная*» нацыя. Толькі не спяшайцеся мяне абвінавачваць у нацыянальным нігілізме. Так склалася, што пад культурай мы найперш разумеем не сацыяльны досвед упарадкавання ладу жыцця, а яго, як казалі марксісты, «надбудову»: архітэктуру, тэатры, музеі, літаратурныя ды філасофскія тэксты, музыку, жывапіс і да г. д. і да т. п. Усё яно ўзятае разам і фармуе адмысловую канфігурацыю культурнага канона пэўнага народа, які ў пару паўставання нацыяў становіцца адным з базавых аргументаў на карысць гэтага паўставання...

Гістарычны лёс беларусаў вымудрыў так, што калі і ім наспела чарга афармляцца ў нацыю, яны свайго культурнага канона лічы не мелі. Ці не найлепш гэта засведчыў Янка Купала ў вершы «Я не паэта»: *А беларусы нікога не маюць, // Няхай жа хоць будзе Янка Купала.*

Даўным-даўно прамінулі залатыя часы ВКЛ, не кажучы ўжо пра асновапалеглую для нашага народа пару Полацкага княства. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай усе патэнцыйна беларускія эліты пакрысе разбрыліся па паноўных у гэтым

рэгіёне цэнтрах улады, а беларусам застаўся толькі канон традыцыйнай культуры, якім жыла вёска. Таму ідэолагі беларускай нацыі не мелі на што яшчэ абаперціся, акрамя як на тое, што ёсць. Але рэч у тым, што традыцыйная культура (пры ўсім нашым інтэлігенцкім сантыменце да яе) палітычна і сацыяльна не інструментальная як да эпохі нацыяналізму, які тэхналагічна фармуецца зусім іншым інструментарыем (інтэлектуалізацыя, капіталізацыя, індустрыялізацыя, урбанізацыя і г. д). Да таго ж і сама беларуская вёска не лічыла сваю культуру (традыцыйную) за каштоўнасць – хутчэй наадварот, бо яна толькі замінала беларусу праставаць да нармальнага чалавечага жыцця. Калі мы паглядзім на першыя беларускія партыі той пары, дык убачым, што яны адно дэкларавалі сябе як нацыянальныя (беларускія), а па сутнасці былі сацыял-дэмакратычнымі. І палітычна гэта было слушна, бо беларусы прагнулі не беларусамі, а «людзьмі звацца» (Я. Купала).

Карацей кажучы, у адсутнасці мадэрновага культурнага канона, унітарнай рэлігіі, нацыянальна сфармаванай буржуазіі, беларускага горада і да т. п. паспалітым беларусам у гэтую рэфармацыйную пару за каштоўнасць заставалася голая сацыяльнасць як адзіна рэальная мера колькасці і якасці жыцця. З гэтага і «бальшавізацыю» («кто был ничем – тот станет всем») яны сустрэлі як уласную мару, прынамсі па першым часе.

Зрэшты, як па вялікім рахунку, дык «голая сацыяльнасць» дамінавала сярод беларусаў і ў папярэднія эпохі. Бясконцыя акупацыі (не злічыць), рэлігійныя ды канфесійныя рэінкарнацыі (паганцы, праваслаўныя, каталікі, уніяты, пратэстанты – кім толькі ні перабыў чалавек на гэтай зямлі), канцэптуальныя геапалітычныя перарухі (Полацкае княства, ВКЛ, Рэч Паспалітая, Расійская імперыя, БНР, БССР, СССР, Рэспубліка Беларусь) – усё гэта і шмат што іншае не дазваляла настала ўнармавацца ў каштоўнасны канон хоць якім універсальным канцэптам. Таму праз розныя часы ды эпохі адзінай несумненнай каштоўнасцю для нашага чалавека заставалася само жыццё, незалежна ад таго, у якія рэлігійныя, палітычныя ці культурныя фарматы яно было запакаванае. З гэтага і ўмельства беларусаў выжываць уражвае. Нягледзячы на «крывавыя патопы», якія перманентна абрыньваліся на нашыя землі і кожны раз усчынялі бяду апакаліптычнага вымеру, беларусы не зніклі (што выглядала б цалкам лагічна), засталіся і, як я пісаў у адным са сваіх лірычных эсэ, – «лашчаць сябе сонейкам трэцяга тысячагоддзя». Але каб у такой праз стагоддзі сітуацыі не знікнуць, застацца, трэба было выпрацаваць дасканалыя механізмы сацыяльнай адаптацыі стасоўна ўвесь час зменлівых знешніх варункаў. Тут не да месца аналізаваць іх сутнасці ды формы, таму дзеля лаканічнасці спашлемся хаця б на прынцыповую для беларусаў метафару *партызана* як

чалавека, які ўвесь час хаваецца калі не ў лесе, дык у самім сабе. З гэтага і шэранькая хатка, і самаатэстацыя «я мужык, дурны мужык», і занядбаны падворак як вітрына гаротнай долі чалавека, з якога чарговай паноўнай навалачы няма чым пабрацца.

Разумею, з гледзішча перспектывы гераічнага міфа, які выштукоўвае сабе кожная нацыя, базавыя каштоўнасці беларусаў у маёй інтэрпрэтацыі выглядаюць не лішне самавіта. Але гэта залежыць ад той оптыкі, якой вы ахопліваеце ўвесь прасцяг бытнага. Гайдэгер сцвярджаў, што чалавек – гэта пастух ісціны Быцця. Калі я ўглядаюся ў рэтраспектыву *адвечнага беларускага шляху* (І. Абдзіраловіч), дык пачынаю здагадвацца, што ўвесь гэты час беларусы не кароў ды авечак пасвілі – яны пасвілі Быццё.

...Але калі я, бывае, кажу пра *сакралізацыю сацыяльнага* як падставовую каштоўнасць беларусаў, дык маю на ўвазе не гераізацыю іх анталагічнага кону, а легітымізацыю фантастычнага ўмельства ўпраўляцца з жыццём (сацыяльным парадкам) так, каб яно не выслізгвала з-пад ног нават тады, калі гісторыя рэальнасці пачынае крышыцца на кавалкі, як лёд на рацэ падчас крыгалому. А яшчэ і таму, што, па вялікім рахунку, болей нам і няма чаго сакралізаваць.

Шчыра кажучы, я не ведаю, як сакралізацыю сацыяльнага можна залатвіць інструментальна. Аднак упэўнены, што ў аснову фармавання беларускай нацыі мусібыць пакладзеная менавіта

сама сацыяльнасць, інакш кажучы – здольнасць беларусаў упарадкоўваць (кананізаваць) сацыяльнасць як справу ўласнага кону, а ўжо на гэтым подзе напрацоўваць культурныя каноны: фундаментальны (уласна беларускі), інтэгральны (беларуска-расейскі ці наадварот), універсальны (з перспектывы глабалізацыі), субкультурны (крэвы, ліцвіны, русіны...). А ў палітычным плане ўся гэтая канструкцыя ладна ўнармоўваецца ў даўно і добра вядомую канцэпцыю «грамадзянскай нацыі». Ёсць Дзяржава, ёсць яе межы, ёсць агульны для ўсіх грамадзянаў Закон – і жыві сабе, як табе больш утульна: ці то вандруючы паміж культурнымі канонамі, ці настала атабарыўшыся ў адным з іх.

Праўда, усе мы цудоўна разумеем, што насамрэч канфігурацыя нашай палітычна-культурнай рэальнасці яшчэ доўга будзе надзвычай пакручастай ды канфліктнай. Згадаем хаця б праблему беларускай мовы, якой сёння не лішне шмат хто карыстаецца, аднак якая, як праблема, яшчэ не аднойчы канфліктна заактуалізуецца. Але, паўтаруся, не трэба блытаць шматлікія праблемы «надбудовы» з тымі падвалінамі, якія *самім жыццём* ужо пакладзеныя ў аснову беларускай нацыі.

## Марк Шагал

Дзве першыя асноведзі, на якіх палягае бытнае-для-нас, мы наймуем *прасторай* і *чалавекам*. Аднак ні прастора ўвогуле, як дыскурс вершнасці бытнага, ні чалавек агулам, як месца апазнання часавага вымярэння быцця, самі з сябе не вытлумачаюць ні феномена прасторы, ні феномена часу. І, пэўна, найперш таму, што ўніверсальная прастора – гэта ўсяго толькі ідэя прасторы, а ўніверсальны час – гэта ўсяго толькі ідэя часу, і яны з прычыны ўласнай прычыны не прыдатныя нешта казаць як пра значэнні кожнай з множнасці лакальных прастораў, так і кожнага з множнасці лакальных часаў.

Але калі наяўнасць лакальнага (у тым ліку і персанальнага) часу ўжо досыць уважліва прааналізаваная ў філасафеме тэмпаральнасці (тэмпаральнасць – час усялякай лакальнай падзеі, не тоесны ўніверсальнаму часу), дык феномен лакальнай прасторы застаецца ўсё яшчэ рэфлексійна не распазнаным.

Асабліва гэтае цверджанне пасуе да той прасторы, якую мы адольваем паймом «Беларусь». Не абазнаная ў практыках логацэнтрычнага

мыслення, не кажучы пра практыкі мыслення дыскурсіўнага, Беларусь застаецца, з аднаго боку, у вымярэннях каардынатаў мясцовага ландшафту, а з другога – каардынатаў трансцэндэнтнага (калі трансцэндэнтнае ўвогуле можа мець вымярэнне, тым болей – каардынаты). Адсюль вынікае, што аніякая падзея быцця на абсягах Беларусі не станецца абазнанай у значэннях беларускай прасторы да той пары, пакуль прастора ў кожнай сваёй лакальнасці не абазнаецца сама, як нейкі дэтэрмінаваны сэнс. З гэтага ўсялякая тапаграфічная падзея ў нас або пакладаецца ў чарговую столку інтэлігібельнага ландшафту, або фальсіфікуецца сакралізаваным трансцэндэнтным. Гэтая сітуацыя стасуецца і з такой падзеяй, як Марк Шагал. Да таго ж праблема з абазнаннем Шагала ўскладняецца яшчэ і тым, што ён сам ніколі не ідэнтыфікаваў сябе з *беларускай* прасторай. Не толькі культуралагічна, але і геаграфічна Шагал таясаміў сябе з Расіяй, і там, у Расіі, яго і трэба было б пакінуць, каб не было Віцебска, дакладней, каб ландшафт Віцебска ў нашу пару не задэкляраваў сваёй прыналежнасці да топасу Беларусі...

Між іншым, множныя дэкларацыі адданай любові да Віцебска дадатна абцяжарылі пытанне каталагізацыі Шагала (этнічна – габрэй, палітычна – расіец, эстэтычна – еўрапеец, духоўна – касмапаліт). Затое непадманная сувязь Шагала з Віцебскам (праўда, месцамі залішне экзальтаваная ў рытарычных фігурах кшталту: «Парыж –

другі Віцебск») дае нам магчымасць прамаркіраваць цалкам легітымны шлях Шагала ў беларускі кантэкст...

Так, Шагал не заўважыў у тапаграфіі Віцебска прагі Беларусі да апрычонага лёсу, ён назаўсёды застаўся ў Віцебску абшарнікам Вялікай Расіі, і, натуральна, яму не да галавы было, што здарыцца пара, калі яго персанальная гісторыя зрэфлексуецца з нейкай там *Беларусяй* і што паступова «беларускі фактар» зробіцца раўналежным сярод іншых у феномене Шагала, а ў пэўным кантэксце і папярэднім стасоўна астатніх, паколькі менавіта беларуская прастора адамкнула Шагалу экзістэнцыйнае месца ў быцці. Болей за тое, калі экзістэнцыйнасць разглядаць не толькі ў праекцыі тэмпаральнага часу, але і ў праекцыі персанальнай прасторы, то мы можам паспрабаваць апазнаць габрэя Шагала і як беларуса, зразумеўшы яго «падвоенае грамадзянства» як цалкам легітымнае.

Дарэчы, якраз з гэтай падвоенасці і вынікае тая амбівалентнасць сітуацыі, якая найперш паўстае ў кожнай спробе каталагізацыі Шагала: яму будзе аднолькава няўтульна як у каталогу не-беларускіх мастакоў, так і ў каталогу мастакоў беларускіх. У першым выпадку Шагал апынецца за контурам Беларусі, а значыць ягоная фігура будзе пазбаўленая топасу персанальнай гісторыі. У адваротнай сітуацыі (Шагал – беларускі мастак) ён згубіць сваё месца ва ўласным тэмпаральным часе, бо этнас (і з гэтага – сутва этнічнай

належнасці) фармуецца ў часе, і толькі там палягаюць каардынаты ягонага вымярэння.

У адрозненне ад уласна беларусаў, для кожнага з якіх у гэтым топасе час і прастора заўсёды былі тэмпаральна сінанімічнымі, габрэі жылі тут са сваім, не адпаведным нашаму (а значыць і нашай прасторы) этнічным часам. І рэч не столькі ў натуральнай расавай розніцы, колькі ў тым, што *этнічная* гісторыя габрэяў распачалася на некалькі тысячагоддзяў раней нашай і за гэты прамежак назапасіла ў сваім руху тую кінетычную энергію, якой тады яшчэ не меў беларускі час і на якую пакуль не была разлічаная беларуская прастора.

«Я дрэва... вырванае з карэннем...» – казаў Шагал пасля Віцебска. Трохі ніжэй мы вернемся да карэктнасці гэтай метафары, а пакуль звернем увагу на іншае: Шагал усведамляў сваю вырванасць «з карэннем», але не ведаў, як веду, *што* яго вырвала. А між тым уся *віцебская* творчасць Шагала дэманструе, як гэтае *што* выкручвае, выцягвае, выломвае яго з угрунтаванасці ў мясцовы ландшафт. На тагачасных Шагалавых маляванках нават тое, што ад веку трывала ўгрунтаванае ў нерухомасць спрадвечнага ладу, здэфармаванае так, як быццам яно разгойдваецца, каб выкарчаваць сваю закаранёнасць у тутэйшасць і падняцца над ёй, узляцець... Куды? Ды ўжо ж напэўна ў тыя эмпірэі, прастора якіх супадала б з тым тэмпаральна-экзістэнцыйным часам, якім быў напяты Шагал.

Урэшце Шагал разгайдаў трымалішча і вырваў сябе з віцебскай рызомы, але ўсюды там, дзе яму потым выпадзе прыпыняцца, яго ўжо нішто не будзе трымаць як свайго.

Настальгія Шагала па Віцебску – гэта настальгія па месцы, якое мае цябе як частку ўласнага зместу; таму, вымыкаючы сябе «з карэннем», ты вымыкаеш сябе з сябе, нават калі робіш гэта дзеля таго, каб пазбавіцца нятоеснай твайму ўласнаму часу навакольнай прасторы...

(І тады прастора латае гэтую адсутнасць тваім сумам па *сваім* месцы на зямлі...)

А цяпер вернемся да карэктнасці параўнання габрэя з дрэвам. Са сваёй *толькі* габрэйскай сутвы Шагал аніяк не мог быць «дрэвам», тым болей «дрэвам», якое непадробна сумуе па месцы сваёй укаранёнасці. Але чаму тады да канца жыцця «дрэва» застанецца ўлюбёнай метафарай Шагала?

«Бачыш дрэва і думаеш: а наша дрэва іншае, неба іншае, усё не тое, і з гадамі ўсё больш і больш адчуваеш, што сам ты «дрэва», якому патрэбная свая зямля, свой дождж, саё паветра...» (1936 г.). «Глеба, якая наталяла карані майго мастацтва, – гэта горад Віцебск, але маладому жывапісцу патрэбен быў Парыж, як дрэву патрэбна вада, каб яно не засохла» (1950 г.). «Як дрэва з Радзімы, вырванае з карэннем, я быццам вісеў у паветры. Але ўсё ж такі жыў і рос» (1973 г.).

Нават з пазбаўленых кантэксту цытатаў відавочніцца, што ў Шагала гэтае «дрэва» зусім

не нейкае там дрэва-абстракцыя, а жывое дрэва з рэальнага ландшафту, як і ў сантыментах кожнага беларуса на чужыне. Інакш кажучы, у стасунках з персанальнай (лакальнай) прасторай Шагал да апошніх сваіх дзён заставаўся «беларускім» эмігрантам...

Аднак ён не быў ім тэмпаральна. Яшчэ раз звернем увагу на словы: «Як дрэва з Радзімы, вырванае з карэннем, я быццам вісеў у паветры. Але ўсё ж такі жыў і рос». Для пераважна прасторавага (а не тэмпаральнага) мыслення ўласна беларуса, які ўсім сваім конам укаранёны менавіта ў гэтую зямлю, немагчымая метафара вырванага і павіслага ў абстракцыі дрэва, якое, да таго ж, яшчэ ў тым віртуальным «недзе» расце і квітнее. Для беларусаў дрэвы не лётаюць, а тым болей – не растуць у паветры. (Вядомая паказка распавядае, што адзін паважны расейскі, у другім варыянце – беларускі чыноўнік з'едліва прамовіў з нагоды выставы карцінаў Шагала: «Евреи, да еще летают». Ад сябе, нават з пэўнай зайздрасцю, заўважу: габрэй, які не лётае, – гэта не зусім габрэй.)

Шагал – вялікі мастак, але мы не дамо веры Шагалу – ён не быў *дрэвам*. Шагал не мог быць дрэвам ужо адно таму, што ён не баяўся вышыні. (Дрэва баіцца вышыні, якая большая за яго.) А Шагал увесь быў над сабой, ён не толькі летуценіў, а фізічна, *увесь*, лётаў, лунаў, кружляў...

Чаму Шагал не баяўся вышыні (беларус і ў казцы на неба лезе па драбінах)? Вышыні не

баіцца той, у каго хуткасць руху (кінетычная энергія тэмпаральнага часу) пераадолела цяжар цела (цяжар уласнай – персанальнай – прасторы). Але гэта яшчэ не ўсё, сюды далучым і наступнае: «Усе шляхі небяспечныя для нас, акрамя шляху, які вядзе на неба»*. Габрэйскі народ, гнаны да апошняга з бацькаўшчыны, абраў за Айчыну нябёсы. Ён, згарнуўшы прастору свайго бытавання да памераў тэксту пісанай Торы, толькі нагамі кранаўся зямлі (усюды яму чужой), а насамрэч жыў над дахамі і вяршалінамі дрэваў, там, дзе лётаюць птушкі і анёлы – і яшчэ вышэй. Зрэшты, усё гэта добра відаць на малюнках Шагала, якія тапаграфічна дакладна пазначаюць геаграфію краіны ягоных супляменнікаў.

Але ўсё ж такі гэта былі людзі, а не анёлы, яны маглі жыць над *нечым* і не маглі ў *нічым*; і як ні шчылілі сябе ў вертыкальны прамень часу, цяжар цялеснасці раскатваў іх па гарызанталі зямной прасторы; і як яны ні ўціскалі гісторыю свайго штодзённага бытавання паміж літараў Торы, яна чаплялася, заблытвалася, гублялася ў хмызах, на гразкіх сцежках, сярод пясчаных выспаў і неўпрыкмет прарастала пакручастымі лёсамі на абшарах гісторыі беларускага краю...

Потым у памкненні да іншых прастораў гэтыя лёсы даводзілася выдзіраць адсюль, атрахаючы зямлю з карэнняў. Пясок атрахаўся, а зямля заставалася, трымала...

* Пётра Абеляр. «Дыялог паміж філосафам, габрэем і хрысціянінам».

«Як я зайздрошчу ўсім Вам. Вы маглі быць на яго пахаванні, ісці па *нашай зямлі* (курсіў тут і далей мой – *В.А.*) за яго труною, і паветра неба, таго самага неба, якое я так часта намагаўся аднавіць на сваіх карцінах, абдымала б вас. Чаму гэтае паветра не далятае да мяне сюды, у задушлівую прастору? Чаму лёс падзяліў мяне на дзве часткі – *цела тут* – *душа там*?» (ліст у менскую газету «Октябрь», з прычыны смерці Іегуды Пэна, 1973 г.)

Гэтым у высокім сэнсе меладраматычным эпізодам, бадай, можна было б і скончыць эсэ. Але апошняя цытата патрабуе каментару.

...Не, душа Шагала не засталася тут, на Беларусі (душа ў чалавека заўсёды з сабой), а *цела*, якое беларуская прастора вытварыла як яшчэ адну з безлічы праяваў уласнай жыццядайнасці, і таму ўжо нідзе і ніколі гэтае *цела* не магло быць нічым іншым, акрамя як спараджэннем тутэйшай зямлі.

# Апокалипсис, которого не было*

Слишком много скорби накопилось в нашем мире, чтобы хоть какая из них могла заслонить все остальные. Даже если это очень большая скорбь...

Наверное, в подобной патетической тональности я стал бы писать эссе о 25-летнем юбилее Чернобыля, если бы меня в этой трагедии не тревожила проблема, которая эту трагедию как бы даже ставит под вопрос. Нет, сама трагедия, естественно, не отменяется. Погибли люди, сделались непригодными для жизни человека поля и леса, были во множестве выселены из своих деревень и поселков их обитатели, незримая угроза пронзила всю ткань нашего существования,

* Тэкст быў напісаны на замову адной швейцарскай інстытуцыі, якая рыхтавала зборнік, прысвечаны 25-годдзю Чарнобыльскай катастрофы. Паколькі замоўцы не мелі перакладчыкаў з беларускай мовы на нямецкую, дык я, паводле іх просьбы, паспрабаваў напісаць эсэ па-руску. Праўда, пазней ён быў перакладзены на беларускую мову і надрукаваны ў часопісе «pARTisan», але мне чамусьці (сам не ведаю чаму) моцна закарцела пакінуць яго на мове арыгіналу.

и даже многие идеи покрылись чем-то вроде раковых опухолей. Вследствие чего некоторое время после катастрофы мы даже немного чувствовали себя пионерами Апокалипсиса, которым выпала честь присутствовать при начале его свершения. Соответственно событию, чувства наши полнились страхом, растерянностью и печалью. Лично для меня пиком эмоционального стресса был слух (сколько их тогда роилось всяких!) о том, что разрабатывается план перемещения всех 10 миллионов жителей Беларуси и компактного заселения ими Сибири. Тогда я впервые понял, как сильно люблю *эту* свою страну, – и заплакал...

То, наполненное мистическим ужасом, время и сформировало апокалиптическую перспективу нашего будущего. И в модальности этой перспективы позже будет написано множество статей, книг, научных и квазинаучных работ. Даже через двадцать четыре года, возвращаясь в те времена, известный белорусский писатель Борис Петрович в эссе «Ничей Чернобыль» прежде всего вспомнит именно вселенский страх перед призраком в радиационной плоти: «Ужас носился в тот день над Гомелем, над Полесьем, над всей землей, и я, не зная, что и где случилось, не подозревая даже, что где-то что-то случилось, чувствовал это. Как, думаю, сотни и тысячи других людей чувствовали в тот момент тревогу, которая появилась ниоткуда, тревогу, от которой болело сердце, печаль неизвестно о чем и о ком...

И хотелось охватить голову, закрыть уши и глаза, спрятаться куда-то в яму, нору, щель, съежиться и замереть или – бежать, бежать, бежать...

Но – куда бежать, зачем?..»

Безусловно, самым значительным произведением об этой катастрофе является книга Светланы Алексиевич «Чернобыльская молитва», в которой собраны свидетельства жертв трагедии. Именно Светлана Алексиевич окончательно узаконила апокалиптическое видение этого события: «Я – свидетель Чернобыля... Самого главного события двадцатого века, несмотря на страшные войны и революции, которыми будет памятен этот век... Я смотрю на Чернобыль как на начало новой истории, он не только знание, но и предзнание, потому что человек вступил в спор с прежними представлениями о себе и о мире. Когда мы говорим о прошлом или о будущем, то вкладываем в эти слова свои представления о времени, но Чернобыль – это прежде всего катастрофа времени. Радионуклиды, разбросанные по нашей земле, будут жить пятьдесят, сто, двести тысяч лет...»

Один из белорусских интеллектуалов Юрий Шевцов в книге «Объединенная нация. Феномен Беларуси» хотя и уступает Светлане Алексиевич в глобальности метафор, но полностью разделяет ее пафос: «Главным последствием происшедшей почти 20 лет назад катастрофы можно счесть, очевидно, появление живой Чернобыльской

культуры и целого социума чернобыльцев. Этот социум обладает собственным потенциалом влияния на европейскую и глобальную культуру и собственной субъектностью. В некотором смысле все белорусы стали Чернобыльцами. Можно говорить о трансформации всей постсоветской белорусской культуры в чернобыльскую и даже о растворении белорусской культуры в чернобыльской культуре».

Пожалуй, даже этих примеров достаточно, чтобы убедиться, что апокалиптический тренд Чернобыля безальтернативно завладел символическим пространством белорусской гуманистики. И нет сомнения, что трагический юбилей, который будет отмечен фейерверком различных материалов в СМИ, только укрепит его. Но вряд ли кто обратит внимание, что это будет всего лишь фейерверк, пусть себе и в мрачных тонах. И, как о всяком фейерверке, о нем назавтра забудут – до следующего юбилея.

* * *

Светлана Алексиевич охарактеризовала свою книгу как «хронику будущего». В отличие от нее, я не вижу Чернобыля в будущем, сколь бы долго ни преследовали человека злые радионуклиды, разбросанные ветром по разным странам и континентам. Дело в том, что катастрофы по определению не имеют будущего – они, как и всякий взрыв, полностью исчерпывают себя в своей

непосредственной событийности. Поэтому завтра будут совсем иные катастрофы, даже если в их причине окажутся АЭС. Вот почему в разговоре о Чернобыле мы *a priori* всегда и только говорим о прошлом. А когда в ретроспективе Чернобыля касаемся настоящего или будущего, то, несмотря на саму ретроспективу, речь, уж наверное, идет о чем-то совсем ином, а не о самой катастрофе.

Прошло несколько лет. Ужасный реактор упрятали в громоздкий саркофаг, огородили предупредительными знаками и патрульными службами критически заряженную зону, кое-как обустроили быт переселенцев из опасных для жизни территорий, и о Чернобыле мы начали забывать, да так стремительно, что едва успевали вспомнить, а что мы, собственно, забываем? К настоящему времени белорусы, пожалуй, о нем и вовсе запамятовали б, если бы каждое 26 апреля все СМИ ритуально не возвращали нас к 1986 году.

Впрочем, здесь я, пожалуй, излишне упростил ситуацию. Все эти годы о Чернобыле нам перманентно напоминали еще два события. Первое – это массовое оздоровление за границей детей из заряженных территорий, которое продолжается до настоящего времени и в силу своей массовости многим напоминает о былой трагедии. А второе – «Чарнобыльскі шлях». В 1989 году национал-демократическое движение организовало в Минске мощную манифестацию

против коммунистической власти, которая прятала от общества реальные масштабы и последствия Чернобыльской аварии. С той поры каждый год 26 апреля белорусская оппозиция устраивает шествие, за которым закрепилось изначальное название. Но вот что интересно: хотя формально эта акция посвящена трагедии Чернобыля, однако по существу она всегда была политической – начавшись как протест против московской коммунистической власти, она продолжилась как протест против авторитаризма первого белорусского Президента. Пожалуй, именно «Чарнобыльскі шлях» наиболее наглядно продемонстрировал реальные приоритеты нашего общества. Как бы актуальна и даже драматична ни была атомная апокалиптика конца 80-х и начала 90-х, но уже тогда она выступала лишь одним из аргументов в пользу радикальной трансформации коммунистической империи и превращения БССР в независимое государство Беларусь.

Как раз после одного из таких уличных шествий я впервые и подумал: а при чем здесь собственно Чернобыль? Пытаясь осмыслить этот вопрос, я вдруг открыл нечто неожиданное для себя. А именно, что Чернобыль в самом деле не при чем относительно всего того, что нас *актуально* волнует и тревожит. Естественно, его последствия оставались проблемой для тех, кого катастрофа затронула непосредственно. Но эта беда отдельных людей не стала нашим нацио-

нальным горем. Более того, продолжая размышлять над этой странностью, я вспомнил, что за последние лет десять в приватных разговорах с друзьями, родственниками и приятелями, которых у меня не счесть среди самых разных социальных слоев нашего общества, *мы ни разу* ни с кем не говорили о Чернобыле. Точно так же я не могу вспомнить, чтобы кто-то из близких мне философов, литераторов, художников в эти годы хоть однажды обратился к «чернобыльской проблематике».

Это *прозрение* меня невероятно смутило. Но как же так! Самая крупная техногенная катастрофа в истории человечества... Каждый пятый белорус живет на заряженной земле... Выселено 485 деревень и поселков... Из севооборота выведено 264 тыс. гектаров земли... И никого все это, кроме лично пострадавших (да еще ответственных чиновников), не волнует.

Тогда я начал лихорадочно спрашивать друзей и родственников, приятелей и сослуживцев: почему мы никогда (разве что случайно и вскользь) не говорим о Чернобыле? Мы бесконечно обсуждаем нашего Президента, не устаем волноваться за судьбу страны, беспокоимся о глобальных климатических изменениях, скорбим о девальвации традиционных этических ценностей... Да о чем только мы ни говорим, спорим, печалимся – но только не о Чернобыле. Или, если уж не так категорически, о Чернобыле едва ли не в последнюю очередь.

– Почему так? – не уставал спрашивать я.

Ответом мне обычно было недоумение, но оно относилось вовсе не к сути вопроса, а к моему неуместному вопрошанию. Мол, о чем здесь говорить: людей отселили, зону огородили, саркофаг обустроили...

* * *

Этот, не слишком внятно артикулируемый, ответ в общем-то должен был меня удовлетворить, поскольку я и сам, пока не задался *неуместным* вопросом, не чувствовал внутренней необходимости вспоминать Чернобыль. Но дело в том, что, спрашивая, я хотел услышать не констатацию факта, с которого и возникло мое вопрошание, а объяснение нашего невнимания к чернобыльской проблеме. Ведь от того, что «отселили... огородили... обустроили», не исчезли ни сам факт техногенной катастрофы, ни повышенная радиоактивность многих территорий Беларуси, ни проблемы рекультивации выведенных из севооборота пахотных земель, ни постоянная угроза здоровью каждого белоруса... Короче говоря, внятного ответа на свой вопрос я не услышал и поэтому сам попробую на него ответить.

Прежде всего отмечу, что Чернобыльская катастрофа ни по каким параметрам (кроме собственно техногенных) не была самой значительной для нашей земли. Правда, не однажды приходилось слышать, что не следует смешивать катастрофы с теми бедами, которые приносили

белорусам войны, оккупации, политические репрессии. В теоретическом плане я согласен с этим утверждением, но что значит для обыденного сознания теория, когда перед человеком встает реальная угроза для жизни? Поэтому для белорусов Чернобыль стал просто еще одной великой бедой, несмотря на экзотичность происхождения этой беды. Как и в случае с войнами и оккупациями, нужно было тушить пожары, бросать свои дома, умирать от «холеры», оплакивать погибших, тревожиться за судьбы детей...

Сколько таких ситуаций накопила история нашей земли! Вспомним хотя бы некоторые из них и, пожалуй, начнем с «кровавого потопа» второй половины XVII в., когда после войны с Московской державой на территории Беларуси из 2 млн. 900 тысяч населения осталось всего лишь около 1 млн. 300 тысяч.

Во время Северной войны, которую Петр I вел со шведами, Беларусь потеряла каждого третьего жителя: в 1700 году было 2 млн. 247 тысяч, а в конце войны остался 1 млн. 457 тысяч человек.

Война Наполеона с Россией забрала еще миллион наших предков (каждого четвертого).

Какое количество белорусов погибло, умерло и рассеялось по свету во время Первой мировой и последующей Гражданской войны (плюс война большевиков с «белополяками»), объективно посчитать невозможно, но учитывая, что сотни тысяч белорусов воевали в Российской армии, а фронт с немцами два года проходил по нашей

земле, то человеческих жертв и разрушений было немерено. Есть у этой войны еще один впечатляющий факт. Когда российская армия отступала из Западной Беларуси, то администрацией империи было организовано массовое переселение мирных жителей. Только в 1915 году 1,5 млн. западных белорусов были вынуждены оставить свои дома и искать убежища в глубине России.

О том, что во время Второй мировой войны погиб каждый четвертый белорус (теперь уже говорят о каждом третьем), всем хорошо известно. Проиллюстрируем этот факт только одним примером. Где-то лишь через пятьдесят лет после войны Витебская область восстановила довоенный уровень населения.

Теперь давайте попробуем в этот бесконечный апокалиптический ряд встроить Чернобыль со всеми его человеческими жертвами и материальными потерями – гипотетически учитывая даже те, что готовит нам наше радиоактивное будущее. И что мы увидим? А увидим мы всего лишь еще одну беду, и при этом далеко не самую значительную из всех тех великих бед, которые пережил наш народ за последние столетия.

Наверное, было бы неправильно наделять белорусов какой-то исключительно трагической судьбой, но опыт перманентного переживания масштабных катастроф безусловно оказал влияние на нашу ментальность. Эту отличительность трудно сформулировать, однако несколько ее принципиальных характеристик попробуем выделить.

1. Поскольку причина наших катастроф всегда была не в нас самих, а привносилась извне, то мы научились их воспринимать как объективную данность. Это прежде всего означало отсутствие личной ответственности за все, что с нами происходило. Из чего следовало, что наша задача сводилась лишь к одному – предельно возможной минимизации угроз и вызовов, порожденных очередной великой бедой.

2. Поскольку внешние силы, которые становились причинами наших катастроф, всегда были неизмеримо могущественнее нас, то мы вскоре перестали сопротивляться угрозам, а только пытались, насколько это было возможно, уклоняться от них. Устойчивая метафора белорусов как «партизанского народа», который прячется от врага в лесах и болотах, происходит именно отсюда, а не из героического сопротивления врагу. Катастрофы не побеждаются – в них или погибают, или выживают.

3. Поскольку каждая катастрофа, кроме очередной великой беды, ничего иного белорусам не приносила, то наша ментальность выработала разнообразные механизмы по удалению этих катастроф из *живой* памяти как чего-то бесполезного или, скорее, даже вредного. Условно говоря, она их выносила за пределы живой жизни на *кладбище катастроф*. И хотя таким образом катастрофы не стирались из памяти вовсе, но и не присутствовали в ней как нечто, что ее организует и, соответственно, влияет на саму жизнь.

Акцентирую последнее, поскольку мне этот момент представляется невероятно существенным. То, что белорусы научились забывать (и достаточно быстро) свои катастрофы, во многом способствовало тому, что, столетиями не имея собственного государства (фундаментального института защиты), белорусы не исчезли как историческая общность, а в конце концов даже приобрели национальное содержание и политический суверенитет. Хотя, исходя из логики всех тех ужасных катастроф, которые нам уготовила судьба, у нас на это не было никаких шансов.

Естественно, само по себе умение забывать *страшное* прошлое еще не гарантировало желанное будущее. Но весь витальный смысл «забывания» был в том, что оно отвлекало внимание от смерти и концентрировало его на жизни. Без этого невозможно было бы усвоение науки адаптации к самым неприемлимым для выживания условиям и обстоятельствам, что и уберегло нас от исчезновения сначала как этноса, а затем – как нации. А умение адаптации мы никогда бы не освоили в достаточной для выживания мере, если бы сначала не научились забывать свои катастрофы.

* * *

Если человек когда-нибудь сможет приспособиться к радиации (пусть и на самом ее низовом уровне), то первым таким человеком будет не япо-

нец, а белорус. О том, что психологический этап этой адаптации мы уже прошли, свидетельствует наше *вызывающее невнимание* к Чернобылю. Пожалуй, именно этим прежде всего можно объяснить тот факт, что «порядка 50 тыс. человек за период с 26 апреля 1986 года (по 2004 год – *В.А.*) прибыли в радиоактивные зоны с чистых территорий. Преимущественно таковыми являются беженцы из зон локальных конфликтов на территории бывшего СССР. В некоторых пораженных радиацией районах доля таких беженцев разных национальностей достигает 10 % численности населения» (Ю. Шевцов).

Быстро забыв очередную катастрофу, белорусы тем самым освободили территорию смерти для новой жизни. Поэтому Чернобыльская зона и стала местом спасения для многих беженцев из тех мест, где человека в реальном времени убивают «здесь и сейчас». В книге Светланы Алексиевич женщина из Киргизии говорит: «Меня люди встречают... Удивляются... Не понимают..: Что ты, мол, делаешь со своими детьми, ты их убиваешь. Ты – самоубийца. Я не убиваю, я их спасаю. Вон в сорок лет вся седая...» Другая героиня, медсестра из Таджикистана, признается: «А мне тут не так страшно, как там».

Но в перспективе будущего еще важнее мировоззренческий опыт и свидетельства тех белорусов, которых власть так и не смогла выселить из «зоны» в безопасные места. «Ну какая, говорю им, тут радиация, когда и бабочка летает,

и шмель жужжит. И мой Васька мышей ловит», – рассказывает бабушка в «Чернобыльской молитве». Как и тех, кого силой выселили, но которые вскоре вернулись в свои дома. «Больше нас никто не обманет, никуда мы со своего места не сдвинемся. Магазина нет, больницы нет. Света нет. Сидим при керосиновой лампе и при лучине. А нам хорошо. Мы дома».

Все эти наивно-простодушные и при этом невероятно трагические свидетельства можно оценивать с самых разных точек зрения. Но для меня они прежде всего означают тот факт, что мы несомненно обустроим территорию былой катастрофы новой жизнью. А те, кто считает иначе, плохо знают историю белорусов. Мы так уже делали – и не однажды.

P.S.

Пока это эссе готовилось к печати, в Японии случилось землетрясение почти в 9 баллов, которое частично разрушило несколько энергоблоков атомной электростанции в Фукусима. Едва узнав об этом событии, я тут же подумал, что оно будто «приурочено» к мрачному юбилею Чернобыльской катастрофы. Словно какая-то высшая сила именно теперь решила напомнить человечеству о серьезности того вызова, которое оно бросило самому себе, взявшись использовать *сакральную* ядерную энергию для своих обыденных нужд. Вместе с тем вполне возможно, что в этом послании скрыто не только напоминание

об атомной угрозе, но и одобрение той настойчивости, с которой человек стремится укротить эту угрозу. Обратим внимание на то, что даже мощнейшее землетрясение вкупе с таким же цунами не смогли спровоцировать беду, в реальном измерении хотя бы отдаленно сопоставимую с Чернобылем...

Впрочем, как это ни странно прозвучит, авария в Фукусима не имеет никакого отношения к моему эссе. Во-первых, как я писал выше: «...катастрофы по определению не имеют будущего – они, как и всякий взрыв, полностью исчерпывают себя в своей непосредственной событийности. Поэтому завтра будут совсем *иные* катастрофы, даже если в их причине окажутся АЭС». А во-вторых, этот текст был вовсе не о проблемах ядерной энергетики и даже не о той беде, в которую белорусов обрушил взрыв на атомной электростанции. Своими размышлениями я хотел всего лишь прояснить, прежде всего для самого себя, почему мы так настойчиво (даже, если угодно, вызывающе) удаляем из своей памяти Чернобыль. Мой вывод о том, что этот феномен есть следствием всего трагического прошлого белорусов, возможно, и не бесспорен. Но факт нашего умения забывать свои катастрофы вряд ли кто-то сможет опровергнуть...

А дальше нам еще надо будет научиться их помнить.

## Ці ёсць Бог на Марсе?
(Палеміка з сябрам)

**Алесь Анціпенка**: ...У адрозненне ад цябе – філосафа Адсутнасці, – я сябе лічу філосафам Прысутнасці. Маё стаўленне да Бога фармулюецца вельмі проста: Бог ёсць чыстая, адвечная і татальная прысутнасць, чыстае Быццё. І таму менавіта Ён (нікога і нічога больш поўнага за Яго няма) задае максімальна магчымую прысутнасць усяго, што існуе, саму магчымасць прысутнасці. І ў гэтым парадокс! Таму што нібыта, з другога боку, Бога няма, як некаторыя кажуць... І ў самім Евангеллі можна прачытаць, што Ён жыве ў святле невымоўным. То-бок Яго немагчыма ўбачыць... Але гэтая скрайняя пазіцыя – Богам яна і задаецца – і ёсць той самай «канцавой», «апошняй» анталогіяй, якая робіць мажлівым усё. Нават існаванне Акудовіча.

**Валянцін Акудовіч**: Калі мы зыходзім з хрысціянскай візіі Бога як таго, хто ўсё можа, тады Ён можа быць не толькі ў сваёй прысутнасці, але і ў сваёй адсутнасці. Перадусім гэта ёсць найболь-

шай унікальнасцю Бога, якой і пакладзена бездань паміж Ім і чалавекам. Таму мяне Бог мала цікавіць як прысутны (я і сам прысутны, хай сабе і праз «мяне няма»). Мяне Бог цікавіць (калі цікавіць) адно ў сваёй адсутнасці: Бог як адсутнасць Бога...

**А.А.**: Ці не ёсць тут сур'ёзнай супярэчнасцю «Бог як адсутнасць Бога»? Калі Бог ёсць, як ён можа быць тым, хто ўсё адмаўляе?

**В.А.**: Адсутнасць не ёсць адмаўленнем! У вядомым нам свеце Няма, Нішто, Адсутнасць складаюць абсалютна большую ягоную частку. І перад тым, як гэты свет стварыць, Бог, напэўна, таксама месціўся недзе ў Няма. Прынамсі ладная частка хрысціянскага свету *дагматычна* верыць, што Бог стварыў свет ex nihil – з нішто. І цалкам верагодна, што толькі там яго сапраўдная Айчына (так бы мовіць, гістарычная Бацькаўшчына). Прынамсі каб я верыў у наяўнасць Бога, дык перадусім звязваў бы яго з дыскурсам Адсутнасці. Бо думаць пра Бога як толькі пра Бога дыскурсаў Ёсць – гэта выказваць Яму сур'ёзны недавер. Бог, які толькі Ёсць, – гэта няпоўны Бог. Болей за тое, гэта нават не палавінка Бога, а нейкая яго мізэрная частка.

**А.А.**: Адсутнасць – гэта насамрэч адсутнасць імя. Бог таксама забараняе – мы ведаем гэтую старазапаветную традыцыю – вымаўляць Ягонае

імя. Бог кажа: адзінае, што пра Яго можна сказаць, – што Ён ёсць. Ён кажа: «Я есмь», – так? У гэтым сэнсе Бога сапраўды няма – як рэчы. Бога сапраўды няма як імя. Бога няма як асобы. У гэтым праблема: Бога няма як Іншага! То-бок істотна адрознага ад Яго. Вось ты і блытаеш Бога з рэчамі. Фенаменальна, канешне, Бога няма. Бо Бог не ёсць фенаменальнай сутнасцю. Ён не ёсць сутнасцю ўвогуле, бо перадусім ён ёсць існаванне. У прынцыпе, выказванне пра Бога можна абмежаваць адным словам: «Ёсць!». Усе астатнія словы – гэта прэдыкаты. Гэта тое, што пачынае размываць Ягоную найвялікшую прысутнасць. Чаму паўстае такая парадаксальная сітуацыя? Я думаю, таму, што кожны з нас фактычна недапраяўлены для самога сябе. У пэўным сэнсе кожны з нас – нерэалізаваны праект. Недадуманы. Недажыты. І з усіх гэтых нашых «неда-» – недадуманасці, недасканаласці, недажытасці – канешне, Бог робіцца для нас праблематычным. Бо Ён насамрэч ёсць поўніца і існаванне ў плюсквамперфектум. То-бок ён больш чым дасканалы, калі пад дасканаласцю мець на ўвазе ўсё тое, што мы можам сабе ўявіць.

**В.А.**: У якасці рэплікі нагадаю, што ў Жака Дэрыда ёсць вельмі сімпатычная кніжыца, перакладзеная на беларускую мову Змітром Коласам. Яна называецца «Акрамя імя». Гэта тое, пра што ты казаў: у Бога ёсць усё, акрамя імя. Але не называць імя Бога кажа не столькі традыцыя,

колькі здаровы сэнс. Бо як даць імя таму, што ёсць усім, нават і тым, чаго няма?

**А.А.**: Я ўсё ж хачу паразважаць пра тое, чаму ты гэтак часта і настойліва кажаш «Няма» і «Нішто». І пры гэтым сёння агучыў абсалютна новую для сябе ідэю пра Бога як Адсутнае. Маўляў, калі Ён усё можа («на ўсё здольны»), дык Ён можа і не быць. Гэта цікава, але ў індуізме Няма, Нішто (тое, што называюць пустой свядомасцю) ёсць адной з фазаў спазнання Бога. Калі ёг становіцца на шлях набліжэння да Бога, ён мусіць разбурыць інтэнцыянальнасць сваёй свядомасці. Нашае мысленне – згодна з еўрапейскай традыцыяй – заўсёды інтэнцыянальнае, гэта значыць скіраванае на нейкі аб’ект. Дык вось, разбурэнне інтэнцыянальнасці ёсць адным з рухаў на шляху да Бога. І ў гэтай сітуацыі Бог падаецца як адсутны. Таму што нашая свядомасць робіцца татальна пустой. Гэта мае аналогію таксама і ў хрысціянстве. Калі Хрыстос кажа: «Пакінь маці і бацьку свайго і ідзі за мной», – Ён кажа: вызвалі месца ўнутры самога сябе, зрабі пустой сваю свядомасць, каб я ўвайшоў у яе. Я хачу сказаць, што ты, на маё разуменне, папросту перабольшваеш вагу пэўных станаў нашай свядомасці. І ў мяне да цябе пытанне. Вось мы казалі, што Ёсць як Бог не патрабуе ніякіх прэдыкатаў. А Няма таксама не патрабуе ніякіх прэдыкатаў? Тады чым адрозніваецца Няма ад Ёсць? І можа, тады Няма і ёсць Ёсць?

**В.А.**: Я разрозніваю Няма і Ёсць па адным надзвычай простым крытэры. Усё, што Ёсць, можа быць упісаным у нейкі фармат: фізічны, біялагічны, матэматычны, тапаграфічны, вербальны, інтэлектуальны... На скрайні выпадак – метафізічны. А Няма, Нішто мы не можам упісаць у хоць што, яны заўсёды застаюцца па-за формай. І для мяне ўсё больш выразна відавочніцца, што калі Бог ёсць, дык ён *ёсць* толькі ў Няма, як месцы a priori пазбаўленым нават самой магчымасці формы... Дарэчы, а што рабіць Богу ў Ёсць? У Ёсць я не бачу месца Богу! Нідзе, ні ў чым! У тым сэнсе, што ўсё тое, што Ёсць, – гэтыя дрэвы, камяні, дамкі, пляшка піва, якую ты п'еш, і пляшка піва, якую п'ю я, – для мяне ніякім чынам не патрабуюць прысутнасці побач Бога, як і яго наяўнасці ўвогуле. Усё гэта цалкам вытлумачаецца матэрыяльнасцю свету і штодзённым бытнаваннем чалавека... Хіба адно акрамя кантыянскага імператыву маральнасці. Дый у гэтым выпадку, калі да станаўлення маральнасці Бог і мае нейкае дачыненне, дык хутчэй толькі праз сваё альтэр эга – Д'ябла. А ўсё астатняе я магу прачытаць на звычайнай фізічнай мапе быцця, дзе Ён прысутнічае адно ў імёнах гарадоў і людзей. І толькі Няма, Адсутнасць, Нішто вярэдзяць мне глузды: а можа, Ён *там*? Для мяне Няма – гэта адзінае алібі Бога, апошняя легітымацыя Ягонай магчымасці быць.

**А.А.**: А можна памеркаваць, што Адсутнае, Няма – гэта нейкая перадумова творчасці? І тады можна сказаць, што Бог творыць з Няма (з Нішто)?

**В.А.**: Якраз пра гэта і казаў Феафіл Анціахійскі ў палеміцы з Платонам: «Што вялікага, калі Бог стварыў свет з нарыхтаванай матэрыі? Майстар, як атрымае ад каго матэрыял, вырабляе з яго, што захоча. А магута Бога якраз і выяўляецца ў тым, што ён з нішто творыць, што захоча». Але мяне ў сувязі з тварэннем з Нішто турбуе не сама праблема творчасці, а тое, што Яго падсунула да гэтага творчага акта? Інакш кажучы, найперш мяне вярэдзіць, што Ён рабіў, калі сядзеў у Няма і нічога не рабіў (у сэнсе тварэння Ёсць)? Затым – з чаго гэта Ён выскачыў з таго Няма, як Піліп з канапель (і за шэсць дзён наляпіў тут, як пяльменяў, і сонца, і зораў, а да іх яшчэ зямельку нашу і двух людзей у астачу)? А калі аднойчы выскачыў, дык чаму потым болей не выскокваў? І самае галоўнае: на якую халеру ўсё гэта Яму было патрэбна?

Праўда, некаторыя з апошніх маіх пытанняў як быццам лёгка здымаюцца, да прыкладу, пантэізмам (зрэшты, як і шмат якімі іншымі тэалагічнымі фэнтэзі). Але калі Спіноза кажа, што Бог ва ўсім, што ёсць, поўна разліты, вось у гэтай травінцы, у той яблыньцы насупраць нас, у гэтым смаркачы (прабач!), які я толькі што высмаркаў, дык нешта ўва мне моцна пярэчыць. Бо

які сэнс сядзець Богу ў цыгарэце, якую я цяпер палю (хаця я выразна ўсведамляю, што чалавек і не павінен разумець боскія задумы)? Мне больш натуральна параўноўваць Бога з партызанам. Сядзеў сабе цішком у прыцемках Няма, а потым вызірнуў адтуль, агледзеўся і хуценька ўчыніў самы знакаміты ў гісторыі Сусвету тэракт, які цяпер мы называем Вялікім выбухам, – а пасля зноў схаваўся ў сваю Адсутнасць. Таму што функцыянальна Бог як той, хто ўсё можа, потым нідзе і ні ў чым канцэптуальна не аб'яўляўся.

**А.А.**: Ты прызначаеш Богам той матэрыял, з якога ён насамрэч стварыў гэты свет. Я ж не адмаўляю Няма! Я проста даводжу табе, што гэта не Бог. Сутнасць – калі можна так казаць – Бога якраз у тым, што ён Ёсць. А Няма – тое, што дазваляе Богу выявіць сваю прысутнасць. Таму што калі б Няма не было, дык як бы Бог выявіў сваю прысутнасць? Я ў прынцыпе гатовы пагадзіцца, што Няма – гэта адзін з галоўных «герояў» гісторыі пра Бога. Таму што цяжка памысліць свет, цяжка памысліць час, калі мы адмаўляем Няма. Як мы тады можам зразумець час? Як зразумець гісторыю? То-бок ёсць гісторыя і ёсць адвечная пазіцыя Няма.

**В.А.**: У мяне яшчэ да нашай размовы прыдумалася жартаўлівае пытанне: «Ці ёсць Бог на Марсе?» Пры ўсёй жартаўлівасці запыту, ён сутнасны. Ім у нашай гаворцы якраз і зручна перайсці

ад першай – анталагічнай – часткі да другой, экзістэнцыйнай. Дык вось, пакуль не з’явіцца чалавек (дзе заўгодна), ці ёсць там Бог? А калі Бог усюды, дык што ён робіць на Марсе? Сядзіць у кратары і калупаецца ў носе? Ці што?

**А.А.**: Але без чалавека Бога няма *для чалавека*. Такая формула. І ў гэтым сэнсе хрысціянства прадэманстравала найвышэйшую каштоўнасць асобы. Дарэчы, адсюль зрабілася мажлівай і секулярная версія чалавека (еўрапейскі гуманізм). У гуманістычнай філасофіі Бог нібыта апынуўся лішнім... Цяпер да твайго пытання. Ці ёсць Бог на Марсе? Гэта нават не падлягае сур’ёзнаму абмеркаванню, бо адна з характарыстык Бога ва ўсіх рэлігіях – гэта ўсюдыіснасць. І гэтае глабальнае быццё Бога робіць абсалютна бессэнсоўным пытанне пра Ягонае месца. На Марсе, на Зямлі, у Смалявічах ці ў Мыцішчах. Бог аднолькава прысутнічае што ў Смалявічах, што на Марсе – гэта абсалютна не важна дзе.

**В.А.**: Добра, але ты мне скажы, што Бог робіць у Смалявічах? І хіба ў Смалявічах гэткія зломкі, што без Бога самі не абыдуцца? Інакш кажучы, патлумач: у чым табе бачыцца функцыя Бога сёння?

**А.А.**: Вельмі проста. У індуізме Бог мае тры функцыі. І гэта, я думаю, будзе табе бліжэй за хрысціянскага Бога. Першая функцыя –

стварэнне, пра што ўвесь час кажа хрысціянства і робіць толькі на гэтым акцэнт. Другая функцыя – разбурэнне, бо Бог штогод, як мы бачым на свае вочы, разбурае гэты свет, прыроду. І ўвесну ўсё адраджаецца. І, нарэшце, трэцяя функцыя Бога – падтрымліваць гэты свет. Тое самае мы знойдзем у шматлікіх міфалогіях і нават у хрысціянстве, праўда, не гэтак акцэнтавана. Вось калі кажуць, напрыклад: «На ўсё воля божая», – гэта азначае, што Бог падтрымлівае гэты свет, што ён выяўляе сваю волю, каб нешта існавала. Каб нешта адбылося.

**В.А.**: Цікава, раней я лічыў, што вясна настае, калі сонейка высока ў нябёсы ўскараскаецца, а ты кажаш – з боскага шчыравання. Дык што, я нават у суседавым плоце гнілую штыкеціну не магу зламаць, калі Бог не дапаможа мне сваёй разбуральнай функцыяй?

**А.А.**: Дык я і кажу, што ў хрысціянстве гэта не дыферэнцыявана. Ты ўвесь час навязваеш Богу адну чалавечую праблему. Гэта праблема самоты, адзіноты і бессэнсоўнасці. Таму ты і пытаешся: «А што Бог робіць там, на Марсе?» Там жа сумна мусібыць? Людзей там няма, і піва няма. Дык што там Бог робіць без нас?

**В.А.**: Галоўнае тут – *без нас*!

**А.А.**: Бог падтрымлівае існаванне планеты Марс! Каб ты паглядзеў на неба, узрадаваўся і чарговы раз узгадаў Канта. Ты толькі ўдумайся на хвіліну, што Кант параўноўваў! Зорнае неба з мараллю. Анталогію з экзістэнцыяй. Чаму ён з аднолькавым піетэтам да ўсяго гэтага ставіўся? Таму што гэта і ёсць стыхійным абуджэннем рэлігійнага пачуцця. Вось і адказ. Што робіць Бог? Ён падтрымлівае гэтае неба.

**В.А.**: Раскажы пра гэта пінгвінам на Алясцы. Вось яны здзівяцца, бо ад веку лічылі, што і неба, і моры-акіяны, і ўсё астатняе існае трымаецца дзякуючы гравітацыі. А тут бач ты якая навіна. Асабліва ім будзе цікава пачуць пра экзістэнцыю...

**А.А.**: Бог ёсць творчая энергія. Хаця тут ёсць адна праблема: ці ўсведамляе сам сябе Бог? Калі Бог ёсць, яе можна разглядаць. А калі ты кажаш, што Бога няма...

**В.А.**: Я кажу цалкам іншае, а менавіта: калі Бог *ёсць*, дык найбольш верагодна, што цяпер Ён знаходзіць сябе ў дыскурсе Няма!

**А.А.**: Я не буду з табой спрачацца, таму што ты кажаш некаторыя рэчы, якія ёсць у рэлігійным досведзе. Бо Бог можа «знікнуць» – ператварыцца ў Няма. Калі мы пачытаем тэксты вялікіх шукальнікаў Бога, святых айцоў, яны часам

папросту ўпадалі ў наймацнейшую скруху, нават адчай. І гэта быў той стан, калі яны раптам усведамлялі, што Бога няма. Я сам стаў вернікам праз мантру «Бога няма». Я хадзіў тыднямі як ашалелы і казаў: «Бога няма». Пакуль Ён мне нарэшце не адкрыўся. То-бок «Бога няма» – адна з фундаментальных правакацый богашукальніцтва.

**В.А.**: Тут ты кажаш пра экзістэнцыйны вымер Бога, пра Бога як экзістэнцыйную праблему чалавека. А мяне гэта ўвогуле абыходзіць, бо мне цікава толькі анталагічнае: ці магчымы Бог як адсутнасць самога сябе?

**А.А.**: Мая задача – памерці перад тым, як Бог скажа: «Ты памёр!» У гэтым сэнсе я па-ранейшаму шукаю Бога, таму што хачу апярэдзіць уласную смерць. І Бог для мяне ёсць ключом да праблемы пераадолення смерці, праблемы адсутнасці.

**В.А.**: У мяне ёсць вядомая табе формула: «Бог – гэта аптымізацыя жаху небыцця». Уласна кажучы, экзістэнцыйна Бог для чалавека істотны не тым, што Ён раней зрабіў для людзей, а тым, што яшчэ зробіць, – дасць ім прытулак у вечнасці. Але ў вечнасці зусім іншы – *не чалавечы* – вымер. Чалавек створаны, каб цалкам, да апошняй рэшты, завяршыцца ў гэтым сваім жыцці... Дарэчы, калі чалавек адслоніць ад сябе ідэю Бога, дык, магчыма, гэтым радыкальна павялі-

чыць значэнне свайго ўласнага жыцця. Бо чалавек з Богам – мізэрны чалавек. А мізэрны чалавек не можа ўзяць адказнасць за гэты свет. Дый навошта яму яе браць, калі ёсць Бог? Калі Бог стварыў гэты свет, дык хай сам за яго і адказвае.

**А.А.**: Нешта ты пачаў апяваць гуманізм у стылі Дастаеўскага, герой якога вызваліў гэты свет ад непатрэбнай яму старэчы. Можна засекчы сякерай бабулю – і чалавек тады будзе большым за Бога, бо ён уласнаруч вырашае яе лёс. Мне падаецца, што цяпер у цябе выявілася нейкая негатыўная энергетыка, якая супярэчыць пачатку нашай размовы, калі ты гэтак спакойна і мудра даказваў, што Бог ёсць Няма. Таму я думаю, што гэтае абурэнне, якое ты раптам пачаў выказваць супраць Бога...

**В.А.**: Гэта папросту канфлікт паміж інтэлектуальнымі развагамі, дзе можа быць усё – у тым ліку і Бог, – і фактам асабістага экзістэнцыйнага выбару. Вось ты думаеш Бога – і жывеш Бога. А я думаю Бога – але жыву чалавека.

## Мой бог — Этнас
(Паэма з каментарамі аўтара)

Мне кажуць (чую гэта з усіх бакоў), што Чалавек – найвялікшая каштоўнасць. Большая за дзяржаву, рэлігію, нацыю і, магчыма, нават за спадара Бога.

Не ведаю, можа, які іншы чалавек і ўяўляе сябе такой значнай цацай, толькі не я. Я не бачу асаблівай цаны ў нейкай колькасці арганікі, выдзеленай з агульнага поля вітальнасці даўно набытымі нагавіцамі і зацыраваным швэдрам.

Я – гэта колькі там дзясяткаў кіло костак, тлушчу, цягліц і вадкасці чырвонага колеру, загорнутых у некалькі квадратных метраў бляклай скуры. Дадайце сюды трошкі нерваў, два-тры хаценні, шчэпаць запазычаных думак... Вось і ўсё.

А мне і згэтуль, і адтуль: ты цэнтар сусвету, апірышча быцця і, зусім верагодна, ягоны сэнс.

Я торгаю вуха, ушчыкваю клуб і, як той андэрсанаўскі хлопчык, толькі не весела, а з сумам пярэчу: «Чалавек голы».

Я ганарлівы, як засцянковы шляхцюк, але гэта ўжо занадта. Што, я сябе не ведаю? З якой-такой ласкі – найвялікшая каштоўнасць, за што такая пашана?

Магчыма, іншых гэта не цікавіць, а мяне дык надта: як раб божы стаўся самакаштоўнай цацай? Калі чалавек прычыніўся да сэнсу быцця, а затым і ссунуў на сябе гэты сэнс?

У мяне шмат версіяў адказу на гэтае пытанне. Аднак тут я згадаю толькі адну і, магчыма, нават не загалоўную. Ідэя, сэнс і сутнасць быцця палягалі недзе далёка за ўласна чалавекам да той пары, пакуль той не пабраўся з мужнасцю, каб здумецца: а можа, я, грэшны, і насамрэч вольны ў сваім зямным выбары? можа і напраўду я ёсць панам над сваімі немудрагелістымі ўчынкамі?

З гэтага пытання неўпрыкмет і выспеў гуманізм (Гуманізм – гэта чалавек, ужо вылуплены з яйка Бога).

Але спатрэбілася колькі стагоддзяў, пакуль гуманізм зняpraўдзіў усе тыя ўніверсальныя далягляды (пачынаючы з хрысціянства), што месціліся воддаль чалавека, і заняў месца паноўнай духоўнай ідэі.

Гэта было як азарэнне, водблескі якога асвецілі ўжо зусім іншыя перспектывы...

Мы стагоддзямі не стамляліся цешыцца прыйсцем гуманізму, пакуль аднойчы не заўважылі скрай прыкрае: гуманізм – гэта не што іншае, як адзін з сінонімаў эгаізму.

Ёсць тое, што ёсць, і калі эгаізм перамог усе іншыя перспектывы ўніверсальнага быцця, то, значыць, сапраўды няма ў прасторы і часе нічога, што было б больш актуальным для чалавека

за самога чалавека. Значыць, і насамрэч няма нічога больш важнага за гэтыя семдзесят кіло костак, цягліц і вадкасці чырвонага колеру, загорнутых у колькі там квадратных метраў бляклай скуры.

Але, але... Рэч у тым, што асабіста я не хачу быць месцішчам абсалютнага сэнсу, бо не бачу ў сабе, з якога боку ні глядзеў, адпаведнага абсалюту зместу. Больш таго, з кожным днём для мяне робіцца выразнейшым разуменне канцавой бессэнсоўнасці асобнага чалавека, якая вынікае з яго выпадковай прысутнасці ў жыцці.

Пакінуўшы слоўныя мудрагельствы, сфармулюем гэта гранічна проста: быў асабіста ты альбо цябе не было і ніколі не будзе – для ўніверсальнага жыцця ўсё адно.

* * *

Я – голы чалавек на скразняках часу, і калі шукаць нешта вартае ў звязку з маёй асобай, дык гэта не я сам, а мой этнас ува мне.

Я – гэта колькі там тысяч год і колькі там соцень каленаў майго роду, і ўся мая каштоўнасць – гэта каштоўнасць скарбонкі, у якую ссыпаны плён нястомнай жыццядайнасці маіх продкаў. І калі аднойчы мне ўсвядомілася, што я – усяго толькі месцішча, дзе мой этнас працягвае існаванне з усімі сваімі тысячагоддзямі і каленамі, то міжволі вусны прамовілі: мой бог – мой Этнас.

Мой бог, у адрозненне ад трансцэндэнтнага, кадыфікаваны ў гістарычным наратыве і трымаецца празрыстай логікай быцця. Разам з тым ён таксама не пазбаўлены містычнага абрысу, які ў рэтраспектыве вялікага часу ператвараецца амаль у ідэальную сутнасць. Інакш кажучы, падзея этнасу спакваля выкрышталізоўваецца ў міф і ўжо ў якасці міфу доўжыць сваё існаванне да верагоднамагчымай бясконцасці, вырастаючы з першапачатковага драбка ў важкую друзу, кожная гронка якой зіхаціць апрычоным сэнсам.

А яшчэ мне даспадобы магчымасць тварыць творцу мяне. Трансцэндэнтны Бог статычны, ён дадзенасць, завершаная і непахісная ад веку да веку. А мой бог – несупынны рух і памнажэнне ў часе, ён тоесны аб'ектыўнай гісторыі і мае свае сцежкі ў кожнай эпосе, па якіх можна блукаць дасхочу.

Мне любы мой бог сваёй амбівалентнасцю, як і натуральным сімбіёзам рэальнага з ідэальным, хаця я здагадваюся, што сапраўдныя вытокі маёй любасці ў іншым. Без яго я нішто, камяк жывога рэчыва, адзінае прызначэнне якога – вялічыць аб'ём біясферы на зямной кулі. А прыстаўшы да этнасу, я сам станаўлюся ім, скуль мяне не зможа вымкнуць нават смерць.

Памерці – гэта мая натуральная функцыя, усяго толькі трагедыя майго ўласнага жыцця. Знікнуць у нідзе – сакральны праклён.

Этнас – гэта мой родавы саркафаг, які ўратуе плён маіх мазалёў дзеля жыццядайнай моцы

наступнікаў. І разам з тым ён мая *ладдзя роспачы*, што будзе гайдаць мяне на хвалях часу, пакуль мой бог не распусціцца ў вечнасці...

## (каментары аўтара)

*Нельга давесці сваё алібі ў падзеі быцця.*
М. Бахцін.

**Г**этае эмацыйнае эсэ, кагадзе гулліва пераназванае ў Паэму, я напісаў даўно. Вельмі даўно. У тую пару, калі мы яшчэ толькі адкрывалі для сябе ідэю нацыі.

Як добра вядома, у гэтай ідэі этнас адыгрываў ролю яе падвалінаў і адначасна фіксаваў глыбіню рэтраспектывы, якая злучала нацыю з вялікім гістарычным часам. Толькі досыць хутка я здагадаўся, што насамрэч этнас і нацыі нічым не задзіночаныя, а калі недзе такая лучва і выпінаецца, дык яна ёсць усяго збегам выпадковых абставінаў.

З гэтай веды ў мяне з нацыяй склаліся моцна амбівалентныя стасункі. Мне падабалася, што я нарэшце прыдбаў сабе нацыю і больш не буду пачувацца адзінотнікам на ростанях персанальнага жыцця, але разам з тым я ўжо дапетрыў, што нацыя ёсць толькі мадэрновым сурагатам этнасу. Гэта значыць, што яна, як і ўсё спароджанае эвалюцыяй эгаізму, па азначэнні адлучаная ад анталогіі быцця. А я жадаў быць калі

не «пастухом Быцця» (М. Гайдэгер), дык хаця б ягонай *авечкай*.

Тады я і напісаў гімн Этнасу, які быў натуральна ўпісаны ў быційную парадыгму, але адначасна фіксаваў месца і жыццядайны сэнс кожнай асобіны ў лакальнай чалавечай супольнасці. Далей кожны раз, калі я ўжываў слова «нацыя», дык латэнтна прамаўляў – «этнас».

Толькі і гэтая мая гісторыя лішне не задоўжылася. Бо літаральна на маіх вачах свет нацыяў перастварыўся ў глабальны свет, які ўжо і не хаваў, што ён ёсць праявай універсальнага эгаізму таго, хто пакуль яшчэ ананімна называе сябе чалавекам.

Далей не было на што спадзявацца. І аднойчы, узяўшы за прыклад Ніцшэ, я скрушна прамовіў: мой бог памёр.

І даўно, – мусіў быў прызнацца наастачу. Зрэшты, гэта ўжо не мела значэння.

# Пра мужчынскі клімакс і лішак жыцця

*За вячэрай бацька паскардзіўся маці:*
*– Пражыў жыццё, а навошта? Ужо смерць падсоўваецца, а навошта жыў?*
*– Куды ад смерці падзенешся? З варонамі не паляціш, – адказала маці.*

## пра мужчынскі клімакс

Неяк гулліва выславіўся: маўляў, паводле колькасці ненапісанага я больш плодны за Юзафа Крашэўскага. І хаця мая пахвальба была ўсяго толькі спробай жарту, я, бывае, згадваю, як шмат засталося сярод моўчы таго, што некалі прасілася быць агучаным. Але ніколі пра гэта не шкадую. Бо сам неяк здагадаўся: *сэнс нязробленага – заставацца нязробленым*.

Разам з тым сярод усяго мноства, не схопленага тэкстам, ёсць у мяне адно здумленне, якое ўжо мо год дваццаць я меруся перакласці ў эсэ, а яно не тое што ўпарціцца – увогуле аніяк не зважае на маё пакліканне. Дзіўна!

Даўным-даўно шматкроць прагаворанае і з сябрамі за чаркай, і на публічнай сцэне, і нават спарадзіраванае Уладзімірам Някляевым

у адным з ягоных раманаў, гэтае здумленне па сёння застаецца нічым не азначаным, акрамя свайго імя: «Мужчынскі клімакс»...

І толькі кагадзе я нарэшце зразумеў: ніколі ты ўжо не напішаш эсэ з гэткай назвай.

І ўпершыню пашкадаваў пра ненапісанае.

Тады і падумалася, што ў такім разе мо варта хаця б распавесці пра колькі сэнсаў, раскатурханых тым эсэйным здумленнем... Толькі перадусім трэба перайначыць назву, бо «мужчынскі клімакс» тут ужо не будзе канцавой мэтай.

* * *

Гэта было даўно. Я працаваў лодачнікам на возеры Нарач. Мой адлюдны дамок стаяў на стромкім беразе, пад якім гайдалася на хвалях ці не паўсотня лодак ды катамаранаў. Толькі не пра іх гаворка. Наўзбоч ад лодачнай станцыі я меў у чаратах дзве невялічкія *плантацыі вугроў*, што засталіся мне ў спадчыну ад папярэдніка. Назва маіх рыбных дзялянак збыт не карэктная, аднак нічога лепшага мне не прыдумалася.

Як вядома (каму вядома), вугры харчуюцца па начах, а начуюць днём, схаваўшыся ў норы, карчы ці глыбока занурыўшы сябе ў глей. Гэтай іх звычкай і скарыстаўся мясцовы дасціпнік. Ён панакідаў у трысьнягі кавалкі розных трубаў (даўжынёй, як рукі ўшыркі раскінуць), куды вугры на дзень уладкоўваліся спаць. Калі мне карцела паласавацца самай смачнай у нашых краях

рыбай, я выпраўляўся ў трыснягі і, апусціўшы рукі глыбока ў ваду, затуляў далонямі абодва краені трубы. Затым падымаў яе над сабой і трохі нахіляў, каб праз пальцы сцякла вада, а вугар заставўся мне на вячэру...

Спрадвеку вядома, рыбак a priori хвалько, аднак паколькі тут ідзецца зусім не пра здабычу, дык няма сэнсу перабольшваць. Не тое што ў кожнай трубе, не ўсялякая выправа канцавалася вугром. Хаця і шанцавала досыць часта...

* * *

Сядзець пасля вугрынай вячэры на яшчэ цёплым ганку. Без спеху смакаваць чорную гарбату, паліць «Прыму» і сцішана назіраць, як у вечаровым сутонні вялікая вада неўпрыкмет адзіночыцца з вялікім небам, каб разам стацца татальнасцю ночы...

Недзе сярод адной з такіх начэй мяне і скаланула тое, што пазней я назваў *вугрынай вусціш*у.

* * *

У каго заўгодна такое бывае. Ты пра нешта даўно ведаеш, але гэтае веданне настолькі ўсімі знанае, што ты на яго таксама не звяртаеш увагі. Толькі ў нейкі, пэўна, адно дзеля менавіта гэтага здумлення прыдатны, момант табе з таго банальнага ведання раптам увідавочніцца ўся вусціш быцця.

З гісторыяй аб тым, што вугар з возера Нарач плыве восем тысяч кіламетраў да Саргасавага мора, каб там апрастацца ад паўмільёна ікрынак, я быў знаёмы з падлеткавых чытанак. Памятаў я і аб тым, што потым лагодная плынь Гальфстрыма тры гады транспартуе гэтыя ікрынкі да нашага мацерыка, дзе ў еўрапейскіх рэках яны акрыяюць і спакваля зробяцца спраўнымі вуграмі, каб праз год дзесяць выправіцца ў адваротны шлях на нераст. А здзейсніўшы на бацькаўшчыне галоўную справу свайго пакліканьня – *лічы ўмомант сканаць*.

Зусім не памятаю, з чаго менавіта ў нейкую тую, а не ў іншую ноч вугрыная гісторыя развярэдзіла маю духовую эманацыю настолькі, што раптам мяне наскрозь праняў урачысты жах. Быць – каб нарадзіць! І нічога больш у жыцці няма, прынамсі больш істотнага.

Схоплены ў той момант гэтай анталагічнай максімай, я з яе ўжо ніколі не выслізну. Таму, калі ў мяне народзіцца сын (а затым яшчэ і дачка), я нават трохі пазайздрошчу вугрынаму лёсу, бо па вялікім (анталагічным) рахунку мне ўжо не будзе чаго рабіць на гэтым свеце, акрамя як датоптваць свой лапік быцця.

* * *

*Нарадзіўся, апладніўся, памёр. Вось і ўвесь чалавек.* Пазней менавіта так я буду адказваць, калі нехта запытае мяне, у чым сэнс чалавека і ягонага

існавання. Толькі нікога гэты адказ не будзе задавальняць. Бо навошта тады філосаф, калі ён кажа тое, што і без яго ўсе ведаюць?

Яно як быццам слушна, хаця і не зусім. Рэч у тым, што я даю веры гэтаму свайму веданню, а тыя, што пытаюцца, – не, не вераць сабе. Як такое можа быць, каб у вугра і чалавека быў аднолькавы анталагічны кон? Чалавек жа настолькі розніцца ад усяго іншага, што таясаміць яго яшчэ хоць з нечым быццам ну аніяк не выпадае.

Ды не, яшчэ як выпадае... Прынамсі ў праекцыі на цэлае быццё ён абсалютна такі самы, як і ўсё, што мае жывое жыццё (што родзіцца, родзіць і сыходзіць у невараць). І як для ўсяго жывога, адзінае насамрэч істотнае ў ім – гэта ягоная здатнасць да плоднасці (а ўсё астатняе – экзістэнцыйны факультатыў). У Людкі Сільновай ёсць верш з двух радкоў:

*Вось і ўсё, што я зрабіла:*
*нарадзілася і нарадзіла.*

З узгляду на анталагічны кон чалавека, гэта – геніяльны верш.

* * *

Нарэшце мой аповед набліжаецца да непасрэднай завязкі, якая і спарадзіла тое, цяпер канчаткова страчанае, эсэ. Я ўжо даўным-даўно не пра-

цаваў лодачнікам, калі мая развага аднойчы запынілася на феномене жаночага клімаксу. Тады мне было ўжо за сорак, і таму зусім не дзіўна, што актуальнасць гэтай драматычнай праблемы для жанчын маіх гадоў няўзнак устурбавала і мяне.

Як такое можа быць, што ў жанчын клімакс ёсць, а ў мужчын – няма? Чаму жанчына недзе пад пяцьдзясят год лічы ўжо цалкам губляе сваю генератыўную функцыю (страчвае свой геній!), а мужчына – хай сабе ў скрай апрычоных выпадках – і ў сто год яшчэ можа быць маладым бацькам*?

Зрэшты, у феномене клімаксу выняткі (не толькі мужчынскія, але і жаночыя) мяне цалкам абыходзілі. Як і мноства розных фізіялагічных, псіхалагічных ды сексуальных праблем, што паўстаюць перад кожнай жанчынай пры яе персанальным зломе быційнай парадыгмы. Я здумляўся толькі над двума пытаннямі. Першае: ці не ёсць жаночы клімакс універсальным і неад'емным таўром *прыроды*, якім яна канцуе **сэнсоўны** час існавання кожнай жанчыны, незалежна ад расы, эпохі і сацыяльнага статусу? Груба кажучы, ці не пазначае клімакс пачатак часу яе *лішняга жыцця*, якое далей ужо ніяк не задзіночанае з першасным (сакральным) пакліканнем жанчыны? Маўляў, ты можаш жыць

* З раней недзе прачытанага запомнілася, што нехта індус Рамжыт Гагхаў займеў двух сыноў, калі яму было дзевяноста чатыры і дзевяноста шэсць год.

яшчэ колькі зможаш, хаця для жыцця як такога гэта не мае аніякага значэння. Аб чым аднойчы ў цёмную-цёмную ноч мне і нагадала *вугрыная вусціш*.

* * *

Толькі ці не ёсць жаночы клімакс абсалютнай максімай сэнсоўнага існавання не толькі жанчыны, але і мужчыны? Гэта, па сутнасці, і было маім другім запытаннем, на якое яшчэ болей карцела мець адказ.

Найперш я падумаў, што, можа, жанчыне і мужчыну зададзеныя асіметрычныя праекты адбывання быцця? І вызначаныя праз клімакс пяцьдзясят год жыццядайнага існавання жанчыны ніякім чынам не карэлююцца з праектным лёсам мужчыны? Я пачаў трудзіць глузды, каб высветліць тую асіметрыю, аднак досыць хутка зразумеў, што яе няма і быць не можа. Бо для быцця як такога жанчына і мужчына не існуюць паасобку, яны ёсць толькі двума складовымі аднойі той самай падзеі, якая канцуецца новай жыццядайнасцю*. І нічым яшчэ яны не ёсць.

* Адзін чалавек – гэта яшчэ зусім не чалавек. Адзін чалавек можа напісаць «Боскую камедыю», накрэсліць рух зямлі вакол сонца ці выцесаць з бяздумнага каменя «Мысляра»... Але ўпаасобку без жанчыны (і наадварот) ён ніколі не зможа стварыць новую жыццядайнасць. А без яе немагчымыя ні дантэ, ні капернікі, ні радэны, ні, што невымерна больш важна, увогуле быццё як такое.

Тады я і вырашыў, што не варта лішне блытацца, а трэба проста адшукаць у анталагічным заданні мужчыну адпаведнік жаночаму клімаксу. Інакш кажучы – мужчынскі клімакс. Толькі дзе яго шукаць, калі ў фізіялогіі мужчыны нічога падобнага няма. (Праўда, часам «мужчынскім клімаксам» называюць з гадамі натуральнае зніжэнне сексуальнасці, аднак гэта відавочная пустамеля.)

Далёка не адразу, але я ўсё ж такі знайшоўся!

Трэба вызначыць тое канцэптуальнае здарэнне, пасля якога ў мужчыны таксама пачынаецца *лішняе жыццё*. І гэтае здарэнне агулам мусіць супадаць з перыядам «бясплоднай смоквы» ў жанчыны, – у дадатак падумаў я.

Дарэчы, цалкам магчыма, што мая заангажаванасць у гендар была з'ініцыяваная не столькі поклічам ісціны, колькі банальнай модай на паліткарэктнасць. Маўляў, калі ў пэўным узросце такая праблема паўстае ў жанчын, то чым мужчыны ад іх лепшыя? Хаця пазней высветлілася, што мая слабіна перад модай была не зусім слабіной, а хутчэй яшчэ не прасветленай для самога сябе інтуіцыяй.

* * *

*Лішак жыцця* як анталагічны сувымер нашых разнаполавых лёсаў убачыўся мне метадалагічным выйсцем з азначанай праблемы. Разам з тым я адразу зразумеў і яго пэўную хібнасць.

Паколькі бінарную апазіцыю жаночаму клімаксу ўжо трэба было шукаць не ў катакомбах быцця, а ў экзістэнцыйнай твані. Сітуацыя кшталту «ў агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька». Але ж мне вельмі хацелася выкрыць з патаемнасці мужчынскі клімакс...

І я яго выкрыў!

Ды яшчэ адразу ў некалькіх фарматах (што праўда, усе яны мелі агульнае трываліва). Першай мне адкрылася максіма, паводле якой у гады, тоесныя пачатку жаночага клімаксу, мужчына губляе здольнасць да кахання. Спехам гэтую страту я і назваў *мужчынскім клімаксам*.

Захоплены ўласнай эўрыстыкай, я не ўтрымаўся, каб агаласіць сваё вынаходніцтва сябрам. Навіна адразу займела вядомасць у блізкім мне асяродку, зразумела, найперш дзякуючы скандальнаму азначэнню. Разам з тым за вонкавай скандальнасцю прыадкрываўся яшчэ большы скандал. Як такое можа быць, каб поўны жыццём мужчына раптам татальна апынаўся без сваёй агульнай для жанчын (пасля сексуальнасці) адметы? Таму не дзіва, што з гэтай навіны пачалі перманентна ўзнікаць дыскусіі ды палемікі. І амаль заўсёды мяне найперш пыталіся: а што ты разумееш пад каханнем?

* * *

У маладыя гады я зведаў два вялікія каханні (летуценныя закаханасці не лічым). І абодва яны

былі больш палкімі і пякельнымі, чым у Рамэа, – натуральна, калі не зважаць на трагічны фінал апошняга. У гэтым я не аднойчы запэўніваўся, калі наноў перачытваў Шэкспіра. Але як такую тэктанічную экстрэму заканцаваць у лакальны слоган? Асабліва калі адказу патрабуе той, каго падобны разрух увогуле абмінуў паўз...

Да таго ж часам проста немагчыма разасобіць сексуальны шал ад шаленства ўжо ўласна кахання. А з іншага боку, досыць пашыранай ёсць сітуацыя, калі на месца выпетранага кахання неўпрыкмет заступае звычайная пабытовая любоў да блізкай людзіны. Дык дзе тады канцуецца першае і пачынаецца другое, калі чалавеку яны бачацца адной і той самай падзеяй, толькі на розных тэрэнах жыцця?

Натуральна, я ўжо даўно не памятаю, як кожны раз даваў рэфлексійнага круцяля, калі мяне абурана і сувора пыталіся, чым ёсць каханне і чым яно не ёсць. У памяці чамусьці застаўся толькі нейкі ўзнёслы фрагмент з вэрхалу тых спрэчваў. Уяві сабе, – тлумачыў я некаму, – што ты знянацку аслеп на абодва вокі. Бо куды ні паглядзіш, пра што ні падумаеш – усюды і ўсё *яна*. У зорах – яна, у думках – яна, у кнігах – яна, у снах – яна... І нічога нідзе, акром яе. А потым надыходзяць гады, калі нешта падобнае з табой ужо аніяк не можа здарыцца... Па азначэнні не можа. Гэта і ёсць твой клімакс.

Не думаю, што тыя мае аналітыкі лішне пераконвалі заангажаваных у праблему кахання.

Але ад празмернай крытыкі мяне ратавала тое, што ў згаданых палеміках усё ж такі дамінавала іншае: ёсць мужчынскі клімакс ці яго няма?!

* * *

Познім, але ўсё яшчэ задушлівым летнім вечарам мы сядзелі на малюпасенькай куханьцы Уладзіміра Някляева. Здаецца, без хоць якой нагоды, калі не лічыць, што сустрэча з Някляевым сама з сябе заўсёды ёсць нагодай. Акрамя яго жонкі Мілы (тады яшчэ першай жонкі) і мяне, за сталом былі нашыя агульныя сябры Леанід Дранько-Майсюк з жонкай Вольгай. Мы без спеху бралі чарку, слухалі далёкія грымоты і млява перакідваліся выпадковымі рэплікамі, пакуль ужо абазнаная ў маім здумленні Вольга не згадала пра мужчынскі клімакс, найперш звяртаючыся да старэйшага сярод нас Някляева...

Што тут пачалося! Быццам далёкія грымоты з нябачнага далягляду ўмомант абрынуліся на нашу сябрыну. Вольга яшчэ не паспела выказацца дарэшты, як збыт абураная Міла жарсна ўсклікнула: няма ніякага мужчынскага клімаксу. Няма! І ўмольна зірнула на свайго чалавека.

Нечакана самы малады сярод нас Лёня рашуча запярэчыў:

– Ды што ты кажаш, Міла? Канешне ж ёсць. Ёсць! І нічога тут не паробіш.

Як ні дзіўна, але Вольга таксама яго падтрымала ды яшчэ весела пасміхнулася. Пасля чаго ўсе мы змоўклі і паглядзелі на Някляева. Ён вытрымаў паўзу (акцёр!), як быццам нешта ўзважваў, але адказаў без каліўца сумневу і нават трохі злосна:

– Кіньце вы дурное! Які там клімакс. Я кахаў, кахаю і заўсёды буду кахаць, пакуль зямля трымае. (Хаця, кажучы гэта, глядзеў чамусьці не на Мілу, а на грымотную ноч у раме вакна.)

Пасля ягоных словаў мы ў адначассе загаманілі ўсе разам, хто зацята, а хто нават і гістэрычна пераконваючы апанентаў на ўласны капыл. Гэты вэрхал доўжыўся, здаецца, бясконца, пакуль у стомленай паўзе я на прамілы Бог не папрасіў хвілінку паслухаць мяне аднаго, каб дагаварыць тое, што не паспела распавесці Вольга. Хоць і не адразу, але ўсё ж такі нада мной злітасціваліся.

– Зразумейце, – патлумачыў я, – у такую пару мужчыну, як і раней, патрэбная жанчына, каб любіць яе, спаць з ёй, дапамагаць і быць удзячным за паўнату жыцця, якога не знойдзеш і ў самай утульнай адзіноце. І толькі кахаць вас ён ужо болей не можа. Хіба што толькі казаць словы пра каханне. Вы паслухайце яго, а пасля, адхіліўшыся, сумна пасміхніцеся...

– Няма клімаксу, – уз’ярана абарваў мяне Някляеў і, нічога не кажучы, пайшоў кудысьці ў ноч.

* * *

Пайшоў сабе і пайшоў. Тут падобнае нікога не дзівіла. Тым болей на гадзінніку, што вісеў насупраць мяне, яшчэ не было дванаццаці.

Без Някляева мы амаль адразу забыліся на гэты чортаў клімакс і далей ужо ціхамірна доўжылі бяседу.

Я зрэдчас пазіраў на гадзіннік: дванаццаць, гадзіна ночы, дзве, палова на трэцюю...

І толькі недзе ў тры гадзіны вяртаецца Някляеў. Ён моўчкі стаіць у дзвярах, і на яго боязна глядзець. «Чорны як грак», – недарэчна падумалася мне, бо хаця ён і счарнеў за гэты час, але нічога падобнага да птушкі ў ім не было. Ён проста не быў падобны да самога сябе.

– Ёсць мужчынскі клімакс, – нарэшце скрай стомлена вымавіў Някляеў.

– Ура-а-а! – як звар'яцелыя заенчылі мы і, пляскаючы ў ладкі, падхапіліся на ногі. (Між іншым, Міла чамусьці таксама ўсхапілася.)

* * *

Назаўтра, згадваючы той эпізод, я ніяк не мог зразумець, з чаго мы гэтак апантана цешыліся, не зважаючы ні на зморанага паразай Някляева, ні на перамогу ўвогуле драматычнай для ўсіх нас агулам канстатацыі? Толькі нічога ў мяне не складалася да аднаго.

Ат, залішне шмат у чалавеку ірацыянальнага, каб усё палягала вытлумачэнню, – урэшце супакоіў я сам сябе і ці не ў той жа момант знянацку абрынуўся ў канцэптуальную хібу маёй першай эўрыкі. (Вядома, пасля ладнай сябрыны з галавой, бывае, усялякія нечаканкі здараюцца.)

У кароткім пераказе тая мая постсіндромная ліхаманка канцавалася прыкладна наступнымі высновамі...

Нават спехам агледзеўшы гісторыю чалавецтва, не складана запэўніцца, што каханне да жанчыны ніколі не было ўніверсальнай складовай экзістэнцыі мужчыны. У самых старажытных (каляндарных) песнях беларусаў дамінуе анталагічны матыў плоднасці, а каханне (больш-менш падобнае да яго сучаснага разумення) з'яўляецца ў спеўнай лірыцы ўжо значна (значна!) пазней. У старагрэцкай цывілізацыі культ кахання таксама склаўся далёка не адразу. Сакрат казаў, што ён каханню навучыўся з вершаў Сапфо (Сафо). Існуе нават меркаванне, што менавіта яе геніяльная (між іншым, бісексуальная) паэзія і заклала падваліны гэтага культу.

У пару маладога і яшчэ збыт агрэсіўнага хрысціянства ні пра якое каханне мужчыны да жанчыны і гаворкі не магло быць. Па-першае, любові палягаў толькі і выключна спадар Бог*,

* У адным са сваіх эсэ Збігнеў Герберт цытуе Мальфрэ Эрменгаўта (XIII ст.): «Сатана, хочучы прымусіць мужчыну пакутаваць, прышчапіў яму ідалапаклонніцкае каханне да жанчыны. Замест таго, каб усім сэрцам і ўсёй

а па-другое, як можна было кахаць грахоўную і ўвогуле нікчэмную істоту, якой праз хрысціянскую оптыку тады бачылася жанчына?

Першынство адраджэння культу кахання ў сярэднявечнай Еўропе належыць, паводле меркавання культуролагаў, трубадурам (менестрэлям) і рыцарскаму раману кшталту «Трышчан ды Іжота».

Зрэшты, і потым каханне не сталася абавязковым «атрыбутам» мужчыны, такім як сексуальная прага. Хаця літаратура і мастацтва, цалкам закааптаваныя ў ягоны дыскурс, за стагоддзі і стагоддзі ўзвысілі гэты культ не раўнуючы касмаганічнага вымеру. Разам з тым, добра прыгледзеўшыся да гэтага феномену, не цяжка заўважыць, што і сёння дамінуе не столькі культ, колькі мода на каханне, татальная, як мода на джынсы (цяпер ужо хутчэй на айфон). Таму кожная дзяўчына марыць пра каханне і пра каханне марыць кожны хлопец. Вядома, без яго жыць можна, толькі сорамна каму прызнацца, што яго ў цябе няма (не было).

* * *

Добра, сказаў я сам сабе. Пагодзімся, што далёка не ў кожную эпоху ўвага да кахання была

сілай розуму палымяна любіць Творцу, ён аддае жанчыне тое, што павінен Богу. Ведайце: усякі, хто пакланяецца жанчыне, напраўду любіць Сатану, робіць Богам беззаконнага дэмана».

настолькі пашыраная ды актуалізаваная, каб яго немагчымасць магла служыць універсальным вымерам мужчынскага клімаксу. Але з апошняга зусім не варта лішне нэндзіць, трэба проста шукаць далей...

Так склалася маё жыццё, што на тую пару я ўжо лічы наўсцяж жыў сярод людзей, якія былі апанаваныя самымі рознымі творчымі парываннямі. Паэты, празаікі, філосафы, мастакі, музыкі... З чаго пакрысе звыкся з думкай, што для чалавека творчасць ёсць натуральнай і найбольш адэкватнай формай адбывання быцця. Таму, бадай, не было нічога дзіўнага ў тым, што наступнай ахвярай маіх даследзінаў стаўся феномен творчасці... Дакладней, не сам гэты феномен як такі, а мера яго інтэнсіўнасці ды важкасці ў творчасці ўжо сталых (тых, каму за пяцьдзясят) мужчын. Але яшчэ не паспеўшы абрынуцца ў прадонне бязлітаснай веды, я пераможна выгукнуў: эўрыка!

*Мужчынскі клімакс* не што іншае, як творчая нямогласць. Інакш кажучы, у кліматычным узросце мужчыну пакідае яго геній стваральніка новага і ён перастае быць творцам. Далей ён ужо не дойлід, а ў лепшым выпадку тынкоўшчык на апошніх рыштаваннях вакол храма, які калісь сам спраектаваў.

Лішне нават казаць, што пра гэтую персанальную трагедыю, якая ўжо здарылася, вельмі рэдка хто здагадваецца. Звычайна спачатку чалавеку думаецца ўсяго толькі пра чарговы «творчы

крызіс», последам якога чакае яшчэ большы поспех. Потым у гэты свой поспех ён залічвае ўсялякі наробак, які бывае нават і добра выштукаваны – але не болей. А далей яму нічога не застаецца, як да апошняй старасці ўпёрта чакаць цуду, бяздумна паўтараючы: лепшы мой твор яшчэ наперадзе...

Пустое ўсё гэта. У кожнага творчага чалавека да клімаксу было даволі часу, каб здзейсніць галоўнае з таго, што яму было наканавана. Гэта значыць, стварыць сваю лепшую кнігу, тэорыю, скульптуру, карціну, музыку, архітэктуру... Што і натуральна. Ва ўсю гэтую пару ён энергетычна напяты самім сабой дазвання (як толькі не пэкне), яго яснае вока яшчэ люструе зорныя далягляды, а крамянаму сэрцу ўдосыч хапае палкай крыві, каб штурхаць наперад эга нават насуперак лібіда.

Тут мне хоць хто запярэчыць фактамі, калі вялікія (і не вельмі) творцы і ў пазнейшыя гады выяўлялі сваю адметнасць у самых розных формах чалавечай дзейнасці. Я з гэтым пагаджуся, хаця разам з тым сціпла заўважу, што самае апрычонае (выбітнае) імі ўжо было створана раней. А тое, што адбылося потым, патрапляе ў фокус нашай увагі пераважна з поспеху папярэдняга наробку. Гэта па-першае. А па-другое, тут мы досыць часта можам назіраць феномен, так бы мовіць, адкладзенай рэалізацыі, калі нейкая задума, народжаная ў пару творчай максімы, даафармляецца ўжо ў значна пазнейшыя

гады. Зрэшты, як і з кожнага правіла, з прапанаванага мной таксама бываюць выняткі. Прыкладам, сярод самых яркіх мне бачыцца Эмануіл Кант, які напісаў першую з сваіх фундаментальных працаў («Крытыка чыстага розуму») у 57 год. (Хаця і тут застаецца пытанне, ці не выспелілася гэтая рэфлексія ў значна маладзейшую пару?)

* * *

Як вядома, няма нічога больш глупага за факт. А калі фактаў шмат, мора... Што гэта тады – мора глупоты ці статыстычная канстанта?

Не ведаю. Толькі, заканцаваўшы папярэднія развагі, мне раптам закарцела хоць трохі падмацаваць іх канкрэтнымі гісторыямі з «Жыццяпісу вялікіх». Метода маёй выбаркі была надзвычай простая. Найперш я аддаваў перавагу тым славутасцям, хто *інтымна* быў мне блізкім.

Я б распачаў свой кандуіт з Парменіда і Сакрата, ды не атрымаецца. У Парменіда нават гады жыцця маюць некалькі версій. Таму няпэўнае меркаванне, што яго «Паэма аб прыродзе», магчыма, напісаная на самым пачатку V ст. ад Р.Х., ніяк не можа быць прыдатным для маёй справы. У адрозненне ад Парменіда, гады нараджэння і смерці Сакрата не выклікаюць асаблівых спрэчак. Толькі з «сакратычных дыялогаў» Платона абсалютна немагчыма ўцяміць, які з перы-

ядаў жыцця Сакрата быў найбольш плённы. Таму далей адно пра тых, адносна каго ў мяне ёсць хоць трохі пэўнасці.

Ісус Хрыстос прагаласіў новы этычны кодэкс яшчэ да 33.

Буда (Сідхартха Гаўтама) прасвятліўся ў 35.

Месіянскі шлях Мухамеда пачаўся ў 39.

Аляксандр Македонскі да сваёй смерці (блізу 33 год) скаланізаваў амаль усю на той час вядомую цывілізацыю.

Аматар тэрцынаў, суворы Дант напісаў «Боскую камедыю» ў 36.

Леанарда да Вінчы намаляваў «Даму з гарнастаем» у 37.

Хрыстафор Калумб вынайшаў Амерыку ў 42.

Францыск Скарына пачаў выдаваць Біблію, калі яму яшчэ не было 30.

Казімір Лышчынскі скончыў пісаць трактат «Аб неіснаванні Бога» недзе ў 40.

Уільям Шэкспір, відаць, паспеў управіцца з усімі сваімі наканаваннямі да клімаксу (памёр у 52).

Сэр Ісак Ньютан – тады яшчэ не «сэр» – паміж 25 і 27 у чарнавым варыянце ўжо сфармуляваў для сябе і закон сусветнага прыцягнення, і так званы «біном Ньютана». (Між іншым, адразу пасля пяцідзесяці яго эўрыстычны геній счах да звання.)

Напалеон Банапарт у 43 «спаліў» Маскву.

Пётр Чаадаеў надрукаваў «Філасофскія лісты» ў 37.

Сёрэн Кіркегар напісаў «Або – або», калі яму было трохі за 30.

Карл Маркс надрукаваў першы том «Капітала» ў 49.

Ёган Гётэ прапанаваў чытачам «Пакуты маладога Вертэра» ў 26.

Паталагічна геніяльны Фрыдрых Ніцшэ заставаўся жывым пяцьдзясят шэсць год, але ці варта яму залічваць у жыццё дзесяць апошніх, якія ён у непрытомнасці адпакутаваў у псіхалагічнай лякарні.

Міхал Агінскі стварыў паланэз «Развітанне з Радзімай» у 29.

Фёдар Дастаеўскі надрукаваў «Злачынства і пакаранне» ў 44, а «Д'яблы» ў 51.

Аляксандру Дзюма было 42, калі з'явіўся раман «Тры мушкецёры».

Роберт Стывенсан апублікаваў «Востраў скарбаў» у 42.

Томас Эдысан спрычыніўся да стварэння сучасных тэлеграфа, тэлефона, фанографа і электралямпачкі ва ўзросце ад 27 да 42.

Эйнштэйн вымудрыў тэорыю адноснасці, калі яшчэ не меў 30.

Томас Ман надрукаваў «нобелеўскі» раман «Будэнброкі» ў 26.

Максім Багдановіч паміраў ля «сіняй бухты» ў 27.

Уладзімір Ленін ачоліў Кастрычніцкі пераварот у 47.

Ігнат Абдзіраловіч (Канчэўскі) надрукаваў «Адвечным шляхам» у 27.

Якуб Колас выдаў «Новую зямлю» асобным выданнем, калі яму быў 41.

Уладзімір Маякоўскі застрэліў сябе ў 37.

«Катлаван» і «Чэвенгур» Андрэя Платонава пабачылі свет, калі яму было 31.

Марцін Гайдэгер пражыў 87, але асноўны свой твор «Быццё і час» стварыў у 36.

У 44 Кузьма Чорны дапрацоўваў свой апошні (і, бясспрэчна, геніяльны) раман «Млечны шлях» ужо на нябёсах.

Гурт The Beatles скамечыўся ў 1970 годзе. Тады старэйшым з яго музыкаў было яшчэ толькі 30.

Уладзімір Караткевіч надрукаваў раман «Каласы пад сярпом тваім» у 38.

Эсэ «Смаленне вепрука» Міхася Стральцова пабачыла свет, калі Міхасю Лявонавічу было 35.

Аляксандр Лукашэнка абраны першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у 40.

Стывен Хокінг апублікаваў «Кароткую гісторыю часу» ў 46.

Стыў Джобс сышоў з жыцця ў 56.

* * *

Як адмета мужчынскага клімаксу, страта творчага патэнцыялу на колькі парадкаў больш відавочная за страту кахання. Разам з тым яна мае тую ж хібу, што і апошняя, стасоўна ўніверсаль-

нага поля праблемы. Бо творчасць (нават калі зважаць на ўсялютка ўсе сферы жыццядзейнасці) не ёсць імператывам кожнага персанальнага жыцця. Пераважная бальшыня людзей толькі спажывае тыя нормы і каноны, якія гатоўкай атрымлівае ў спадчыну ад грамадства. І хаця, бадай, не бывае чалавека, які б калі-нікалі не праяўляў нейкіх лакальных творчых ініцыятываў, толькі з гэтых лакальнасцяў ніякай карысці дзеля майго роздуму. Бо яны па азначэнні не сістэмныя.

Разам з тым я на гэты час ужо не меў сумневу, што для *агульнага*, масавага чалавека, які адтоптвае свой лапік быцця без творчага задання і, магчыма, без кахання (а найчасцей – без першага і другога разам), гэтаксама ёсць нейкі крытэр, з якога пачынаецца адлік ягонага *лішку жыцця*. І, амаль напэўна, ён наўпрост задзіночаны з радыкальным зніжэннем энергетычнага патэнцыялу, які абавязкова прыдаецца кожнаму чалавеку адразу з нараджэннем, у адным «экзэмпляры» на ўсё пазасталае жыццё. Інакш кажучы, за гады да клімаксу ён звычайна паспее стварыць сям'ю, збудуе ўласнае жытло, дапаможа жонцы выгадаваць дзяцей ды рэалізуецца прафесійна і сацыяльна ва ўласнай максіме...Але з гэтай абстракцыі яшчэ нічога не вынікала, пакуль я не зразумеў, што для *агульнага* чалавека экзістэнцыяныя крытэры кшталту «каханне» ці «творчасць» ніяк не пасуюць. Тут могуць быць ужытыя толькі анталагічныя канстанты (скажам, жыцця-

дайнасць як такая) ці сацыяльныя (гэта значыць тыя, што тычацца ўсяго соцыуму агулам).

На маё эўрыстычнае шчасце, якраз у пару гэтых высноваў я рыхтаваў дакументы для пенсіі. Як вядома, працэдура гэта няпростая, да таго ж збыт нервовая. У адной са стрэсавых сітуацый мне і бліснула ў галаву: ***пенсія***!

Як сведчаць паданні шмат якіх народаў, у пракаветныя часы сын адводзіў ужо ні да чаго не здатнага бацьку ў далёкую пушчу і пакідаў там паміраць (ці зацягваў у высокія горы, дзе скідваў са скалы).

У нашую пару дзеці ўжо не вырашаюць, калі з бацькоў ніякай карысці, адно шкода жывому жыццю. Цяпер для ўсіх нас агулам момант нашай непатрэбшчыны вызначае Дзяржава. Пенсійнае пасведчанне – гэта яе афіцыйны вердыкт, што для соцыуму ад цябе ніякай карысці, і толькі запанавалы колькі стагоддзяў таму гуманізм змушае яе падтрымліваць тваё, жывому жыццю ўжо ніяк не патрэбнае, існаванне. Калі добра ўгледзецца, дык можна пабачыць, што на гербавай пячатцы пенсійнага пасведчання ўтоенымі знакамі напісана: *лішняе жыццё*.

* * *

На апошніх словах я меў цвёрды намер развітацца з праблемай мужчынскага клімаксу. І раз-

вітацца, як той казаў, па-ангельску. Гэта значыць неўпрыкмет надзець капялюш і моўчкі выйсці за дзверы.

Толькі які з беларускага местачкоўца ангельскі дэндзі? Вось і ў мяне не атрымліваецца, каб на развітанне не папярэдзіць будучых апанентаў. Не хапайцеся ўпоперак тут агучанаму спехам парадкаваць свае спісы *творчых* доўгажыхароў. Гэтага дабра ў мяне і самога даволі. Але кожны з такіх выпадкаў насамрэч толькі выпадак. І нават сабраўшы ўсялякае такое з тысячагоддзяў розных культур, вы не здолееце з гэтага стракатага мноства выштукаваць хоць якую лядашчую канцэпцыю. Старасць нічым не канцэптуалізуецца, акрамя самой старасці.

## пра лішак жыцця

Адам пражыў 930 год. Ной – 950. Мафусаіл – 969 (а болей за яго ніхто не жыў на белым свеце). Натуральна, цынічны розум сучаснага чалавека досыць скептычна ставіцца да гэтых ні з чым не сувымерных паказнікаў біблейнага доўгажыхарства. Але мяне вярэдзіць не колькасць тых гадоў, а які з іх быў наробак?

Вось, скажам, Ной. Перад патопам яму было 500 год, і за гэтую палову тысячагоддзя ён зрабіў усяго толькі трох сыноў! (Сім, Хам ды Яфет.)

Што праўда, можа, Ной прадчуваў сваю місію і стагоддзямі не траціўся на жанчын, а на-

запашваў сілы дзеля будаўніцтва Каўчэга? Але ж пасля Патопу ён пражыў яшчэ 350 год – і нічога-нічагусенькі. Дык як да гэтага ставіцца? Тым болей, калі вада схлынула, на ўсёй абсохлай зямлі людзей было – як на пальцах палічыць...

Зрэшты, неяк абышлося і без Ноя, ды і залішне сур'ёзная мая вярэда, каб весяліцца з гэтага збаўцы ўсяго жывога, што было на зямной кулі. Бо я згадаў біблейных доўгажыхароў адно дзеля таго, каб падтрымаць наперад зададзеную развагу пра *лішняе жыццё*, якога ў іх было, як ні ў каго потым. Толькі чаму я кажу пра іх жыццё як пераважна лішняе, а не паўнавартаснае наўсцяж? Дык хаця б таму, што, калі даць веры Бібліі (а як можна не верыць кнізе, надыктаванай самім спадаром Богам?), за стагоддзі і стагоддзі свайго існавання біблейныя доўгажыхары зрабілі нічуць не болей, чым звычайны чалавек за сваё шараговае жыццё. (Што праўда, Ной з каўчэгам тут ужо не ў прыклад.) Той жа Адам за 930 год пасля выгнання з Эдэму падняў на ногі спачатку толькі трох сыноў (Авель, Каін і Сіф). Хаця потым, як сцвярджае ўсё тая ж святая кніга, сярод наступных стагоддзяў у яго заблыталася яшчэ некалькі дзяцей, толькі іх імёнаў ніхто не можа згадаць. Натуральна, рэч не ў імёнах. За дзевяць стагоддзяў, можа, якіх 8–10 дзяцей (у лепшым выпадку – па адным на стагоддзе). Вохці мне! У нас на вёсцы раней гэтулькі было звычайнай нормай, а тады – нагадаю – ста-

тыстычныя гады чалавека не заўсёды і за трыццаць сягалі. Дык якімі, як не *лішнімі,* можна назваць тыя бясконцыя стагоддзі жыцця Адама, калі ён, відаць, не столькі жыў, колькі трываў у чаканні, каб Бог неяк абкараціў гэтую нэндзу.

* * *

Пэўна, не адзін Адам маліў Бога аб падобнай ласцы, але і Каінан, і Сіф, і Чарэд, і Мафусаіл... Урэшце перад Патопам Бог злітасцівіўся ды выдаў вердыкт, які, паводле Бібліі, гучаў прыкладна так: *не вечна Духу Майму гідзіцца чалавекамі, пакольні яны ёсць плоць – хай будуць дні іх 120 год.*

З той пары і па сёння геранталагічная максіма Бога выглядае найбольш карэктнай сярод шматлікіх іншых. Разам з тым нельга не заўважыць, што пазней Бог як бы забыўся на ўласныя словы. У антычным міжмор'і людзі, у залежнасці ад рэгіёнаў, у сярэднім жылі не болей за 40 год. Ну то і хай сабе, яны ж паганцы. Аднак у сярэднявечнай, спрэс хрысціянскай Еўропе статыстычны чалавек сыходзіў з жыцця і таго раней. Яго век ледзьве перакульваўся за «трыццатнік». Пазней гэтая лічба трохі скакала сюдытуды ў залежнасці не толькі ад вялікіх войнаў ці ўпарадкаванасці краінаў, але і ад падліковых сістэмаў, якіх было і застаецца мноства. Але ў Расійскай імперыі, з якой нас надоўга звязаў неміласэрны лёс, яшчэ напрыканцы XIX ст. усё тыя ж трыццаць год заставаліся нормай...

І раптам! Усяго праз няпоўнае стагоддзе мы сталі жыць ужо больш як удвая. А сёння выглядае цалкам верагодным, што не за гарамі той час, калі мы гэтую лічбу патроім. Гэта значыць, рэальна наблізімся да той максімы, якую нам яшчэ перад Патопам вызначыў спадар Бог.

Што і казаць, шпаркасць нашага герантала-гічнага паскарэння ўражвае. Хаця ніякай таямніцы тут быццам і няма, бо яго складовыя ведае кожны – шпаркі развой медыцыны, неадчэпная ўвага да санітарыі і, як следства таго і другога, перамога над рознага тыпу «халерамі». Сюды ж далучым адсутнасць апошнім часам вялікіх войнаў, забяспечанасць большасці насельніцтва ўежным харчаваннем, сістэмная ўпарадкаванасць побыту, па-боску ўнармаваны працоўны дзень, штодзённая дыктатура гігіены...

Усё тут слушна, толькі ці не крыецца за гэтымі відавочнасцямі яшчэ нешта, на чым яны і палягаюць усе разам? Здумеўшыся такім чынам, я найперш схільны звярнуць увагу на эпоху так званага Гуманізму, калі мізэрны эгаізм чалавека нарэшце перамог усемагутнасць Бога. Хаця лепш было б выславіцца прасцей. Недзе пачынаючы з пары Рэнесансу чалавек спакваля пачаў любіць сябе мацней, чым Бога. І яму гэта так спадабалася, што ў другой палове XX стагоддзя ён ужо амаль зусім забыўся на апошняга, каб усю любоў свайго сэрца скіраваць на самога сябе. (Па кім звоняць званы ў пустых Цэрквах? Яны звоняць па Богу!)

* * *

Вызвалены ад Бога, эгаізм чалавека зрабіўся татальнасцю сацыяльнага ўпарадкавання. Інакш кажучы, далей увесь сацыяльны парадак ладзіўся такім чынам, каб чалавек жыў усё лепей і ўсё даўжэй. І нічога болей.

Ненатуральна дагледжаныя васьмідзесяцігадовыя дзядкі і бабулькі апаланілі вуліцы еўрапейскіх гарадоў. Яны практыкуюцца спартовай хадой, ездзяць на роварах, проста швэндаюцца ў бясконцых праменадах і ўсё ўсміхаюцца ды ўсміхаюцца белымі зубамі...

Ва ўсіх гэта выклікае замілаванне. А мне робіцца вусцішна! З кожным дзесяцігоддзем збаёданыя клімаксам жэўжыкі ўсё даўжэй і даўжэй ездзяць на роварах і ўсё шырэй усміхаюцца. Чаго яны ездзяць і ездзяць? – палохаюся я. Каму ўсміхаюцца гэтыя муміі некалі вітальнага жыцця?

Амаль напэўна, што ў відочнай перспектыве трансфармаваць трэнд пустога доўгажыхарства не зможа ніхто і нішто. Хіба Апакаліпсіс. Толькі скуль узяцца Апакаліпсісу, калі Бога лічы не засталося? Бо які гэта Бог, калі яго адужаў ненаежны эгаізм «грамадскай жывёліны» (Арыстоцель)?

У «Натуральнай гісторыі» Пліній Старэйшы пісаў пра гіпербарэяў: «Нават смерць прыходзіць да іх як выбаўленне ад спатоленасці жыццём, і яны, паспытаўшы ўсіх насалодаў, кідаюцца

ў мора». Прыгожы міф, толькі ён не мае нічога агульнага з сапраўднай натурай чалавека, інстынкт самазахавання якога шматкроць пераўзыходзіць як сэнс, так і логіку яго існавання. У іншым разе ад homo sapiens ужо даўно не засталося б і знаку. Таму мне куды больш слушнай падаецца з'едлівая рэпліка Фёдара Дастаеўскага: чалавек – такая скаціна, што ўсё жыццё прастаіць над безданню на адной назе, а не скочыць.

* * *

...Хай мне даруюць згаданыя тут умоўныя бабулі і дзядулі, якія ружовашчока вітаюць свята кожнага новага дня. Бо я не ад сваёй кепскасці прычапіўся да іхняга жыццялюбства. «Нічога асабістага», – як у такім выпадку кажуць героі галівудскіх баевікоў. Ды і скуль быць таму «асабістаму», калі мой бацька сышоў з жыцця ў дзевяноста чатыры гады, маці амаль у восемдзесят сем, а бліжэйшыя дзяды – пад дзевяноста? І кожны іх сыход канцаваўся для мяне невыноснай пакутай...

Што праўда, у тую іхнюю пару гады чалавека ад зямлі яшчэ мала чым розніліся ў хоць якім узросце: усё тая ж праца з ранку да вечара па хаце, на падворку, бульбяным полі ці на градах без нават згадкі пра нейкую там пенсію. З гэтага іхняе, яшчэ зусім блізкае да традыцыйнага ладу, жыццё прынамсі навонкі выглядала цэласным. Тым болей, што ўласных дзяцей неўпрыкмет за-

мянялі чародкі ўнукаў... Але галоўнае – усё тая ж самая праца, ад дзяцінства да апошняй знямогі.

У маёй любай бабулі я бачыў нерухомымі рукі толькі на фотаздымках. І потым яшчэ раз – у труне. За некалькі дзён да смерці, яшчэ жвавая і ўчэпістая, яна злосна сказала: «Як паміраці, дык дзень губляці»...

А калі маці дажывала сваё самае апошняе жыццё, дык па тэлефоне заўсёды скардзілася пра адно і тое ж: «Усё добра, сынок, – казала яна, – толькі працаваць зусім не магу». І ў прыцішанай маркоце дадавала: «Раней ніколі не думала, як гэта можна жывой не працаваць?»

Пэўна, паводле менавіта іхняга прыкладу Праца ў мяне заўсёды значылася сярод загалоўных метафізічных універсаліяў, такіх як Быццё, Бог, Ісціна, Любоў, Дабро, Нішто... Недзе я нават выслявіўся: «Праца – гэта дом Быцця беларуса». Інакш кажучы, праца для чалавека мне бачылася не толькі спосабам забеспячэння сябе самім сабой, але і формай падтрымання харомаў Быцця ў жылым стане. Трыадзінства Быццё – Чалавек – Праца ўяўлялася для мяне такім жа непарушным, як для хрысціяніна (прынамсі пасля Нікейскага сабору) святая тройца: Бог Бацька – Бог Сын – Бог Святы Дух. Таму мне і да галавы не было, што калісьці гэтае непарушнае трываліішча распадзецца самым што ні на ёсць вычварэнскім чынам. А менавіта, што існаванне чалавека рэгламентавана падвоіцца:

першае сваё жыццё (да клімаксу) ён спраўдзіць такім, як людзі спраўджвалі яго ад веку, а ў другім (гэтаксама рэгламентавана) ён будзе адлучаны ад Працы, а значыць – і Быцця.

Тут нехта мне слушна заўважыць, што так заўсёды было і раней. Бо якім бы малым ні быў сярэдні ўзрост жыцця, кожная ўжо сацыялізаваная супольнасць мела сваіх старых. Згода. Болей за тое, сярод антраполагаў існуе меркаванне, што адно тады, калі племянныя хаўрусы ўжо змаглі пракарміць сваіх старых, пакрыху пачаўся рух у бок цывілізаванага ўладкавання жыцця...

Здаецца, досыць лагічна, бо фізічна нямоглыя «доўгажыхары» адорвалі маладых і дужых раней назапашаным досведам змагання за жыццё. І тым ужо без патрэбы было паўтараць тыя ж самыя хібы.

Але, пагадзіўшыся з гэтым закідам, я ўдакладню: так, старыя былі заўсёды, толькі раней іх заўсёды было мала, рэдкія адзінкі на дзясяткі ці, хутчэй, сотні супляменнікаў, яшчэ не схопленых кліматычнай спустошанасцю. А я кажу пра той ужо блізкі час, калі *старых* станецца амаль столькі, колькі і *маладых*, а потым, бадай, і болей. Вылегчаныя ад *працы* і *быцця*, яны ў роўнавялікім мностве будуць існаваць побач з тымі, сэрцы якіх яшчэ поўняцца жарсным каханнем, розумы – геніяльнымі ідэямі, а жаданні – рашучай воляй.

Яшчэ не мёртвыя, але ўжо і не зусім жывыя, як бы бадзёрымі натоўпамі яны будуць сноўдац-

ца па вуліцах і пляцах, карміць галубоў у парках ды скверах, бітма набітымі эшалонамі перасякаць кантыненты і праз ілюмінатары самалётаў экзальтавана ўглядацца ў неба, такое ж пустое і халоднае, як іх даўно астылыя сэрцы і чэравы...

* * *

Мне будзе ўжо недзе шэсцьдзесят пяць год, калі кніжка з гэтым тэкстам, магчыма, пабачыць свет. З доўгага жыхарства вышэй памянутых продкаў вынікае, што ў мяне, як у такім выпадку кажуць, мусібыць досыць моцная генетычная спадчына. Таму, прынамсі тэарэтычна, я магу яшчэ пражыць нейкі кавалак часу. Гэта значыць – добра нажавацца пацярухай лішняга жыцця...

Дык, можа, мне таксама асвоіць гарадскі ровар, – падумалася неяк, – каб ездзіць на ім хаця б па пенсію і тым самым падманваць сябе і людзей, быццам пенсія яшчэ нічога не значыць, а ўсё вызначае *стан душы* (мілажальны ідыятызм). Вядома, нічога ў мяне з гэтай задумы не атрымалася, бо я, што ўжо тут паробіш, сфармаваны беларускім мястэчкам, дзе на роварах і па сёння ездзяць адно дзеля справы, а не каб выхваляцца жыццём.

Як ужо казалася, і ў ранейшыя часы раз-пораз недзе сустракаўся чалавек, які дажываў жыццё даўжэй, чым жыў. Але калі так будзе ў кожнага і ва ўсіх людзей разам? Ва ўсіх тых

мільярдаў, што неўзабаве шчыльна абсядуць усю зямную кулю?

Два канцэптуальна розныя чалавекі на тэрыторыі адной персаналіі – генеалагічнае вычварэнства. І дабром яно не скончыцца, калі з гэтага глабальнага тупіка не будзе знойдзена такое ж глабальнае выйсце.

Натуральна, мне вельмі хацелася б верыць, што чалавек некалі прыдумае, як управіцца з праблемай лішка існавання. Ці, можа, сам рух цывілізацыі выкруціць сітуацыю такім чынам, што і ў сваім другім жыцці людзі вынайдуць нейкі сакральны сэнс у праекцыі на цэлае быцця – калі не анталагічны, дык хаця б экзістэнцыйны. Ці раптам аб'явіцца Вялікі Інкогніта* і нарэшце ўцямна патлумачыць, дзеля чаго мы мусім выконваць старазапаветную боскую норму ў 120 год зусім не сакральных мітрэнгаў. Ці здарыцца яшчэ нешта, аб чым мне, з майго часу, і падумаць зарана.

Хаця што больш верагодна, у рэшце рэшт у нашай цывілізацыі запануе *стары* чалавек.

* Бывае (гады ў рады), я падлеткава веру, што ў нашым дзівосным сусвеце ёсць яшчэ нехта акром нас, каго я называю Вялікім Інкогніта. Гэта, напэўна, яму заманіла вымудрыць усё, што ёсць і чаго няма. Аднак Вялікі Інкогніта не мае нічога агульнага з біблейным Богам. Яму непатрэбныя ні наша любоў, ні нашая вера ў яго. Калі ён чаго і жадае ад нас, дык хіба мілажальнай Адказнасці. І не толькі за наш свет, у якім мы нараджаемся і паміраем, але і за сонцы ў нябёсах.

А маладыя, у сваёй усё больш кароткай маладосці (адносна старасці старых), будуць абслугоўваць яе, чакаючы змены сваёй геранталагічнай ролі, якая тады ўжо будзе называцца не пенсіяй, а неяк зусім інакш...

Нейкая вычварэнская футурыстыка, – абурыцца нехта (і не адзін).

Магчыма, – пагаджуся я. Толькі давайце пачакаем яшчэ год сто...

І апошняе. Я пісаў пра мужчынскі клімакс і задзіночаны з ім лішак жыцця зусім не дзеля таго, каб вялічыць колькасць маркоты ў нашым і без таго не лішне вясёлым свеце. Мне проста хацелася, каб мы трохі менш падманваліся наконт уласнага кону. Толькі пабраўшыся з бязлітаснай мужнасцю, можна здагадацца: аптымізм быцця не ў тым, каб палохацца, што цябе некалі не будзе ўжо назаўжды, і з гэтага хапацца за містыку, як вісельнік за вяроўку. Аптымізм быцця ў тым, што ты быў. Бо мог і не быць. Нідзе і ніколі... А ты быў.

* * *

Вугры з Нарачы вяртаюцца праз восем тысяч кіламетраў у Саргасава мора, каб там апрастацца новай жыццядайнасцю і адразу саслізнуць у адсутнасць.

Я ўяўляю цёмныя глыбіні гэтага мора і заўважаю там мільярды бялесых ікрынак, што, як Млечны шлях, спадысподу асвятляюць Быццё...

Некалі я таксама вярнуся на высокі бераг Нарачы, распалю цяпельца і да світанку буду цешыцца зорным небам. Я буду піць чорную гарбату, паліць цыгарэты і сентыментальна прадстаўляць Быццё нябёсным вугром, які некалі апрастаўся мільярдамі зорных ікрынак. Няма сумневу, што ў нейкую хвіліну мяне зноў скалане вугрыная вусціш і тады я паплыву можа ў Саргасава мора, а можа ў бліжэйшыя нябёсы, каб там распусціць сваю ўжо ні да чаго не патрэбную астачу...

*міні-фэнтэзі*

Прэзідэнт Літоўскай дзяржавы, што разлеглася ад Балтыцкага да Чорнага мора, сёння абмінуў сваю сталую звычку перадусім на працы ўлучаць камп'ютар. Зачыніўшы дзверы кабінета, ён скіраваў да бурштынавай паліцы, дзе пад шклом марнавалася карона Вітаўта Вялікага. Здаецца, пасля свайго абрання, калі ўпершыню зайшоў у прэзідэнцкія апартаменты, ён болей і не звяртаў увагі на гэты архаічны сімвал улады. Але ўчора на ноч жонка змусіла яго пачытаць бестселер маладога аўтара, пра які пісалі ва ўсіх газетах...

«Дзіўныя фантазіі часам здараюцца ў гэтых літаратараў, – думаў Прэзідэнт, гартаючы старонку за старонкай. – Асабліва ў наш час, калі ніхто не забараняе балбатаць што заўгодна».

Аўтар пачаў раман з таго, што калі Вітаўту везлі карону праз Польшчу, дык там яе скралі. Далей – болей. Ён выдумаў, быццам маскоўцы захапілі і скасавалі Вялікае Княства Літоўскае. Гэткага здзеку Прэзідэнт ужо не стрываў. Ён шпурлянуў кнігу на падлогу і раззлавана сказаў жонцы: «Ды што ён вярзе! Каб добра захацеў, дык маскоўцаў яшчэ б Альгерд усіх панішчыў». Хаця пасля супакоіўся і з посмехам стаў чытаць

раман далей, дзе ўсё было зусім інакш, як напраўдзе. У аўтара Літва сёння была маленькай правінцыйнай краінай, якая дзяліла былую тэрыторыю Вялікай Літоўскай Імперыі з яшчэ дзвюма рэспублікамі, што мелі абсалютна недарэчныя назвы: Беларусь і Украіна. Да таго ж там размаўлялі на мове маскавітаў і чамусьці карысталіся кірыліцай.

– Шмат п'юць гэтыя пісьменнікі, – сказаў Прэзідэнт жонцы і болей чытаць не стаў.

Але сёння, калі трымаў карону ў руках, яму падумалася: «А што было б, калі б карону сапраўды не давезлі да Вітаўта?»

І яму раптам зрабілася вусцішна...

## *бог і багушэвіч*

Бог прыдумаў неба і зямлю, Багушэвіч – Беларусь... Прыдумалі і памерлі, а мы жывем... Пад небам без Бога, на Беларусі без Багушэвіча.

## *шлях*

Той, хто крочыць пследам за некім, каб не быць адно закладнікам чужога шляху, мусіць ставіць сабе іншыя задачы і мець іншыя мэты...

Арыгінальнымі нас робіць не сам шлях, а тая перспектыва, дзеля якой мы гэты шлях прамінаем.

*здранцвелы рух*

Нашыя інтэлектуальныя рэфлексіі вось ужо другое стагоддзе канцэнтруюцца амаль выключна вакол Беларусі. Таму ёсць не менш за дзве прычыны. Першая паходзіць з таго, што Беларусь як мысліўная праблема ўсё ніяк не развязваецца. Другая палягае на тым, што ў развагах над Беларуссю мы застаемся досыць арыгінальнымі, паколькі акрамя нас саміх Беларусь мала каго цікавіць, а ў рэфлексіях над чым-кольвек іншым мы амаль заўсёды апынаемся ў сітуацыі аўтсайдараў. Апошняе, бадай, нават пераважае ў тым, што мы ніяк не перарушым межы Беларусі як інтэлектуальнай эўрыстыкі.

*функцыянальная патрэба*

Што, сапраўды гэты свет і гэты чалавек вартыя таго, каб столькі тысячагоддзяў і ў столькі галасоў пра іх бясконца гаварыць, пісаць, разважаць? Ды не, пэўна. Разважаць, спрачацца і праклінаць – гэта ўсяго толькі адна з функцыянальных патрэбаў чалавека, па сутнасці такая ж самая, як піць, есці, пладзіцца, хадзіць да ветру. Мы размаўляем, аналізуем, паведамляем не таму, што нам скрай неабходна пра нешта даведацца ці штосьці давесці сабе альбо некаму... Зусім наадварот: мы пытаемся, інфармуем, разважаем таму, што нам мусова размаўляць...

І як з патрэбы піць, есці, пладзіцца ўзніклі і паўсталі земляробства, рамёствы, гарады, так з патрэбы размаўляць склаліся міфалогія, рэлігія, філасофія, літаратура. Карацей кажучы, большасць нашых моўных спосабаў дзейнасці ёсць адно формай выняржэння вербальных шлакаў, што застаюцца ад працэсу рэалізацыі такой функцыянальнай патрэбы чалавека, як маўленне.

### *імаральная катэгорыя*

Шчасце – імаральная катэгорыя. Яно па-за кантэкстам апазіцыі дабра і зла. Шчаслівы праз дабро і шчаслівы праз зло, перабываючы ў стане шчаслівасці, аднолькава шчаслівы. Іншая рэч, што калі шчаслівасць праміна е і чалавек вяртаецца ў свет маральнага, дык яму не ўсё роўна, куды ён вяртаецца – у дабро ці ў зло.

### *каін*

Хоць мы і прызвычаіліся казаць, што першымі людзьмі былі Адам з Евай, але насамрэч яны яшчэ не былі людзьмі, паколькі іх, як цацку, сваімі рукамі выштукаваў Бог. Напраўду першым чалавека быў Каін, бо ён ужо меў бацьку (Адама) і яго вынасіла ў сваім чэраве маці (Ева).

Але ці не сімвалічна, што ўжо *першы* (а не якісьці потым) чалавек апынуўся і першым за-

бойцам чалавека? Таму мне і падумалася: а калі чалавек перастане забіваць чалавека, дык ці будзе гэта ўжо чалавек? Можа, наспеў час яго называць неяк інакш... Натуральна, не толькі таму, што ён стаў меней забіваць. Якісьці ён робіцца ўсё болей адрозны ад таго, што быў раней, быццам ужо чужы ўсяму чалавечаму. Не чалавек, а нейкая інсталяцыя.

### *вера як прага жыцця*

Бог – гэта вера ў Бога. І нічога болей...

Але якой магуты мусіла быць гэтая вера ў рошчыне, каб стварыць усюдыісныя і трывушчыя праз тысячагоддзі інстытуты, якія трымалі на сабе ўвесь свет чалавека.

Толькі было б аблудай лічыць, што вера паходзіць сама з сябе, з уласна веры. Яна толькі праява волі да жыцця. І калі мы сёння кажам пра змарненне веры, дык гэтым перадусім адзначаем заняпад той магутнай волі, з якой раней чалавек прагнуў жыць не толькі на гэтым, але і на тым свеце.

### *той, хто перажыве Бога*

У адной з сваіх энцыклік Ян Павел II казаў: «Цэлыя краіны і народы, у якіх некалі рэлігія і хрысціянскае жыццё квітнелі і давалі пачатак

жывой і дынамічнай веры, цяпер трымаюць цяжкія выпрабаванні. Яны патрапілі ў працэсы радыкальных зменаў у выніку рэлігійнай абыякавасці, секулярызацыі ды атэізму».

Прычынаў секулярызацыі шмат, і яны самыя розныя. Але праблема бадай не ў тым, што палягае навідавоку, – радыкальна змяніліся канцэптуальныя падваліны быцця. Раней чалавек жыў у свеце, створаным Богам: неба, сонца, зямля, рэкі, птушкі і жывёлы – усё было створана Ім, а чалавекам – толькі ўласная хаціна, сякера ды ралля. Сёння ўсё наадварот. Чалавек жыве ў свеце, выштукаваным яго ўласнымі рукамі. Гэта ён сам апярэзаў зямную кулю дарогамі, чыгункамі і лініямі электраперадачаў, а цела Зямлі спрэс заліў асфальтам і бетонам. Гэта ён сам напампаваў неба тэле- і радыёхвалямі, а паміж зорак панавешваў зіхаткіх касмічных цацак. Гэта ён сам ператварае мужчыну ў жанчыну (ды наадварот) і клануе жывёлаў...

Коратка кажучы, рэлігійны дагмат складваўся пад чалавека, які жыве ў свеце, створаным Богам, і таму ён апынуўся чужым у свеце, выштукаваным чалавекам. Відаць, Апакаліпсіс ужо спазніўся. Яму трэба было адбыцца, калі чалавек яшчэ быў Боскім чалавекам, а значыць – і было каго судзіць.

У рэлігіі наперадзе яшчэ доўгі век, але ўжо кароткая перспектыва. Натуральна, нічога добрага ў гэтым няма. Толькі хто раней мог падумаць, што чалавек перажыве Бога?!

### *няма*

Звычайна людзей вабіць тое, што ёсць, а я зачараваны феноменам ***няма***. Як гэта магчыма: нішто, адсутнае, няма? І чаму менавіта мне яны вярэдзяць і сэрца, і розум?

Можа таму, што беларускае «няма» залішне шмат увабрала ў сябе таго, што не адбылося, не здарылася, не ўтрымалася? Пакуль іншыя народы прырасталі здабыткамі, мы мацаваліся стратамі. І цяпер мы багатыя на «няма» як ніхто. У нас няма гісторыі, няма мовы, няма свабоды. Ды і пра саміх беларусаў хіба ўпэўнена скажаш: ці то яны ёсць, ці то іх няма... Але хто ведае, можа, слова «няма» ўвабрала ў сябе не толькі нашу долю, але і наш лёс. І менавіта таму мы, атуленыя сваёй адсутнасцю, перакрочылі ў трэцяе тысячагоддзе.

### *утульнасць*

Для мяне гэта не проста слова, а канцэптуальная філасафема. Чалавеку толькі здаецца, што ён прагне божай ласкі, грошай, свабоды... Насамрэч чалавек усюды і заўсёды імкнецца адно да ўтульнасці. Бо што найперш скажа вернік, калі адшукае сцежку да Бога? – Падзячыць яму за прытулак у вечнасці. А што перадусім прыдбае валацуга, калі трохі набярэцца грошай? – Знойдзе сабе зацішны катух. А чым у першую чаргу зоймецца вызвалены

ад прыгнёту, калі здабудзе свабоду? Ён сядзе з сябрамі за стол і, падняўшы чарку, скажа:

– За ўтульнасць быцця!

### *недаверак*

Бывае, мяне пытаюцца: ці веру я ў Бога?

Не, не веру, – шчыра адказваю я. І тлумачу: я б і хацеў, толькі Бог не даў мне таленту веры. Ну дык хай сам на сябе і наракае.

Хаця насамрэч мая нявера зусім не смешная, а трагічная. Бо я банальна не веру ў Яго існаванне. Я не магу даць веры існаванню Бога, якога адолеў эгаізм чалавека. Калі не Бог, а чалавек найвялікшая каштоўнасць, калі камяк эгаістычна заклапочанай арганікі шыбуе наперадзе, а духоўная ідэя валачэцца ў яго за спінай, як цень на зыходзе дня, то мяне немагчыма пераканаць, што гэты даўжэзны цень ёсць прычынай мяне, а не наадварот.

Ён мяне толькі палохае, калі я часам азіраюся...

### *журба*

Маладым часта журыўся: чаму калі свет бясконцы, дык у ім няма месца вечнаму чалавеку? Гэта выглядала б так натуральна: вечны чалавек у бясконцым свеце...

Цяпер, згадваючы тую журбу, думаю: калі б гэта не былі летуценні з уласнай маладосці, дык

ніколі не даў бы веры, што кашмар вечнага існавання мог быць маёй марай.

## *барада*

Я не здымаў бараду больш як сорак год запар. Мая адданасць ёй паходзіць з дзіцячых летуценняў. Тады я адчайна марыў стацца мужным, каб шмат вандраваць па высокіх гарах. А ў кніжках усе вялікія вандроўнікі маляваліся з барадамі. Дарэчы, прыкладна ў тыя ж гады я пачаў марыць, каб як мага хутчэй зрабіцца лысым. Бо на партрэтах вялікія разумнікі звычайна былі лысымі. А мне хацелася быць не толькі мужным, а яшчэ і разумнікам.

Як гэта ні дзіўна, у пэўным сэнсе мае мары спраўдзіліся. Я чвэрць стагоддзя бадзяўся па гарах, а ў медыйным дыскурсе журналісты ўжо даўно прэзентуюць мяне як *філосафа*.

Дарэчы, аблысеў я неўзабаве пасля 25 год.

## *бібліятэка*

Яшчэ падлеткам я неяк раптам здагадаўся, што ў прыгожую думку можна закахацца, як у прыгожую жанчыну. А можа, і яшчэ мацней. Тады і падумаў, чаму б мне не пабрацца шлюбам з багатай бібліятэкай?

Гэта даўняя аблуда, быццам галоўная каштоўнасць мыслення крыецца ў інтэлектуальнай эўрыстыцы. Філасофія тысячагоддзямі трымала каля сябе чалавека зусім не таму, што ён вучыўся ад яе розуму. Проста ўвесь гэты час яна дарыла яму магутную эстэтычную асалоду. Паколькі няма ў свеце нічога больш прыгожага за прыгажосць мыслення...

А ўсё ж такі добра, што я не пабраўся шлюбам з бібліятэкай. Бо і самая жыццядайная думка не народзіць табе дзяцей.

## *баабаб і малпачкі*

У хлапечыя гады мне моцна карцела быць харошым. З усімі і заўсёды. Можа, таму карцела, што сам я тады не ўмеў заўважаць чалавечыя хібы. Ну зусім не ўмеў. А калі пра некага мне пераказвалі нешта кепскае, дык я адразу на тыя словы забываўся. І паводзіўся з тым кепскім, як бы нічога такога не чуў.

Так я і жыў з любымі сябрамі побач і проста з харошымі людзьмі вакол. Але аднойчы і амаль з нічога на мяне абрынулася экзістэнцыйная катастрофа. І ў той жа момант ад усёй маёй цноты засталася адно брудная ануча, якой я потым доўга абціраўся ад уласнага паскудства...

Мне тады было трохі за дваццаць, і ў адной экстрэмальнай сітуацыі (якая сама па сабе сёння не вартая нават згадкі) я шалёна пачаў ен-

чыць на сталую жанчыну. Ну так, гэта цяпер я называю яе *жанчынай,* а тады перада мной была ўшчэнт змардаваная жыццём бабішча, якая, здаецца, люта ненавідзела ўвесь свет, але найперш гэтага смаркача, які паспрабаваў зняпраўдзіць яе словы. Яна так на мяне вызверылася, што скаланула ў маім нутры патаемныя і ад мяне самога глыбіні, дзе да гэтай пары ціхамірна драмалі мае ўласныя д'яблы.

І я заенчыў на яе...

Толькі не дзеля ўспаміну пра той сорам мой распавед.

Як ні дзіўна, але пасля гэтага выпадку мне яшчэ мацней заманіла быць харошым. З усімі і для ўсіх. Я шмат і ўпарта думаў, як і што мне зрабіць з сабой, каб я больш ніколі (ніколі!) не сказаў пра чалавека хоць нешта дрэннае. Не, каб я нават не падумаў пра чалавека дрэнна. Ні пра якога чалавека...

Дайце веры, тое, што здарылася неўзабаве, было напраўду. Ды не ўва сне, а ў нейкім жывым трызненні пасля таго, як я злавіў сябе на нейкай кепскай думцы пра ўжо не памятаю каго. Спачатку мне ўявіўся вялізны, пад хмары, баабаб. І ў той жа момант яго нізавыя галіны абсела ладная плойма малпачак (скуль яны толькі ўзяліся?). Усе малпачкі былі аднолькава рудымі і гарэзлівымі, як дзяўчаткі на вакацыях. Да таго ж кожная трымала ў руках жаўтлявы званочак. Не паспеў

я ачомацца, як малпачкі затрэслі званочкамі і суладна агаласілі:

– Сам дурак! Сам дурак! Сам дурак!..

Пасля гэтага ратавальнага відзежу, у якой бы я ні быў сітуацыі, як толькі мяне пачынала напінаць злосць да некага, я згадваў малпачак – і яны ніколі не ленаваліся, заўсёды выскоквалі на галіны баабаба, званілі ў званочкі ды радасна крычалі мне адно і тое ж:

– Сам дурак! Сам дурак! Сам дурак!..

Прамінула гады тры, а мо і болей, як аднойчы я не паклікаў малпачак на дапамогу, бо палічыў, што гэты чалавек не варты таго, каб мне заставацца перад ім харошым. Затым неяк і зноў не паклікаў, і зноў...

Спачатку я яшчэ трывожыўся, назіраючы, як спакваля слабне маё жаданне для ўсіх быць харошым і ніколі не думаць пра іншых дрэнна. Але праз нейкі час забыўся на баабаб і малпачак – зусім...

Аднак колькі год таму, у адной п'янкой гамане я згадаў сябрам пра тыя экзістэнцыйныя мітрэнгі свайго юнацтва. Хаўрус на нейкі момант сцішыўся, а потым выпадковая сярод нас дзяўчына запыталася:

– Дык навошта вам хацелася быць харошым?

Я разгубіўся і стаў ліхаманкава азіраць пару свайго юнацтва. Мая моўча, відавочна, задоўжылася, пачуліся першыя кепікі...

– Не памятаю, – сарамліва прызнаўся я, – ужо зусім не памятаю...

Мінскі маторны завод, дзе я тады працаваў на канвееры, пабудаваў два трынаццаціпавярховыя гмахі пад інтэрнаты для рабочых. Адзін гмах засялілі хлопцамі, а другі, што стаяў насупраць і як рукой падаць, – дзяўчатамі. У першым гмаху мне таксама пашэнціла ўладкавацца ў пакойчыку пад самым дахам. Вось там, неўзабаве пасля ўлазінаў, я і чакаў суботнім падвячоркам каханую дзяўчыну.

Натуральна, маю каханую нельга было параўнаць хоць з кім іншым, і ўсё, што адбывалася з намі сам-насам, бачылася мне настолькі апрычоным, што і да галавы не прыходзіла, быццам яшчэ ў некага магло быць хоць нешта падобнае. (Дзеля чытача пазнейшых генерацыяў патлумачу, што ў тую пару ні ў кіно, ні – тым болей – па тэлевізары *нічога такога* нават акрайчыкам не паказвалі.)

Каханая ладна спазнялася, і я, поўны эратычных мрояў, выйшаў з цыгарэтай на гаўбец. Дарэчы, тады была вясна, а занавесяў на вокнах жаночага гмаху чамусьці яшчэ зусім не было. Я паліў цыгарэту, зазіраў у вокны насупраць і пакрысе слупянеў...

Не скажу, што спрэс у кожным пакойчыку, але ў многіх і многіх, бадай, не ў адным дзясятку ў дзяўчыны гасцяваў хлопец, і ўсе дзяўчаты і ўсе хлопцы ў адначас рабілі лічы тое самае! Ну, калі быць зусім дакладным, то гэта хутчэй нагадвала раскадроўку: у адным акне яны яшчэ

толькі трымаліся за рукі, у другім ягоныя рукі ўжо ляжалі ў яе на плячах, у трэцім значна ніжэй – і гэтак далей...

Як канвеер, – падумаў я, і мяне ахапіў жах!

Але найбольшы жах быў у тым, што ўсё, у таўталагічным мностве мной пабачанае, было абсалютным адлюстраваннем таго, чым сам-насам займаліся і мы з маёй каханай...

## *no problem*

Я быў выгадаваны ў мястэчку, дзе тады яшчэ панавала беларуская мова. Толькі пазней Мінск з Масквой лічы даастачы зрусіфікавалі маю спадчынную ментальнасць. Аднак па вяртанні з Расіі ў Беларусь мяне, як злачынцу, пачалі ўсюды праследаваць беларускія словы. Каб адчапіцца ад назолы, я прыдумаў сам у сабе перакладаць кожнае рускае слова на роднае. А пасля змусіўся сябе і думаць па-беларуску. Праз нейкі час я ўжо нязмушана рэфлексаваў і размаўляў так, як яно і належыць *свядомаму* беларусу. Таму і забыўся на мову як на ўласную праблему. Аднак неяк прачнуўся і не мог заснуць. Нешта ў маім увогуле звычайным сне было дзіўным. Ды раптам схамянуўся: там усе размаўлялі па-беларуску! Усцешана пасміхнуўшыся, я адразу заснуў. Але яшчэ больш весела мне было прачнуцца і падумаць, што калі на мове загаварыла маё падсвядомае, дык можна спакойна адыходзіць у веч-

насць. Пакольки цяпер і на тым свеце, дзе няма ні ратоў ні вушэй, у мяне з роднай мовай праблемаў ужо не будзе.

*каштоўнасць*

Руская мова для беларусаў — толькі функцыя. Натуральна, тут я найперш маю на ўвазе камунікатыўную функцыю. А беларуская перадусім не функцыя, а каштоўнасць. Гэта на беларускай мове доўгімі стагоддзямі кшталтаваўся эстэтычны светагляд і этычны кодэкс нашых продкаў. Гэта на беларускай мове яны засвоілі законы Быцця нябёснага і зямнога (першы праз Біблію Скарыны, другі праз Статут Вялікага Княства Літоўскага). Гэта на ёй паўстала і сфармавалася наша прыгожае пісьменства. Гэта яе словамі была прагалошана Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта арэалам бытнавання беларускай мовы былі акрэсленыя межы, якія ў асноўным і вызначаюць сучасны топас нашай Дзяржавы.

Зрэшты, і этас таксама...

*плошча*

Вечарам у нядзелю (*19 сакавіка 2006*) на Кастрычніцкай плошчы было сапраўднае свята свабоды. Сюды, пераадолеўшы страх забароны публічнага збору, прыйшлі дзясяткі тысяч людзей,

каб пасля выбараў падтрымаць дэмакратычнага кандыдата на пасаду кіраўніка краіны. Раптам усчалася шалёная завея, аднак яна нікога не напалохала, бо тут згуртаваліся насамрэч мужныя людзі.

(Між іншым, менавіта тады я зразумеў, што мужнасць – гэта найперш эстэтычная катэгорыя, паколькі мала што бывае больш прыгожым за мужнасць.)

Толькі нядзеляй свята і скончылася, у панядзелак пачыналася ўжо палітыка. Таму ў панядзелак я не збіраўся туды ісці. Але позна ўвечары адзін за адным пачалі тэлефанаваць сямейнікі, каб паведаміць, што на плошчы ставяць намёты, і яны маюць намер заставацца там да ранку. Хоцькі-няхоцькі давялося цягнуцца на плошчу. Бо як такое можа быць, каб мужык грэўся пад пярынай, калі яго дзеці і жонка ўсю ноч мёрзнуць на снезе. Праўда, потым так склалася, што недзе пасля гадзіны ночы я з дачкой і жонкай пакінуў Плошчу і вярнуўся да хаты – а сын вярнуўся толькі назаўтра днём.

Вечарам на занятках па філасофіі ў Беларускім калегіуме студэнтаў было значна меней, чым звычайна. Што не здзівіла. Бываюць дні, калі філасофія безнадзейна саступае жывому жыццю...

Адно павітаўся, як мяне адразу запыталіся пра мінскі «майдан». Я толькі што прыехаў адтуль, але мне найменей хацела гаварыць на гэтую тэму. І вось чаму... Я быў захоплены мужнасцю маладых людзей, што цяпер бадзёрыліся

каля намётаў альбо адпачывалі ў іх. Аднак разам з тым я разумеў, што Плошча трымаецца не іх мужнасцю, а нейкай мудрагелістай прыдумкай улады, якой чамусьці пакуль патрэбна, каб ля ганку Дома прафсаюзаў нейкі час пастаялі і намёты, і людзі. А як толькі ўладзе гэты гармідар станецца лішнім, праз паўгадзіны на пляцы будзе гуляць толькі вецер, ганяючы папяровае шмаццё.

Мне не хацелася казаць пра ўсё гэта маладым людзям, якія ў той момант былі апантаныя геранчным шалам, але я сказаў. Бо як патрэбная духоўная адвага, каб да ранку лічыць зоры над Плошчай, гэтаксама патрэбная інтэлектуальная адвага, каб, не хаваючыся праўды, ясна ўсведамляць, *хто* і *што* табе дазваляе праяўляць тут сваю мужнасць...

А 24 сакавіка, калі я яшчэ спаў, патэлефанаваў брат і коратка запытаўся:

– Ты дзе?

Брат працаваў побач з Плошчай, і я адразу ўсё зразумеў – там ужо пуста. Паўз маю волю мяне ахапіла ціхая радасць, паколькі так склалася, што гэтай ноччу з маёй сям'і на Плошчы нікога не было. Але амаль адразу мне зрабілася сорамна за маё ціхае эгаістычнае шчасце. Бо ў тых, хто гэтай ноччу заставаўся на Плошчы, таксама былі бацькі, браты, сёстры... І ўсім ім цяпер балюча і страшна, паколькі пад ранак намётавы лагер пабурылі, а ўсіх ягоных насельнікаў перасялілі за краты.

## *пастамент для курдупеля*

Некалі напісалася: «Божа, цяпер я ведаю, якой была Твая апошняя кара нябёсная. Сыходзячы ў нябыт, Ты аддаў нас у рукі палітыкаў». Мінаюць гады, і я ўсё болей запэўніваюся ў сваёй відушчы, бо цяжар той боскай кары робіцца ўжо амаль невыносным. Таму аднойчы і параўналіся палітыкі з гофманаўскім курдупелем Цахесам, злосным недамеркам, які цёмнай варажбой пераконваў людзей у сваёй прыгажосці, велічы і магуце. Няйначай як падобным чынам і ў «паліт-курдупеляў» атрымалася татальна апаланіць быццё, засланіўшы сабой усё тое сапраўды істотнае, з чаго яно і складваецца: прыроду, сям'ю, культуру, мысленне, веру...

Сумна, да нуды сумна. Курдупелі авалодалі светам. І ўсё сталася палітыкай, а што не палітыка, таго быццам і няма. А мы з вамі ўсе разам (працавітыя, таленавітыя, разумныя...) адно толькі пастамент не для таго, дык іншага курдупеля.

## *культура і бунт*

У кантэксце постструктуральнага дыскурсу Юлія Крысцева калісьці выштукавала азначэнне «бунт-культура» («культура бунту»). Ніякай вялікай эўрыстыкі ў гэтым вынаходніцтве няма, але я за яго ўчаплюся, каб выказацца аб праблеме, якая мяне даўно турбуе.

У спалучэнні «культура бунту» шмат стылю, і таму тут даволі прасторы дзеля паэтычных настрояў, але зусім няма месца мысленню, бо ў сітуацыі аксюмарону (а для мяне гэта безумоўны аксюмарон) мысленне паглынаецца амбівалентнасцю ўжо на стадыі першапачатковага разгортвання.

Феномен бунту не толькі супрацьлеглы феномену культуры, ён для яе чужы, гэта значыць староннi, з іншага прасвету быцця. І варожым культуры ён стаецца адразу, як толькі трапляе ў яе свет, бо не можа выяўляць сябе інакш, адно як разбураючы культуру.

Чаму?

А таму, што бунт – гэта спрэс дынаміка.

А культура гранічна наадварот – спрэс статыка.

Культура – гэта хата са святлом у акенцы і дымам над комінам, а бунт – азарэнне пажару над хатай.

Кожная, нават самая дробная праява культуры – гэта нейкая сума зафіксаванай статыкі, гэта той адсарбент, што застаецца ў стане трывалай фіксацыі ад безлічы дынамічных рухаў-перарухаў штодзённых практык.

Агулам кажучы, культура – гэта трывушча ўгрунтаваныя ў быццё разнастайныя формы існавання соцыуму, якія найбольш выразна праяўляюцца ў мове, побыце, культавых абрадах, вытворчых тэхналогіях... Але якую б форму культуры мы ні вылучалі, у аснове кожнай з іх ляжыць надзейна замацаваная сума статыкі. Вось

чаму дынамічныя з сваёй прыроды бунт ды іншыя праявы супраціву па азначэнні з’яўляюцца падзеямі чужымі ды супрацьлеглымі культуры, калі заўгодна – падзеямі антыкультуры.

Мне здаецца, што формула «культура бунту» ёсць вынікам вельмі даўняга непаразумення, якое тоесніць культуру і мастацкую творчасць.

Але ж гэте непаразуменне тоесніць культуру і мастацтва!

Мастацкую падзею выяўляюць не формы, словы і фарбы, а экспрэсія бунту. Без унутранага супраціву, хоць стасоўна чаго, мастацкі артэфакт наўрад ці ў прынцыпе магчымы. Вось чаму нішто так не разбурае культуру, як мастацтва. Нават сацыяльныя катаклізмы. Зрэшты, а ці не мастацтва (у шырокім сэнсе) заўсёды і найперш ініцыявала сацыяльныя катаклізмы? І ці не з’яўляюцца сацыяльныя катаклізмы рэалізацыяй агрэсіўных па сваёй сутнасці ідэяў мастацтва? Згадаем хаця б тое, што навідавоку: моўнае мастацтва антычных аратараў, якія бунтоўнымі прамовамі бурылі не толькі троны; альбо спевы трубадураў, сваімі песнямі падрыхтаваўшых глабальны перакрут, пазней названы Рэнесансам; альбо тэатр Мальера, з якога перадусім выспелі парыванні да французскай рэвалюцыі...

Мінулае заўсёды толькі старэе. Таму кожная спроба ўладкаваць у фармат мінулага маладое жыццё – марная марнасць.

Аднак здуменні пра колішні «залаты век» нязбыўныя. Гэтаму безліч прыкладаў: ад «Пораў года» Гесіёда да еўрапейскіх *новых правых* ці, хаця б, нашых айчынных традыцыяналістаў. І ўсе яны нястомна даводзяць людству, што, каб прыўласціць сабе «залаты век», трэба наноў актуалізаваць традыцыйныя каштоўнасці. Інакш кажучы, пакласці іх у под найноўшага адбывання быцця; і адно тады ў нас паміж кісельных берагоў пацякуць малочныя рэкі.

Звычайна такіх баюноў з цікаўнасцю слухаюць (хоць і нядоўга), але ніколі не слухаюцца. Гэта значыць, не спяшаюцца перарабляць сваё жыццё на залаты капыл.

Дык чаму нас пакідаюць абыякавымі зіхоткія рэтраспектывы, да якіх заклікаюць зачараваныя мінуласцю?

Жыццё ў кожную пару адбываецца, як адбываецца. Таму з нічога іншага, як з адбывання быцця, пакрысе кантэкстуалізуецца адрознае ад былога будучае. Зразумела, у кожным будучым заўсёды поўна прамінулага, але адно таго, якое гэтае будучае і рыхтавала. Біблейна кажучы, ускалосіцца толькі тое з былога, што памрэ, кінутае ў раллю жывога жыцця. А ўсё астатняе назаўжды знікне ў невараці.

З гэтага і маё безапеляцыйнае рэзюмэ: тое мінулае, якое ўскаласіла будучае, без штучных высілкаў ужо прысутнічае ў кожную новую пару. А калі нейкага мінулага ў ёй няма, дык, значыць, яго і не мусіла тут быць.

Карацей кажучы, не трэба надрываць кілу, цягнучы мёртвае ў жывое (як і наадварот), бо ўсё роўна нічога вартага з гэтага не атрымаецца...

## *у вайны няма свята*

Я належу да тых, хто, як кажа афіцыйная ідэалогія, «пастаянна імкнецца перагледзець гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, прынізіць значэнне гераічнай барацьбы савецкіх людзей, ачарніць партызанскі рух». Карацей кажучы, я – *«очернитель»*. Бо ўжо як найменей год дваццаць спрабую давесці паспалітаму люду, што для нас, беларусаў, ніякая гэтая вайна не Айчынная, што гераічны подзвіг савецкіх людзей – гэта ідэалагічны міф, а знакамітая савецкая партызанка на Беларусі штучна і да таго ж прымусова арганізаваная Масквой.

Але гэта зусім не азначае, што ў сваёй «нядобрай» справе перапісвання гісторыі я імкнуся змяніць ідэалагічныя плюсы на мінусы ці наадварот. Я проста хачу, каб людзі забыліся на «перамогу» як свята, калі размова ідзе пра вайну. Рэч у тым, што калі мы святкуем перамогу,

то мы святкуем вайну. А ў вайны няма і не можа быць свята.

Больш за тое, я спадзяюся, што некалі ўся гісторыя войнаў будзе пазбаўленая гераічнага ці хай сабе хаця б рамантычнага пафасу. Гэта значыць і Македонскі, і Ганібал, і Напалеон, і Сувораў, і Астрожскі будуць бачыцца найперш як здольныя арганізатары масавых забойстваў, а ўжо толькі потым як вялікія майстры ў справе вайны.

Аднак дзеля таго, каб перапісаць гісторыю на антымілітарысцкі кшталт, спачатку тое самае трэба прарабіць са слоўнікамі нашых моваў. Відавочна, яны збыт мілітарызаваныя. А пакуль у нашых галовах словы *вайна-перамога-свята* не пярэчаць адно аднаму, датуль святочныя скокі на костках ахвяраў вайны будуць доўжыцца і доўжыцца, як жахлівы сон.

### *апакаліпсісу, падобна, ужо не будзе*

У маім мястэчку Свіслач бальшыня за праваслаўнымі, але і каталікоў хапае. І яны ўвесь час даводзяць адно аднаму, якая рэлігія больш правільная. На словах часцей за ўсё перамагаюць праваслаўныя, але касцёльнымі справамі каталікі іх відавочна апярэджваюць. Яны і новы храм хутчэй збудавалі, і на нядзельныя службы, як украінцы на Майдан, натоўпамі ходзяць. З гэтага праваслаўным і зайздрасць, і скруха...

Але колькі гадоў таму зазірнула сонца і ў праваслаўных аконца. Гэта калі СМІ ўсяго свету пачалі пісаць пра сексуальны гвалт каталіцкіх святароў, які яны ў мностве чынілі над сваімі непаўналетнімі паслушэнцамі. Каб вы толькі ведалі, якой радасцю адарыла гэтая навіна маіх праваслаўных землякоў, з якім гонарам яны сталі пазіраць у бок сваіх каталіцкіх суседзяў. А мая маці, самая што ні на ёсць праваслаўная фундаменталістка, інтымна казала мне: «Што ж ты хацеў, сынок, ксёндз хоць і Боскі слуга, аднак ён жа ўсё роўна мужчына, дык як яму ўсё жыццё без жанчыны пражыць і не саграшыць? А ў нас такога і быць не можа, бо ў кожнага бацюшкі ёсць матушка. Дык чыя вера лепшая?»

Вядома, я пагадзіўся з маці, што нашая вера самая лепшая, хоць неўпрыкмет і пасміхнуўся ў бараду. Але ці не прыгасла б яе неўтаймаваная вера сёння, калі тыя ж СМІ пачалі тыражаваць скандалы пра такія ж самыя правіны ўжо праваслаўных святароў?

Гомасексуалізм спадарожнічае чалавеку бадай з самага пачатку яго чалавечай гісторыі. Аднак не станем зазіраць у самыя глыбіні нашых прадонняў. Дзеля прыкладу згадаем хаця б залатую пару антычнасці і двух яе самых знаных рознаполавых герояў. А менавіта, паэтку Сафо з вострава Лесбас, ад якой і пайшла назва «лесбіянкі», і не менш славутага героя мужчынскага полу, тут я маю на ўвазе Сакрата, які меў не аднаго хлопчыка-каханка.

У тую эпоху гэтая з’ява апынулася досыць пашыранай, і стаўленне да яе было пераважна нейтральнае, а часам выглядала нават як і ўхвальнае. Але потым прыйшла пара хрысціянства, і гомасексуалізм як грэх схаваўся ў катакомбы (ужо пакінутыя першымі хрысціянамі).

Зрэшты, дзеля нашай нататкі без патрэбы разгорнуты нарыс пра гэтую падзею. Даволі зацеміць, што латэнтна гомасексуалізм заўсёды заставаўся з чалавекам.

Разам з тым (***і гэта надзвычай істотна!***) ніколі ва ўсёй ранейшай гісторыі чалавецтва ён не быў *заканстытуяваны*. Інакш кажучы, яшчэ ніколі і нідзе гомасексуалізм не быў падтрыманы законам, не абапіраўся ў сваіх рэальных правах на хоць які юрыдычны параграф. Таму на нашых вачах адбываецца штосьці неверагоднае з узгляду на ўсю папярэднюю гісторыю чалавецтва. Ужо сёння мы маем дзясяткі краінаў, якія ўславілі закон аб аднаполых шлюбах, і больш таго – нават аб усынаўленні дзяцей сужэнцамі гэтых шлюбаў. Як на мой розум, дык гэта пачатак светагляднай рэвалюцыі, у пэўным сэнсе параўнальнай з рэвалюцыяй Дарвіна. І я не выключаю, што яе вынікам можа быць пэўны антрапалагічны зрух, які перафарматуе чалавека як від на нейкі іншы капыл... І тады (о, бедная мая мама!) нікога не будзе дзівіць, калі ў праваслаўнага бацюшкі «матушкай» будзе малады юнак, узаконены ў гэтай ролі царкоўным шлюбам.

Відаць, гэты працэс ужо нішто не спыніць, як бы таго каму ні хацелася. Хіба што апакаліпсіс, але апакаліпсісу, падобна, ужо не будзе.

### *жах*

Аднойчы прыдумаўся жах – хрысціянскі храм для нудыстаў падчас нядзельнай імшы. Храм звычайны, толькі і вернікі, і служкі – усе голыя. Выявы святых на абразах – таксама (ну не лічыць жа німбы за вопратку?). Сярод старэчых маладыя целы – як крамяныя яблыкі ў гнілой траве...

Ашалелы, выскачыў за дзверы на цвінтар. А там голыя жабракі з бруднай скурай, і каля іх тоўпіцца купка ладна абскубаных галубоў...

### *любошчы з Трышчанам ды Іжотай*

Літаратура – гэта велічны саркафаг з муміямі жыцця, а кожны літаратар – найперш муміфікатар...

Таму калі нашыя вусны варушацца над тэкстамі Гамера, Джойса ці Уладзіміра Караткевіча, дык гэта яны варушацца ад пацалункаў нябожчыкаў (у апошнім выпадку яшчэ не зусім спарахнелых)... Таму калі мы эратычна перажываем каханне Трышчана да Іжоты, дык гэта мы самі кахаемся з муміямі сярэднявечча.

Літаратура (і мастацтва ўвогуле) як не што іншае выяўляе некрафільную сутнасць чалавека...

Як вядома, у чалавеку амаль аднолькава моцныя воля да жыцця і воля да смерці. За любоў да жыцця сведчыць наша жывое жыццё і жах смерці, а на любоў да смерці паказваюць нашыя ўцёкі ад жывога жыцця ў раманы, вершы, гістарычныя расповеды – адным словам, усе нашыя хованкі ў саркафагу літаратуры.

Але літаратура не толькі выяўляе некрафільную сутву чалавека. Куды больш істотнае тое, што, бальзамуючы жыццё, яна эстэтызуе смерць і праз гэта ў нейкай меры аптымізуе жах небыцця, бо несупынна даводзіць нам, што смерць – гэта прыгожа, а мёртвае гэтаксама падлягае нашай любові, як і жывое.

### *шолах моўчы*

Той, хто ўмее нешта рабіць, – робіць, а хто нічога не ўмее – піша вершы. Суадносіны першых і другіх на нашай зямлі нескладана вылічыць, калі мы прыпомнім, што Беларусь традыцыйна называюць «краінай паэтаў». Вядома, якое там жыццё ў краіне, дзе няма ні бізнесоўцаў, ні эканамістаў, ні палітыкаў, а спрэс паэты... Але я тут не пра жыццё, а пра паэзію – іх нават у Беларусі атаясняць робіцца ўсё больш праблематычна. Прынамсі, «бізнес-план» песняра пачатку XX стагоддзя *з цэлым народам гутарку весці* на па-

чатку веку наступнага выклікае адно сарамлівы посмех. Хаця далей не прамінем згадкай, што ў сваю пару заданне класіка было амаль рэалізаванае, калі за камуністамі паэта прызначылі выконваць ролю атэістычнага дэміурга ўсяго секулярызаванага дыскурсу, калі толькі яму аднаму было дазволена зазіраць у катакомбы нябёсаў (дзе ў марудзе вечнасці спеляцца блакітныя эйдасы), каб пасля бадзёра апавядаць народу пра *шолах моўчы*...

Ах, які пераменлівы наш свет, якое хісткае пад ім трываліішча! Яшчэ за нашай памяццю на галаве паэта быў лаўравы німб, а цяпер там клабук блазна; яшчэ ўчора ён піў на брудэршафт з уладарамі свету, а сёння ўжо пахмяляецца сярод бамжоў на сметніку культуры; яшчэ кагадзе цараваў у дзяржаве прыгожага пісьменства, а сёння блукае інфернальнай зданню па руінах краіны, дзе ніхто не жыве...

Аднак не варта лішне нурыцца. Урэшце, сітуацыя «паэзіі без паэта» (не блытаць са «смерцю аўтара») мае і пэўныя выгоды – прыкладам, яна вызваляе паэта ад адказнасці перад грамадствам (маўляў, калі ты на мяне не звяртаеш увагі, дык і я цябе ведаць не ведаю).

Формы гэтай адказнасці, раней жорстка дэтэрмінаваныя, у кожную пару былі свае, але, апроч розных іншых, праз усе нацыястваральныя часы трымаўся абавязак паэта мацаваць «беларускую ідэю». Ці, дакладней, гэтая ідэя сама, як пятля на шыі, трымала паэта пры сабе.

Скарыстаўшыся з прамоўленага Юліюсам Фучыкам, выславімся хаця і не патрыятычна, затое шчыра: не толькі паэзія, але і ўся папярэдняя беларуская літаратура – гэта бясконцы «рэпартаж з пятлёй на шыі». Прынамсі так было да самага апошняга часу, рэха якога яшчэ бывае добра чуваць і сёння – але гэта толькі рэха. Бо сама пятля ўрэшце не вытрывала і абарвалася ад пустога цяжару нацыянальнай ідэі.

*адзінаццаты верш*

Калі б я быў насамрэч паэтам, дык сярод іншых паэтаў вылучаўся б тым, што ведаю колькасць сваіх вершаў. Іх адзінаццаць. Дзесяць было надрукавана наастачу да кнігі «Дыялогі з Богам», а вось адзінаццаты ўжо шмат год маркоціўся сярод пажоўклых рукапісаў. Нарэшце, у мяне надарылася магчымасць вызваліць яго ад анталагічнай самоты.

Акрамя імя

Жанчына не мае імя –
гэтаксама як Бог.
Прыходзіць мужчына,
сядзіць збоч агня –
жанчына ценем ля ног.

Цень не мае імя.
Мужчына стуліў павекі.

Гасне агонь... І ніхто, акрамя
Бога, жанчыны ды агня,
не ведае сны чалавека.

### *нашыя хлопцы на месяцы*

Сёння не абы-які дзень. Сорак гадоў таму менавіта ў гэты дзень амерыканцы зваліліся на Месяц. Увесь свет тады аж захлынуўся ад радасці. А беларусы дык не, не надта каб захлынуліся. Маўляў, што тут за дзіва? Нашыя людзі ад веку на Месяц па драбіне лазілі. Пра гэта ў паданнях колькі заўгодна звестак засталося. Праўда, ніхто не ведае, чаму мы потым забыліся на тую забаву. Я на яе таксама быў зусім забыўся, толькі сёння мне патэлефанавалі з радыё «Свабода» і запыталі, каго з беларусаў я б выправіў на Месяц першым? І нават далі трохі часу падумаць – а што тут думаць? Не толькі мы, але і ўвесь свет ведае, хто ў нас *першы*.

Затым мне трэба было выбраць дублёра, бо такая ў касманаўтаў завядзёнка. Тут я таксама глузды не лішне трудзіў, паколькі лепшага дублёра за Пазняка ў нас няма. Аднак потым уявіў Лукашэнку з Пазняком каля ракеты і зразумеў, што замест таго, каб на Месяц ляцець, яны на касмадроме моцна паб'юцца і, можа, нават трапяць у шпіталь.

Тады я вырашыў, хай Лукашэнка ляціць ракетай (ён нават на матацыкле «Харлей» ездзіць

не баіцца), а Пазняк лезе па драбіне (гэны традыцыяналіст a priori). Праўда, на драбіне ў еўрапейскім гарнітуры ён будзе выглядаць трохі недарэчна, аднак нічога, пакуль дапнецца – гарнітур добра абносіцца.

Пэўна, тут вы падумалі, што я вызнаў нашым героям збыт няроўныя ўмовы. Не спяшайцеся. Лукашэнка ўжо колькі год нейкі лядашчы спутнік агораць не можа, а тут вам не спутнік – цэлую ракету трэба справіць. Да таго часу, як нашыя адмыслоўцы яе выштукуюць, Пазняк ужо бел-чырвона-белы сцяжок у Месяц уваткне.

Лукашэнка, зразумела, прыляціць з чырвона-зялёным сцяжком і як толькі замацуе яго камянямі, дык яны адразу з Пазняком пачнуць біцца.

Добра вядома, што Лукашэнка моцна трэніраваны, а Пазняк нават не ведае, як хакейную клюшку ў руках трымаць, паколькі яму ўвесь час трэба думаць пра занядбаную Бацькаўшчыну. Толькі гэта яшчэ пытанне, хто ў той бойцы пераможа. Бо Пазняка будзе падтрымліваць варскі дух усіх герояў нашага прамінулага, а Лукашэнку – толькі трэніраваныя цягліцы...

Між іншым, пакуль яны там будуць біцца, у беларусаў з'явіцца новая завядзёнка. Ціхімі зорнымі вечарамі яны ў мностве пачнуць выходзіць на прагулянку, каб угледзецца ў маладзік ці поўню. «Як там нашыя хлопцы? – пры гэтым будуць разважаць яны. – Усё яшчэ б'юцца ці, можа, ужо замірыліся?»

А потым, наглядзеўшыся на неба, пойдуць спаць. Бо хто б там ні перамог, Лукашэнка ці Пазняк, а на заўтра ўсё роўна трэба падымацца да працы.

### *паглядзі ў вочы свайму першабогу*

У адным з эсэ я падзяліў усю пару існавання чалавека на эры Татэма, Міфа і Тэксту. Пра чалавека эры Татэма я пісаў, што ён быў роўны і родны каменю, дрэву, рыбе, зверу, птушцы... Ён быў як усё, і яго яшчэ не было як *яго*. Вольны ад самога сябе, ён жыў, як жывуць вольнымі ад саміх сябе рыба, звер, птушка. Аднак, у адрозненне ад іх, чалавек ужо пачынаў шукаць прычыну самога сябе. І знаходзіў яе ў тым, што бачыў побач, – у коршаку, бабры, ваўку, казулі ці чаплі... Гэты яго выбар свайго першапродка мы называем татэмам. Навукова кажучы, татэм – гэта відавая назва жывёлы (але не толькі, ім можа быць што заўгодна), з якім пэўнае племя звязвала сваё паходжанне. З гэтага і містычнае шанаванне татэма, і задзіночанне з ім, як са сваім крэўным, – і нават абагаўленне.

Натуральна, пра татэм я завёў гаворку зусім не выпадкова. Адзін малады фотамастак (Андрэй Лянкевіч) запрапанаваў мне пазнаёміцца з напрацаваным матэрыялам для фотаальбома пудалаў, і я адразу падумаў: гэта цікава! Але не адразу зразумеў, што цікавага ў тым, каб фата-

графаваць не жывых істотаў, а іх навечна знерухомленыя целы. Магчыма, перадусім мяне завабіла арыгінальнасць ідэі. Бо жывых звяроў ды птушак здымае ці не кожны фотамастак, нават калі ён заангажаваны, скажам, адно ўрбаністыкай. А вось выпрашаць нейкую мастацкую ідэю праз пудалы жывёлаў, якія, у пэўным сэнсе, самі ўжо ёсць творамі мастацтва, – гэткага мне раней не сустракалася. Толькі неўзабаве паўсталае пытанне не падалося мне хоць чаго вартым. Бо раптам я моцна задумаўся, з чаго гэта чалавек выштукоўвае пудалы дзікіх звяроў? Тым болей, што звычайна гэта не нейкія там экзатычныя жывёліны, а тыя, якіх можна высачыць у бліжэйшай пушчы. Мікола Гусоўскі, аўтар славутай «Песні пра зубра», згадвае, што папа Леў Х вельмі хацеў, каб да яго ў Рым прывезлі пудала нашага зубра. Толькі гэта гісторыя пра забаву, а мы пра сутнае. Дык вось, хіба свойскі гусь менш прыгожы за дзікага, а пастава ганчака саступае ваўчынай? Дык чаму тады не робяць пудалы са свойскай жывёлы? І хаця мы ведаем прыклады, калі пасля смерці свойскую жывёліну «муміфікуюць», як было з любай кабылай (Лізаветай) Пятра Першага, але гэта ўсяго толькі некрафільскія вычварэнні...

У наступным маім здумленні больш інтуіцыі, чым гістарычнай факталогіі. Разам з тым я амаль пэўны, што нашая нязменная цікавасць да пудалаў дзікіх звяроў неўсвядомлена грунтуецца на тым, што некалі яны былі першымі

багамі чалавека. Інакш кажучы, пудала – гэта своеасаблівы абраз татэма, перад якім і па сёння сцішаецца нашая самасць. Зразумела, існуе мноства самых розных іншых тлумачэнняў, чаму майстры вырабляюць пудалы, а людзі не стамляюцца захапляцца іх адмысловай працай. Аднак усе гэтыя тлумачэнні нічога не кажуць пра глыбіню таго прадоння, на дне якога ледзьве калыхаюцца цені нашых прапродкаў ды іхніх багоў.

Я паволі праглядаў фотаздымкі, раз-пораз вяртаючыся да ўжо нагледжаных, – і не спяшаўся далей перагортваць аркушы. Толькі хай мне даруюць і фотамастак, і майстры-таксідэрмісты, працы якіх ён скарыстаў, але мая засяроджаная ўвага была абумоўленая не столькі іх высокім мастацтвам, колькі ўласнай анталагічнай патрэбай. Пільна ўглядаючыся ў пудалы звяроў, птушак ці жабак, я спрабаваў здагадацца, хто з іх быў татэмам маіх самых даўніх прапродкаў, а значыць і маім першабогам! Зразумела, я *яго* так і не пазнаў. Магчыма, *ён* проста не патрапіў пад аб'ектыў фотакамеры, але больш верагодна, што такое ўвогуле немагчыма, бо калі яна была, тая эра Татэма?!

І ўсё ж такі мне хочацца думаць, што я зазірнуў у шкляныя вочы свайму першабогу. І калі не я яго, дык ён мяне пазнаў.

Далёка за горадам па начной дарозе ішоў малады чалавек. Пэўна, ён аб нечым думаў, але напэўна не аб тым, што сучасныя дарогі створаныя зусім не дзеля начнога шпацыру. Кіроўца «мэрсэдэса» таксама пра гэта не думаў, бо заўсёды ведаў, што па дарогах не ходзяць, тым болей – ноччу, а ездзяць. Таму яны і перастрэліся на паваротцы. І маладога чалавека не стала.

Звалі яго Андрусь Белавокі. Ён пісаў вершы, прозу, эсэ...

Калі хлопца пахавалі, яго сябры з усяго гэтага выштукавалі кніжыцу «Лесвіца ў нябёсы з адной прыступкі» (назва верша Андруся). Фармальна кніжыца не лішне рознілася ад падобных выданняў іншых пачаткоўцаў, якія збіраюць пад адну вокладку ўсё, што паспелі накрэмзаць за сваё кароткае літаратурнае жыццё. Але бадай кожны ўдумлівы чытач, прагарнуўшы трохі старонак, пачынае здагадвацца, што тут сапраўды, як кажуць, «нешта ёсць». І так думаць ён будзе зусім не таму, што да напісанага дадаўся геніяльны суаўтар – смерць. Хоць апошняе, звычайна, змушае нас надаваць тэкстам сэнсы ды вартасці, якія былі б зусім не відочнымі ў іншым выпадку.

Справа, бадай, у тым, што Андрусь насамрэч быў – як найменей трохі – геніяльным. Гэтае досыць рызыкоўнае азначэнне цяжка давесці простай канстатацыяй, але чытача не аднойчы скалане ад слова, радка, думкі, вобраза, якіх ён

ніколі не сустрэне ў проста таленавітага літаратара. Прынамсі са мной падобнае здаралася разпораз, працытую хаця б эпітафію на помнік, якую Андрусь падрыхтаваў сам сабе, калі яму не было яшчэ і дваццаці гадоў: «Мяне заўсёды мучыла пытанне: у чым сэнс смерці? Цяпер я ведаю, а вы – не».

Дарэчы, мяркую, што Андрусь быў пэўны, што ў кожным разе яго кніга некалі з'явіцца. Звернем увагу на адзін з апошніх запісаў у дзённіку.

«Мы жывем аднойчы. У любы момант можа здарыцца што заўгодна: трамвай... Я жыву толькі для тых, хто вакол мяне: бацькі, сябры. А яшчэ для таго, каб напісаць КНІГУ. У ёй павінна быць пра ўсё: пра свет і пра Сусвет, пра Беларусь, пра каханне. ПРА ЎСЁ. Калі я не змагу гэтага зрабіць ці не паспею, я абавязваю таго, хто чытае гэтыя радкі, паспрыяць стварэнню такой кнігі ці напісаць яе самому: шмат хто з маіх знаёмых можа.

Прывітанне з таго свету».

Цяпер, калі ўсё гэта здарылася – і смерць, і кніга, – я думаю, што, можа, інакш яно і быць не магло. Можа, толькі так, праз смерць, ён і мог спраўдзіць уласную Кнігу як самую вялікую мару свайго жыцця.

### *вусціш быцця*

Міхась Стральцоў – гэта заўсёды нязбыўны сум з непазбежнасці сыходу ў невараць.

Мы ўсе рушым туды, але да пэўнай пары лішне з гэтага не смуткуем. А ён ці не ад пачатку ўзяў занадта блізка да сэрца неадпрэчнасць смерці – і тым жыў. І таму так жыў, як жыў, а ўсё, што акрэсліваў словам, было словам пра сыход.

Раней я думаў, што ягоная засяроджанасць на паўсюднай прысутнасці небыцця ў быцці паходзіць з хранічнай любові да жыцця. Але гэта не так. Жыццё ён, што праўда, моцна любіў, аднак не больш прагна, чым нехта іншы. А вось *адчуваў* яго – з усімі пахамі, фарбамі, гукамі, – як мала хто яшчэ. З гэтай фатальна абвостранай чуйнасці жыцця і вынікала такое ж вострае пачуццё непазбежнасці страты ўсяго, што ёсць *пад гэтым небам сінім і любімым.* Адсюль нязбыўны сум і нават у спякоту падняты каўнер, якім ён атуляў сябе ад стыні нябыту за спінай, адсюль і віно як марная вымога сагрэць заўсёды восеньскае сэрца, адсюль і сцішаны дакор, вымаўлены на паваротцы ў вечную засень: *мой свеце ясны...*

Кажуць, ён не абмінаў жанчын. Магчыма, што так яно і было насамрэч, хаця самі па сабе жанчыны яго не моцна вабілі. Ён проста персаніфікаваў жыццё з той ці іншай жанчынай і такім чынам заляцаўся да жыцця ў вечнай празе зліцца з ім. Хаця чым тужэй загортваўся ў каханне, тым больш тужліва ападаў на сэрца сум. Бадай, з гэтага амаль адчайнага суму ён мог здагадацца, што чалавек спярша губляе сябе ў жанчыне, а ўжо потым – сам у сабе... Але, відаць, не здагадаўся, хоць сэрцам адчуваў небяспеку і таму

доўга не трываў жанчыну побач, хаваўся ад адной за другую ці сыходзіў ад усіх да сяброў і віна.

Чуллівы і пяшчотны, ён шукаў у сяброўстве абароны і прытулку, а разам з тым – непадманнага духоўнага хаўрусу, мысліўнай лучвы, урэшце – высакароднага чыну.

Толькі духоўны мужчынскі звяз таксама не яднаў з жыццём. Яднала хіба віно, але калі яго не хапала, хаўрус з жыццём перапыняўся яшчэ вялікшай тугой...

А яшчэ было – слова...

Аднойчы я падумаў, што слова было сэнсам ягонага жыцця.

Але потым я ўжо так ніколі не думаў. Бо слова яму было адно спосабам немагчымасці жыць жыццём.

Падобна, што ён нарадзіўся не жыць, а толькі выглядаць смерць – у восеньскай смузе, у ціўканні сініцы, у смаленні вепрука. Крэмзанне паперы прозай ці вершамі было ўсяго абаронай ад нябыту. І ці не таму ён кангеніяльна тоесны свайму пакліканню найперш там, дзе ў яго адрэфлексавана развітанне, расстанне, кананне; там, дзе памірае маладым Максім Багдановіч; там, дзе канае дзед Міхалка; там, дзе ў «Смаленні вепрука» распушчаюцца ўсе сэнсы быцця.

Дух смерці лунае над гэтым геніяльным эсэ, заспеленым пахамі, фарбамі і гукамі нежытва: «Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі – падаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля, і цёмным, ільсняна халодным зяленівам б'е ў вочы

парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зябліва, пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і панішчымніла паветра».

У «Смаленні вепрука» ён перажыў свой метафізічны сыход. Тут невараць урэшце запанавала ўсюды і найперш у ім самім. Ён сам быў вепруком і тым, хто забівае вепрука, ён сам з сябе склаў ахвярнае вогнішча і сам быў тым ахвярным дымам, што завершыў яшчэ адзін кругазварот быцця.

З тым дымам ён і адышоў у нябёсы, а *душа ўзяла і засталася*, затрымалася на нейкі час і вярэдзіць маю душу ягоным сумам па немагчымасці інакш пазбегнуць смерці, як толькі памерці.

### *мой кандыдат на нобеля*

Яшчэ за жыццём Васіля Быкава маім персанальным прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію ад беларускай літаратуры быў Алесь Разанаў. Мінаюць гады, у нашым прыгожым пісьменстве з'яўляюцца новыя героі, але я па-ранейшаму трымаюся свайго віртуальнага вылучэнца. І вось чаму...

У адрозненне ад сябраў камісіі па Нобелеўскіх прэміях і шырокай чытацкай аўдыторыі, я ўсё яшчэ стаўлюся да літаратуры надзвычай сур'ёзна (хаця, як на сёння, яна ўжо таго бадай і не вартая). Гэта азначае, што мая ўвага (і павага) найперш скіраваная на тых аўтараў, якія адкрываюць у літаратуры дадатныя магчымасці па

выяўленні новых сэнсаў і змесціваў як быцця чалавека, так і ягонага нябыту. Таму з майго гледзішча менавіта яны, а не проста выдатныя пісьменнікі, мусілі б складаць спіс лаўрэатаў гэтай самай прэстыжнай у свеце літаратурнай прэміі. На жаль, шведскія акадэмікі лічаць інакш і таму не зважаюць на самотнага «небажыхара» з Беларусі...

А далей пра тыя колькі кніжак Алеся Разанава, на якія я найперш звярнуў бы ўвагу камітэту па Нобелеўскіх прэміях.

*«Шлях – 360».* Яшчэ папярэдняй кнігай «Каардынаты быцця» Алесь Разанаў засведчыў радыкальную інавацыйнасць сваёй паэзіі. Але сапраўднай падзеяй не толькі для ягонай творчай біяграфіі, але і для ўсёй беларускай літаратуры сталася кніга «Шлях — 360». Колькі людзей ды партыйных установаў супраціўляліся паўстанню гэтай падзеі! Некалі на пытанне Міхася Скоблы, чаму ж кніга ўсё-такі пабачыла свет, Алесь Разанаў адказаў: «Відаць, мая прысутнасць у літаратуры ўжо стала крычаць». Са «Шляху — 360» пачалася мадэрнізацыя прыгожага беларускага пісьменства.

Але яшчэ доўга, лічы да «эпохі перабудовы», амаль уся яе мадэрнасць будзе лакалізаваная ў творчым наробку Алеся Разанава.

*«У горадзе валадарыць Рагвалод».* Мне не падабаецца яе назва (нейкая падлеткавая гульня ў алі-

тэрацыі), але гэта ці не найлепшая кніга ўжо цалкам сфармаванага Паэта. Яе складаюць *вершаказы і пункціры*. Асабіста для мяне вершаказы – вяршыня творчасці Алеся Разанава. Яны мне нагадваюць бліскучыя эсэ сталага Марціна Гайдэгера, але ў цалкам эўрыстычнай інтэрпрэтацыі.

Звяртаючы ўвагу на анталагічныя для чалавека атрыбуты і падзеі быцця (Дарога, Праца, Жалеза, Камень, Гліна...), паэт у вершаказах дэканструюе слова (Жак Дэрыда), каб у прыцемках ягонай сугестыі намацаць і выявіць тую сутву, якой гэтае слова і трымаецца.

*«Паляванне ў райскай даліне».* Як вядома, Алесь Разанаў – знаны выдумляка новых жанраў паэзіі. У гэтай кнізе яны прадстаўленыя ці не з найбольшай паўнатой: *версэты, пункціры, вершаказы, зномы*. Фармальна выломваюцца са структуры выдання як бы пераклады з Веліміра Хлебнікава. Але гэта і неістотна. Бо калі чытаеш пераклады, дык разумееш, што толькі тут, пасля разанаўскіх перастварэнняў (і болей нідзе), геніяльны шаленец Хлебнікаў становіцца насамрэч вялікім паэтам.

*«Гліна. Камень. Жалеза».* У беларускай літаратуры ёсць дзве вялікія паэмы: эпічная «Новая зямля» Якуба Коласа і экзістэнцыйная «Ложак для пчалы» Уладзіміра Някляева. Алесь Разанаў таксама неаднойчы звяртаўся да жанру паэмы, аднак, як на мой погляд, гэта не самы плён-

ны для яго жанр. І я нават ведаю чаму. У ягонай паэтыцы канцэнтрацыя сэнсаў у кожным радку настолькі вялікая, што раз-пораз апрычона захоплівае і надоўга спыняе чытача. А паэма – гэта няспынны рух праз сюжэт нейкай гісторыі, якая толькі завяршэннем і прагалошвае свой сэнс.

Але ёсць у Алеся Разанава метафізічны праект з трох паэмаў («Гліна», «Камень», «Жалеза»), якія мне бачыцца надзвычай удалым і значным. Тут паэт як бы вяртаецца ў першапару старагрэцкай філасофіі, калі амаль кожны мысляр лічыў неабходным выкласці сваё натурфіласофскае бачанне свету ў паэме з аднолькавай назвай «Аб прыродзе» (Анаксімандр, Ксенафан, Эмпедокл, Парменід...).

Алесь Разанаў, паяднаўшы ў гэтых сваіх паэмах анталогію з метафізікай, магчыма, упершыню з такой глыбінёй і паўнатой распавёў праз паэтычнае слова, як выглядаюць Быццё і Нябыт у беларускай візіі.

*«Сума немагчымасцяў».* Недзе ў 1994 годзе мне, Алесю Разанаву ды Ігару Бабкову дазволілі пры штотыднёвіку «Культура» раз на месяц выдаваць літаратурна-філасофскі сшытак. Для яго Разанаў прыдумаў назву – «ЗНО» – і патлумачыў, што гэтыя тры гукі ў розных спалучэннях найчасцей сустракаюцца ў самых сэнсавых і дынамічных

* У выпадку з *тэхналагічным мысленнем* феномен татальнай адсутнасці жанчыны ў гісторыі гэтай з'явы яшчэ больш уражвае.

беларускіх словах. Так наш сшытак прыдбаў сабе імя, а Алесь Разанаў яшчэ адзін жанр – *зномы*.

«Сума немагчымасцяў» – гэта кніга зномаў, у якіх, як тлумачыць аўтар, «паэзія крышталізуецца ў высновы і, крышталізуючыся, набывае адмысловы кшталт».

Магчыма, гэтую кнігу і нельга залічыць да загалоўных у творчасці майго героя, але без знаёмства з паэтызаванымі рэфлексіямі інтэлектуала Алеся Разанава і паэт Алесь Разанаў застанецца для чытача недачытаным.

Некалі я пісаў: «Феномен значнасці вершаванняў Алеся Разанава звязаны найперш з тым, што ён выявіў чацвёртае (метафізічнае) вымярэнне да гэтага трохмернай (этнаграфія, сацыяльнасць, патрыятызм) беларускай паэзіі. Гэтае павелічэнне аб'ёму беларускай паэзіі на цэлае вымярэнне і ёсць Алесь Разанаў». Аднак не толькі ў абсягах беларускага пісьменства, а і ўва ўсёй сучаснай еўрапейскай паэзіі постаць Алеся Разанава мне бачыцца выразна адметнай. Прынамсі пасля Эзры Паўнда і Томаса Стэрнза Эліята я не бачу, акрамя Алеся Разанава, другога паэта-метафізіка, якога можна было б паставіць упоравень з імі.

### *канец цывілізацыі мужчыны*

Адсутнасць у гісторыі сусветнай філасофскай думкі* хоць адной бясспрэчна знакавай інтэлекту-

альнай фігуры, якая была б пазначаная жаночым полам, наўрад ці можна патлумачыць толькі заніжанай сацыяльнай роляй жанчыны, паколькі ў гісторыі сацыяльнасці дастаткова прыкладаў, калі жанчына знаходзілася на подыуме ўлады ці ў значнай ступені ўплывала на фармаванне яе канфігурацыі. Таму цяжка пазбегнуць авантурнай версіі, што непрыстасаванасць да абстрактнага і канцэптуальнага мыслення закладзеная ў самой канстытуцыі жанчыны. Але я не маю на мэце наследаваць Вайнінгеру і далей разгортваць аналітыку гэтай досыць рызыкоўнай тэзы. Колькі папярэдніх словаў было патрэбна адно дзеля таго, каб заўважыць, што мысленне як такое цалкам завязанае на мужчыну, што толькі мужчына ёсць бацькаўшчынай мыслення і нідзе, акрамя як у мужчыне, яму няма спраўнага прытулку.

Мысленне – гэта мужчына (але не наадварот). З гэтага нават у маскулінныя эпохі першынство мужчыны вызначала не столькі фізічная сіла, колькі інтэлектуальная патэнцыя. Вось чаму ўсе ранейшыя цывілізацыйныя ўладкаванні я схільны паяднаць агульнасцю, пазначанай як *цывілізацыя мужчыны* (пакідаю за абсягам праблемы цьмяныя міфы пра матрыярхат, амазонак і да т. п.)...

Але ў сваім бясконцым рушэнні праз тысячагоддзі метафізічнае мысленне некалі мусіла выгаварыць усе свае сэнсы і запыніцца на мяжы самога сябе.

Так скончылася *цывілізацыя мужчыны* і запанавала моўча.

Цяпер, калі мужчыну ўжо няма што сказаць ні сабе, ні свету, мы нарэшце пачулі голас жанчыны. Аднак зусім не таму, што жанчыне ёсць што распавесці мужчыну, а толькі таму, што мужчыну заняло мову. Між іншым, жанчына таксама слухала мужчыну зусім не дзеля таго, каб нешта пачуць...

Нам няма што сказаць адно аднаму, хаця мы ўвесь час і знаходзімся побач, бо нашая блізіня абумоўлена не экзістэнцыйнай патрэбай гэтай блізіні, а тэхналагічнай канструкцыяй агрэгатаў прыроды, у якіх мы з'яўляемся дзвюма нераз'емнымі часткамі механізма па бясконцым рэпрадукаванні біялагічных матрыц для нашай папуляцыі.

Мужчына і жанчына шмат прамаўляюць адно да аднаго, але ў прамоўленым кожны чуе толькі самога сябе. Што і натуральна, паколькі мужчына (Бог) стварыў слова не дзеля таго, каб казаць і слухаць, а каб загадваць і слухацца, найперш – яго (Яго).

Мова – самы магутны і надзейны інструмент улады. Таму моўча мужчыны азначае адно: ён сваю ўладу губляе. І з гэтага ўсё больш выразна чуваць голас жанчыны. Яна яшчэ паўтарае моўныя фігуры, сфармаваныя цывілізацыяй мужчыны, і з гэтага мы, мужчыны, яе пакуль трохі разумеем, бо гэта тыя словы, якія мы ў сваю пару самі казалі жанчыне, але неўзабаве хоць якое паразуменне скончыцца, і мы будзем чуць у словах жанчыны толькі голас яе ўлады.

## *гаваркія істоты*

Дваццатае стагоддзе было самым гаваркім з усёй папярэдняй гісторыі чалавецтва. Публічна вярзлі што заўгодна без меры ды спыну *ўсе*: дыктатары і прэзідэнты, палітыкі і філосафы, паэты і публіцысты, астролагі і навукоўцы, святары і злачынцы, блазны і бадзягі, манахіні і прастытуткі...

Але гэта тады толькі здавалася, што *ўсе*. Бо ў дваццаць першым стагоддзі да іх далучыліся (найбольш праз сацыяльныя сеткі) школьнікі і студэнты, прадавачкі і шафёры, электразваршчыкі і сантэхнікі, сяржанты і вахцёры...

Карацей, апошнімі часамі словаў нагаварылі столькі, што за імі ўжо нікога не чуваць. Як абыякава заўважыў адзін з герояў Бэкета: «Хто гаворыць? Якая розніца, хто гаворыць». Хаця як на сёння, дык мне сітуацыя бачыцца яшчэ больш вусцішнай. Бо ўжо наспеў час запытацца: «Якая розніца, пра што гавораць?»...

З гэтага мы неўпрыкмет паставілі пад сумнеў не проста асобныя ідэі і выказванні, а мову як цэлае. З таго, што мова згубіла наш давер, але па-ранейшаму застаецца падставовым чыннікам у спосабе засваення быцця, мы ў сваіх шляхах апынуліся без відавочных арыенціраў. Мы ўсё яшчэ пытаемся і адказваем, але ўжо не даем веры ў тое, што кажам, нават калі кажам тое, ува што верым.

## *філасофскія мітрэнгі*

На пачатак – тры цытаты ў якасці эпіграфа.

Пітэр Слотэрдайк: «Яна (сучасная філасофія – *В.А.*) пагаджаецца: усе вялікія тэмы былі спрэс хітрыкамі ды паўпраўдай. Прыўкрасныя, але марныя парыванні мыслення: Бог, Універсум, Тэорыя, Практыка, Суб'ект, Аб'ект, Цела, Дух, Сэнс, Нішто – усяго гэтага няма. Усё гэта адно слоўкі для падлеткаў, прафанаў, клерыкалаў ды сацыёлагаў».

Рычард Рорці: «Няма ні Бога, ні хоць якойнебудзь сутнасці, увогуле нічога, што было б вышэй за кансэнсус свабодных людзей».

Жак Дэрыда: «Калі я і хачу аднавіць у Францыі навучанне філасофіі як інстытут, дык дзеля выкладання метафізікі. Я ведаю, што метафізіка нам патрэбная, я ніколі не казаў, што яе варта выкінуць у кошык для смецця».

Трансцэндэнтная перспектыва, якая што найменей дваццаць пяць стагоддзяў правакавала еўрапейскага чалавека на пошук Ісціны і тым самым незаўважна кіравала яго штодзённым жыццём, цягам папярэдняга стагоддзя замглілася да невідалі. Тады і згаслі апошнія зоркі метафізічнай цывілізацыі і на яе месца заступіла тэхналагічная цывілізацыя. А на месца метафізічнага чалавека, які болей углядаўся ў неба, чым пад ногі, заступіў тэхнакратычны чалавек. Для яго неба ўжо не дыскурс трансцэндэнтнага, а дарога для самалётаў.

Інакш кажучы, тэхнакратычнаму чалавеку, які звязвае сэнс і плён свайго існавання адно з колькасцю і якасцю прыўлашчанага «тэхна» дабрабыту, філасофія патрэбная не болей, чым кокан матылю, з якога ён ужо вылецеў.

З гэтага адразу рэзюмэ: Філасофія як інстытут не мае ніякай перспектывы. «Дысцыплінарныя» філосафы будуць і надалей (бо ўжо даўно падобнае практыкуюць) перарушваць у бок таго, што часам называюць «сацыяльным мысленнем» (да прыкладу – у цалкам станоўчым сэнсе – кніга В. Шпарага «Побуждение политической жизни: Эссе о философии публичности»), ці проста сыходзіць хоць куды, дзе яшчэ запатрабаванае ўмельства аналітыкі альбо рэфлексіі. І ўжо нішто не стрымае распад філасофіі як інстытута, незалежна ад таго, колькі яшчэ часу яна фармальна пратрымаецца ў гэтай фікцыі.

Філасофія як спосаб мыслення ўсё больш грунтоўна атабарваецца ў эстэтычных дыскурсах. Найперш у літаратуры. Уласна мастацкая літаратура кіруе ў бок «нон-фікшн» (рэальнай гісторыі), а філасофія – у бок мастацкай (намысленай) літаратуры. І яно выглядае цалкам натуральна, калі мы пагодзімся, што ў «недаразвітыя» эпохі (Р. Рорці) філасофія была толькі прыўкраснай фантазіяй (П. Слотэрдайк) на тэму трансцэндэнтнага. Калі гэта сапраўды так, дык тады філасофіі самае месца ў мастацкай (намысленай) літаратуры, адно што слоўнік трэба перапрафіляваць. Зрэшты, гэты працэс ужо даўно

пачаўся: Музіль, Борхес, Мілаш, Кундэра, Уэльбэк, нашыя Разанаў і Бабкоў... Што праўда, дык і тут філасофіі як філасофіі няма лішне на што спадзявацца, бо яна становіцца адно дадаткам да літаратуры, якая, да таго ж, сама не мае асаблівых перспектываў застацца ў сваім самадастатковым і высокім значэнні.

Філасофія ўжо як уласна філасофія, магчыма, пакрысе вернецца ў сваю даінстытуцыянальную пару, у пару антычных «ліцэяў» ды «акадэміяў», як індывідуальных практык заангажаваных у філасофію асоб. Пераважна гэта будуць «школы» натуральных (ад прыроды) «любамудраў», якія знойдуць сабе ўцеху ў архаічных дыскурсах ужо адпрацавалай сваё філасофіі. Але я б цалкам не выключаў, што недзе там, у інтэлектуальных забавах апантаных аматараў, можа адбыцца прынцыповы зрух у філасофскім мысленні (праўда, пакуль зусім не зразумела, у які бок і, найперш, дзеля каго, бо таго чалавека, якому была патрэбная філасофія, ужо няма і, здаецца, болей не будзе).

І апошняе. Цалкам магчыма, што сучасная беларуская філасофія, якая пачыналася з рэфлексіі над Беларуссю, так ёю і заканцуецца. Гэта значыць, яна ўжо не паспее сфармавацца ў філасофію як інстытут. Што зусім не адмаўляе з'яўлення ў нас (гады ў рады) філасофскіх «ліцэяў» і «акадэміяў» у тым сэнсе, пра які згадвалася вышэй і пра які казаў Дэрыда, калі абараняў метафізіку.

Некалі я напісаў эсэ, якое называлася «Мяне няма». У тым эсэ я даводзіў, што ўласнае «я» ў чалавеку змінімізаванае да невідалі. З гэтага была зробленая максімалісцкая выснова: я-чалавека няма.

Прамінула шмат год, і аднойчы мне фэнтэзійна падумалася зусім інакш.

Магчыма, я-чалавек нават большы за бытнае і Быццё ўзятыя разам. Гэта значыць, ён не меншы, а большы за той свет, у якім існуе, і за тое чалавецтва, да якога належыць.

На пытанне, якім чынам частка (*мега*драбнюткая) можа быць большай за цэлае, у стылі Ніцшэ прамаўчым. А наўзамен адказу выснуем версію, што я-чалавек не ёсць часткай, ён ёсць тым, што ўлучае ў сябе ўсё цэлае і яшчэ не набіраецца ім напоўніцу, яшчэ застаецца пераважна пустым і гэтую пустату спрабуе запоўніць Богам ці хаця б туманамі трансцэндэнтнага, але і гэтага яму ўсё роўна мала для паўнаты самога сябе.

Карацей кажучы, я-чалавека няма не таму, што ён мізэрны ці не з'яўляецца прычынай самога сябе, яго няма таму, што я-чалавеку не хапае роўнавялікага свету, у якім і праз які ён мог бы суб'ектызавацца да статусу «я» і сказаць: я – ёсць. Верагодна, з нечага такога ў Ніцшэ і выбліснула ідэя «звышчалавека».

Калі б я верыў у Бога, дык быў бы Яму моцна ўдзячны, што паспеў нарадзіцца і адбыць большыню свайго жыцця ў тым свеце, які існаваў дзеля таго, каб чалавек некалі здабыў Ісціну. Шкада, што той свет сканаў трохі раней за мяне...

Напрыканцы XX стагоддзя зрабілася канчаткова зразумелым, што ўсе ўніверсальныя ідэі (і сярод іх ідэя Ісціны) калі не хлусяць, дык міжволі падманваюць. А тыя як бы апрычоныя шляхі, што яны прапануюць чалавеку, блытаюцца ў адных і тых самых туманах. Гэта аднолькава тычыцца як самай старажытнай сярод іх – рэлігійнай, так і найбольш мадэрновых – нацыяналістычнай і камуністычнай. З усведамлення гэтага чалавек перастаў верыць у ідэі, зрэшты, як і ўвогуле хоць ува што верыць. А без веры яму нічога не застаецца, як толькі спажываць жыццё. Ідэалогія спажывання, якая сёння дамінуе ва ўсіх заможных грамадствах, гэта, па сутнасці, вынік татальнай крызы ўсіх з галавы выштукаваных тыпаў ідэалогій...

Між іншым, якраз папярэднія, «ідэйныя» эпохі напрацавалі неверагодныя па сваіх маштабах магчымасці дзеля гэтага спажывання. Разам з тым «атрымліваць усяго дасхочу» неўпрыкмет абарочваецца сваёй супрацьлегласцю, паколькі ўсе каштоўнасныя разрозненні з гэтага робяцца да рэшты змінімізаванымі, акрамя хіба іх грашовага эквіваленту.

Да таго ж паколькі ўвесь сэнс спажывання палягае на самім спажыванні, дык не мае розніцы, што спажываць. Глядзець карціны Шагала ці гартаць глянцавы часопіс, чытаць Джойса ці Шамякіна, слухаць Равэля ці Саладуху – усё адно.

Чалавек прамінулых эпохаў імкнуўся да высокай культуры найперш таму, што лічыў: кожная мудрая кніга ці карціна вялікага майстра робіць яго *яшчэ больш чалавекам*. А тады яму было мусова рабіцца ўсё больш чалавекам, паколькі ён прыходзіў у гэты свет зусім не дзеля таго, каб толькі харчавацца, займацца сексам і множыцца ў нашчадках, а каб будаваць Вавілонскую вежу, Тысячагадовае Валадарства Божае на зямлі, камунізм ці нешта яшчэ тыпалагічна падобнае, але не менш маштабнае і высокае...

Што праўда (і на гэта не варта забывацца), сённяшні свет куды больш спагадлівы да чалавека, чым хоць які з ранейшых. Ён збольшага поўніцца дабрабытам і не пазбаўлены сякой-такой гуманнасці, у ім апошні нябога мае хоць трошкі правоў і акрайчык свабоды. Цяпер ужо не набіваюць неграмі скляпенні караблёў, каб перавезці іх на другія кантыненты, а на ўробленых палетках цівуны не сцёбаюць наёмных працаўнікоў бізунамі...

Толькі галоўнае, бадай, не ў гэтым. Вось ужо прамінула семдзесят год, як чалавецтва не ведае *вялікай* вайны. Гэта значыць, што гуманізацыя чалавека з тэарэтычнай перспектывы становіцца штодзённай рэальнасцю.

Зрэшты, цалкам магчыма, што сучасны чалавек адмаўляе войны і гвалт зусім не з таго, што ён надта моцна шануе ідэалы гуманізму, а таму, што вайна будзе замінаць яму спажываць, спажываць, спажываць...

Але недарэчна было б наракаць на самога чалавека за згортванне чалавека да прычыны самога сябе. Магчыма, тое, што сталася з людствам, мае нейкі глыбінны сэнс, які пакуль не праглядаецца ні з якой з вядомых нам перспектываў. Той, ранейшы чалавек стварыў вялікія цывілізацыі, вялікія рэлігіі, вялікае мастацтва, і калі ўсё гэта разам не засцерагло яго ад перастварэння ў банальнага спажыўца жыцця, то, як любяць казаць беларусы, мо так яно і трэба? Магчыма, страта чалавекам сваёй суб'ектнасці, ператварэнне яго ў «мнимую» велічыню (Лакан) сведчыць, што грандыёзнасць цывілізацыйных задачаў будучага патрабуе ўжо не кожнага чалавека пасобку, а ўсяго чалавецтва ў скутку, якое больш эфектыўна запакаваць у нешта агульнае з прымітыўных адзінак, а не з бясконцага мноства ўнікальных асобінаў. Зрэшты, гэта нават не версія, а звычайная фантастыка...

А пакуль даводзіцца канстатаваць: найноўшы свет зрабіўся гранічна нецікавым. Збаёдаўшы памкненне да Ісціны, чалавецтва страціла інтрыгу свайго існавання. Замест яе засталася толькі незразумеласць гэтага існавання.

Аб чым так смачна разважаецца пад чарку і шкварку...

Нарадзіўся, трохі пажыў ды знік у невараці. Вось і ўсё. І так, а не іначай, у кожнага, за выключэннем, хіба, Ісуса Хрыста (але ж ён не зусім ад людзей паходзіў). З гэтага бясконцага і банальнага самапаўтору чалавека чалавекам персанальныя сюжэты іншых мяне цалкам абыходзяць (бадай менавіта таму я ніколі не чытаў чужых лістоў, не ўглядаўся ў чалавека, калі ён спіць, і абыякава ставіўся да плётак пра знаёмцаў і паэтаў). Дарэчы, мой персанальны сюжэт жыцця мяне таксама лічы не інтрыгуе. Больш за тое, часам настолькі забываюся на сябе, што потым не адразу магу згадаць, хто гэта я? Каб у такія моманты лішне не лыпаць вачыма, я даўмеўся замацаваць над пісьмовым сталом шыльдачку з надпісам: «Валянцін Акудовіч».

Пры ўсёй як бы складанасці і нечаканасці кожнага чалавека ўпаасобку, мы насамрэч да паныласці аднолькавыя. І калі хоць што трохі разнастаіць нас, дык гэта тыя эпохі, культуры ды жыццёвыя сітуацыі, якімі кожнага апрычона адорвае ягоны кон. Хаця і тут персанальная разнастайнасць досыць умоўная. Класічнае літаратуразнаўства налічыла ўсяго нейкі дзясяткаў сюжэтаў, што складаюць аснову абсалютна ўсіх мастацкіх твораў, напісаных хоць дзе і хоць калі. А значыць, на ўсе тыя мільярды насельнікаў зямлі, што былі раней і ёсць цяпер, маецца адно дзясятак схемаў, у якія ўкладаюцца падваліны ўсіх чалавечых біяграфій...

Але маёй абыякавасці да персанальнага чалавека пярэчаць такія маштабныя падзеі, як мастацтва, літаратура, тэатр, філасофія і безліч чаго яшчэ. Калі чалавек у сваёй сутве гэтак прымітыўна элементарны, дык чаму тады вялікія мастакі, пісьменнікі і мысляры тысячагоддзямі прагна ўглядаюцца ў гэтага чалавека, а той не стамляючыся цікуе ў іхняй праекцыі за персанальнай візіяй самога сябе?

Я не маю адказу на гэтае пытанне. Я магу толькі працягваць пытацца. Можа, такім чынам чалавек хавае сваю пустату і панылую аднастайнасць ад самога сябе, каб, як пісаў Ніцшэ, *не памерці ад праўды*? А можа, якраз і наадварот. Вымкнуты з універсальнага цэлага ў персанальную біяграфію (хроніку адзіноты), чалавек апынаецца сам-насам супраць усяго Сусвету і толькі гэтым трагічным супрацівам пераадольвае бязлітасную банальнасць анталагічнага кону: *нарадзіўся, апладніўся, памёр.*

Хаця, як на сённяшні дзень, у апошнім варыянце бадай залішне шмат гераічнай рыторыкі, якую цяжка таясаміць з сучасным чалавека, што татальна абрынуты ў мізэрнасць самога сябе як *чалавека.*

## *лірычная астача*

Куды знікае мінулае? Тваё, маё, наша... Куды падзеліся ўчора, летась, былое стагоддзе і самы

першы век? Усё ж гэта некалі існавала, спраўджвалася. Былі сляды ў сумётах, каляіны праз пушчу, тлумныя гарады ў міжрэччах... Дзе ўсё гэта? Кажаце – перацякло ў будучыню. Толькі ці магчыма, каб Нёман перацёк у шклянку? Тое, што ў шклянцы, – навідавоку, але куды знікла ўсё астатняе?

На гэтае пытанне можна адказваць па-рознаму. У свае рамантычныя гады я меркаваў, што мінулае стойваецца ў слове, і слова – тое адзінае, што застаецца ад мінулага. Бо слова – не гук, не знак, не сімвал; слова – другое і ўжо вечнае жыццё ўсяго былога. І тады зусім верагодна, што чалавек і яго векаванне ўсчыніліся адно дзеля таго, каб узнялося ды ўскаласілася слова. Інакш кажучы, слова – гэта вербалізаванае мінулае ў віруючай плыні сучаснасці, і няма ў чалавека ніякай іншай вечнасці, акрамя вечнасці слова (у слове)...

Але калі яны былі, тыя рамантычныя гады? І ці былі яны ўвогуле? Прынамсі ў мяне ніяк не атрымліваецца злучыць іх з сабой пазнейшым, які аднойчы здагадаўся, што калі ўсё мінулае і знаходзіць сабе вечны прытулак у слове, дык толькі ў слове **Нішто**.

*Не бывае правільных адказаў.*
*Правільнымі бываюць толькі пытанні.*

Аднойчы яго запыталі пра Бога. На што ён адказаў: калі Бог ёсць, дык усё астатняе не мае сэнсу.

Аднойчы яго запыталі пра Д'ябла. На што ён адказаў: Д'ябал – гэта той самы Бог, толькі ў дрэнным гуморы.

Аднойчы яго запыталі: як выглядаў бы наш свет, калі б Бог быў жанчынай? На што ён адказаў: калі б Бог быў жанчынай, дык ніколі не змог бы яго прыдумаць.

Аднойчы яго запыталі пра любоў да Бога. На што ён адказаў: гэта флірт з катам па дарозе на шыбеніцу.

Аднойчы яго запыталі: чаму ні Бога, ні Д'ябла ніхто пальцамі не мацаў? На што ён адказаў: сакралізаваць, як і дэманізаваць, можна толькі пустату.

Аднойчы яго папікнулі, маўляў, ён гаворыць пра Бога з такой пэўнасцю, быццам гарэлку з Ім піў.

На што ён адказаў: не гарэлку, а віно, і да таго ж Ягоным целам закусваў.

Аднойчы яго запыталі: чаму чалавек у Бога верыць, а сам – свалата свалатой? На што ён адказаў: таму і верыць.

Аднойчы яго запыталі пра заганы Бога. На што ён адказаў: чужыя заганы не робяць нас лепшымі.

Аднойчы яго запыталі: дзеля чаго Бог, калі светам кіруюць грошы? На што ён адказаў: Бог – гэта трансцэндэнтны капітал чалавека.

Аднойчы яго запыталі: што найбольш уразіць верніка, калі ён патрапіць на *той свет*? На што ён адказаў: раптам *той свет* ёсць, а Бога там няма...

Аднойчы яго запыталі: чаму ён не дае веры ў *той* свет? На што ён адказаў: бо там дзеці не родзяцца.

Аднойчы яго запыталі: якога таленту яму не хапае? На што ён адказаў: таленту Ісуса Хрыста ператвараць ваду ў віно.

Аднойчы яго запыталі: як бы ён вызнаў чалавека ў галоўным? На што ён адказаў: чалавек не ёсць падзеяй адзіночнага ліку.

Аднойчы яго запыталі пра шлях і мэту. На што ён адказаў: калі доўга выглядаць шлях наперадзе, то ўбачыш сваю спіну.

Аднойчы яго запыталі: чаму народы так моцна трымаюцца сваіх межаў? На што ён адказаў: бо ўсе памежныя слупы выраслі на чалавечай крыві.

Аднойчы яго запыталі: чым ёсць сучаснасць? На што ён адказаў: гэта месца, дзе будучае мяняе сваю патэнцыйнасць на актуальнасць.

Аднойчы яго запыталі: дзеля чаго чалавеку свабода? На што ён адказаў: каб на ўласны густ выбіраць сабе кайданы.

Аднойчы яго запыталі пра глабалізацыю. На што ён адказаў: тады чалавек будзе не паміраць, а абнуляцца.

Аднойчы яго запыталі: хто з людзей яго найболей цікавіць? На што ён адказаў: у мае гады людзі ўжо не цікавяць... Толькі аблокі.

Аднойчы яго запыталі: дзеля чаго мужчына? На што ён адказаў: найперш каб хацець жанчыну. І толькі потым дзеля ўсяго астатняга...

Аднойчы яго запыталі: чаму хлопцу бывае цяжка прызнацца ў каханні? На што ён адказаў: бо

спадысподу слова «кахаю» заўсёды маўчыць слова «хачу».

Аднойчы яго запыталі: чым адрозніваецца любоў ад кахання? На што ён адказаў: любоў трымаецца грашыма, а каханне за грошы не купіш.

Аднойчы яго запыталі: чаму беларус заўсёды няшчасны? На што ён адказаў: бо словы «няшчасны» і «беларус» – сінонімы. І дадаў: а вось «шчаслівы беларус» – гэта аксюмарон.

Аднойчы яго запыталі: што будзе, калі беларусы забудуцца на мову? На што ён адказаў: тады яны будуць маўчаць па-беларуску.

Аднойчы яго запыталі пра разумнікаў. На што ён адказаў: калі чалавек кажа разумнае, дык заўсёды паўтарае некага іншага. Насамрэч арыгінальнай бывае толькі глупота.

Аднойчы яго запыталі пра пісьменнікаў. На што ён адказаў: спачатку пісьменнік цікавы тым, што ён сам піша, а пазней тым, што пра яго пішуць іншыя.

Аднойчы яго запыталі: з чаго гэта ён сябруе з пачаткоўцамі, а не з ушанаванымі літаратарамі? На што ён адказаў: мне больш цікава з тымі, хто яшчэ нічога не напісаў, чым з тымі, хто ўжо напісаў усё.

Аднойчы яго запыталі пра геніяльных пісьменнікаў. На што ён адказаў: не бывае геніяльных пісьменнікаў, бывае толькі геніяльны чытач.

Аднойчы яго запыталі: што такое шчасце? На што ён адказаў: шчасце – гэта тое, пра што цікавяцца журналісты, калі не ведаюць, аб чым яшчэ запытацца.

Аднойчы яго запыталі: каму ён найболей зайздросціць? На што ён адказаў: калі баляць зубы, дык – манекенам.

Аднойчы яго запыталі пра старасць. На што ён адказаў: старасць – гэта калі ўжо нікога не хочацца бачыць, нават пана Бога.

Аднойчы яго запыталі: калі жыццё губляе ўсялякі сэнс? На што ён адказаў: калі яно сплывае хутчэй, чым ты здольны плысці яму насустрач.

Аднойчы яго запыталі: навошта чалавек не памірае, калі ад жыцця засталіся адно лахманы? На што ён адказаў: гэта як са зношанай вопраткай – насіць ужо няёмка, а выкінуць шкада.

Аднойчы яго запыталі: калі б жыццё можна было пеpaжыць яшчэ аднойчы, дык што б ён змяніў? На што ён адказаў: р*а*су. І патлумачыў: каб пажыць эскімосам.

Аднойчы яго запыталі: калі вас няма, дык хто ён, той, хто пражыў вашае жыццё? На што ён адказаў: аж нават трохі страшна, што я пра гэта ніколі не даведаюся.

Аднойчы яго запыталі: чаго б вы найболей хацелі? На што ён адказаў: каб ніхто не заплакаў, калі я памру, – а нехта нават пасміхнуўся.

## Адзін дзень з біяграфіі аўтара

*14 траўня 1988 г.*

Прачнуўся без дваццаці восем, на сорак хвілінаў пазней ад запланаванага. Упікнуў сябе – зрэшты, без асаблівага імпэту.

Дзень пачынаецца з кавы, а калі кавы няма, дык з моцнай гарбаты. Кавы не было.

Гарбату (між іншым – дрэнную) піў, як заўжды, ужо за пісьмовым сталом, каб дарма не губляць часу. Пакуль гарбата будзіць уяўленне, звычайна гартаю дзеля раскатурхвання глуздоў якую-небудзь «разумную» кнігу. На гэты раз патрапіў Людвік Вітгенштэйн. Чытаў на выпадковай старонцы філасофскія доследы хвілінаў пятнаццаць, а затым падсунуў пад руку скрэмзаныя аркушы ўжо са сваімі «філасофскімі даследзінамі». Трэба падрыхтаваць публічную лекцыю, якую мушу прачытаць у Беларускім калегіуме. Лекцыя будзе называцца «Метафізіка. Сітуацыя росквіту і сітуацыя заняпаду». Праца ідзе марудна і не ў смак. Даўно кінуў бы, але паабяцаўся.

Каб «увайсці ў плынь», стаў чытаць ад пачатку: «Калі я быў падлеткам і толькі прызвычаіўся ўслухоўвацца ў таямніцу самога сябе ды ўглядацца ў зорнае неба над хатай, мяне пачала

пакутліва вярэдзіць адна і тая самая думка: як можна кахаць дзяўчыну, маліцца Богу, будаваць дамы, дарогі і камунізм, калі не вядома, навошта, дзеля чаго ўсё гэта: зямля, неба, чалавек?

– Чаму, – думаў я тады, – людзі не адкладуць на нейкі час свае пільныя справы, каб неяк высіліцца разам і знайсці адказ на гэтыя першыя запытанні, бо без адказу на іх і камунізм, і Бог, і чалавек губляюць хоць які сэнс».

Дачытаў усю абкрэмзаную паперу да чыстага аркуша і пачаў паліць цыгарэту за цыгарэтай без хоць якога плёну... Відавочна, метафізіка сёння мяне не хацела. Мо з таго, што я піў дрэнную гарбату, а можа таму, што цыгарэтаў у пачку мала заставалася і я наперад нерваваўся: давядзецца перапыняць працу ды бегчы ў краму. А для мяне лепей і не раскручваць махавік думання, калі я не ўпэўнены, што ў яго не будзе часу выкруціць сваю энергію дарэшты.

Як зазвычай, калі інтэлектуальная праца не рухаецца, у галаву палезлі рэальныя праблемы рэальнага жыцця. Заўтра аднаму з маіх самых блізкіх сяброў, інжынеру Мінскага маторнага завода Віктару Лукічу Шылянкову, – 60 гадоў. Калі я не памыляюся, дык нашае сяброўства пачалося недзе ў сямідзясятым годзе з сумеснага побыту ў інтэрнацкім пакойчыку маторнага завода. Віктар Лукіч быў нашмат старэйшым за мяне, але гэта не замінала сяброўству тады, у маладосці, тым болей не замінае цяпер – у сталасці... Калі б я быў празаікам, дык Віктар Лукіч

(мы яго і ў маладосці называлі – Дзед) неаднойчы станавіўся б «героем» маіх опусаў, бо гэта надзвычай каларытны мужчына з пакручастым лёсам і такім заблытаным лабірынтам унутраных матывацыяў вонкавых паводзінаў, што разблытваць іх можна бясконца.

Кожны юбілей – гэта найперш праблема падарунка. Вырашыць гэтую праблему падахвоціўся яшчэ адзін з маіх найблізкіх сяброў (пэўна, найблізкі) Жэка Якаўцаў, галоўны бухгалтар «Беларускага ўпраўлення дарогаў» (хаця, здаецца, гэта не зусім дакладная назва той арганізацыі, дзе ён працуе). З Жэкам мы пазнаёміліся яшчэ раней, чым з Дзедам, аднак таксама ў інтэрнацкім пакойчыку маторнага завода. Некалькі дзесяцігоддзяў мы хадзілі разам у горы і разам, у адным звязе, ледзьве не патанулі (ужо амаль патанулі) пры пераправе праз бурапенны Кантэгір на Алтаі. Зрэшты, дзе толькі мы з ім не сёрбалі ліха, але калі ты малады і дужы, дык смак ліха найсаладзейшы...

Дык вось. Жэка запрапанаваў «скінуцца» хаўрусам некалькіх блізкіх сяброў і купіць Дзеду скураную куртку (Жэка меў магчымасць набыць яе трохі танней, чым яна каштавала ў краме). Трэба было даведацца, ці атрымалася ў яго з падарункам, і я пакінуў паперу ў яе цнатлівай нерушы. Вытэлефанаваў сябра досыць хутка. З курткай пытанне было амаль вырашанае, толькі ў мяне яшчэ заставалася праблема грошай на падарунак, бо аванс будзе адно дваццатага...

– Без праблемаў, – сказаў Жэка.

Цяпер трэба было набыць цыгарэты, але таго, што нашкроб па кішэнях, хапала ўсяго на «Беламор».

Пераапрануўся, купіў пачак «Беламору», зноў пераапрануўся і сеў за стол. За «метафізіку» ўжо не мела сэнсу брацца, і я нейкі час вагаўся: ці то скончыць рэдагаваць для «Крыніцы» аповесць Жаржы Амаду «Мёртвае мора» (пераклаў з партугальскай Валеры Буйвал), ці то трохі папрацаваць над артыкулам для «ЛіМа». Аддаў перавагу апошняму і, падобна, не памыліўся, бо, здаецца, атрымалася сфармуляваць сутнаснае ядро гэтага тэксту: «Уласна (у звязку з праблемай нацыяналізму) ёсць толькі адно пытанне: наколькі нацыяналізм тэхналагічны? Гэта значыць, наколькі ён можа быць вартасным не як *ідэалогія* адбывання быцця, а як *тэхналогія* адбывання быцця».

«Беламор» курыўся ўсмак, думкі пакрысе грувасціліся на паперы, але тут патэлефанаваў Сяржук Мінскевіч (паэт, бард, перакладчык) і запытаўся пра Адама Міцкевіча. Рэч у тым, што Сяржук пераклаў «Дзяды» Міцкевіча і «выціснуў» з мяне згоду, каб я ўзяўся за рэдагаванне. (Неяк падумалася: амаль усё, што я раблю, я раблю пад прымусам – ці то абставінаў, ці то больш энергічных за мяне людзей, ідэй, падзей.)

Сяржук скончыў выпраўляць мае заўвагі ў чацвёртай частцы «Дзядоў» і чакаў наступную «порцыю». Я кінуў «лімаўскі нацыяналізм» і ўзяўся даводзіць (там няшмат заставалася) да ладу

другую частку «Дзядоў», каб аддаць яе Сержуку, калі патраплю сёння на працу.

Здаецца, паспеў, управіўся. І нават знайшлася хвілінка, каб патэлефанаваць паэту і эсэісту Міхасю Баярыну, які ў «Эўрафоруме» рыхтуе да друку мой суплёт эсэ – кнігу «Мяне няма». Трэба было папрасіць, каб ён замяніў назву эсэ «Піраміда Хеопса ў мурах Мірскага замка» на «Вайна культураў».

Нешта перакусіў спехам ды пабег на тралейбус. На працы, у рэдакцыі часопіса «Крыніца», ужо быў мой калега, паэт Леанід Галубовіч. Пакуль мы з ім абмяркоўвалі апошнія гульні чэмпіянату свету па хакеі, прыйшоў яшчэ адзін калега, паэт Алесь Разанаў (нешта рана), і нагадаў, што сёняшні дзень (14 траўня 1988 г.) мы вызначылі для анкетавання. Гэта значыць, абраны для анкетавання пісьменніцкі люд мусіць запамінаць і занатоўваць, што з ім адбывалася цягам дня (што думалася і пра што мроілася таксама), каб пасля ўсё гэта мы надрукавалі на старонках «Крыніцы».

Натуральна, я ведаў пра гэтую ініцыятыву Алеся Разанава, але забыўся на яе, бо асабіста мяне яна аніяк не цікавіла. Пра што я яшчэ раз сказаў яму, калі ён зноў папытаўся, ці буду я таксама натаваць свой дзень.

Сказаць сказаў, ды раптам падумаў: а можа, паспрабаваць? А то я ўсё рэфлексую над нечым адцягненым ад рэальнасці і за гэтым абстрактным рэфлексаваннем ужо забыўся, як выглядае

маё штодзённае жыццё. А тут ёсць магчымасць агледзецца вакол і зафіксаваць хоць адзін дзень з уласнага бытавання.

Гэтая справа падалася дарэчнай яшчэ і таму, што я – чалавек без мінулага. Былое са мной не застаецца; гэта не значыць, што яно знікае дазвання і я жыву ў татальным бяспамяцтве. Не, сёе-тое з прамінулага я памятаю (кагадзе згадаў жа і маторны завод, і Кантэгір), але не вельмі шмат, бо ўсё, што са мною адбылося, як бы адсланяецца ад мяне, робіцца не маім, амаль адразу, на другі-трэці дзень, звальваецца ў нейкую глыбокую студню, дзе і ляжыць на дне покатам: усё разам ляжыць – і сонечная хвіліна з дзяцінства, і ўчорашняя хмарная гадзіна. Калі мне вельмі закарціць, дык я магу схіліцца над студняй і нешта разгледзець там, на дне. Але карціць мне вельмі рэдка, і таму я звычайна абыходжуся без мінулага: яно там, збэрсанае, у прадонні студні, а я тут, на падворку, вольны ад усёй сваёй мінуўшчыны, кожны дзень наноў народжаны, толькі не немаўлём, а адразу з усімі сваімі гадамі.

Дык вось, прыдумка Алеся Разанава давала мне магчымасць хоць адзін дзень з усяго свайго мінулага пакінуць пры сабе, не даць яму адсланіцца ў чужыннасць, зафіксавацца рэальнасцю майго «няма»...

Усё гэта было добра, але я не ведаў, скуль вызваліць хоць трохі часу, каб маё 14 траўня 1998 г. перанесці на паперу, і таму вырашыў: не

знікне заўтра хэнць і выблісне вольная хвіліна – занатую, не – дык не...

А сёння трэба было вырашаць сённяшнія праблемы. Абмеркавалі з Разанавым і Галубовічам таксама паэта Іосіфа Бродскага. Рэч у тым, што Алесь Чобат пераклаў нізку яго вершаў і паўстала пытанне: будзем даваць разгорнуты матэрыял пра Бродскага ці не? Пагадзіліся, што будзем. Потым я пажаліўся на ўласны «рэдактарскі крызіс»: перакладчыкаў не хапае, ёсць праблемы і з іх кваліфікацыяй. А часопіс, як той малох, жарэ і жарэ. Здаецца, ужо колькі замежных пісьменнікаў, культуролагаў, філосафаў кінуў у пашчу, а яму ўсё мала: давай і давай. Вось зраблю яшчэ Бадлера, Кундэру, Калакоўскага, Эка, Бродскага, а што потым? Дзе шукаць яшчэ перакладчыкаў, дзе набываць хаця б збольшага прафесійна зробленыя тэксты, дзе самому знаходзіць сілы, каб не спыняцца, не спыняцца...

Зрэшты, жаліцца доўга не выпадала, бо ў рэдакцыю пацягнуўся «люд». Першым, «забраць» Адама Міцкевіча, прыйшоў Сяржук Мінскевіч. Паглядзелі мае праўкі, пагаварылі пра пераклад «Дзядоў», які паралельна робіць Кастусь Цвірка.

Неўзабаве Леанід Галубовіч пачаў збірацца ў рэдакцыю «ЛіМа». Не развіталіся, бо меркавалі сустрэцца на шэсці, якое арганізоўваў БНФ а пятай гадзіне з плошчы Якуба Коласа. Шэсце і мітынг былі ў абарону палітвязняў, а абраная дата 14 траўня адсылала да майскага рэферэндуму 1995 года.

Прыйшоў перакладчык, культуролаг і паэт Валерка Булгакаў, прынёс кнігу «Panorama Polskiej Myśli Filozoficznej», каб я прачытаў артыкул пра Лешака Калакоўскага (бадай, адзінага любага мне польскага філосафа) і вырашыў, у якім аб'ёме яго перакладаць: цалкам ці са скарачэннямі?

Не паспелі з Валеркам разгаварыцца, як у пакой літаральна ўскочыў філосаф і паэт, кіраўнік Беларускага калегіума Алесь Анціпенка – яму нешта трэба было ад (ці да) Алеся Разанава. Выказаў абурэнне з нагоды ўсёй беларускай вясковаадраджэнскай паэзіі. Лакальнай падставай для татальнага абурэння была апошняя з выдадзеных кніг Ларысы Геніюш, якую ён толькі што чытаў па дарозе ў рэдакцыю. Там жа, па дарозе, ён з гэтай нагоды пачаў складаць антыадраджэнскі вершык і некалькі строфаў з яго нам тут жа і прадэкламаваў (але я іх адразу запамятаваў).

Толькі доўга гаманіць ні ў кога не было часу. Алесю да публічнай лекцыі ў Беларускім калегіуме (яна распачыналася а шостай гадзіне, і кіраўнік мусіў там быць) трэба было яшчэ заскочыць у Скарынаўскі цэнтр, а я спяшаўся на плошчу Якуба Коласа, каб прайсці з калонай дэманстрантаў да плошчы Перамогі, а потым сесці на метро і паехаць да філіі музея Максіма Багдановіча, дзе і мелася адбыцца вышэйзгаданая публічная лекцыя.

На плошчу мы паехалі з Сержуком Мінскевічам. Народу было зусім мала і амаль нікога са

знаёмых, хаця знаёмых твараў было даволі, бо за дзесяцігоддзе мітынгаў вочы прыглядзеліся да ветэранаў вулічных акцыяў.

Пэўна, на мітынгі людзі ўвогуле хутка перастануць хадзіць. Надакучыла з года ў год рабіць адно і тое самае. Ніякага выніковага эфекту ў большасці з гэтых шэсцяў ужо даўно няма, а таму няма з іх радасці... Ідзеш туды як пад прымусам, хаця ніхто і не прымушае... Нешта прымушае, але і ў гэтага нешта відавочна слабне энергетыка. Бадай, арганізатарам мітынгаў і шэсцяў трэба перастаць імі злоўжываць. Пакінуць на год адно-два шэсці, каб людзям у ахвоту было, – і даволі. Інакш гэтая форма супраціву хутка будзе дыскрэдытаваная ўшчэнт, калі ўжо не дыскрэдытаваная...

Пакуль шэсце не пачалося, стаялі з Сержуком ля афішнай тумбы, гарталі дыхтоўную кніжку «Дзядоў» на польскай мове, разважалі пра Міцкевіча, які першым распрацаваў многія з тых тэмаў, што потым без меры будуць эксплуатавацца ў беларускай паэзіі, ды падпісвалі розныя паперы: за вызваленне палітвязняў, за грамадзянства ў БНР, яшчэ за нешта... У падзяку за нашу актыўнасць дзяўчаты, што збіралі подпісы, падарылі нам папяровых бел-чырвона-белых буслікаў (мой і цяпер вісіць над пісьмовым сталом).

Неўзабаве невялічкая калона рушыла па ходніку паўз праспект. Мы з Сержуком прыладкаваліся ў самым яе канцы і там нечакана сустрэлі Змітра Вішнёва, Віктара Жыбуля, Іллю

Сіна. Атрымалася цэлая бумбамлітаўская філія зборнай калоны «змагароў за волю».

На плошчы Перамогі я апошні раз зірнуў на бел-чырвона-белыя сцягі (можа, дзеля асалоды, якую адчуваю заўсёды, калі бачу іх луnанне, я яшчэ і хаджу на мітынгі ды шэсці?) і развітаўся з хлопцамі, каб праз хвілінаў дваццаць быць ужо на публічнай лекцыі пра сучаснае мастацтва, якую чытаў Міхал Баразна.

Я не аматар публічнага інтэлектуалізму, мне куды больш утульна з кнігай, чым з лектарам. Але Беларускі калегіум толькі распачынае сваю дзейнасць, і трэба было падтрымаць гэты распачын хаця б сваёй прысутнасцю (зноў трэба: на мітынг трэба, на лекцыю трэба). Гэта па-першае. А па-другое – хацелася азнаёміцца, дзе і як усё гэта адбываецца, бо праз пару тыдняў самому давядзецца тут выступаць.

Зрэшты, час не быў патрачаны марна, бо хаця я трохі і «адукаваны» ў праблемах сучаснага мастацтва (як-ніяк сем гадоў працаваў у газеце «Культура»), але некалькі момантаў з прамовы Міхала зацікавілі. Праўда, мне падалося, што калі Міхал дзеліць усё мастацтва на таталітарнае і, так бы мовіць, дэмакратычнае, дык ён a priori адмаўляе таталітарнаму мастацтву і ў эстэтычнай каштоўнасці. А між іншым мастацтва папярэдніх тысячагоддзяў было пераважна *таталітарным*. Дарэчы, калі казаць пра ўласна хрысціянскае мастацтва (абразы і да т. п.), дык тут мера *таталітарызму* была і застаецца абса-

лютнай, бо дагмат (асабліва яго «праваслаўная версія») вызначае наперад нават колеры, якія мусяць выкарыстоўвацца пры маляванні твару, апраткі, фону і ўсяго астатняга. Што ніяк не замінае нам высока ацэньваць эстэтычную каштоўнасць многіх твораў дагматычных мастацтваў.

Алесь Анціпенка ў сваім каментары да лекцыі назваў Мінск другаснай сталіцай Расійскай імперыі з адпаведнай архітэктурай. На гэта культуролаг Юрась Барысевіч заўважыў, што ў такім разе Мінску не хапае маўзалея. Публіка пачала з імпэтам абмяркоўваць: каго туды можна было б пакласці?

Дарэчы, публікі было не вельмі шмат, але, у адрозненне ад шэсця, тут гэты факт не засмучаў.

Разыходзіліся хто куды. Мы з Юрасём Барысевічам і Міхасём Баярыным вырашылі папіць кавы. Пакуль абмяркоўвалі, куды скіравацца, на вочы патрапіла кавярня з назвай «Воля». Натуральна, такую кавярню мы не маглі прамінуць і спусціліся ў скляпенне. Месцы там былі, але каву гатавалі толькі распушчальную (як зазвычай, там, дзе ёсць воля, болей нічога вартага няма). Мы з Міхасём ужо былі памкнуліся шукаць іншы прытулак, але Юрась, пагартаўшы меню, запрапанаваў замовіць па чарцы гарэлкі. Прапанова была неблагая, аднак мы з Міхасём не змаглі на яе пагадзіцца, бо не мелі грошай. Толькі тут высветлілася, што Юрась у сваёй прапанове і не разлічваў на нашыя гро-

шы, паколькі атрымаў сёння ў газеце «Навіны» (былая «Свабода») ганарар. Зразумела, мы засталіся ў (на) «Волі». Селі за чорны столік у чорныя крэслы. Попельніца, дарэчы, таксама была чорная (падумалася, што «воля», пэўна, сапраўды чорнага колеру, невыпадкова ж гэта любімы колер анархістаў).

Гамонка была прыязнай. Гаварылі пра палярныя эстэтыкі: Малармэ – Заля, Бабкоў – Галубовіч, Баярын – Вішнёў. І ў гэтым звязку пра светапоглядныя дэкларацыі, якія ў творцаў досыць часта знаходзяцца ў адкрытай ці латэнтнай апазіцыі адносна іх уласных паэтыкаў... Зрэшты, пераказваць падобныя гаворкі не мае сэнсу, бо яны, як аладкі, смачныя, адно пакуль гарачыя...

Юрась замовіў яшчэ па чарцы (мне і сабе, а Міхась папрасіў «колы»). Мы па кроплі смакавалі гарэлку і абмяркоўвалі магчымую назву кнігі Юрася, якую ў «Эўрафоруме» таксама рыхтаваў да друку Міхась Баярын. З усіх варыянтаў у той момант нам з Міхасём найбольш падабалася назва «Вочы на далоні». Класічная постмадэрновая гульня з цытатай («Сэрца на далоні», Іван Шамякін), але за гэтай гульнёй бачылася яшчэ нешта, хаця, верагодна, гэтае нешта можна было ўбачыць адно праз алкагольную кроплю.

Сядзелі нядоўга, развіталіся каля метро. На развітанне Юрась зноў папытаўся (гаворка ўжо была), ці змагу я напісаць прадмову да яго кнігі.

«Прадмовы» – не мой жанр, я ўжо адмаўляўся ад падобных прапановаў шмат разоў, але Юрась – гэта іншае... Дамовіліся, што паспрабую, калі знойдзецца хоць трохі часу.

Вярнуўся дахаты, уключыў тэлевізар, на чэмпіянаце свету па хакеі чэхі з фінамі гулялі сярэдзіну другога перыяду. Дагледзеў да канца. Выдатная атрымалася гульня, магчыма, адна з лепшых на гэтым чэмпіянаце свету. Да таго ж фіны (я быў «за» фінаў) перамаглі і выйшлі ў фінал.

Калі клаўся спаць, падумаў, што трэба «паставіць» будзільнік на сем гадзінаў, а то зноў устану пазней, чым пажадана, каб паспець напрацавацца да працы ў рэдакцыі. Але – не «паставіў», хаця ніколі не забываюся на японскую прымаўку: «Сакэ і доўгі сон – найпросты шлях да жабрацтва».

Ужо ў ложку ўспомніў, што калі заўтра з'явіцца хэнць, дык трэба будзе перапісаць чарнавік гэтага дня на белы аркуш. Дакладней, не ўвесь дзень, а толькі некаторыя абзацы адной з яго версій, бо спрэс усё запар апісваць – і тыдня не хопіць. Пачаў перабіраць, што заўтра можна будзе занатаваць, але, яшчэ не паспеўшы перасунуцца з ранку ў дзень, заснуў...

Спаць я люблю. Спаць я люблю больш, чым жыць. Можа таму, што ў сне я ёсць як няма, і наадварот, мяне ў сне няма як ёсць?..

Але што мяне будзіць ранкам прачынацца?

## Змест

**Акудовіч, В. В.**

А 44 Прачнуцца ранкам у сваёй краіне : збор тэкстаў / Валянцін Акудовіч. — Вільня : Логвінаў, 2015. — 286 с.

ISBN 978-609-8147-47-6.

Гэта не кніга. Гэта збор тэкстаў, які хацеў бы стацца кнігай, але... Залішне рознымі былі тыя часы і эпохі, калі яны пісаліся. Як, адпаведна, моцна розніўся сам ад сябе аўтар. Таму мы не лішне перабольшым, калі скажам, што ў гэтага збору не адзін, а цэлы хаўрус аўтараў, якія толькі паводле даўняй завядзёнкі пазначаныя агульным прозвішчам Валянцін Акудовіч.

**УДК 821.161**
**ББК 84(4Беи) 44**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Акудовіч** Валянцін Васільевіч

Прачнуцца ранкам у сваёй краіне

*Рэдактар* Ігар Логвінаў
*Мастак* Артур Вакараў
*Карэктар* Ліда Наліўка

Выдавец “Logvino literatûros namai”
J. Savickio g. 4, LT-01108 Vilnius
Друк BALTO print